УДК 908(476.6)
ББК 26.89(4Беи)
Ч11

**Чыгрын, С.**

**Ч11** Сярод сваіх людзей : літаратурна-краязнаўчыя артыкулы, гутаркі, перапіска / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 236 с.

ISBN 978-985-7057-06-1.

Кнігу Сяргея Чыгрына «Сярод сваіх людзей» склалі літаратурна-краязнаўчыя артыкулы пра родныя беларускія мясціны, людзей, помнікі і кнігі. Некаторыя артыкулы публікаваліся ў беларускіх газетах і часопісах, а таксама ў тыднёвіку «Ніва» ў Беластоку. У выданне таксама ўвайшлі інтэрв’ю з цікавымі і творчымі людзьмі, перапіска аўтара з Лявонам Луцкевічам, Лявонам Шпакоўскім-Случаніным і Міколам Канашам.

**УДК 908(476.6)**
**ББК 26.89(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-06-1**

# З АЎТАБІЯГРАФІІ АЎТАРА КНІГІ

Я жыву ў старажытным і спрадвечным горадзе над Шчарай — Слоніме. Слонім — мая правінцыя, хаця сябе ніколі правінцыялам не лічыў і лічыць не буду. А нарадзіўся я ў вёсцы Хадзявічы, якая знаходзіцца каля 10 кіламетраў ад Слоніма. Мяне выхоўвала адна мама. Яна, дзякуй Богу, яшчэ жыве, цяпер са мной у маёй гарадской кватэры ў Слоніме. У старую хату, якую пабудаваў яшчэ мой дзед — мамін бацька ажно ў 1907 годзе, мы цяпер прыязджаем толькі ў госці. Хату нікому прадаваць не збіраемся. Яна для нас — Божы храм. У 2007 годзе мая сям'я разам з прадстаўнікамі творчай беларускай інтэлігенцыяй адзначылі яе 100-гадовы юбілей. Гэта было Свята Хаты. І маёй роднай хаты, і Хаты беларускай у шырокім сэнсе.

Каля кіламетра ад маёй вёскі знаходзіцца Сынковіцкая крэпасць-царква. Некалі, дзе цяпер стаіць мая хата, была лясная дарога, па якой у Сынковічы прыязджаў славуты наш князь Вітаўт. Пра гэта я ўсім распавядаю і гэтым ганаруся. Бо, сапраўды, калі Вітаўт уцёк з Крэва, то перш чым паехаць у Прусію, ён, заблытваючы сляды ад Ягайлавых служак, схаваўся ў слонімскіх лясах, дзе цяпер знаходзіцца мая вёска. Там Вітаўта выратавалі мае землякі. А потым, калі ён стане вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага, у знак удзячнасці тутэйшым людзям ён узніме да нябёс Сынковіцкую крэпасць, ад якой нам у спадчыну сёння засталася царква. Некалькі разоў Вітаўт са Слоніма прыязджаў у Сынковічы, а ў 1409 годзе ён наведаў вёску разам са сваёй жонкай Ганнай. Праязджаў там, дзе стаіць мая хата. Хату мой дзед праз 500 гадоў пабудаваў на вельмі шчаслівым месцы, на тым, дзе праязджаў некалі вялікі Вітаўт.

Вось у гэтай старой стагадовай дзедавай хаце ў Хадзявічах, а таксама ў суседніх Сынковічах прайшлі мае гады маленства. Мама заўсёды спяшалася на працу ў калгас, а я любіў кніжкі, бо з вёскі яны мяне вярталі да герояў Янкі Маўра, Якуба Коласа, Алены Васілевіч, Фенімора Купера ды іншых. Маці не было калі мною займацца, але за мяне чырванець у школе не прыходзілася: я вучыўся

добра. У старэйшых класах пачаў пісаць замалёўкі і дасылаць іх у «Бярозку», «Піянер Беларусі» (пазней — «Раніца»), «Зорьку», слонімскую раёнку. Пазней пачаў пісаць вершы, якія рэдагаваў, і наогул шмат мне дапамагаў у пісьмах, Мікола Чарняўскі. Ён тады працаваў літкансультантам у «Бярозцы». Гэта быў мой першы літаратурны выкладчык, якому я шчыра ўдзячны, нізкі яму паклон. Я, вясковы хлопчык, кожны тыдзень адсылаў яму ў Мінск свае вершы, смяшынкі, замалёўкі, а Мікалай Мікалаевіч іх чытаў і на кожнае пісьмо прысылаў адказы. А лепшыя творы друкаваў. Усе яго пісьмы я зберагаю да сённяшніх дзён. Чытаю іх і дзіву даюся: якое ў чалавека было цярпенне, каб адказваць на кожнае маё наіўнае і часам смешнае пісьмо. Вось гэта была школа! Ці так цяпер з творчай моладдзю працуюць літаратурныя выданні і ці выходзіць сёння «Бярозка» — я нават і не ведаю.

Калі я вучыўся ў школе — захапіўся кінамастацтвам, быў апантаны кіношнік. У той час пра савецкае і беларускае кіно ведаў усё. Мне мама выпісвала ці купляла ў Слоніме часопісы «На экранах Беларусі», «Советский экран», «Искусство кино», «Спутник кинозрителя» і многія іншыя. Адначасова з кіно мяне захапіў тэатр.

Аднойчы я прачытаў у газеце «Знамя юности» аб’яўку, што ў далёкім ад Слоніма Магілёве ёсць такое культасветвучылішча, куды пасля 8-га і 10-га класаў прымаюць хлопчыкаў і дзяўчынак. Сабраў чамаданчык і паехаў у невядомы вялікі горад на Дняпры. Тады мне яшчэ не было і 16 гадоў. Знайшоў я гэтае вучылішча, здаў дакументы і… дачакаўся ўступных экзаменаў. Але перад экзаменамі абітурыентам неабходна было расказаць верш, урывак з прозы і паказаць сцэнічны эцюд. Верш і прозу я ведаў, а вось што гэта за эцюд — першы раз чуў. За некалькі хвілін да паказу эцюда я атрымаў кансультацыю ў дзяўчат, якія паступалі разам са мною. Яны былі больш дасведчаныя ў тэатральнай справе, бо ў сваіх гарадах наведвалі драмгурткі і народныя тэатры, таму добра ведалі, што такое эцюд і як яго трэба паказваць. На хаду прыдумаў свой уласны эцюд і пайшоў перад прыёмнай камісіяй на маленькай сцэне яго паказваць. Сюжэт эцюда быў вельмі просты і нават смешны: я пайшоў у грыбы, там убачыў лісіную нару, пачаў чакаць, калі ліса адтуль вылезе, каб яе злавіць за хвост. Замест нары — паклаў на сцэне крэсла. Гэта дазвалялася. У прыёмнай камісіі сядзелі чалавек восем. Сярод іх

быў і рэжысёр Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Усе ўважліва глядзелі, што я буду паказваць. І вось у самы адказны момант эцюда, калі нібыта ліса «выскачыла» з нары і я кінуўся яе «лавіць», крэсла ад майго падзення паляцела проста на прыёмную камісію. Але я не разгубіўся і паказаў эцюд да канца. Пасля падзякаваў усім за ўвагу, выйшаў у калідор. Адразу падумаў, што ўсё — мяне не дапусцяць да асноўных экзаменаў, не здаў эцюд. Але выйшла ўсё наадварот. Памятаю, Валянцін Іванавіч перад абітурыентамі сказаў, што лепш за ўсіх эцюд паказаў Чыгрын.

Так я стаў навучэнцам тэатральнага аддзялення Магілёўскага культасветвучылішча. Але рэжысуру ў нас выкладаў не Валянцін Ермаловіч, а Леанід Багам'я, якога ў 60-гадовым узросце некалькі гадоў таму скасіў інфаркт. Гэтыя рэжысёры сябравалі. Больш вопытны Валянцін Іванавіч бываў у нас на занятках і рэпетыцыях, дапамагаў маладому рэжысёру і выкладчыку Леаніду Багам'і. Вельмі часта Валянцін Ермаловіч гутарыў са мной, цікавіўся маім жыццём, называў мяне сваім земляком, заходнікам. Мне ад гэтага было цяплей і лягчэй. А яшчэ Валянцін Іванавіч заўсёды размаўляў на беларускай мове. І ўсе навучэнцы, якія з ім гутарылі, стараліся размаўляць таксама па-беларуску.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, Валянцін Іванавіч аднойчы мне сказаў: «Я гутарыў са сваім сябрам паэтам Аляксеем Пысіным пра цябе. Заўтра ў памяшканні рэдакцыі "Магілёўскай праўды" будзе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб'яднання. Выберы найлепшыя вершы і сходзі туды…».

Я вельмі хваляваўся, бо ўпершыню выносіў на суд свае яшчэ кволыя першыя творы. У рэдакцыі сустрэлі мяне шчыра і дабрадушна. За сталом моўчкі сядзеў Аляксей Васільевіч Пысін. Маўчаў ён і тады, калі ўсе па чарзе чыталі свае вершы (пераважна рускамоўныя). Пасля паэты паміж сабою пачалі спрачацца і нават сварыцца. Напрыканцы літаб'яднання загадчык ідэалагічнага аддзела газеты таварыш Ізотаў даў слова Аляксею Пысіну. Аляксей Васільевіч ціха сказаў: «З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына. Іх я і буду прапаноўваць для газеты».

Праз некалькі дзён я атрымаў ад Аляксея Пысіна ліст, дзе ён прасіў тэрмінова прыслаць два вершы, выбраныя з усіх мной пра-

чытаных для літстаронкі. Я даслаў адзін верш пра хлеб. Ён і быў надрукаваны побач з вершамі Алеся Пісьмянкова і Алеся Емяльянава.

За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі. У Магілёўскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Валянцін Ермаловіч быў адказны за нумары мастацкай самадзейнасці, а Аляксей Пысін — за літаратурную частку. Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва. З ініцыятывы Аляксея Пысіна мы разам з Валянцінам Ермаловічам выдавалі ў вучылішчы рукапісны літаратурны часопіс «Лучынка». Знайсці б цяпер хоць адзін нумар…

Валянцін Ермаловіч вельмі любіў беларускую паэзію. Ён вучыў мяне дэкламаваць вершы са сцэны. Асабліва ў той час мой настаўнік захапляўся паэзіяй Янкі Непачаловіча. Неяк паехалі выступаць на Краснапольшчыну. У сельскім Доме культуры сабралася поўная зала людзей. Наперадзе сядзелі кіраўнікі мясцовага калгаса, Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч. А я на сцэне чытаю Янку Непачаловіча:

Хоць нельга і розум, і сэрца
Пакласці на шалі,
Ды ўсё ж чалавек пазнаецца
Па крупнай дэталі…

Зала прыціхла. Аляксей Пысін, апусціўшы галаву, нешта думаў, а пасля сказаў: «Добра, Сярожа, добра!..» У гэты вечар мы яшчэ паказалі жарт Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка», дзе я іграў Саўку, мае аднакурснікі Генадзь Гавароўскі — жабрака, а Валянціна Паўлоўская — Магрэту. Зала ад смеху проста грымела. Нас выклікалі некалькі разоў на біс. А пасля канцэрта Валянцін Іванавіч мяне абняў і сказаў: «Маладзец!».

Гэта я пазней даведаўся, што Валянцін Іванавіч Ермаловіч — родны брат Міколы Ермаловіча. Я часам іх згадваю, і мне становіцца ад гэтых успамінаў светла на душы і радасна, што я іх ведаў. А Аляксей Пысін і Валянцін Ермаловіч мяне шчыра вучылі літаратуры і тэатру. Хаця я пра вялікую сцэну не марыў. Я хацеў быць тэатральным крытыкам. І часткова мая мара збылася. Бо я па-

ранейшаму люблю тэатр. І сёння я працую загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага дзяржаўнага драматычнага тэатра. Бо тэатр — гэта хвароба: калі яе падхапіў — то назаўсёды. У 2008 годзе пра гісторыю тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне я нават напісаў і выдаў кнігу «Тэатр у Слоніме».

У 1977 годзе я скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і пайшоў у войска. Служыў на савецка-кітайскай граніцы ў Забайкальскай ваеннай акрузе, па-руску пішацца так: Забайкальский военный округ (ЗАБВО). Абрэвіятуру ЗАБВО мы, салдаты, расшыфроўвалі як «забудь вернуться обратно». Многія салдаты не вытрымлівалі забайкальскіх халадоў, дзедаўшчыны і вайсковай муштры. Таму некаторыя дамоў і не вярнуліся ці вярнуліся інвалідамі. Мне таксама цяжка было служыць, асабліва першае паўгоддзе. Але потым справа пайшла лягчэй. Фізічных нагрузак я не баяўся, бо займаўся шмат гадоў гімнастыкай, на перакладзіне падцягваўся за ўсіх салдат свайго аддзялення. А яшчэ пісаў у ваенныя газеты пра армейскія будні і жыццё. Наогул, пра сваю службу можна напісаць цэлую кнігу, і яна будзе значна «круцейшай» у параўнанні з аповесцю рускага пісьменніка Юрыя Палякова «Сто дней до приказа». Але гэтая тэма пакуль мяне не цікавіць…

Позняй восенню 1979 года я прыйшоў з войска. І, каб не сядзець без справы, уладкаваўся загадчыкам Сынковіцкага сельскага клуба. Як казаў вышэй, вёска Сынковічы побач з маёй роднай вёскай Хадзявічы. Дзве вёскі якраз знаходзяцца на мяжы двух раёнаў — Зэльвенскага і Слонімскага. Да клуба ад маёй хаты хвілін дзесяць язды на ровары. Бываў я ў Сынковічах не кожны дзень, таму дома ў вольны час рыхтаваўся да паступлення ў Белдзяржуніверсітэт, пісаў вершы, замалёўкі, вёў вялікую перапіску з пісьменнікамі і сябрамі. Сусед мой выпісваў «Сельскую газету» і, седзячы на прызбе, кожны дзень чытаў. Аднойчы і я ўзяў паглядзець гэтую «Сельскую газету» (цяпер яна называецца «Белорусская нива»). І мне якраз трапіў той нумар, дзе на чацвёртай старонцы друкаваліся вершы і розныя матэрыялы на тэму культуры. Вырашыў і я даслаць падборачку сваіх вершаў у «Сельскую газету». Тым больш, што я вярнуўся з войска дамоў, у сельскую мясцовасць, працую ў клубе, ды яшчэ пішу вершы. Пра гэта я таксама паведаміў у пісьме. Праз тыдзень атрымліваю з газеты ліст ад літаратурнага кансультанта гэтага

выдання. А кансультантам тады была Яўгенія Янішчыц. Яўгенія Іосіфаўна напісала ліст вельмі тактоўна, каб не пакрыўдзіць мяне, каб не спалохаць. Яна пахваліла мае вершы, раіла пісаць больш і дасылаць ёй усё самае лепшае. Але ў канцы пісьма паэтка сказала, што вершы апублікаваныя не будуць, бо да ўзроўню рэспубліканскай газеты яны яшчэ не дацягваюць.

Але мяне ліст узрадаваў. Таму я зноў і зноў дасылаў вершы Яўгеніі Янішчыц у «Сельскую газету». А яна мне адказвала, вучыла мяне пісаць, давала розныя парады, заўвагі, пажаданні. А 9 красавіка 1980 года ад яе я атрымаў і такі ліст: «Добры дзень, дарагі Сяргей! Уважліва прачытала два тваіх вершы: “Вёска — радасць мая” і “Беларусь — мая калыска”. Падкупляе сваёй шчырасцю верш “Беларусь”. І асабліва — такія радкі: “да цябе зноў вяртаюся жменькаю ўспамінаў, і ты — як сон перад вачыма”. Хораша і паэтычна сказана! Хацелася б пажадаць табе такой шчырасці і надалей, сваіх нечаканых і адметных мастацкіх вобразаў. Верш “Беларусь” буду прапаноўваць у друк. Дашлі свае вершы (гэтыя і новыя) на радыё (“Шчырага сэрца парывы”) і напішы пра сябе: дзе і калі нарадзіўся, што скончыў і г. д. Я вяду гэтую перадачу, і хацелася б цябе прадставіць нашаму рэспубліканскаму слухачу. Для “Сельскай газеты” дашлі сваё фота і яшчэ новыя вершы. Ці друкаваўся дзе раней? Пішы тэрмінова. З пажаданнем поспехаў Яўгенія Янішчыц».

Ад такога ліста я быў на сёмым небе ад радасці. Хуценька выканаў усё, аб чым прасіла Яўгенія Іосіфаўна. Паслаў у газету некалькі новых вершаў і фотаздымкаў, а таксама падборку вершаў на радыё. Сапраўды, Яўгенія Янішчыц вяла тады на радыё адзін раз на месяц літаратурную перадачу «Шчырага сэрца парывы». Я стараўся не прапускаць гэтыя выпускі, а аднойчы, дзякуючы паэтцы, пачуў там і свае вершы. Не ведаю, ці ёсць цяпер на Беларускім радыё такая цудоўная літаратурная перадача, якая ў 1980-я гады гучала голасам Яўгеніі Янішчыц.

Не прайшло і месяца, як у «Сельскай газеце» з’явілася падборка маіх вершаў з фотаздымкам і ўступным словам Яўгеніі Янішчыц. Я не буду хваліцца тымі цёплымі радкамі, якія пра мяне напісала паэтка. Скажу толькі, што да сённяшніх дзён я ведаю іх на памяць. І газету тую берагу, як самую дарагую рэч. І калі чытаю-перачытваю

яе, слёзы самі з’яўляюцца на вейках: ці то ад радасці, ці то ад суму, ці то ад болю. І прыгадваюцца радкі Яўгеніі Янішчыц:

Як дзіўна і зусім незразумела:
Між усяго, што ў сэрцы набалела,
На нейкай дзікай сцежачцы лясной
Вярнуць ізноў празрысты свой настрой.

У жніўні 1980 года я паступіў у Белдзяржуніверсітэт. Наш філалагічны факультэт знаходзіўся тады на вуліцы Чырвонаармейскай, 6. Паблізу, на Ульянаўскай вуліцы, жыла Яўгенія Янішчыц, а зусім побач, на вуліцы Карла Маркса, 40, была рэдакцыя часопіса «Маладосць». Надрукавацца ў тыя гады ў «Маладосці», ды яшчэ студэнту, было не проста. Асабліва складана было з’явіцца на старонках выдання другі раз. Я неяк асмеліўся і вырашыў занесці з дзясятак вершаў у часопіс. Тым больш, што дэбютаваў тут у 1981 годзе, таму няхай ляжаць вершы і чакаюць сваёй чаргі. Я прыйшоў у аддзел прозы і паэзіі, дзе за сталом у кабінеце сядзеў адзін Уладзімір Дамашэвіч. «Я вяду аддзел прозы, а за паэзію ў нас адказвае Яўгенія Янішчыц. Пачакайце крыху, яна хутка павінна быць, бо жыве тут недалёка», — сказаў Уладзімір Максімавіч. Мы пачалі гутарыць, і праз хвілінку-другую зайшла Яўгенія Іосіфаўна, тая самая Яўгенія Янішчыц, з якой я перапісваўся і якую ўбачыў упершыню. Паэтка хутка распранулася, села за стол і пачала чытаць мае вершы. Вершы яна прачытала імгненна і для друку выбрала сем паэтычных твораў. «Але яны, Сяргей, будуць надрукаваныя крыху пазней», — сказала Яўгенія Іосіфаўна. Вершы, сапраўды, з’явіліся ажно летам 1985 года.

Мне заўсёды шанцавала на добрых і шчырых выкладчыкаў. Калі вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, французскую мову ў мяне выкладалаа Святлана Мікалаеўна Любіч. Яна шанавала хлопцаў, якія пісалі вершы. Менавіта Святлана Мікалаеўна прымушала мяне перакладаць з французскай мовы на беларускую. Прымушала… Кожны дзень яна мне прыносіла вершы то Луізы Мішэль, то Поля Элюара, то Поля Верлена, то Сальвадора Далі, вершы іншых французскіх паэтаў, а я іх перакладаў. Некалі яна навучыла так з французскай мовы перакладаць паэта Юрку Голуба. А потым за мяне ўзялася, пераклады мае друкавала ў роз-

ных выданнях. Мне здавалася, што большае задавальненне ад маіх перакладаў атрымлівала яна, чым я. Але яе школа майстэрства мне дапамагае і сёння. Цяпер я перакладаю з вялікім задавальненнем не толькі з французскай мовы, але і з польскай, украінскай, рускай, а ў апошні час спрабую з турэцкай мовы. Нават пераклаў цэлую кнігу вершаў турэцкага паэта Фазыла Хюсню Дагларджы. Невялікую падборку перакладаў апублікаваў у часопісе «Дзеяслоў». Для свайго роднага Слонімскага драмтэатра пераклаў на беларускую мову каля 30 п'ес рускіх, украінскіх і французскіх драматургаў. Спектаклі па гэтых п'есах і сёння ёсць у рэпертуары тэатра. Напісаў і некалькі п'ес для дзяцей.

Але што гэта я пра пераклады? Калі ёсць яшчэ літаратуразнаўства, гісторыя, краязнаўства. А тут — поле не аранае. Вось гэтае поле і кліча ў апошнія гады мяне да працы. Свет пабачылі кнігі «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Беларуская Беласточчына» (2008), «З беластоцкай зямлі» (2008), «Мастак Антон Карніцкі» (2009), «Жыў роднай песняй» (2010), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012), «Слонімскія падмуркі» (2012) і іншыя. Часам пішуцца і вершы. Выдаў зборнікі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009). Ведаю, што гэта пералічэнне кніг не вельмі цікавае для чытачоў, але і ў іх мая біяграфія, мой жыццяпіс. Таму мне ў правінцыйным Слоніме сумаваць не прыходзіцца. Хвалюе толькі тое, што гады бягуць занадта хутка. І чым больш гадоў пражыта, тым хутчэй яны праляталоць. Але колькі Бог дасць — столькі пастараюся зрабіць дзеля нашай айчыннай літаратуры, гісторыі і культуры.

# СЦЕЖКАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## ЯНКА КУПАЛА І ГРОДЗЕНШЧЫНА

Жыццё і дзейнасць вялікага нацыянальнага паэта Беларусі Янкі Купалы (1882–1942) было звязана і з Гродзеншчынай. Упершыню сюды ён завітаў напачатку кастрычніка 1909 года. А да гэтага часу наш пясняр жыў у Вільні. Ён працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва». Там заробку ніхто ніякага не плаціў, бо супрацоўнікі газеты працавалі на грамадскіх пачатках. Таму Янка Купала ўладкаваўся ў бібліятэку-чытальню «Веды», якая знаходзілася на Георгіеўскім праспекце, 4. Праца тая была яму патрэбная, каб хоць трохі зарабляць на сваё ўтрыманне, як пісаў Лявон Луцкевіч у сваёй кнізе «Вандроўкі па Вільні» (Вільня, 1998. С. 80). Аднак мэтаю ўладкавання Купалы ў бібліятэку было не толькі здабыццё сродкаў для жыцця, але і стварэнне спрыяльных умоў для самаадукацыі. Гаспадаром бібліятэкі быў грамадскі і культурны дзеяч, актыўны ўдзельнік беларускага руху ў Вільні Барыс Даніловіч. «Даніловіч дужа спагадліва ставіўся да Янкі Купалы», — піша Лявон Луцкевіч.

Менавіта Барыс Даніловіч прапануе Янку Купалу паехаць у яго маёнтак Бенін Наваградскага павета і стаць упраўляючым маёнтка. Купала ахвотна пагаджаецца. У кастрычніку 1909 года пясняр ужо ў Беніне. Там ён піша вершы «Памаліся», «З кірмашу», «Прад світаннем». 23 кастрычніка паэт стварае верш «Ноч за ночкай», дасылае некалькі допісаў у «Нашу Ніву» пад рознымі псеўданімамі. І ўсё гэта было створана за нейкіх дзевяць дзён у Беніне.

З Беніна ён напісаў ліст у Пецярбург дзеячу беларускай культуры Браніславу Эпімах-Шыпілу: «Я хацеў бы запытацца Вашай ласкі, што добрага чутно аб маёй справе? (маецца на ўвазе аб яго працы ў Пецярбургу. — *С. Ч.*)». У лістападзе прафесар Эпімах-Шыпіла прапанаваў Янку Купалу пераехаць у Пецярбург і паступіць вучыц-

ца на агульнаадукацыйныя курсы Чарняева. Усе выдаткі на вучобу, утрыманне і кватэру прафесар узяў на сябе. І Купала паехаў…

Факт знаходжання нашага песняра ў 1909 годзе на Наваградчыне стаў вядомы біёграфам толькі ў 1927 годзе з пісьма Я. Купалы даследчыку беларускай літаратуры Л. Клейнбарту. А ўсе вершы, напісаныя Купалам у Беніне, упершыню з'явіліся толькі ў 1913 годзе ў зборніку «Шляхам жыцця».

Другі раз Янка Купала разам з Міхасём Лыньковым пабываў у Наваградку 29 кастрычніка 1940 года. Яны прысутнічалі на пасяджэнні камісіі, якая рыхтавала юбілейны вечар па ўшанаванні памяці Адама Міцкевіча. А асабіста Іван Дамінікавіч прысутнічаў як сябра Усесаюзнага і Рэспубліканскага камітэтаў па ўшанаванні памяці паэта. 4 лістапада пісьменнікі наведалі Дом-музей Адама Міцкевіча. З імі прысутнічаў карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва» В. Цімскі. За псеўданімам Цімскі хаваўся не хто іншы, як паэт Васіль Вітка (Цімох Крысько). Ён тады якраз працаваў у «ЛіМе» карэспандэнтам. У сваю нататку пра наведванне Купалам і Лыньковым Дома-музея Міцкевіча Васіль Вітка ўключыў і аўтограф-запіс у Кнізе наведвальнікаў, які пакінулі Купала і Лынькоў: «Прыемнае ўражанне зрабіла на нас усё, што мы бачылі ў музеі вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, слаўнага сына зямлі навагрудскай. Што зроблена — добра. Але багата і багата яшчэ трэба зрабіць, каб дастойна ўшанаваць памяць вялікага паэта, зрабіць гэта месца цэнтрам навуковага вывучэння і даследавання ўсіх крыніц і вытокаў паэзіі слаўнага і вялікага сына польскага народа. Шчыра ўпэўнены ў тым, што толькі цяпер, на вольнай наваградскай зямлі, справа музея набудзе сапраўдны размах, і кожны чытач Міцкевіча — паляк, беларус, рускі, яўрэй будуць мець магчымасць у самым недалёкім будучым пазнаёміцца ў музеі з багатымі і разнастайнымі матэрыяламі аб жыцці і творчай дзейнасці любімага паэта».

Вярнуўшыся з Наваградка, Янка Купала выпраўляе свае пераклады балад Адама Міцкевіча «Удагонку», «Тры Будрысы», «Пані Твардоўская», урыўкі з паэмы «Конрад Валенрод», пачынае працаваць над перакладамі крымскіх санетаў, а 26 лістапада прымае ўдзел у Маскве ва ўрачыстым вечары, прысвечаным 85-годдзю з дня смерці Адама Міцкевіча.

У 1927 годзе пры гуртку Таварыства беларускай школы моладзь вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага павета заснавала біб-

ліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра. У 1949 годзе Валянцін Таўлай у сваім артыкуле «Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа» («Полымя», № 10, 1949) пісаў: «Імем Янкі Купалы называліся беларускія культурна-асветныя ўстановы — бібліятэкі і чытальні. Нам дакументальна вядома, што ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна сяляне, якія арганізаваліся ў гурток ТБШ (Таварыства беларускай школы), у 1927 годзе заснавалі шляхам ахвяраванняў кніжак і грошай на закуп літаратуры вясковую бібліятэку-чытальню і прысвоілі ёй імя нашага слаўнага песняра Янкі Купалы. Аб гэтым паведамляла газета "Наша праўда" № 11 ад 11 мая 1927 года…».

У 1927 годзе сваю працу кракоцкая моладзь пачала з таго, што сабрала сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў Сямён Акулевіч.

Спачатку сабралі для бібліятэкі каля трыццаці кніг. Гэта былі пераважна творы для вясковых драмгурткоў. Энтузіясты культурнай работы працягвалі збіраць сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры. І кніжны фонд увесь час папаўняўся. У канцы 1928 года бібліятэка налічвала каля тысячы назваў беларускіх, рускіх і польскіх кніг і каля двухсот чытачоў. Тады кракоцкія юнакі, якія вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі (сярод іх быў і Валянцін Таўлай), закупілі і прывезлі сотні кніг рускай і беларускай класікі. З павелічэннем кніжнага фонду было створана дзве філіі бібліятэкі. Адной філіяй у суседняй з Вялікай Кракоткай вёсцы Рудаўка кіраваў Павел Кулак, а Малакракоцкай філіяй загадвала Людміла Кулак.

Адначасова пры бібліятэцы і вясковым гуртку ТБШ былі створаны драматычны, харавы і музычны калектывы. Імі кіравалі Васіль Трафімовіч і Аляксандр Жыткевіч. Рэпетыцыі праводзіліся ў памяшканні бібліятэкі, а спектаклі — у адрамантаваным і прыстасаваным школьным хляве. Пастаноўкі былі платнымі. За вырučаныя грошы папаўняўся кніжны фонд бібліятэкі і аказвалася дапамога палітзняволеным.

За кароткі час свайго існавання драмгурток паставіў шмат п'ес беларускіх і ўкраінскіх драматургаў, у тым ліку «Паўлінку», «Раскіданае гняздо», «Прымакоў», «На папасе» Янкі Купалы, «Збянтэжанага Саўку» Леапольда Родзевіча, п'есы Францішка Аляхновіча і Уладзіслава Галубка. Пастаноўкі і вечары песень не толькі давалі культурны адпачынак, але і з'яўляліся моцным сродкам палітычнай агітацыі.

Праіснаваўшы некалькі гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы была зачынена паліцыяй, а кнігі канфіскаваны. Праўда, тыя выданні, якія знаходзіліся ў чытачоў і ў перасоўках у вёсках Рудаўка, Малая Кракотка, яшчэ доўга хадзілі па руках і чыталіся вяскоўцамі.

Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза. Так, Сцяпан Ігнатовіч быў засуджаны на сем гадоў турэмнага зняволення, Рыгор Збраевіч — на пяць, Кастусь Петручэня — на шэсць гадоў турмы. Паэту Валянціну Таўлаю, якога арыштоўвалі неаднаразова, далі восем гадоў.

У верасні 1939 года слаўную купалаўскую бібліятэку ў вёсцы Вялікая Кракотка зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена — ужо Другой сусветнай вайной.

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана прызначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы.

Многія пісьменнікі дарылі кнігі з аўтографамі асабіста яму як чалавеку, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Гэтыя кнігі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч пакідаў у бібліятэцы, каб чыталі вяскоўцы. «Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кнігі з сардэчнай павагай Мікола Арочка», — аўтограф земляка на кнізе «Крылатае семя». Піліп Пестрак на сваёй кнізе «Неспадзяванак» напісаў: «Жыткевічу Аляксандру — ад шчырага сэрца».

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль

кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі. Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч (у 1999 годзе яго не стала) заўсёды ўспамінаў з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Уладзіслава Францаўна была вельмі задаволена, што бібліятэка на Слонімшчыне носіць імя Янкі Купалы.

Дзякуючы цётцы Уладзі, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя вядомыя пісьменнікі.

У 2005 годзе бібліятэка ў Вялікай Кракотцы набыла новы статус і стала Бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы. А ў 2007 годзе яна адзначыла сваё 80-годдзе. Але гэта быў апошні юбілей бібліятэкі ў Кракотцы. У 2008 годзе яе закрылі, а каштоўныя кнігі і фотаздымкі перадалі ў іншыя бібліятэкі Слонімшчыны, а таксама ў Сялявіцкую сельскую бібліятэку — суседнюю з Вялікай Кракоткай. Усе акупацыі і войны перажыла слаўная Купалаўская бібліятэка, а вось сённяшні час перажыць не змагла. Шкада…

А вось у Слоніме Янка Купала пабываў толькі адзін раз. Пасля Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку ён 15 лістапада 1939 года вяртаўся з Беластока ў Мінск. Па дарозе Купала вырашыў заехаць у Слонім, дзе ў гэты час жыў беларускі паэт Гальяш Леўчык, каб сустрэцца з ім. «Шаўрале», на якім ехаў пясняр, спынілася на вуліцы 3 Мая (цяпер гэта вуліца Чырвонаармейская. — *С. Ч.*) каля невялікай хаткі № 73 (зараз яе ўжо няма, тут знаходзіцца Слонімскі аўтарамонтны завод. — *С. Ч.*). Убачыўшы Купалу, Гальяш моцна ўзрадаваўся. Яны абняліся, і гаспадар хаткі запрасіў госця ў свой пакой. Пасля гутаркі яны паехалі ў першы беларускі рэстаран, які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Паабедаўшы за кошт Купалы (ён частаваў), Гальяш Леўчык паказаў, як праехаць на Мінск па Маставой вуліцы (цяпер гэта вуліца ў Слоніме носіць імя Янкі Купалы. — *С. Ч.*), і яны развіталіся. Больш сустрэцца ў жыцці Янку Купалу і Гальяшу Леўчыку не давялося.

Другі раз Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку 1940 года. А ў верасні гэтага года газета «Літаратура і мастацтва» паведамляла, што члены праўлення ССП БССР і група пісьменнікаў — Я. Купала,

Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка, З. Аксельрод, М. Танк, П. Пестрак, Г. Камянецкі, М. Модэль, А. Кучар на днях выязджаюць у Беласток, дзе будзе працягнута работа праўлення ССП БССР па прыёму лепшых пісьменнікаў заходніх абласцей, якія творча выявілі сябе, у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Некаторыя пісьменнікі ў Беласток выехалі на цягніку, а Купала з Коласам паехалі на машыне Коласа. Разам яны прынялі ўдзел і ў пасяджэнні выязной сесіі Акадэміі навук БССР у Беластоку, дзе абмяркоўваліся пытанні і праблемы развіцця культуры і эканомікі заходніх абласцей Беларусі. Пасля сесіі беларускія песняры сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі Беластоцкага педінстытута. У сваім хатнім архіве знайшоў згадку ўспамінаў пра сустрэчу Коласа і Купалы ў Беластоцкім педінстытуце. Гэтую згадку некалі мне даслаў краязнавец і музейшчык з Дзятлава Міхась Петрыкевіч (1913–1999), тады студэнт гэтага інстытута. У пісьме Міхась Фёдаравіч прыгадваў наступнае: «Гэта было 14 кастрычніка 1940 года ў горадзе Беластоку. Я тады вучыўся ў Беластоцкім педінстытуце на літаратурным факультэце. Вялікай падзеяй у жыцці інстытута і маім асабістым жыцці была нечаканая першая сустрэча з народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У Беластоку тады праходзіла выязная сесія АН БССР. На сесіі прысутнічалі і народныя песняры. Калі мы пра гэта даведаліся, то аднадушна вырашылі арганізаваць у інстытуце сустрэчу з паэтамі. Дырэкцыя інстытута падтрымала нашу ініцыятыву. На хуткую руку мы падрыхтавалі невялікі канцэрт, выпусцілі спецыяльны нумар насценнай газеты.

14 кастрычніка пад вечар дэлегацыя студэнтаў, сярод якіх быў і я, адправілася ў памяшканне, дзе праходзіла сесія. Калі літаратарам перадалі нашу просьбу, то яны адразу пагадзіліся з намі сустрэцца. Мы крыху пачакалі. І раптам з прэзідыума выйшлі народныя паэты, ветліва прывіталіся, і мы накіраваліся ў педінстытут. Нашаму шчасцю не было канца. Трэба было ісці не менш як кіламетр, і ўвесь гэты час мы маглі свабодна гутарыць з любімымі паэтамі. Вечар быў цёплы і ціхі. Ападала лісце з ліп і каштанаў. Вясёлая грамада абступіла паэтаў, мы ішлі гурбою. Янка Купала ўвесь час жартаваў, а мы смяяліся.

Я ішоў побач з Якубам Коласам. Ён цікавіўся нашым мінулым, пытаўся, адкуль мы родам. Калі даведаўся, што я з Наваградчы-

ны, то сказаў: «Добра ведаю Наваградчыну. Слаўныя там людзі, прыгожая прырода. У мяне было многа блізкіх таварышаў з Наваградчыны».

Актавая зала была ўжо поўнай, калі мы прыйшлі. Паэтаў сустракалі дружнымі і доўгімі апладысментамі. Песняры раскланяліся, распрануліся і селі за стол прэзідыума. Кароткую прамову сказаў супрацоўнік АН БССР Барысенка В. В., які суправаджаў паэтаў. Потым выступілі з чытаннем сваіх вершаў Янка Купала і Якуб Колас. Што яны чыталі — я ўжо не памятаю. Мы як зачараваныя слухалі іх, запаміналі міміку, жэсты. Асабліва запомнілася, што голас Якуба Коласа быў гучны і звонкі.

Паэты падзякавалі за цёплы прыём, пажадалі нам поспехаў у вучобе, напомнілі пра вялікую адказнасць настаўнікаў перад народам, пра тое, што заходнія вобласці чакаюць нас, каб ліквідаваць адсталасць народа, павысіць яго культуру.

У перапынку мы папрасілі падпісаць нам кнігі. Паэты разгубіліся, бо ў іх не было з сабой кніг. Калі ж яны даведаліся, што мы самі купілі іх кнігі, — ахвотна падпісалі на памяць аб сустрэчы некалькі дзясяткаў сваіх кніг. Янка Купала падпісаў мне свой зборнічак “Над ракой Арэсай”, а Якуб Колас — зборнік выбраных твораў.

Калі пачалася вайна, я вырваў тытульныя лісты з аўтографамі і насіў іх з сабой. Але на фронце, дзе я быў, яны згубіліся. Янку Купалу я больш ніколі ў жыцці не бачыў, а Якуба Коласа сустракаў некалькі разоў пасля вайны. Аднак першая сустрэча ў Беластоку была самая яркая, самая хвалюючая і запомнілася мне назаўсёды».

Яскравым доказам таго, што Янку Купалу на Гродзеншчыне любілі і лічылі духоўным правадыром беларускага народа, прарокам нацыянальнага адраджэння, стала тое, што пасля ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1940 годзе жыхары Лідчыны вылучылі Янку Купалу кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

Адбылося гэта 15 лютага 1940 года. Рабочыя і службоўцы Лідскага чыгуначнага вузла на сваім першым перадвыбарным сходзе аднагалосна прапанавалі вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР народнага паэта Беларусі Янку Купалу. Гэту прапанову з запалам падтрымалі ўсе працоўныя Ліды і Лідскага раёна. І дружна вырашылі: «Вылучыць таварыша Луцэвіча Івана Дамінікавіча (Янку Купалу) кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага

Савета БССР і прасіць яго даць згоду балатавацца па Лідскай-Слабадской выбарчай акрузе № 306 Беларускай ССР».

13 сакавіка 1940 года Янка Купала прыехаў у Ліду на сустрэчу з выбаршчыкамі. Разам з ім прыехалі з Мінска пісьменнікі Пятро Глебка, Алесь Кучар, Зэлік Аксельрод. Спыніліся госці ў гасцініцы па вуліцы Сувальскай (цяпер вул. Савецкая), у былой гасцініцы «Брыстоль». Да прыезджых далучыліся гарадзенскія паэты Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Анатоль Іверс, Пятрусь Граніт. У час прыезду любімага паэта была адліга, макрэча такая, што ў туфлях цяжка было прайсці па тратуары, каб не замачыць ногі. І тады паэт Валянцін Таўлай, які быў супрацоўнікам лідскай газеты «Уперад», збегаў на гумавую фабрыку «Ардаль» і прынёс дарагому госцю падарунак рабочых — пару новенькіх галёшаў. Гэты факт добра памятаецца ў Лідзе і выклікае пачуццё гонару ў лідчан. Пра гэты выпадак хораша напісаў у сваім вершы «Галёшы для Купалы» (Станіслаў Суднік. Лідскія скрыжалі. Ліда, 2008. С. 68–69) беларускі паэт Станіслаў Суднік:

Адліга капежамі звоніць,
Вада грудзі рэк паўздымала,
З народам у Лідзе гамоніць
Пясняр чалавецтва Купала.
Гамоніць пра лепшую долю.
Маўчыць, што тут лепей не стала,
Гамоніць пра шчасце і долю
Прастуджаны, хворы Купала.
У мокрых стаіць чаравіках
І з кашлем змагаецца мужна,
І ў цесным натоўпе шматлікім
Ідэя раджаецца дружна:
«Давайце падорым Купалу
Галёшы тутэйшай работы,
Ад мокрадзі каб ратавалі,
Ад гразі, дажджу і ад слоты,
Каб быў наш Купала здаровы
І шчыра служыў Беларусі…»
І пару галёшаў тых новых
Купала прыняць ад іх мусіў…

…І я, нават сёння, як бачу,
Фантазіі многа ці мала,
Выходзіць па Менску на шпацыр
У лідскіх галёшах Купала…

Краязнавец з Валеўкі Навагрудскага раёна Уладзімір Урбановіч (1921–1999), з якім я меў сустрэчу ў Валеўцы ў школе і потым у 1980–1990-х гадах перапісваўся з ім, даслаў неяк мне ўспамін пра сустрэчу з Янкам Купалам тады ў Лідзе. Уладзімір Аляксандравіч у пісьме прыгадваў: «Я ў той час вучыўся ў Лідскай сярэдняй школе № 3, што за чыгункай была, якую лідчане тады называлі чыгуначнай. А паколькі Янка Купала балатаваўся па Лідскай чыгуначнай выбарчай акрузе, то і сустрэча адбывалася ў клубе чыгуначнікаў. Таму нашай школе было даручана пасля сустрэчы наладзіць канцэрт. Такім вось чынам і мне пашчаслівіла быць на тым вечары, пабачыць і пачуць першы і апошні раз народнага паэта Беларусі Янку Купалу.

У Ліду Янка Купала прыехаў 13 сакавіка 1940 года. Сустрэча адбылася назаўтра, 14 сакавіка. Як сёння памятаю — гэта быў чацвер. Цэлы дзень у школе тыя, хто ўдзельнічаў у канцэрце, рэпеціравалі, рыхтаваліся. Гучалі беларускія, польскія і рускія песні і вершы, былыя гімназісткі ладзілі танцы, фізкультурнікі — свае нумары. Настрой ва ўсіх быў прыўзняты — гэта быў першы канцэрт нашых школьнікаў, а нас, беларусаў, хвалявала і сустрэча з Купалам, тым самым Янкам, партрэт і вершы якога былі ў школьных хрэстаматыях, п’есы якога мы бачылі на самадзейнай сцэне.

Мне запомніўся доўгі стол, засланы чырвоным палатном. За ім сядзелі людзі ў гімнасцёрках і ў чыгуначнай форме. Сярод іх у цэнтры ў цёмным касцюме, белай сарочцы і гальштуку сядзеў Янка Купала, такі ж самы, як на партрэтах у школьных падручніках: гладка прычасаныя валасы, добры, лагодны пагляд і нешта такое, што рабіла яго блізкім, родным і дарагім для лідчан. Нешта казалі людзі ў гімнасцёрках, чыгуначнай форме, нешта прамаўляў і Янка Купала, а пасля ён чытаў свае вершы. Упершыню я пачуў “Накарміліся панскаю ласкай”, “З новай думкай” і яшчэ нешта. Зала апладзіравала, паэт кланяўся, пасля пайшоў на сваё месца, узмахнуў рукой, мабыць, каб спыніць воплескі, яшчэ раз пакланіўся і сеў за стол. Пасля выступіла Ніна Тарас, яна чытала свае вершы.

Запомнілася яшчэ выступленне Валянціна Таўлая. Ён і Ніна Тарас працавалі тады ў лідскай газеце “Уперад”. Малады, стройны, прыгожы з твару юнак лёгка падняўся на сцэну і, не заходзячы на трыбуну, пачаў па памяці чытаць верш “Чырвоным урнам радасць занясі”. Мяне ўразіла незвычайная натхнёнасць паэта, яго пагляд, голас, глыбокая ўсхваляванасць, змест верша.

Яшчэ не заціхлі воплескі пасля выступлення Таўлая, як на сцэну паднялася малая дзяўчынка і стала побач з паэтам. Яна была такая маленькая, што галоўка яе дасягала краю стала. Дзяўчынка пачала нешта гаварыць. Раптам Янка Купала падняўся са свайго месца, выйшаў з-за стала, узяў дзяўчынку пад пахі і паставіў на стол. Дзіця неяк разгубілася. Валянцін Таўлай нешта сказаў ёй (гэта была яго родная сястрычка), жэстам рукі падбадзёрыў. І яна пачала чытаць нейкія вершы. А калі скончыла, павярнулася тварам да прэзідыума і пакланілася. Янка Купала абняў яе і пацалаваў. Дзяўчынка саскочыла са стала і пабегла ў залу, які грымеў воплескамі…».

Слонімскі паэт Анатоль Іверс (1912–1999), які таксама прысутнічаў на сустрэчы ў Лідзе, прыгадвае: «Каб гэта сустрэча лепш прайшла і ў некаторай ступені насіла літаратурны характар, наш зямляк паэт-рэвалюцыянер Валянцін Таўлай, які працаваў у лідскай газеце “Уперад”, запрасіў на вечар заходнебеларускіх літаратараў, у тым ліку і мяне. Вядома, у Ліду я ехаў з задавальненнем, але хваляваўся перад веліччу Янкі Купалы.

Вечар праходзіў у перапоўненай зале клуба чыгуначнікаў. Янка Купала не распранаўся, сядзеў у накінутым на плечы паліто, бо прыхварэў. На дварэ было хлюпатна, і каб госць не замачыў ногі, Валянцін Таўлай прынёс падарунак рабочых гумавай фабрыкі “Ардаль” — дабротныя галёшы. Мы ледзь-ледзь угаварылі хворага надзець іх на туфлі.

Выступаючы перад лідчанамі, Янка Купала расказаў аб сваёй працы, творчай дзейнасці, узрушана гаварыў аб прыездзе ў дарагія сэрцу мясціны. “Дваццаць гадоў па гэтай роднай зямлі не хадзілі мае ногі”, — сказаў ён. Потым чытаў вершы, дзякаваў за аказанае давер’е.

З вершамі выступалі Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Пятрусь Граніт, я і другія.

Сустрэча з Янкам Купалам з'явілася для нас, паэтаў былых "крэсаў усходніх", вялікай падзеяй, дала магчымасць бліжэй асабіста пазнаёміцца са стваральнікам новай беларускай літаратуры. У шчырай гутарцы ён цікавіўся нашым жыццём, працай, знаёміўся з вершамі, даваў свае заўвагі і парады. На развітанне мы атрымалі ад народнага паэта кнігі з аўтографамі…» (Анатоль Іверс. З глыбінь жыцця. Мінск, 2012. С. 166).

15 сакавіка Янка Купала з Ліды прыехаў у Мінск. А 24 сакавіка 1940 года адбыліся выбары, наш пясняр стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Праз тры дні ў маскоўскай газеце «Известия» з'явіўся яго артыкул «Моим избирателям», у якім паэт пісаў: «Какая это великая радость для меня, писателя, который 35 лет писал песни о родном белорусском народе! Я глубоко благодарен моим избирателям — трудящимся Лидского района, оказавшим мне высокую честь избранием в депутаты Верховного Совета БССР. До конца моих дней я буду верно служить народу…».

Гэта толькі невялікія імгненні з жыцця і дзейнасці Янкі Купалы, звязаныя з Гродзеншчынай. Па слядах нашага песняра мы будзем ісці заўсёды, і яны нам будуць адкрываць усё новыя і новыя звесткі з яго біяграфіі і творчасці.

## ЛЁС БЕЛАРУСА МІКАЛАЯ БЕЛАКОЗА — БАЦЬКІ АЛЕСЯ БЕЛАКОЗА

Даслаў ліст у вёску Гудзевічы Мастоўскага раёна Алесю Мікалаевічу Белакозу з прапановай, што хачу напісаць пра ягонага бацьку Мікалая Язэпавіча Белакоза. Тым болей, што бацька яго быў родам з Беласточчыны, з вёскі Юраўляны. У лісце задаў шэраг пытанняў Алесю Мікалаевічу, звязаных з жыццём бацькі і ягоным лёсам. Хутка з Гудзевічаў ад Алеся Белакоза прыйшоў пакет з адказамі, фотаздымкамі, успамінамі пра бацьку. Наогул, Алесь Мікалаевіч ніколі канверт з адным простым пісьмом не адсылае. Ён заўсёды што-небудзь прышле цікавае, новае, каштоўнае. А ў пісьме Алесь Белакоз напісаў: «Дарагі Сяргей, шчыра дзякую, што хочаце ўспомніць і пра майго тату, бо ён быў прадстаўніком бяднейшага сялянства і заставаўся ім пры ўсіх уладах, хоць бальшавікі лічылі

тату амерыканцам, ворагам, кулаком. Праўда, тры гектары зямлі і адна карова не давалі падставы называць яго кулаком, але бальшавікоў ён не любіў усё жыццё…». Алесь Мікалаевіч дазволіў мне карыстацца ўсімі ягонымі дакументамі і ўспамінамі пра бацьку, і калі што не зразумела — звяртацца да яго па дапамогу.

Лёс беларуса Мікалая Белакоза — гэта лёс многіх беларусаў XX стагоддзя: няпросты, складаны і цяжкі. Але беларусы не падалі духам: яны жылі, працавалі на зямлі, кармілі свае сем'і.

Мікалай Белакоз нарадзіўся ў 1890 годзе ў сям'і Язэпа Белакоза і Вольгі Прытыцкай у вёсцы Юраўляны каля Крынак на Беласточчыне. «У Яраўлянах, — кажа Алесь Мікалаевіч, — там спрадвеку жылі мае прашчуры. Мова Яраўлянаў мне даражэйшая і прыгажэйшая за мясцовую, дзе я жыву. Я, напрыклад, кажу: "дзякуй Богаві", "гобруць" і іншыя словы, характэрныя для Яраўлянаў. І ў нас ёсць прыстаўное "г", мы кажам "гостры", "гараць", а не "араць" і г. д. Кажу "Яраўляны", а не "Юраўляны" таму, што ў 1939 годзе там, каля вёскі, бачыў яры. Просты польскі пісар, каб паздзекавацца з селяніна ў XVI стагоддзі, даваў сялянам прозвішчы Сярун, Сцака, Пенес і іншыя непрыстойнасці. А чаму б не абразіць усю вёску, хоць юр не мае дачынення да вёскі, але чужынцы навязалі такое гучанне: Юраўляны…».

Калі бацькі Мікалая Белакоза Язэп і Вольга вярнуліся з бежанства — засеялі ў Юраўлянах роднае поле, але ўраджаю першага так і не дачакаліся, хутка паўміралі ад тыфу. Вольга была вельмі прыгожай жанчынай: чарнявая, стройная. Прыгожым і высокім быў і Язэп. Іх сын Мікола Белакоз быў самым старэйшым у сям'і, рос вельмі здольным хлопчыкам. Ён на выдатна скончыў Крынскае гарадское вучылішча, за што атрымаў нават адпаведную грамату і падарунак. Але ў той час далей вучыцца не было мажлівасці. Таму дужы, працавіты Мікалай Белакоз вымушаны быў застацца ў хаце ў Юраўлянах, каб араць, касіць, сеяць, малаціць. Зямлі ў бацькоў Мікалая было чатыры дзесяціны. Яе неабходна было падзяліць на чатырох сыноў — Мікалая, Пятра, Гальяша і Івана, а таксама на дачку Алесю. Гальяш загінуў падчас рэвалюцыі ў Расіі, самы малодшы, Іван, з польскага войска ў сярэдзіне 1920-х гадоў уцёк у СССР, дзе быў узнагароджаны за тое, што перайшоў мяжу са зброяй у руках. Аднак у Краснаярску, калі вучыўся на трэцім курсе інсты-

тута, яго арыштавалі і расстралялі. Пятрук вывучыўся за краўца, жыў у Беларусі, а пасля выехаў на радзіму жонкі ў Харкаў. Сястра Алеся выйшла замуж за вясковага хлопца і нарадзіла чатырох сыноў і дачку. Вось такі лёс братоў Мікалая Белакоза.

У 1910 годзе юраўлянскага юнака забіраюць у войска. Там ён праслужыў чатыры гады. Пачалася Першая сусветная вайна. Ваяваў тры гады ў той самай кавалерыі, у якой служыў, удзельнічаў у Бруйлаўскім прарыве. У 1917 годзе трапіў пад кулямётны агонь, яму параніла галаву, руку і правую нагу. Пасля вайны моцна кульгаў. Калі ажаніўся з Волькай Петрашэвіч, якая трохі заікалася, часта жартаваў: «Кульгаваму найбольш хадзіць, а заікліваму найбольш гаварыць». «Мая мама паходзіла з вёскі Падбараны, якую ў народзе называюць чамусьці Радзівонаўцы, — успамінае Алесь Мікалаевіч Белакоз. — Да Падбаранаў ад Гудзевічаў 9 кіламетраў, калі ісці палявымі сцежкамі, а калі па тракце — больш за 14. Пазнаёміліся і пажаніліся бацькі ў бежанстве каля Харкава напачатку 1919 года. А калі вярнуліся з бежанства ў Юраўляны, то на трох братоў і сястру было толькі чатыры гектары зямлі. Гэта вельмі мала…».

З Харкава Мікалай і Волька Белакозы прывезлі тры мільёны керанскіх грошай (грашовыя купюры, якія выпускаліся Часовым урадам у Расіі ў 1917 годзе і Дзяржбанкам РСФСР у 1917–1919 гадах. — *С. Ч.*). Каб сабраць столькі на дарогу, прадалі ў Харкаве асабістыя цяжэйшыя рэчы, збіралі заробак.

— Заўтра сходзім у Крынкі на кірмаш, трэба грошы распускаць, бо яны прападуць, — сказаў жонцы Мікалай.

Раніцай пайшлі на рынак. І Мікалай заўважыў, што керанак людзі не бяруць. Толькі адзін яўрэй прадае за керанкі саганчыкі.

— Колькі хочаце за гэты саганчык? — пытаецца вясковец у яўрэя.

— Тры мільёны керанак, — адказвае яўрэй.

— Пабойцеся Бога, — абурыўся Мікалай, — каб зарабіць тры мільёны, я год працаваў.

— Ну якія гэта грошы, заўтра за гэтыя грошы, можа, і бульбіны не купіш, — даказваў сваё яўрэй.

— Відаць, праўду кажа чалавек, як я іх сёння нікуды не ўсуну, дык заўтра яны зусім хадзіць не будуць, — вырашыў Мікалай. Ён купіў саганчык і сёе-тое яшчэ ў Крынках і з Волькай вярнуўся дамоў.

Па дарозе сустрэлі суседа Петраша.

— Колькі ты, Мікалайку, заплаціў за гэты саганчык? — паці-кавіўся сусед.

— Тры мільёны керанак, — цяжка ўздыхнуўшы, сказаў Белакоз.

— Што ж ты нарабіў? — забедаваў Пятраш. — І я маю сем мільёнаў керанак, але плаціць за саганчык тры мільёны не збіраюся.

Усю ноч не спаў Пятраш. Назаўтра рана са сваімі мільёнамі падаўся ў Крынкі. Там ужо ніхто іх не браў. Так грошы і засталіся ў суседа.

Мікалай Белакоз быў вельмі веруючым чалавекам. Алесь Мікалаевіч Белакоз успамінае: «Кожную нядзельку ці ў іншае свята ён шчыра маліўся ў царкве, кожны раз перад сном і пасля сну хвілін дваццаць маліўся на каленях. Іншы раз абураўся, што святароў польскія ўлады прымушаюць казаць пропаведзі па-польску, што праваслаўную рэлігію бацюшка ў школе выкладае па-польску, што дзяцей у школе караюць бізуном нават за тое, што на перапынку звернецца да сябра па-беларуску, што не дазваляюць беларусам купляць зямлю, не прымаюць на працу на фабрыкі ды заводы, у дзяржаўныя ўстановы. Беларусам у даверасн ёўскай Польшчы дазвалялася толькі працаваць парабкамі, служанкамі, пастухамі ды пастушкамі». З гэтай нагоды Мікалай Белакоз казаў, што нам, беларусам, дрэнна жывецца таму, што намі кіруюць заўсёды айчымы альбо мачахі, — трэба шукаць родных бацькоў.

Пры Польшчы палякі не вельмі хацелі пускаць беларусаў на заробкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, бо там яны маглі зарабіць прыстойныя грошы. Таму беларусы ехалі ў іншыя краіны. Вырашыў паехаць на заробкі ў Бразілію і Мікалай Белакоз са сваім сваяком Філімонам Белакозам. Два месяцы плылі яны ў Бразілію. Па дарозе бачылі, як ляцелі з выраю буслы. Яны ў акіяне сядалі на карабель і больш падняцца ў паветра не маглі. Ад лішняга грузу карабель запавольваў ход. Матросы скідалі буслоў у ваду, і птушкі гінулі. «Гэта ж нашы, з Беларусі», — гараваў Мікалай.

Калі хлопцы прыехалі на чужыну, то толькі на чацвёрты дзень ім удалося ўладкавацца на працу ў лядоўню. Праца была цяжкая, але плацілі за яе добра. Потым уладкаваліся да аднаго фермера з Латвіі, а пасля распачалі свой уласны бізнес. У Бразіліі Мікалай Белакоз часта марыў, як ён вернецца дахаты з далярамі, навязе гасцінцаў

Волечцы і дачушкам Веры і Аленцы, як купіць гектараў сем зямлі ды стане сапраўдным гаспадаром, як гэта зямелька будзе самая ўрадлівая, бо ён прыкладзе рукі да яе, сэрцам адчуе яе патрэбы ды недамаганні, як будзе дапамагаць суседзям і парадамі, і грашыма. Ён ужо бачыў сябе ў ролі настаўніка-апекуна няпоўнагадовых хлопчыкаў Бароўскіх, матулю якіх пасадзілі ў турму, што не аддавала секвестратару прыгожага падвойнага дывана, якога выткала разам з ягонай Волечкай. Такіх дываноў у Юраўлянах ніхто не ўмеў ткаць, а яе Волька навучыла. Мікалай разважаў, што навучыць сыноў Бароўскіх, як трэба гаспадарыць, каб зямля радзіла. Ён ім дапаможа купіць чацвёра парасят, малочную цялушку. Паціху зб'юцца на ногі. Ён аддзячыць Петрушу за ўсё тое добрае, што атрымаў ад разумнага ды разважлівага суседа. Ён дапаможа сястры Алесі, брату Пятру, пашле грошай у Сібір Ясю, які ўцёк у Савецкі Саюз…

Так марыў Мікалай Белакоз пра сваю сям'ю і родныя Юраўляны. Але ў Бразіліі пасля ранення падчас Першай сусветнай вайны адкрылася рана на назе. Пайшоў да хірурга. Той сказаў, што рана адкрылася ад перамены клімату, і яна не загоіцца ад бразільскай гарачыні. Гэта можа прывесці да гангрэны, а значыць, да смерці.

Праз пэўны час Мікалай Белакоз пачаў збірацца дамоў. Не захацеў заставацца там і Філімон. Разам падлічылі зробленыя грошы, купілі падарункі суседзям, сваякам, білеты на карабель, новае адзенне, мяшкі апельсінаў, бананаў, ананасаў, фісташак і паехалі на Радзіму. Вярнуліся дахаты ў разгар лета. Крынкаўскі балагол за невялікую плату прывёз мужчын у Юраўляны. Збеглася ўся вёска. Людзі бачылі, што вярнуліся з Амерыкі Белакозы багатымі людзьмі. Запрасілі за стол суседзяў, пачалі частаваць вяскоўцаў цукеркамі, замежнай садавіной і агароднінай. Гэта быў 1927 год.

Прывёз Мікалай Белакоз дамоў тады 1870 даляраў, што на той час у Польшчы склала каля 17 тысяч злотых, альбо 170 кароў.

Працаваць з хворай нагой на зямлі Мікалаю было цяжка. Таму вырашыў ён разам з жонкай адкрыць у Юраўлянах краму. Але крыху раней краму адкрыў Філімон з жонкай, мець у вёсцы дзве крамы не было ніякага сэнсу. У 1928 годзе ў Лятках, цяпер гэта вёсачка злілася з Гудзевічам на Мастоўшчыне, купілі хатку, пераехалі туды і пачалі гандляваць. Яўрэі-канкурэнты, імкнучыся выкурыць Белакозаў з Ляткоў, падпалілі хлеў, а пасля падклалі самагонку. Хоць

былі сведкі, якія бачылі, як падкладвалі Белакозам самагонку, усё ж падкуплены суд прыгаварыў Мікалая Белакоза да дзевяці месяцаў турэмнага зняволення. Вясковец адбыў тэрмін і вярнуўся дамоў, а потым на сваю матулю вытрабаваў дазвол на гандаль гарэлкай. «У нашай хаце часта пілі сяляне і службоўцы. Я кожны дзень чуў іх размовы пра прыгнёт, і сам пачаў разумець, што беларусы на сваёй роднай зямельцы не могуць гаспадарыць, не маюць права на працу і на вучобу. Вяскоўцы часта пыталіся ў мяне: чаму селянін не любіць есці нялупленую бульбу? Я адказваў: з селяніна ўсе дзяруць скуру, то ён хоць з бульбы абдзірае. Гэта заўсёды выклікала рогат», — успамінае Алесь Мікалаевіч.

Падчас Другой сусветнай вайны Мікалай Белакоз з сям'ёй жыў у вёсцы, апрацоўваў тры гектары зямлі, трымаў дзве каровы, некалькі авечак, чацвёра свіней, хатніх птушак. Па начах, акрамя партызанаў і розных бандытаў, хадзілі ўласаўцы і пераапранутыя немцы. У чэрвені 1943 года да іх пад хату прыйшла вялікая банда. Сярод іх не было ніводнага знаёмага чалавека. Мікалай іх у хату не пусціў. Пачалася страляніна. Ад куль загінуў Мікалай Белакоз. Алесь Белакоз прыгадвае: «Пасля вызвалення доўга адпаведныя органы вялі следства, аднак ніхто дрэннага слова пра бацьку не сказаў. Паўплывала і тое, што сястра мая ў час вайны патаемна па савецкіх падручніках (іншых не было) вучыла дзяцей зусім бясплатна, хоць на кожным кроку рызыкавала жыццём. Сярод яе вучняў трое былі дзецьмі расстраляных фашыстамі бацькоў. А найхутчэй, паўплывала тое, што следства вёў прыстойны чалавек. Сястра на допытах казала адкрыта ўсё, што думала, аднак не ўсё запісвалася ў пратаколы, бо інакш цяжка было б растлумачыць, як мы пражылі той час…».

Вось такі быў лёс беларуса Мікалая Белакоза з Юраўлянаў. Сын яго Алесь Мікалаевіч Белакоз усё жыццё аддаў дзецям, вёў шырокую нацыянальна-выхаваўчую работу з вучнямі, збіраў краязнаўчыя матэрыялы, стварыў Літаратурна-краязнаўчы музей у Гудзевічах Мастоўскага раёна, атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

*2012*

## ДАСЛЕДЧЫК ДУХОЎНАЙ КУЛЬТУРЫ ПАДЛЯШША

Даследаваць свой край вучуся ў Міколы Гайдука. Але шмат гадоў яго ўжо няма сярод нас, хаця і сёння ён мог бы яшчэ хадзіць і ездзіць па ўсёй Беласточчыне і збіраць беларускія песні, паданні, казкі, запісваць геаграфічныя назвы, звычаі, абрады, пісаць творы. Давайце пагартаем беларускі тыднёвік «Ніва» (Беласток), напрыклад, за мінулыя дзесяцігоддзі, і мы ўбачым творы Міколы Гайдука амаль у кожным нумары. Ён пісаў, бо ўмеў пісаць, умеў падаць усё цікава, па-новаму арыгінальна, шчыра і аб'ектыўна — ад вершаў да падручнікаў, ад краязнаўчых матэрыялаў да гістарычных даследаванняў. Ён працаваў на Беларусь, на свой народ, які жыў з ім побач і жыў на той бок мяжы, гэта значыць у нас, у Беларусі.

У беларускіх выдавецтвах у Міколы Гайдука выйшла кніг больш, чым на Беласточчыне. І ўсе яны неяк адна за адной з'явіліся ў 1990-х гадах. Спачатку ў Мінску свет пабачыла «Трызна» (1991), якую склалі гістарычныя апавяданні пісьменніка. Прадмову да кнігі напісаў тады Барыс Сачанка. Наогул, Мікола Гайдук ведаў амаль усіх беларускіх пісьменнікаў, з многімі сябраваў. Знаёміцца з імі ён пачаў яшчэ тады, калі вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Там ён пасябраваў з Барысам Сачанкам, якога таксама, на жаль, даўно няма сярод нас. У прадмоўцы Барыс Сачанка адзначаў, што творчасць Міколы Гайдука — «гэта даніна любові і павагі да роднага краю, жаданне хоць што-кольвечы зрабіць дзеля яго велічы і славы, далучыць да яго новых прыхільнікаў і шанавальнікаў».

Пасля «Трызны» ў Мінску выходзіць ягоны «Паратунак» — кніга гістарычных эсэ. Гэта кніга пра простых беларускіх воінаў і знакамітых князёў, пра барацьбу княстваў, пра паратунак перад крыжацкім нашэсцем. Прыгожа і ладна Мікола Гайдук апісаў у гэтым выданні вобразы Міндоўга, Давыда Гарадзенскага, Ягайлы і Вітаўта. «Зразумела, у цэнтры гэтага займальнага падарожжа пераважна мінулае так роднага і дарагога Міколу Гайдуку краю — Падляшша. Але ў ім, бы ў вялікай кроплі, бы ў чыстым люстры, добра бачыцца ўся беларуская гісторыя. Бо зямля, размешчаная паміж Бугам і Бобрай, дзе параскіданы старажытныя гарады і мястэчкі Драгічын, Бельск, Супрасль, дзе шуміць славутая Белавежская пушча і прывольна пасуцца лясныя волаты-зубры, была здаўна вельмі цесна звязана сваім

гістарычным лёсам з усёй Беларуссю, доўгі час уваходзіла ў склад Літоўска-Беларускай дзяржавы», — так напісаў у прадмове да гэтай кнігі Вячаслаў Чамярыцкі. Прадмова шчырая, добрая, годная. Не пабаюся гэтых слоў. Бо Мікола Гайдук заслугоўваў добрых рэцэнзій і пахвалы, таму што ён ведаў, што піша, як піша і для каго піша свае гістарычныя вандроўкі пра далёкае мінулае Беларусі, спыняючыся на Грунвальдскай бітве 1410 года, дзе гартаваўся наш народ.

Мікола Гайдук любіў беларускі фальклор, асабліва песні, паданні, небыліцы Беласточчыны. Ён іх умела збіраў, запісваў. У Мінску ў 1996 і 1997 гадах зноў выходзяць дзве ягоныя кнігі — «Белавежскія быліцы і небыліцы» і «Песні Беласточчыны». Добра сказаў Сакрат Яновіч, што «Мікола Гайдук — этнограф, але і пісьменнік, пісьменнік, але і этнограф» (Тэрмапілы. 1998. С. 127). Калі літаратар добры этнограф, то ён будзе добрым гісторыкам і пісьменнікам. Мікола Гайдук — адзін з іх.

А колькі цудоўных артыкулаў беластоцкі літаратар і краязнавец прысвяціў дзеячам беларускай культуры! Амаль усе яны былі апублікаваныя ў беларускім тыднёвіку «Ніва». Гэта артыкулы пра Пятруся Броўку, Ігната Дварчаніна, Уладзіміра Дубоўку, Міхася Забэйду-Суміцкага, Янку Купалу, Леапольда Родзевіча, Максіма Танка, Генадзя Цітовіча і пра многіх іншых. Роўна паўстагоддзя назад у друку з’явіўся і яго даследчы артыкул «Адам Міцкевіч аб Беларусі і беларусах».

Мікола Гайдук быў заўсёды пераканаsuccessive, што нашы людзі любяць заглядваць у сваё мінулае вачыма легендаў. У мінулае беларускай гісторыі я заўсёды заглядваю праз ягоныя гістарычныя кнігі. Ён быў і застаўся ў гісторыі нашай культуры, як творца эпічнага складу. Эпічным спакоем, як напісала некалі Вольга Шынкарэнка, поўняцца і выдатныя кнігі Міколы Гайдука.

# ЛЁС АНТОНА ШКЯЛЁНКА

Пра Міколу Шкялёнка — беларускага палітыка, гісторыка, журналіста, педагога, якога ў сярэдзіне 1940-х гадоў высачылі і знішчылі савецкія органы бяспекі, я пісаў у сваёй кнізе «Такі іх лёс» (Мінск, 2012. С. 106–113). За гэты час знойдзены новыя звесткі пра слыннага беларуса і яго сваякоў. Сёння хачу расказаць пра лёс яго роднага дзядзькі Антона Шкялёнка.

## Вайсковая кар’ера

У бацькі Міколы Шкялёнка Восіпа Шкялёнка было два браты — Мікалай і Антон. Антон нарадзіўся ў вёсцы Пякоціна Міёрскага раёна ў 1889 годзе.

Ён скончыў Дзісенскае гарадское вучылішча, Віленскае пяхотнае вучылішча і два класы Мікалаеўскай ваеннай акадэміі. А пазней — Акадэмію Генеральнага штаба ў Санкт-Пецярбурзе.

З пачаткам Першай сусветнай вайны Антона Шкялёнка ўзялі на фронт. Ён служыць перакладчыкам у штабе армій Паўднёва-Заходняга фронту. У канцы 1915 года штабс-капітан Антон Шкялёнак быў пераведзены ў Генеральны штаб і прызначаны памочнікам старшага ад’ютанта аператыўнага аддзялення генерал-кватармайстра восьмай арміі. Праз два гады ў званні капітана служыць памочнікам начальніка першага аддзялення ўпраўлення генерал-кватармайстра ў штабе Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

У 1919 годзе палкоўнік Шкялёнак ужо камандуе пятай пяхотнай дывізіяй. А праз год яго прызначаюць на пасаду начальніка аператыўнага аддзялення пры генерал-кватармайстры штаба Галоўнакамандуючага палкоўніка Канавалава…

Так па вайсковай лесвіцы ўверх рухаўся беларус Антон Шкялёнак. Ён дабравольна ўступае ў Добраахвотніцкую армію генерала Дзянікіна, дзе становіцца начальнікам штаба пятай дывізіі. І завяршае службу ў Рускай арміі генерала Урангеля.

Пасля эвакуацыі арміі з Крыма ў Канстанцінопаль ён адзін з першых выехаў, дарэчы, у якасці студэнта, у Прагу, дзе атрымаў стыпендыю ад урада Чэхаславацкай рэспублікі. Там скончыў

чэшскае Вышэйшае тэхнічнае вучылішча (здаў экзамены за два гады экстэрнам) і застаўся ў вучылішчы працаваць асістэнтам па матэматыцы.

Аднойчы ў 1925 годзе генерал Чэхаславацкай арміі Клецанда, які добра ведаў Шкялёнка па штабу Паўднёва-Заходняга фронту, дзе ён таксама працаваў перакладчыкам штаба, прапанаваў беларусу паступіць у Генеральны штаб Чэхаславацкай арміі. Але Антон Шкялёнак шчыра адмовіўся ад прапановы і паступіў на службу ў Ваенна-Геаграфічны інстытут, дзе і працаваў, атрымаўшы чэхаславацкае грамадзянства.

Перад Другой сусветнай вайной эмігранты-белагвардзейцы прысвоілі Антону Шкялёнку званне генерала. На Бацькаўшчыну з эміграцыі ніколі ён не прыязджаў, але прыязджалі яго жонка Кацярына і дачка Раіса. Магчыма, у 1920-х — пачатку 1940-х гадоў Антон Шкялёнак сустракаўся са сваім пляменнікам Міколам Шкялёнкам у Чэхаславакіі і ў Польшчы, дапамагаў яму фінансамі асабіста і выдаткоўваў грошы на беларускую справу. Мікола шчыра сябраваў з дзядзькам, перапісваўся з ім. На адным з фотаздымкаў напісана: «На памяць дарагому пляменніку Колю ад родных: дзядзькі Антона Максімавіча, цёткі Кацярыны Пракопаўны і сястрычкі Раісы Антонаўны Шкялёнак. 2 лютага 1925 года, Прага».

## Арышт

Калі ў Прагу ўвайшлі савецкія войскі, Антон Шкялёнак — адзін з першых чэхаславацкіх грамадзян стаў ахвярай камуністычнага рэжыму на тэрыторыі Чэхаславакіі. У траўні 1945 года ён, як белаэмігрант, быў арыштаваны СМЕРШам і вывезены ў Савецкі Саюз. Незадоўга да арышту знаёмы чэшскі ляснік прапаноўваў схаваць Шкялёнка альбо пераправіць на тэрыторыю, вызваленую амерыканцамі. Але Антон адмовіўся. «На маім сумленні няма ніводнага злачынства — ні перад Богам, ні перад Радзімай», — сказаў ён знаёмаму лесніку.

У Савецкім Саюзе Антона Шкялёнка хутка судзілі, а пасля суда адправілі ў Сібір. Па дарозе ў няволю ён сам сабе задаваў пытанне: за што? І дзесьці ў 1947 годзе не вытрымаў катаванняў і этапаў. Падчас аднаго з іх наш зямляк кінуўся з цягніка ў раку і загінуў.

5 чэрвеня 2002 года Антон Шкялёнак быў пасмяротна ўзнагароджаны Ганаровым крыжам міністра абароны Чэшскай рэспублікі. Крыж быў уручаны яго дачцэ Раісе Новатнай-Шкялянко (так яна падпісвалася ў апошні час). Копія дыплома была выстаўлена ў музейнай экспазіцыі «З Прагі ў ГУЛАГ» у Празе. А 3 ліпеня 2002 года Сенат Чэшскай рэспублікі пасмяротна ўзнагародзіў яго медалём «За гераізм». Але дачка гэтай узнагароды не дачакалася — яна памерла ва ўзросце 83 гадоў і пахавана на Альшанскіх могілках у Празе. Сімвалічная магіла Антона Шкялёнка таксама знаходзіцца на Альшанскіх могілках.

## Дачка і ўнук

Дачка Антона Шкялёнка Раіса была замужам за Ольдржыхам Новатным — вядомым чэшскім інтэлектуалам, які ўсё жыццё працаваў выкладчыкам літаратуры і моў. Сама Раіса працавала перакладчыцай. Перакладала на чэшскую мову творы рускіх пісьменнікаў.

Іх сын Уладзімір Новатны — знакаміты чэшскі літаратурны крытык, літаратуразнавец і перакладчык. Аўтар шматлікіх кніг па творчасці рускіх і чэшскіх пісьменнікаў. У яго жылах цячэ беларуская, руская і польская кроў. Нядаўна ў Чэхіі я адшукаў Уладзіміра Новатнага і нават атрымаў ад яго ліст. Вось што ён напісаў (цытую ў перакладзе на беларускую мову): «Паважаны спадар Чыгрын! Пішу Вам ліст на рускай мове, беларускай мовы, на самы вялікі жаль, я добра не ведаю. Ваш ліст мяне вельмі зацікавіў. Пра сваякоў майго дзеда Антона Шкялёнка я амаль нічога не ведаў і не ведаю. Пасля паразы Белай арміі дзед жыў у Празе, стаў палкоўнікам чэшскай арміі. У маі 1945 года яго забраў НКУС, хаця ён быў грамадзянінам Чэхаславакіі. Некаторы час быў у ваенным канцлагеры ў Raciborzi ў Польшчы, потым яго след прапаў. Некаторыя зэкі, якія вярнуліся ў Чэхію, казалі, што ён пакончыў з сабой у канцлагеры на Каме, але гэта не даказана. Пасля 1989 года мы стараліся нешта даведацца, але ў маскоўскіх архівах нам нічога не сказалі, альбо там нічога не зберaглося. Я не ведаю.

Мая бабуля, жонка Антона Шкялёнка, памерла ў 1975 годзе. У іх была толькі адна дачка, мая мама Раіса Антонаўна (1919–2002), перакладчыца з рускай мовы і выкладчыца. Педагогам, паэтам

і перакладчыкам быў і яе муж, мой бацька Ольдржых Новатны (1913–1993). Я нарадзіўся ў 1946 годзе ў Празе, але свайго дзеда ніколі не бачыў. Мама выйшла замуж да прыхода савецкіх войск. Я працаваў галоўным чынам рэдактарам у часопісах і ў выдавецтвах. Пасля 1989 года — навуковым супрацоўнікам у Акадэміі навук. Цяпер я жыву за Прагай і выкладаю чэшскую літаратуру і крытыку, галоўным чынам ва ўніверсітэце Пардубіцэ ва ўсходняй Чэхіі. Са мной — гара кніг. Сын мой скончыў тэатральны факультэт, жыве тэатрам.

Некаторыя сямейныя матэрыялы збераглiся ў майго брата Яраслава Новатнага, юрыста па адукацыі. Праўда, і ў мяне ёсць сёе-тое…

Мой e-mail і адрас хатні цяпер Вам вядомыя. Пішыце, што Вас цікавіць і чым Вам магу дапамагчы, будзем разам шукаць звесткі пра Шкялёнкаў. З павагай — Ваш Уладзімір Новатны, Чэхія».

Вось такі ліст я атрымаў ад унука Антона Шкялёнка. Хачу яшчэ дадаць, што жонка Антона — Кацярына Пракопаўна Шкялёнак (Быкава) у гады Першай сусветнай вайны спявала ў Кіеўскай оперы. А калі жыла ў Чэхіі, то там арганізавала рускі хор і нават паспяхова гастралявала з ім па Чэхаславакіі. На ўсе рукі майстрам быў і яе бацька Пракоп Быкаў. Яшчэ сёння ў Хабараўскім краязнаўчым музеі можна ўбачыць пудзілы птушак і звяроў, якія былі зроблены яго рукамі.

Вось такі лёс Антона Шкялёнка — роднага дзядзькі нашага славутага гісторыка і палітыка Міколы Шкялёнка. Пошукі інфармацыі пра Шкялёнкаў працягваюцца.

*2012*

# ДАСЛЕДЧЫК УСХОДНЯЙ ФІЛАСОФІІ

## Жыццёвы шлях

Пра Аляксандра Клізоўскага ўпершыню я даведаўся з артыкула Вольгі Іпатавай, які быў апублікаваны ў газеце «Новы Час» у 2004 годзе. Асоба Клізоўскага мяне зацікавіла, тым больш, што ён быў родам з беларускай сям'і з Сувалак (Польшча). А калі больш канкрэтна, дык з ліцвінскай сям'і.

Аляксандр Клізоўскі нарадзіўся 15 студзеня 1874 года ў сям'і ваеннага музыканта Івана Прохаравіча Клізоўскага. Іван Прохаравіч служыў пры расійскім цары Мікалаю I ва ўланскім палку трубачом. А калі пайшоў у адстаўку, вярнуўся ў родныя Сувалкі, дзе займаў пасаду акцызнага наглядчыка ў Сувалках і яго ваколіцах.

У Івана Клізоўскага было яшчэ тры дачкі — Ганна Клізоўская, Соф'я (па мужу Мацейчык) і Марыя (па мужу Новат). Сын Аляксандр спачатку вучыўся ў Сувальскай гімназіі, але скончыць яе не змог, бо на вучобу не хапіла сродкаў. Тады, па жаданню бацькі, юнак у 1891 годзе пайшоў вольнанаёмным на службу ў 19-ы стралковы полк. А потым паступіў у ваеннае вучылішча ў Вільню. Пасля вучылішча Аляксандр Клізоўскі марыў і збіраўся паступаць у Расійскую акадэмію генеральнага штаба, але да акадэміі ён не быў дапушчаны. Прычынай сталі яго суб'ектыўныя і аб'ектыўныя выказванні ў адрас ваеннага начальства. Тым не менш калі пачалася Першая сусветная вайна, наш зямляк ужо меў чын капітана.

У самым пачатку вайны Клізоўскі быў паранены і трапіў да немцаў у палон. У палоне ён прабыў ажно чатыры з паловай гады і толькі ў 1918 годзе вярнуўся ў Рыгу, дзе да вайны ў яго была свая ўласная кватэра. На жаль, кватэра была ўся разрабаваная немцамі, а бацькоў ужо не было ў жывых. Аляксандру Клізоўскаму тады было ўжо 44 гады. У аўтабіяграфіі, якая цяпер зберагаецца ў архіве Латвійскага таварыства Рэрыха, ён напіша: «На пятым дзясятку гадоў прыйшлося пачынаць жыццё нанова. А так, як я не ведаў дзяржаўнай латышскай мовы, то не мог тады атрымаць працу. Таму працаваў мулярам некалькі гадоў. А потым ажаніўся. У маёй жонкі была нерухомасць, сад, некалькі старых хатак. Але вайна ўсё пашкодзіла. Некаторыя памяшканні я здаў у арэнду. Я працаваў па

14–15 гадзін у суткі адзін, без наёмных рабочых, бо наняць іх не было за што. І за некалькі гадоў навёў парадак у кватэры, дзе мы з жонкай і прыёмнай дачкой змаглі жыць».

Вялікім сябрам, шчырай жонкай нашага земляка была Алма Рыббе (1865–1948) — немка па нацыянальнасці. Паколькі яны былі людзі ў сталым веку, таму на выхаванне Алма і Аляксандр узялі сабе шасцігадовую дзяўчынку Глафіру-Іру, якая згубіла сваіх бацькоў. Цяпер Глафіра са сваёй сям'ёй жыве ў Гамбургу. У 1994 годзе яна з мужам наведала Рыгу і Беласточчыну, а пра свайго бацьку казала, што ён быў шчырым і вытрыманым чалавекам. Дачка Глафіры Брыгіта і ўнучка Сафія жывуць у Англіі.

Праца па гаспадарцы было шмат, таму Клізоўскія вырашылі ўсю сваю сядзібу прадаць, а за грошы пабудаваць толькі вялікі дом. Так яны і зрабілі, а ў 1939 годзе справілі наваселле. Але праз год у Рыгу прыйшлі савецкія войскі, і дом у іх забралі, а потым нацыяналізавалі. У першы дзень вайны 1941 года вечарам чэкісты арыштавалі і Аляксандра Клізоўскага. З Рыгі яго этапам адправілі ажно ў Казахстан. А там 29 красавіка 1942 года наш зямляк быў расстраляны, як і многія вялікія людзі Беларусі і Прыбалтыкі, у тым ліку і Карліс Ульманіс, былы прэзідэнт Латвіі, якому Клізоўскі так хацеў падараваць сваю кнігу.

## Творчы шлях

У пачатку 1920-х гадоў Аляксандр Клізоўскі пазнаёміўся з тэасофскімі працамі Алены Блавацкай, наведваў гурткі ўсходняй філасофіі Шыбаева, дзе вывучаў працы Рэрыха. У аўтабіяграфіі наш зямляк 16 красавіка 1934 года так і пісаў: «З вучэннем Жывой Этыкі я пазнаёміўся праз тэасофскія працы Алены Блавацкай. У пачатку 1920-х гадоў пачаў наведваць гурток усходняй філасофіі Уладзіміра Анатольевіча Шыбаева. Ад яго атрымаў першую выдадзеную ў Латвіі кнігу Рэрыха "Шляхі блаславення" (1924). У Таварыстве, якім кіраваў доктар Лукін, знаходзіўся з 1927 года. Стаю на ўліку ў навуковай секцыі, наведваю таксама лекцыі па філасофіі, зацікавілі заняткі секцыі Пакта Рэрыха. Перапісваюся з Інстытутам гімалайскіх даследаванняў і г. д.».

Рукапіс першай кнігі Аляксандр Клізоўскі паслаў Алене Рэрых. Першы водгук яе вядомы па лісце да Фелікса Лукіна ад 13 студзеня 1934 года: «Шчаслівыя былі атрымаць працы па Вучэнню, артыкул аб Прыгажосці і першыя главы працы А. Клізоўскага. Такія працы надзвычай карысныя, і калі б з'явілася магчымасць іх надрукаваць, варта было б гэта зрабіць… Хацелася б болей ведаць пра аўтараў гэтых цудоўных і карысных прац». Самому Клізоўскаму Рэрых адказала 8 лютага 1934 года. Гэта быў вялікі ліст з канкрэтнымі заўвагамі наконт рукапісу. Але самае галоўнае, што яна станоўча ацаніла яго працу: «Выдатная праца вельмі парадавала нас…».

Гэта была праца па вывучэнню ўсходняй філасофіі. Яна называлася «Асновы светаразумення новай эпохі». Першая кніга працы выйшла з друку ў 1934 годзе, другая — у 1936, а трэцяя была надрукавана ў 1938 годзе. Усе яны з'явіліся ў Рызе.

У першай кнізе быў дадзены вялікі спіс выкарыстанай літаратуры. Сярод кніг былі Бібліі, Жывая Этыка ці Агні-Йёга, якую аўтар называе Навейшым Запаветам, працы Рэрыхаў, Блавацкай, Вівекананды і іншыя. Нездарма сваю працу Клізоўскі пачынаў з часткі «Пра сэнс жыцця», працягваючы потым разважаць пра «Сучасны стан свету», «Аб думцы», пра законы пераўвасаблення, апісваючы ўсё ў вельмі папулярным і даступным выглядзе, зыходзячы з Вучэння Хрыста і дапаўняючы яго сучаснымі ведамі.

Другую кнігу наш зямляк прысвяціў свайму светламу Настаўніку — Алене Рэрых, якая «натхніла на працу, напраўляючы думку, абуджала свядомасць і шчыра дзялілася сваімі пазнаннямі з галіны вышэйшых ведаў».

І наогул, кніга Аляксандра Клізоўскага «Асновы светаразумення новай эпохі» — гэта першы вопыт маштабнага філасофскага асэнсавання касмічнай эвалюцыі чалавецтва і адзіных законаў жыцця на аснове Вучэння Жывой Этыкі і Тэасофіі. Аўтар, шчыра адданы светлым ідэям Вучэння, абуджае думку, уводзіць у галіну вышэйшых ведаў, дорыць радасць далучэння да вялікіх ідэй Прысвечаных, рыхтуе дух чалавецтва да сустрэчы Новай Эры, заклікаючы Новага Чалавека…

Аб працах Клізоўскага можна разважаць доўга і шмат. Скажу, што яны не згубілі сваёй актуальнасці і сёння. У 1991 годзе ў Рызе ў трох тамах «Асновы светаразумення новай эпохі» нашага земляка

зноў пабачылі свет. А ў 2006 годзе «Асновы…» выйшлі з друку ў Маскве ў выдавецтве «Фаір-Прэс». Асноўныя часткі яго прац перакладаліся на многія мовы свету.

У 2004 годзе Інстытут гуманітарных і экалагічных тэхналогій пры Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій правёў пашыранае пасяджэнне секцыі культуралогіі, якое адбылося ў бібліятэцы імя Цёткі ў Мінску. На ім адзначалася, што трэба вяртаць Беларусі не толькі імёны нашых слынных землякоў, але і тыя ідэі, якія маюць пазітыўнае значэнне для лёсу чалавецтва, у прыватнасці ідэі і саму асобу Аляксандра Клізоўскага. Менавіта на тым пасяджэнні было ўпершыню на Беларусі згадана імя філосафа з Сувалак Аляксандра Клізоўскага.

## АЎТАР ПЕРШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАТЫКІ

### Нашчадкі і памяць

Дзякаваць Богу, жывуць яшчэ нашчадкі беларускага культурна-асветнага і рэлігійнага дзеяча Баляслава Пачопкі, якія шчыра берагуць пра яго памяць. Найбольш унукаў і праўнукаў Баляслава Пачопкі пражывае ў Польшчы. Вельмі шкада, што зусім нядаўна не стала яго апошняга сына Пятра Пачопкі. Дачка Пятра Пачопкі — Альжбета Мендзыброцкая жыве ў Варшаве, працуе ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта. Пляменнік Пятра Пачопкі — Баляслаў Якуб Пачопка пражывае ў Беластоку. Ён мае медыцынскую адукацыю, працуе лекарам і адначасова навуковым супрацоўнікам Медыцынскага ўніверсітэта ў Беластоку. Нядаўна ад Баляслава Якуба Пачопкі атрымаў ліст, у якім ён піша, што ягоны дзядзька Пятро Пачопка ў 1999 годзе выдаў у некалькіх экзэмплярах кніжку пра Баляслава Пачопку на польскай мове, якая называецца «Уніяцкі святар родам з Віленшчыны». «Таму большасць уяўленняў аб мінулым маіх продкаў узнікла ў выніку перачытвання гэтых ўспамінаў дзядзькі Пятра. Але мой асобнік прапаў у нечых руках. Таму я нядаўна пазычыў адзін паасобнік і адсканаваў яго. Што датычыць творчай спадчыны майго дзеда Баляслава Пачопкі, то я маю толькі ксеракопію “Граматыкі беларускай мовы”. Наколькі

памятаю, дзядзька Пятро атрымаў ксеракопію з нейкай бібліятэкі з Лондана. У нашай сям'і яшчэ засталіся памяткі, якія сведчаць аб разьбярскіх здольнасцях дзеда, а менавіта розны круцыфікс, які захоўваецца ў сям'і найстарэйшай дзедавай дачкі, а таксама ружанец (чоткі) з рознымі пацеркамі, які знаходзіцца ў Альжбеты Пятроўны», — расказаў у пісьме Баляслаў Якуб Пачопка.

Сям'я беларускага святара Баляслава Пачопкі апынулася ў Польшчы пасля ягонай смерці (памёр 26 снежня 1940 года). Як толькі не стала гаспадара, у сям'і ўзнік страх, што хутка ўсіх могуць вывезці ў Сібір. Таму аднойчы ноччу Пачопкі таемна і назаўсёды пакінулі вёску Бабровічы Івацэвіцкага раёна, дзе яны жылі. Жонка Баляслава Пачопкі Марцыяна з дзецьмі спачатку выехала на Віленшчыну, а па вайне — у Польшчу. Яна пражыла 79 гадоў і памерла ў Беластоку ў 1972 годзе.

Дарэчы, у жніўні 2006 года ўнук Баляслава Пачопкі разам са сваёй дачкой Даротай і сястрой Даротай Андрышук, а таксама іншымі сваякамі наведалі Беларусь. Яны пабывалі ў Івацэвіцкім раёне — на магіле слыннага беларускага ўніяцкага святара Баляслава Пачопкі ў Целяханах і ў тых мясцінах, дзе ён жыў і вёў душпастырскую працу. «Спадзяюся, што яшчэ шмат разоў мне ўдасца туды прыехаць. І мы дажывем, калі выезд у Беларусь не будзе звязаны са шматлікімі складанасцямі», — піша ў лісце Баляслаў Якуб Пачопка.

Магіла беларускага святара на целяханскіх могілках была знойдзена толькі праз 60 гадоў. Восенню 2004 года там адбылося асвячэнне помніка а. Баляславу Пачопку. Помнік з дрэва, з выявою ўваскрослага Пана, зрабіў мастак з Баранавіч Мікола Колас.

## Вучоба і творчая дзейнасць

Беларускі грэка-каталіцкі святар, публіцыст, выдавец, паэт, педагог Баляслаў Пачопка нарадзіўся ў 1884 годзе ў засценку Уляны недалёка ад Вільні ў дваранскай сям'і Антона Пачопкі. Быў ахрышчаны ў Рукойненскім парафіяльным рымска-каталіцкім касцёле, у якім у сакавіку 1840 года хрысціўся Францішак Багушэвіч.

Восенню 1905 года Баляслаў Пачопка быў залічаны выхаванцам Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Правучыўся там два гады

і ў чэрвені 1907 года пакінуў яе. І толькі ў 1920-х гадах ён завочна скончыў духоўную грэка-каталіцкую семінарыю ў Львове.

У студзені 1913 года ў Вільні пачынае выходзіць на беларускай мове лацінкай штотыднёвая грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і рэлігійна-асветная каталіцкая газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку «Беларус» («Bełarus»). Яна адразу атрымала папскае благаслаўленне, што ўзвышала маральны аўтарытэт «Беларуса» ў вачах духоўных і свецкіх чытачоў. Рэдактарам-выдаўцом спачатку быў Антон Быкоўскі, а пасля Баляслаў Пачопка. Газета была даволі разпланавай. Яна друкавала вершы, аповесці, апавяданні, нарысы, песні, паданні, апісвала народныя гульні, каталіцкі касцельны каляндар, сялянскія парады, артыкулы на эканамічныя, гістарычныя і палітычныя тэмы, казанні святароў на тэмы маралі і педагогікі, жыцці святых, малітвы і г. д. На яе старонках свае творы друкавалі Алесь Гарун, Андрэй Зязюля, Гальяш Леўчык, Казімір Сваяк, Альберт Паўловіч і іншыя творцы. З газетай шчыра сябравалі прадстаўнікі беларускага каталіцтва Аляксандр Астрамовіч, Генрык Бэта, Язэп Рэшаць, Адам Станкевіч, Кастусь Стаповіч, Люцыян Хведзька.

Рэдагуючы газету, Баляслаў Пачопка запланаваў пры ёй і выданне бібліятэчкі «Беларуса». Праўда, на ўсё не хапала фінансаў, але на дапамогу прыйшла княгіня Магдалена Радзівіл, якая шчыра вітала і газету, і бібліятэчку. Княгіня шчодра фінансавала беларускую газету і кнігі бібліятэчкі. Але летам 1915 года выданне «Беларуса» было спынена з-за ваенных падзеяў Першай сусветнай вайны. За час выпуску «Беларуса» выйшлі з друку 9 кніг бібліятэчкі. Сярод гэтых кніг былі і беларускамоўныя выданні лацінкай Баляслава Пачопкі. У 1914 годзе асобнымі кніжкамі выходзяць ягоныя «Мятавыя лісточкі» накладам 2000 асобнікаў, а ў 1915 годзе — «Чалавек на вышыні сваёй годнасці» накладам 1000 асобнікаў, потым — «Бог з намі. Беларускі малітоўнік» накладам 3000 асобнікаў, а таксама «Жыццё св. п. папежа Піуса X» Аляксандра Ельскага ў перакладзе Баляслава Пачопкі. У 1916 годзе газета «Гоман» выдае працу беларускага святара, якая называецца «Святы Езафат Кунцэвіч», а ў 1932 годзе свет пабачыць яшчэ адна кніга а. Пачопкі пад назовам «Як вучыць жыць і верыць св. Хрыстова Паўсюдная Царква».

Першыя спробы ўнармаваць беларускі правапіс рабіліся яшчэ да Браніслава Тарашкевіча — на пачатку ХХ стагоддзя Эдвардам Будзькам, Антонам Луцкевічам, Янкам Станкевічам, Рудольфам Абіхтам, а таксама Баляславам Пачопкам. Менавіта Баляслаў Пачопка ў 1918 годзе выдае лацінкай першую «Граматыку беларускай мовы». Вядома, яна была яшчэ недасканалай, неўнармаванай, няпоўнай. Але яна была першай, яна паклала пачатак замацаванню асновы беларускай літаратурнай мовы ды стала пачаткам устанаўлення хоць яшчэ і недасканалага правапісу. Што пазней зрабіў Браніслаў Тарашкевіч, які падсумаваў практыку пісьмовае мовы тае пары, а яго граматыка адыграла вядучую ролю ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, стандартызацыі беларускага правапісу. Магчыма, не без дапамогі першай граматыкі Баляслава Пачопкі.

## На службе рэлігіі

У верасні 1915 года Вільня апынулася ў нямецкай зоне. Некаторыя беларускія дзеячы, як піша Юры Туронак у сваёй кнізе «Мадэрная гісторыя Беларусі» (Вільня, 2006. С. 453–454), былі пакліканыя ў расійскую армію, а іншыя эвакуіраваліся ў Расію. Праз год Баляслаў Пачопка быў прызначаны дырэктарам у адкрытай нямецкімі ўладамі беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. Адначасова тут ён працуе выкладчыкам беларускай і лацінскай моў. Праца ў семінарыі працягвалася нядоўга, бо ў 1921 годзе польскія ўлады беларускую навучальную ўстанову зачынілі. І тады Баляслаў Пачопка едзе на Ваўкавышчыну і працуе настаўнікам. Але там ён вырашае поўнасцю прысвяціць сябе рэлігіі. Пачопка звяртаецца ў Ватыкан з просьбай дазволіць яму прыняць усходні абрад. Такі дазвол ён хутка атрымлівае, а мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі ў 1926 годзе ў Львове асабіста пасвячае яго на святара візантыйскага абраду.

У 1926 годзе Баляслаў Пачопка з жонкаю і пяццю дзецьмі прыязджае на Палессе ў вёску Бабровічы Косаўскага павета (цяпер Івацэвіцкі раён). Як згадвае сын Баляслава Пачопкі — Пётр Пачопка (Царква. 2001. № 3. С. 14), спачатку сям’я пасялілася ў кватэры ляснічага Чашэйкі-Сахацкага, бо плябанія патрабавала рамонту. У дрэнным стане была і царква. Але хутка ўніяцкі святар

пачаў будаваць новую царкву пры фінансавай дапамозе ўсё той жа Магдалены Радзівіл. І ў чэрвені 1938 года імша і ўсходні малебен адпраўляліся ўжо ў новай царкве. Баляслаў Пачопка працуе не толькі пробашчам у Бабровічах, але і вікарыем у лацінскай парафіі ў Целяханах. Акрамя сваёй святарскай місіі, беларус-уніят шмат піша. Ён актыўна выступае на ўніяцкіх канферэнцыях у Пінску па пытаннях удакладнення ўсходняга абраду, друкуецца ў беларускіх каталіцкіх выданнях. За прыхільнасць да беларускай мовы і культуры яго пастаянна праследавалі польскія ўлады.

У верасні 1939 года на Палессе прыходзіць ужо савецкая ўлада. Як згадвае сын святара Пётр Пачопка, адразу пачаўся новы пераслед уніяцкай парафіі ў Бабровічах. «Былі гэта нечаканыя рэвізіі пад выглядам пошуку зброі, падатковыя загады, якія сплаціць было немагчыма з прычыны іх значнай сумы, сталая прысутнасць партыйных дзеячаў, а часта і афіцэраў НКУС, пасля чаго нярэдка адбываліся допыты. Урэшце ў лютым 1940 года было ўчынена ўламанне ў царкву, былі скінуты іконы з іканастасу і са сцен, пры гэтым было пабіта шкло, былі знішчаныя падсвечнікі і нават пашкоджаны алтар і даразахоўніца, у якой, на шчасце, не было тады святых Дароў. Праз два або тры дні пазней прыйшоў “председатель сельсовета” і, звяртаючыся да тых дзеячаў, выкрыкнуў: “Он сам это сделал для подрыва власти”, — прыгадвае Пётр Пачопка (Царква. 2001. № 3. С. 14).

Пасля такіх ператрусаў Баляслаў Пачопка некалькі разоў кладзецца ў шпіталь у Целяханы. Яго пачынае трывожыць сэрца. Позняй восенню 1940 святар зноў трапляе ў шпіталь і хутка памірае. Па адных звестках, ён памёр ад сардэчных недамаганняў, а па іншых — яго вечарам збілі невядомыя асобы, падасланыя НКУС.

## БЕЛАРУС У ЗАХОДНЯЙ СІБІРЫ

Шчыра скажу, пра слыннага нашага земляка Аляксандра Дуніна-Гаркавіча раней нічога не ведаў. Пісьменнік і краязнавец з Мінска Алесь Карлюкевіч сказаў, што трохі згадаў пра яго ў сваёй кнізе «Мы — вместе» (Мінск, 2006. С. 129). «Гэта твой зямляк. Звярніся ў дэпартамент лясной гаспадаркі Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі — Югры Расіі. Там яго архіў», — сказаў мне Алесь.

У Ханты-Мансійск напісаў пісьмо. І хутка атрымаў адказ ад прэс-сакратара Дэпартамента лясной гаспадаркі гэтай акругі Людмілы Шчарбаковай. Людміла Афанасьеўна шчыра адгукнулася і прыслала шмат цікавых дакументаў, матэрыялаў, фотаздымкаў. Акрамя гэтага яна паведаміла, што на Табольшчыне вельмі моцна ўшаноўваюць памяць Аляксандра Дуніна-Гаркавіча. У Ханты-Мансійску ёсць вуліца, якая носіць імя нашага земляка. У снежні 2006 года на будынку Юграလясгаса была адкрыта мемарыяльная дошка, а летам 2007 года ў Ханты-Мансійску яму быў адкрыты помнік. «Помнік вучонаму, даследчыку Паўночна-Заходняй Сібіры Аляксандру Дуніну-Гаркавічу з'яўляецца народнай ініцыятывай і пабудаваны на грошы неабыякавых людзей. Гэта вынік іх шчырай і ад душы праведзенай працы… Вялікі дзякуй усім, хто стаяў ля вытокаў гэтай ідэі, хто рэалізаваў гэты праект стварэння помніка чалавеку, які з'яўляецца прыкладам для многіх і многіх», — сказаў на цырымоніі адкрыцця помніка губернатар акругі Аляксандр Філіпенка.

Вось гэта прыклад для нас. Дзесьці далёка ў Сібіры ў Расіі ўшаноўваюць нашых людзей, а нам дома гэтыя і іншыя знакамітыя землякі проста «да лямпачкі». Акрамя таго, там лепшыя студэнты Югарскага дзяржаўнага ўніверсітэта атрымліваюць стыпендыю імя Дуніна-Гаркавіча, ствараецца яго гісторыка-этнаграфічны музей, яго імем названы дэндралагічны сад прыроднага парку «Самараўскі чугас», выдаюцца буклеты, працы нашага земляка. Вось як! Дарэчы, у 1995 годзе ў Маскве выйшла з друку кніга Вольгі Осіпавай «Даследчык Поўначы Аляксандр Дунін-Гаркавіч» пры фінансавай падтрымцы фонду «Адраджэнне Табольска».

Аляксандр Дунін-Гаркавіч нарадзіўся ў 1854 года ў Слонімскім павеце Гродзенскай губерні ў сям'і губернскага сакратара Аляксандра Восіпавіча Гаркавіча. Магчыма, ён нарадзіўся ў Ружанах, якія тады ўваходзілі ў Слонімскі павет. А можа, у нейкім іншым мястэчку на Слонімшчыне, дзе знаходзілася родавае памесце ягоных бацькоў. А вось пахрысцілі хлопчыка бацькі менавіта ў касцёле ў Ружанах.

Пасля заканчэння Гродзенскай класічнай гімназіі наш зямляк паступіў у Лісінскае сярэдняе прафесійнае вучылішча, якое знаходзілася недалёка ад Пецярбурга. Тут ён атрымаў спецыяльнасць тэхніка-лесавода і званне ляснога кандуктара.

У 1875 годзе нашага земляка забіраюць на вайсковую службу. Спачатку ён служыць у лейб-гвардзейскім грэнадзёрскім палку імя Яго імператарскай Вялікасці Аляксандра II, прымае ўдзел у руска-турэцкай вайне, дзе ўзнагароджваецца медалём «За храбрасць» і становіцца унтэр-афіцэрам.

Пасля вайны Аляксандр Дунін-Гаркавіч едзе на Разаншчыну і 13 гадоў працуе ў розных лясных гаспадарках. Працуе добрасумленна, таму хутка прызначаецца ляснічым у Самарскае лясніцтва Табольскай губерні — найвялікшае лясніцтва Сібіры і Расіі. З гэтага часу і пачынаецца клапатлівая праца Дуніна-Гаркавіча па вывучэнню і апісанню Табольскай Поўначы — у вельмі цяжкіх умовах недаследаванай Сібіры. «Да вашага земляка Дуніна-Гаркавіча наш край уяўляў сабе на картах амаль што суцэльную белую пляму. Вядома, па Югры і раней падарожнічалі вучоныя, якія пасля пісалі даклады і выступалі з імі на пасяджэннях навуковых таварыстваў Пецярбурга, Масквы і ў іншых гарадах і краінах. Але гэта быў погляд людзей “з боку” на вялікі Югорскі свет. Упершыню сістэматызаваў, дэталізаваў і ўдакладніў веды па нашаму краю менавіта Аляксандр Дунін-Гаркавіч, які сабраў найвялікшы матэрыял у экспедыцыях па поўначы Заходняй Сібіры», — напісала мне Людміла Афанасьеўна Шчарбакова.

У 1903 годзе нашага земляка выбіраюць пажыццёвым членам Рускага геаграфічнага таварыства. А праз 6 гадоў — членам-карэспандэнтам Музея антрапалогіі і этнаграфіі пры Акадэміі навук Расіі. Ён актыўна ўдзельнічае са сваімі прамыслова-эканамічнымі і этнаграфічнымі калекцыямі ў шэрагу ўсерасійскіх выстаў, кіруе навуковымі экспедыцыямі і піша свае даследчыя працы, з якіх асабліва трэба адзначыць трохтомнік «Табольская Поўнач». Ён складаецца з трох тамоў: том першы — «Этнаграфічны нарыс мясцовых іншародцаў», том другі — «Геаграфічнае і статыстыка-эканамічнае апісанне краіны па асобных геаграфічных раёнах», том трэці — «Этнаграфічны нарыс мясцовых іншародцаў». «На днях вышлю вам у Слонім звычайнаю поштай трохтомнік прац вашага земляка, якія выпусціла акружная бібліятэка Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі — Югры», — напісала Людміла Шчарбакова.

Працы Дуніна-Гаркавіча я пакуль яшчэ не атрымаў. Ведаю, што ў свой час ён быў упраўляючым лясамі Табольскай губерні,

чыноўнікам асобых даручэнняў пры Галоўным упраўленні землеўпарадкавання і земляробства Расіі, ганаровым суддзёй Табольскага акруговага суда і г. д. Сёння нават цяжка ўявіць, што наш зямляк-беларус у навуковых экспедыцыях прайшоў і праехаў на аленях і конях, праплыў па Югры каля 50 тысяч кіламетраў. Ён вывучыў прыродныя ўмовы басейна сярэдняй Абі і яе прытокаў — Іртыша, Казымы, Сасьвы. Пабываў на возеры Нумто, правёў тапаграфічныя здымкі мясцовасці, якія пазней ляглі ў аснову створаных ім картаў Табольскага возера, на якія былі нанесены пункты і рыбалавецкія ўгоддзі ў даліне ракі Об. За стварэнне карт Імператарскае Рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла Дуніна-Гаркавіча Малым залатым медалём.

У 1896 годзе наш зямляк узначаліў падрыхтоўку і правёў усерасійскі перапіс насельніцтва ў Сургуцкай акрузе. За гэта атрымаў бронзавы медаль «За працу па першаму ўсеагульнаму перапісу насельніцтва ў 1897 годзе». Ён быў таксама ўзнагароджаны ордэнамі Святой Ганны, Святога Уладзіміра, Святога Станіслава, сярэбраным медалём Аляксандра Неўскага і іншымі. За сукупнасць навуковых прац Аляксандр Дунін-Гаркавіч быў узнагароджаны сярэбраным медалём імя Пржавальскага.

Прэзідыум Акадэміі навук СССР за вялікі ўклад нашага земляка ў вывучэнне Поўначы залічыў яго ў катэгорыю вучоных саюзнага значэння і ўстанавіў яму пажыццёвую персанальную пенсію.

Наш зямляк пражыў 72 гады і памёр у 1927 годзе ў Табольску, дзе і пахаваны. Яшчэ пры жыцці ён выдаў шмат кніг, прысвечаных Табольскай Поўначы. Яны выйшлі ў Пецярбургу і Табольску. Некаторыя з іх проста хочацца пералічыць: «Поўнач Табольскай губерні» (1897), «Геаграфічны нарыс Табольскай Поўначы» (1904), «Этнаграфічны склад насельніцтва Табольскай губерні ў 1904 годзе» (1906), «Геаграфічнае апісанне нізоўяў ракі Абі і ўмовы суднаходства» (1908) і іншыя. Сёння ў Табольскім дзяржаўным гісторыка-архітэктурным музеі-запаведніку захоўваецца спадчына Аляксандра Дуніна-Гаркавіча, а гэта 69 друкаваных і рукапісных прац па гісторыі, геаграфіі, эканоміцы, этнаграфіі поўначы Заходняй Сібіры, картаграфічныя матэрыялы, камплекты фотаздымкаў, малюнкі, чарцяжы і г. д.

Нам сёння застаецца толькі сказаць дзякуй сібіракам, якія памятаюць пра нашага земляка Аляксандра Дуніна-Гаркавіча і ўшаноўваюць яго імя, бо ён вельмі шмат зрабіў для поўначы Заходняй Сібіры і Югры і аддаў ім усе свае сілы і жыццё.

*2007*

## «З НЯПРАЎДАЙ У ВЯКАХ ВЯДУЦЬ ПАЭТЫ… БОЙ»

Прыгадваючы беларускага паэта, драматурга, перакладчыка Петруся Макаля, успомніў познюю восень 1980 года, калі я, студэнт-першакурснік Белдзяржуніверсітэта, неяк асмеліўся занесці падборку вершаў у рэдакцыю часопіса «Маладосць». Дужа мне хацелася хоць адзін раз надрукавацца ў папулярным тады выданні. У аддзеле паэзіі і прозы, у маленькім пакойчыку, сядзелі Уладзімір Дамашэвіч і Пятрусь Макаль. Я ўпершыню ўбачыў пісьменнікаў, кнігі якіх чытаў раней. Яны сустрэлі мяне даволі шчыра і адразу запыталі, адкуль я родам.

— Са Слоніма, — адказаў я.

— А-а, наш заходнік! — усміхнуліся пісьменнікі.

Пятрусь Макаль узяў мае вершы, уважліва прачытаў, выбраў некалькі лепшых і адразу сказаў, у якім нумары «Маладосці» яны будуць апублікаваны.

Я развітаўся, але неяк не верылася, што вершы з’явяцца ў часопісе.

Прайшло некалькі месяцаў — і сапраўды, першая падборка маіх вершаў з’явілася ў «Маладосці». З’явілася менавіта тады, калі сказаў Пятрусь Міхайлавіч. Ён не падмануў.

Пятрусь Макаль нарадзіўся 25 жніўня 1932 года ў вёсцы Крушыняны на Беласточчыне ў сялянскай сям’і. Бацькі Міхаіл і Людміла Макалі мелі кавалак зямлі. Але пасля 1939 года, калі прыйшлі саветы, бацька перайшоў працаваць фінагентам у Крушынянскі сельсавет, бо прыватную зямлю ў яго забралі. Праз пяць гадоў Міхаіл Макаль з сям’ёй пераязджае ў Саратаўскую губерню. Але радавацца не было чаму. У 1946 годзе Міхаіла Макаля рэпрэсуюць і высылаюць у Комі АССР, а жонка з сынам вяртаюцца ў Беларусь на Гродзеншчыну. Пятрусь вучыцца ў школе, пасля заканчэння

якой паступае ў Гродзенскі будаўнічы тэхнікум. Але тэхнікум пераводзяць у Магілёў, і Пятрусь Макаль, правучыўшыся два гады, паступае ў Гродзенскі педінстытут.

Пасля заканчэння інстытута наш зямляк працуе літкансультантам у газеце «Гродзенская праўда», дзе ў 1949 годзе друкуе свой першы верш.

Калі Петрусю Макалю споўнілася дваццаць тры гады, выходзіць у Мінску яго першы паэтычны зборнік «Першы след». Крытыка адразу заўважыла дэбют маладога паэта. У друку з'явіліся каля дзесяці рэцэнзій на яго кнігу. Назвы рэцэнзій гаварылі аб даволі ўдалым дэбюце: «Крепнущий голос» (часопіс «Советская Отчизна»), «Выпрабаванне вытрымана» («ЛіМ»), «Малады паэтычны голас» («Гродзенская праўда»), «Маладосць — гэта пошукі» (часопіс «Беларусь») і іншыя.

Другі і трэці зборнікі нашага земляка «Вятрам насустрач» (1958) і «Вечны агонь» (1960) выявілі зацікаўленасць філасофскім асэнсаваннем сучаснасці, гісторыка-рэвалюцыйнай і маральна-этычнай тэмай. І ўсё ж скачком у развіцці паэта, словам яго сталасці сталі кнігі вершаў «Круглы стол» (1964) і «Акно» (1967). Асабліва глыбокай філасофскай думкай вызначаўся верш «Дзень добры, Бах!». Паэт расказаў пра сваё ўспрыманне бунтарскай музыкі вялікага кампазітара, пра сваё разуменне яе. Алег Лойка тады пісаў, што «толькі ўзмужнелы юнак, поўны гордасці за сваю Радзіму і разам з тым знаёмы з вялікімі здабыткамі сусветнай культуры, змог напісаць гэты верш. Грамадзянская сталасць абумоўлівае творчую сталасць паэта — вось аб чым красамоўна гаворыць верш П. Макаля (Алег Лойка. Сустрэчы з днём сённяшнім. Мінск, 1968. С. 102).

А яшчэ з гэтых зборнікаў даўно хрэстаматыйным стаў верш, які пачынаецца так:

Мае радкі — не лесвіца ў вякі,  
Што недзе за туманнай рысай неба.  
Мае радкі — працяг маёй рукі,  
Якой мне столькі рук пацiснуць трэба!  
Усім, чыёю ласкай даражу,  
Паспеў сказаць я толькі:  
— Добры ранак!..  
Мне не заснуць,

Пакуль я не скажу:
— Дзень добры!..
— Добры вечар!..
— Дабранач!..

Пасля Гродна Пятрусь Макаль пераязджае ў Мінск. Вучыцца ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Спачатку працуе ў «ЛіМе», затым пэўны час рэдактарам па эстрадным рэпертуары Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, памочнікам галоўнага рэжысёра па рэпертуары ў Тэатры юнага гледача, старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і рэдактарам аддзела паэзіі ў часопісе «Маладосць».

Але дзе б ні працаваў Пятрусь Макаль, яго ніколі не пакідала паэзія. «Ён быў паэтам, які востра і балюча адчуваў жыццё, чуйна і імгненна выбухаў сэрцам на ўсе яго змены і ўзрушэнні», — пісаў пра яго Казімір Камейша. Паэзія Петруся Макаля заўсёды вызначалася шырынёй погляду на свет, філасафічнасцю, лёгкай іроніяй і сарказмам. Ён быў паэтам-лірыкам, паэтам-грамадзянінам. Сусед па кватэры, журналіст Андрэй Юдчыц, пра Петруся Макаля сказаў так: «Гэта было шчасце — мець такога суседа. Паміж намі не прабегла ніколі нейкая там кошка, нават кацяня не прабегла. Ён жыў па-чалавечы — шчыра, проста, не выстаўляючы сябе. Сумленны паэт, сумленны чалавек, ён жыў па спрадвечнай беларускай прымаўцы: «ніколі не капай яму другому». І сапраўды гэта было так, што адчувалася і ў вершах:

Дапамога павінна быць хуткай,
Дапамога павінна быць ціхуткай.
Скажыце, каму па душы дапамога,
Што пра сябе трубіць многа?..
Дапамагайце, як дождж палеткам,
Дапамагайце, як пчолы кветкам.

Пятрусь Макаль шмат пісаў пра дзяцей. У гэтых творах ён умела выкарыстоўваў беларускія фальклорныя традыцыі, узбагачаў іх, адкрываў дзецям таямніцы роднага слова, вучыў іх любіць прыроду, бацькоўскую зямлю. Юным чытачам паэт прысвяціў некалькі сваіх кніг. Сярод іх — «Хлопчык будзіць сонца» (1966), «Песня згоды»

(1983), «Чарадзейная скарбонка» (1987), «Я гатую абед» (1989). Наш зямляк ствараў казкі, апавяданні і нават загадкі. Іх любілі дзеці, бо яны напісаны вельмі шчыра, а найперш лёгка чытаюцца:

Па пакоі ходзіць робат —
У яго гумовы хобат…
Суне ўсюды доўгі нос.
А завецца… пыласос.

Пятрусь Макаль вельмі любіў тэатр. Сумесна з Артурам Вольскім пісьменнік напісаў драматычныя творы «За лясамі дрымучымі» і «Марынка-крапіўніца». Былі напісаны і ўласныя п’есы «Адчыніце, казляняткі!», «Дай вады, калодзеж!», а таксама лібрэта араторыі «Запрашэнне ў краіну маленства» (музыка Яўгена Глебава).

Пятрусь Макаль пражыў не так і многа — усяго 64 гады. Яго не стала ў канцы жніўня 1996 года. Нашчадкам ён пакінуў цудоўную паэзію, прозу, драматургію. Але найперш вершы:

Няма на зямлі адзіноты —
Пустэчы, падобнай да смерці.
Мы — ноты, мы — ноты, мы — ноты
У чалавечым канцэрце…

У Мінску жыве жонка Петруся Макаля Галіна Іванаўна. У 1982 годзе яна перанесла інсульт. І ўжо шмат гадоў прыкавана да ложка. Напярэдадні 80-годдзя Петруся Макаля яна пагадзілася адказаць на некалькі маіх пытанняў.

*— Галіна Іванаўна, дзе Вы пазнаёміліся з Петрусём Макалём?*

— Пазнаёміліся мы ў Мінску ў 1962 годзе. Мы сядзелі ў кафэ «Вясна» — я і Лілія Глебава. А Ігар Дабралюбаў — сябра Макаля — хацеў мяне з ім пазнаёміць. Яны прыйшлі таксама ў кафэ, селі за адзін столік, пачалі нешта есці, не памятаю, размаўляць. Макаль быў у светлым касцюме і ў цёмна-сінім гольфе. Пятрусь глядзіць на мяне — вачэй не зводзіць. Я яму кажу: «Не глядзі так, а то ўдавішся». Пасля гэтай сустрэчы я пайшла на прыпынак і села ў тралейбус № 7. Макаль — за мной, таксама сеў. Ён мне кажа: «Я буду цябе ахоўваць, каб ніхто не ўкраў». Так ён мяне першы раз правёў. А потым пытаецца: «А чаму ты замуж не выходзіш?»

А я жартам адказваю: «Ніхто не бярэ». Калі выйшлі з тралейбуса, ён прысеў на калена і кажа: «Будзь маёй жонкай». І я пагадзілася.

*— І так Вы выйшлі за Макаля замуж?*

— Пасля ён кажа: давай заўтра сустрэнемся каля загса на Ленінскім праспекце. Я думала, што ён пажартаваў. Прыязджаю туды, а ён там з Артурам Вольскім, Ігарам Дабралюбавым. Распілі бутэльку шампанскага, распісаліся — і стала я яго жонкай. Гэта было 25 студзеня 1962 года.

*— А дзе Вы тады працавалі?*

— Я працавала ў Тэатры юнага гледача ў Мінску, адпрацавала там артысткай 30 гадоў.

*— Пасля таго як Вы распісаліся, дзе жылі?*

— Мы жылі разам з сям'ёй Анатоля Астрэйкі. Яны займалі два пакоі, а мы — адзін. Жылі недалёка ад Камароўскага рынку. Я там купляла садавіну, агародніну. Асабліва мы любілі з Петрусём трускаўкі. Ён нават паэтычныя радкі прыдумаў: «На сняданак ў нашай Галкі кожны дзень адны трускаўкі».

*— Ці добра было жыць разам з сям'ёй паэта Анатоля Астрэйкі?*

— Жыць было весела. Там часта бывалі паэты Анатоль Вялюгін, Яўген Крупенька і іншыя. Вясёлыя ўсе хлопцы былі. А ў 1977 годзе ад Саюза пісьменнікаў з кватэрай нам дапамог Іван Шамякін. Так мы атрымалі трохпакаёвую кватэру, дзе я жыву з сынам Славікам цяпер. Я шмат гадоў амаль прыкавана да ложка. Сын Славік прайшоў Афганістан, у яго цяпер таксама праблемы з нагамі. Ён, дарэчы, некалі друкаваўся, выдаў нават невялікую кніжачку вершаў. Але Славік не такі таленавіты, якім быў яго бацька Пятрусь Макаль.

*— З кім сябраваў Пятрусь Макаль?*

— Сяброў у яго было шмат. Ён быў кампанейскі хлопец, вясёлы, меў вялікі гумар, жарты любіў. Мне здаецца, ён сябраваў з усімі. У нашай кватэры былі Матукоўскі, Шамякін, Быкаў, ды ўсіх не пералічыць.

*— Аб чым ён гутарыў з Васілём Быкавым?*

— Яны заўсёды размаўлялі пра беларускую літаратуру, пра пісьменнікаў. Часта ўспаміналі Гродна, сваю маладосць. Там Пятрусь

вучыўся ў педінстытуце, а Васіль Быкаў у Гродне жыў, у іх былі агульныя знаёмыя. Калі выйшлі з друку яго аповесці «Сотнікаў» і «Абеліск», ён нам іх адразу падараваў з аўтографам. Аднойчы тэлефануе Васіль, я падняла трубку, а ён пытаецца, ці прачытала я аповесці. «Прачытала, — кажу, — вельмі добра напісаныя творы. Па іх можна паставіць мастацкія фільмы…» Пачала расказваць Быкаву сваё бачанне гэтых фільмаў. А Пятрусь, як пачуў, стаў на мяне сварыцца, маўляў, ты каго вучыш, як пісаць і што пісаць. Гэта ж — геніяльны празаік.

*— Ці даваў Вам чытаць свае вершы Пятрусь Макаль?*

— Вядома ж. Я была першым слухачом і чытачом іх. Казала часам свае заўвагі, ён слухаў і толькі ўсміхаўся. Пісаў ён не толькі вершы, але і п’есы для дзяцей. Наш тэатр іх ставіў, і ў многіх спектаклях я іграла галоўныя ролі.

*— Галіна Іванаўна, Вы шмат гадоў хварэеце. Ці наведвалі Вас хто з Міністэрства культуры, пісьменнікі, рэжысёры тэатраў?*

— Ды не. Ніхто з двух Саюзаў пісьменнікаў, а ні з Міністэрства культуры Беларусі ніколі не наведваў. Яшчэ 10 гадоў таму абяцалі ўстанавіць мемарыяльную шыльду на доме, дзе жыў Пятрусь Макаль. Так яе і не ўстанавілі, мне сказалі: там чарга на шыльды. Гэта чарга цягнецца ўжо 10 гадоў. А Пятрусь Макаль быў ндрэнным паэтам, за зборнік паэзіі «Поле» ў 1980 годзе ён атрымаў Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова, а ў 1984 годзе — Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы за зборнік «Смак яблыка».

Пасля гутаркі з Галінай Іванаўнай мне прыгадаліся словы Петруся Макаля:

Надзею свету,
Будучыню свету
Ахвярна засланяючы сабой,
З няпраўдай
У вяках
Вядуць паэты
Свой паядынак,
Свой няроўны бой.

Яно сапраўды так. І гэты бой працягваецца і сёння, праўда, ён — няроўны і цяжкі. Але жыве літаратура, бо толькі яна пераможа, бо толькі на яе светлая і шчырая надзея.

*2012*

## БЫЎ РЭДАКТАРАМ «БЕЛОСТОКСКОЙ ПРАВДЫ»

Прайшоў стагадовы юбілей з дня нараджэння беларускага крытыка, літаратуразнаўца, публіцыста і журналіста Сцяпана Майхровіча.

На жаль, юбілейнай згадкі пра гэтага таленавітага чалавека я ў беларускім друку так і не знайшоў. Ці то забыліся пра Сцяпана Майхровіча, ці то нехта яшчэ думае яго прыгадаць.

Сцяпан Майхровіч у гады Другой сусветнай вайны быў рэдактарам газеты «Белостокская правда». Газета выходзіла з 7 лістапада 1943 года да 6 чэрвеня 1944 года. Перыядычнасць яе была 8–9 разоў на месяц накладам 500–1000 экзэмпляраў. Усяго з друку выйшла 60 нумароў.

Сцяпан Майхровіч у 1930-х гадах быў рэдактарам польскіх газет «Orka» і «Sztandar Wolności», якія выдаваліся ў Беларусі. Ён быў узнагароджаны ордэнам Рэспублікі Польшча «Віртуці мілітары».

Але ў гісторыю Беларусі Сцяпан Майхровіч найбольш ярка ўвайшоў як літаратуразнавец і крытык. Ён у свой час вельмі актыўна даследаваў шматлікія праблемы літаратуразнаўства і фалькларыстыкі, выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі беларускай літаратуры. Мусіць, ніхто з беларускіх літаратуразнаўцаў не напісаў і не выдаў кніг пра беларускіх пісьменнікаў больш за Сцяпана Майхровіча.

У 1952 годзе з друку выходзіць першае літаратурнае даследаванне Сцяпана Майхровіча пад назовам «Янка Лучына: Жыццё і творчасць». У ёй аўтар цікава распавёў пра жыццёвы і творчы шлях аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага), які жыў у XIX стагоддзі.

Праз тры гады пасля першай кнігі беларускі літаратуразнавец выдае манаграфію «В. І. Дунін-Марцінкевіч». Потым з’явілася манаграфія пра Максіма Багдановіча — «Максім Багдановіч. Жыццё і творчасць» (Мінск, 1958). А ў 1961 годзе на рускай мове з друку

выходзіць праца Сцяпана Майхровіча «Жизнь и творчество Ф. Богушевича». Следам за ёй свет убачыла кніга даследчыка «Янка Брыль: Жыццё і творчасць». Затым да чытачоў прыходзіць выданне «Георгій Скарына» (Мінск, 1966), а потым — выданне «Слова аб палку Ігаравым» (Мінск, 1968). І нарэшце, кніга пра Івана Шамякіна — «Іван Шамякін: Нарыс жыцця і творчасці» (Мінск, 1978). Вось як плённа працаваў Сцяпан Майхровіч.

Акрамя гэтых вышэй пералічаных кніг даследчык выдае «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя», якія крытык Якуб Усікаў назваў вельмі каштоўнай працай. Цікавай атрымалася кніга пісьменніка «Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV–XVIII стагоддзяў» (Мінск, 1980). У кнізе «Прыказкі і прымаўкі: гістарычны нарыс» (Мінск, 1976) аўтар даследаваў беларускія прыказкі.

Сцяпан Майхровіч пры жыцці напісаў сотні артыкулаў і апублікаваў іх у беларускай перыёдыцы. Гэта былі рэцэнзіі на кнігі, артыкулы да юбілеяў, літаратурныя разважанні пра кнігі і пісьменнікаў, гістарычныя матэрыялы па беларускай літаратуры і г. д. У іх адчувалася дасведчанасць і прынцыповасць аўтара, шчырасць і аргументаванасць, а таксама літаратуразнаўчае адкрыццё.

Не згадаць пра такога літаратара ў беларускім друку проста немагчыма. І крыўдна, што два Саюзы пісьменнікаў у Беларусі аб гэтым не парупіліся. Праўда, у «Каляндарыюме» (Czasopis. 2008. № 6) Лена Глагоўская і Вячаслаў Харужы ўсё ж згадалі пра Сцяпана Майхровіча. Але ж гэта там, у Польшчы…

*2008*

## ПРА ДВУХ ГЕНЕРАЛАЎ

Сярод магіл і пліт на старых могілках, якія знаходзяцца на Ружанскай вуліцы ў Слоніме, ёсць надмагільнае збудаванне, дзе пахаваны ўдзельнік вайны 1812 года, генерал ад інфантэрыі Міхаіл Лявіцкі.

Нарадзіўся будучы генерал у 1769 годзе на Магілёўшчыне ў дваранскай сям’ і. Калі споўнілася яму чатырнаццаць гадоў, пачаў вайсковую службу. Яна давалася яму, відаць, лёгка і проста, таму

што ў 1793 годзе Міхаіл Лявіцкі ўжо стаў капітанам, а праз год — секунд-маёрам і прэм'ер-маёрам. Гэтыя званні прысвойваліся яму за добрую службу, за ўдзел у турэцкай вайне, у штурме і ўзяцці крэпасці Ізмаіл.

У 1803 годзе Міхаіл Лявіцкі атрымаў званне генерал-маёра і быў прызначаны шэфам Падольскага мушкецёрскага палка.

У хуткім часе, калі пачаліся ваенныя дзеянні супраць Францыі (1805), Міхаіл Лявіцкі са сваім палком знаходзіўся ў перадавым корпусе, якім камандаваў Міхаіл Кутузаў, пасля ўдзельнічаў у шматлікіх бітвах, у тым ліку пад Аўстэрліцам і Прэйсіш-Эйлаў.

Вайна 1812 года застала генерала Лявіцкага на заходніх рубяжах у складзе першай рускай арміі, якой камандаваў Барклай-дэ-Толі. Разам з корпусам генерала ад інфантэрыі Дохтурава полк Лявіцкага фарсіраваным маршам адступіў да Дрысы, а потым да палка былі далучаны яшчэ некалькі часцей, і гэты атрад пад камандай Лявіцкага ў складзе арміі дайшоў да Масквы.

Калі француз быў выгнаны з межаў Расіі, Міхаіл Лявіцкі прымаў удзел у баях на тэрыторыі Францыі.

Пасля вайны ў 1814 годзе генерал быў прызначаны камендантам Варшавы, дзе доўгі час ён служыў і жыў.

Апошнія два гады свайго жыцця Міхаіл Лявіцкі жыў у Слоніме, дзе і памёр у 1831 годзе.

На магільнай пліце можна і сёння разабраць надпіс, у якім пералічаны ўсе ўзнагароды генерала Міхаіла Лявіцкага. Па надпісе варта меркаваць, што гэта быў цікавы чалавек і смелы воін.

На могілках у вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна знаходзіцца магіла яшчэ аднаго генерала — Ермалая Ермалаевіча Гампера. Бываючы тут, кожны раз думаю, што ён за чалавек і як трапіў у Беларусь…

Прагледзеўшы шмат кніг і брашур па гісторыі Айчыннай вайны 1812 года, я нічога пра генерала Гампера так і не знайшоў. Праўда, у Слонімскім раённым краязнаўчым музеі на адным са стэндаў ёсць фотакартка, пад якой стаіць подпіс: «Удзельнік Айчыннай вайны 1812 года генерал Е. Е. Гампер». Больш у музеі пра яго нічога няма.

Не адкладваючы пошукі на будучае, звяртаюся ў Санкт-Пецярбургскую Ваенную галерэю Зімняга палаца. Праз некаторы час атрымліваю адказ, што ў Ваеннай галерэі Зімняга палаца ёсць партрэт генерал-маёра Ермалая Ермалаевіча Гампера. У свой час

для напісання партрэтаў Ваеннай галерэі быў запрошаны вядомы англійскі партрэтыст Джорж Доу (1781–1829). Праца працягвалася з 1819 да 1828 года. Сам Доу напісаў каля 150 партрэтаў (усяго ў галерэі знаходзіцца 322 партрэты генералаў — удзельнікаў вайны 1812–1814 гадоў). Усе астатнія карціны — партрэты — належаць пэндзлю рускага мастака з прыгонных А. Палякова (1801–1835) і рускага партрэтыста В. Голіке (памёр у 1848 годзе). Партрэт Гампера не мае подпісу і даты, таму цяжка сказаць, хто з пералічаных мастакоў напісаў яго і ў якім годзе.

У Ваеннай галерэі Зімняга палаца і ў Ваўкавыскім ваенна-гістарычным музеі імя П. І. Баграціёна ёсць рэдкае выданне «Ваенная галерэя 1812 года», якое выйшла з друку ў 1912 годзе. Толькі тут мне ўдалося знайсці сёе-тое з яго біяграфічных звестак.

Ермалай Ермалаевіч Гампер паходзіў з курляндскіх дваран. На ваенную службу быў прызваны ў 1766 годзе ў Казанскі кірасірскі полк. Прымаў удзел у ваенных паходах і бітвах у Малдавіі (1770), на рацэ Кагул, у Валахіі ў 1771 годзе, у вайне з Турцыяй (1768–1774). У 1809 годзе ўдзельнічаў у штурме Ізмаіла.

У гады Айчыннай вайны 1812 года генерал Гампер камандаваў Смаленскім драгунскім палком у арміі Чычагава. З гэтым палком ён і дайшоў да Беларусі. Тут у 1813 годзе быў прызначаны старшынёй Палявога генерал-аўдытарыята…

У снежні 1814 года генерал цяжка захварэў і памёр. Магіла генерала Е. Е. Гампера знаходзіцца ў вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна.

*2000*

## ПРАФЕСАР І ГЕРОЙ ПЯТРО БУЙКО

Доктар медыцынскіх навук, прафесар, Герой Савецкага Саюза Пятро Буйко пахаваны ў вёсцы Тамашоўка Фастаўскага раёна Кіеўскай вобласці. На магіле ўстаноўлены помнік. Яго імя носіць Тамашоўская сярэдняя школа і адна з вуліц у Кіеве. Імя прафесара было нададзена і Кіеўскаму інстытуту акушэрства і гінекалогіі, але пасля распаду Савецкага Саюза гэты інстытут «згубіў» яго імя, а мемарыяльная шыльда з фасада будынка кудысьці знікла…

Тым не менш памяць пра Пятра Буйко на Украіне жыве. Кожны год у кастрычніку студэнты і выкладчыкі Нацыянальнага ўкраінскага медыцынскага ўніверсітэта імя Багамольца выязджаюць на Фастаўшчыну, каб прыбраць магілу нашага земляка і прынесці кветкі. Уступныя лекцыі на некаторых кафедрах акушэрства і гінекалогіі ў медыцынскіх вышэйшых навучальных установах Украіны традыцыйна пачынаюцца з расказу пра Пятра Буйко. Некалі нават у тэатры імя Івана Франко з вялікім поспехам ішла п'еса Я. Баша «Прафесар Буйко»…

Пятро Буйко нарадзіўся 31 кастрычніка 1895 года ў беларускай сям'і ў Бельск-Падляшскім Падляшскага ваяводства. У гады Першай сусветнай вайны быў прызваны на фронт у якасці ваенфельчара. Потым удзельнічаў у Грамадзянскай вайне. А калі адбыў свой воінскі доўг, паступіў у Кіеўскі медыцынскі інстытут, які скончыў у 1922 годзе, атрымаўшы спецыяльнасць «акушэр-гінеколаг».

З 1933 года наш зямляк узначаліў Кіеўскі інстытут аховы мацярынства і дзяцінства (цяпер ён называецца Інстытут педыятрыі, акушэрства і гінекалогіі Акадэміі медыцынскіх навук Украіны). У 1939 годзе Пятро Буйко абараняе доктарскую дысертацыю і становіцца прафесарам кафедры акушэрства і гінекалогіі № 2 гэтага медыцынскага інстытута. У сваіх працах ён разглядае пытанні прафілактыкі і тэрапіі разрываў прамежнасці пры родах (1938), а таксама займаецца лячэннем пухірна-похвенных свішчоў (1940). Прафесар Буйко, напрыклад, прапанаваў метад фістулаграфіі пры гэтай складанай паталогіі з гаматрансплантацыяй плацэнты на ўшыты дэфект мачавога пухіра. Але паспяховую практыку акушэра, вучонага, хірурга ў галіне родадапамогі спыніла Другая сусветная вайна.

У чэрвені 1941 года Пятро Буйко добраахвотнікам пайшоў на фронт вядучым хірургам медсанбата. Але праз некалькі месяцаў пад Уманню трапіў у палон. У час перагону яму, цяжка параненаму, удалося ўцячы з калоны палонных. Яго хавалі і лячылі мясцовыя жыхары-ўкраінцы. А калі трохі ачуняў, Пятро стаў працаваць доктарам у Фастаўскім шпіталі, але аб тым, што ён доктар медыцынскіх навук і прафесар, ніхто не ведаў. У шпіталі наш зямляк лячыў мясцовых жыхароў, а таксама немцаў. Ён вельмі хутка заваяваў давер і сярод украінскага насельніцтва, і сярод гітлераўцаў.

Працуючы доктарам у шпіталі, Буйко пачаў супрацоўнічаць з мясцовымі партызанамі, даваў ім інфармацыю, атрыманую ад немцаў, якія там лячыліся. Адначасова Пятро Буйко многім украінцам «рабіў хваробы», дзеля таго каб іх не вывозілі на працу ў Нямеччыну. Але ў пачатку 1943 года гестапа прасачыла і раскрыла ўсю яго працу на карысць і мясцовых жыхароў, і партызанаў. Праўда, прафесару ўдалося ўцячы. Ён узяў каня з возам, наклаў у воз лекаў, хірургічных інструментаў і знік у лесе.

Аднойчы Пятра Буйко вяскоўцы паклікалі на аперацыю ў Тамашоўку. Ён пагадзіўся і прыехаў дапамагчы. Але нехта выдаў прафесара: падчас аперацыі ў хату ўварваліся гітлераўцы і арыштавалі доктара. Яго доўга дапытвалі, а пасля кінулі ў хлеў, куды былі сагнаныя вяскоўцы, якія падазраваліся ў сувязі з партызанамі. У хляве затрыманыя людзі зрабілі вялікую шчыліну і прапанавалі прафесару ўцячы. Але ён адказаўся, бо немцы папярэдзілі, калі хто ўцячэ, спаляць усю вёску. Тады гітлераўцы побач з хлявом запалілі адну хату, куды і кінулі звязанага доктара. Здарылася гэта 15 кастрычніка 1943 года.

У 1944 годзе Пятру Буйко было пасмяротна прысвоена званне «Герой Савецкага Саюза». Гэта быў першы Указ, падпісаны старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Міхаілам Калініным, у якім узвышаўся подзвіг абаронца Айчыны на часова захопленай германскімі войскамі зямлі. Калінін тады сказаў, што наш народ ніколі не забудзе імя гэтага слаўнага прадстаўніка савецкай інтэлігенцыі, які знайшоў мужнасць і сілу, каб стаць у рады супраціўлення, нягледзячы на штодзённую небяспеку быць захопленым ворагам.

*2010*

## НА МЯЖЫ ДВУХ РАЁНАЎ

Засяленне тэрыторыі Зэльвенскага раёна пачалося ў сярэдзіне мезаліту (сярэдняга каменнага веку), які ахоплівае прамежак паміж IX і IV тысячагоддзямі да нашай эры. Стаянкі эпохі бронзавага веку (II тысячагоддзе да нашай эры —VII стагоддзе да нашай эры) знойдзены беларускімі даследчыкамі і каля вёскі Сынковічы (выяўлена была сякера).

Сама вёска Сынковічы ў гістарычных крыніцах ўпамінаецца з канца XV — пачатку XVI стагоддзя, калі была пабудавана царква-крэпасць. Яна, на думку некаторых даследчыкаў даўніны, збудавана ў пачатку XV стагоддзя. Але паданне кажа, што заклаў яе сам вялікі князь Вітаўт. І здарылася гэта вось з якой нагоды…

У 1377 годзе памёр вялікі князь Альгерд, які, па словах летапісцаў, «не столькі сілаю, колькі ўмельствам ваяваў». І пакінуў ён пасля сябе наступнікам любімага сына Ягайлу, які неўзабаве стаў каралём Польшчы. Пайшоў Ягайла вайною супраць свайго роднага дзядзькі вялікага князя Кейстута і сына яго князя Вітаўта. Аднак не змог іх адолець. Тады замысліў ён жорсткую хітрасць. Запрасіў да сябе дзядзьку і брата і пакляўся, што не зробіць ім зла. А як толькі яны, паверыўшы ў клятву, прыехалі ў Вільню, паланіў абодвух. Вітаўта спачатку каля сябе пакінуў, а вялікага князя Кейстута загадаў у ланцугі закаваць і кінуць у вежу Крэўскага замка. Яшчэ праз некалькі дзён служкі Ягайлавы забілі слаўнага Кейстута. Потым у Крэўскі замак прывезлі і Вітаўта з жонкаю…

Сядзеў вялікі князь у Крэве пад моцнаю вартаю. Штовечар дзве кабеты прыходзілі слаць ложак яму і княгіні. А паслаўшы, выходзілі. За дзвярыма пакоя неадступна стаяла варта. Пачула вялікая княгіня ад людзей, што калі Вітаўт не ўцячэ з вязніцы, дык тое самае з ім учыняць, што і з бацькам ягоным Кейстутам. І падвучыла яна мужа свайго князя Вітаўта пераапрануцца ў адзенне адной з кабет, што прыходзіла ім слугаваць, а з другою выйсці непрыкметна з пакоя. Паслухаў жонку Вітаўт, надзеў на сябе жаночае ўбранне, незаўважна спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію. Але ў Прусію князь адразу не трапіў. Заблытваючы сляды ад Ягайлавых служак, ён пусціўся наўцёкі зусім у адваротны бок — да старажытнай Літвы, што знаходзілася тады за Наваградкам. І непадалёку ад Слоніма, у ціхай лясной вёсачцы Сынковічы, князь Вітаўт знайшоў сабе надзейную схованку пад сялянскай страхой. Потым, перачакаўшы варожую пагоню, сабраў надзейнае войска, пачаў перамагаць клятваадступніка Ягайлу і ўрэшце стаў адзіным уладаром Вялікага Княства Літоўскага (гэта значыць Беларусі).

Праз дваццаць пяць гадоў пасля ўратавання ад немінучай пагібелі вялікі князь Вітаўт загадаў пабудаваць у Сынковічах храм: у знак удзячнасці Богу і тутэйшым людзям, якія захавалі яму жыццё.

Невядомыя таленавітыя дойліды выканалі Вітаўтаву волю і паднялі да нябёс Сынковіцкую царкву-крэпасць.

У 1907 годзе польскі гісторык Юзаф Ядкоўскі зацікавіўся гісторыяй Сынковіцкага храма. Ён прыехаў у Сынковічы і ў архіве царквы выявіў «Генеральную візіту» 1720 года, метрычны запіс з 1762 года і апісанне царквы, складзенае кобрынскім ігуменам Андрэем Бенецкім у 1746 годзе. Традыцыйна лічылася, што Сынковіцкая Міхайлаўская царква была пабудавана ў 1407 годзе. Але паўстае пытанне: кім? І ніхто да сённяшніх дзён не можа на яго адказаць, бо няма сапраўдных дакументаў. Як адзначае польскі гісторык, у актах Літоўскай метрыкі маецца вельмі цікавая грамата 1576 года, што датычыць Сынковічаў, а менавіта «Привилей пану Ивану Есману на торг в ден недельный в именью его Сынковичах». Ім кароль Стэфан Баторый дазваляў у паселішчы кірмашы ў нядзелю і корчмы, пазбаўленыя збораў на карысць казны. Адсюль узнікае выснова: наладжваць кірмашы ў вёсцы, дзе няма царквы, было б недарэчна, таму факт існавання Сынковіцкай царквы ў 1576 годзе неабвержны. А грамата была дадзена Есьману, верагодна, праз некалькі гадоў пасля заканчэння працяглага будаўніцтва храма. Гэта значыць, царква ў Сынковічах узводзілася вельмі доўга і завяршыліся работы пры памешчыку Івану Есьману прыблізна ў 70-я гады XVI стагоддзя.

Дарэчы, спасылаючыся на крыніцы, польскі гісторык Юзаф Ядкоўскі прыводзіць наступнае паведамленне: «Айцец Е. Міхайлоўскі на адным з малых званоў Сынковіцкае царквы знайшоў надпіс: “Anno Domini 1460”. А між іншым, ніколі званы не заказваліся задоўга да будаўніцтва храма, калі, можа, нават ідэі такой не існавала. Напрошваецца думка: храм у Сынковічах у час адліўкі звона ўжо мусіў існаваць, і, можа, не адзін дзясятак гадоў. Таму, магчыма, ён сапраўды пачынаўся будавацца пры Вітаўце. А сама вёска Сынковічы яшчэ старэйшая за крэпасць-царкву.

У 1566 годзе вёска Сынковічы належала багатаму чалавеку Зэльвеншчыны Івану Есьману. А ўжо ў канцы XVIII стагоддзя і да 1939 года гэта была ўласнасць Пуслоўскіх. Праўда, леснічоўка каля Сынковіч належала Чапскім (Сынковічы былі падзелены на фальваркі). Доўгі час два фальваркі Сынковіч трымалі Франц Пуслоўскі і Казімір Есьман. І толькі ў 1920-х гадах леснічоўку прыдбаў граф Чапскі.

Абсалютную большасць жыхароў Сынковіч складалі сяляне. Цяглым сялянам быў дадзены поўны надзел зямлі, з якога спаганяўся ўвесь комплекс павіннасцей. Паўцяглыя сяляне карысталіся паловай надзелу і адбывалі палавінную норму павіннасцей. А сяляне-агароднікі карысталіся толькі прысядзібнымі ўчасткамі, мелі нават дробную жывёлу, часам — каня. Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў маёнтку Сынковічы было ў другой палове XIX стагоддзя 4 двары агароднікаў, якія не мелі ніякіх гаспадарчых пабудоў і буйной рагатай жывёлы, акрамя хаты і дробнай жывёлы. Вольныя сяляне маёнтка Сынковічы мелі 100 дзесяцін зямлі на 56 душ. А ў Пуслоўскага ў гэтай вёсцы было 32 душы сялянскіх бабылёў (парабкаў, без зямлі і свайго жылля).

Перад рэформай 1861 года і ў другой палавіне XIX стагоддзя таварны характар у Сынковічах набыло садаводства і агародніцтва. У гэты час у вёсцы з’явіўся першы магазін, некаторыя сяляне мелі сажалкі, трымалі па 3 свінні. А вось коней было на вёсцы няшмат — усяго 64, а валоў — ажно 334. Сынковіцкія сяляне займаліся таксама перагонам смалы і дзёгцю.

У пачатку XX стагоддзя (1905–1913) у Сынковічах дзейнічала вінакурная мануфактура. На прадпрыемстве працавалі 8 рабочых. У 1908 годзе мануфактура займела нават паравы рухавік. І калі ў 1890 годзе Сынковіцкі прыход, які ўваходзіў у склад Слонімскага павета, налічваў 1555 жанчын і столькі ж мужчын, дзейнічала царква, то ў 1921 годзе ў вёсцы Сынковічы было ўжо толькі 145 жыхароў. Многія не вярнуліся з бежанства, загінулі ў Першай сусветнай вайне і падчас савецка-польскай.

А што датычыць Пуслоўскіх, Чапскіх і Есьманаў — то яны ў 1939 годзе, за два тыдні да прыходу на Слонімшчыну і Зэльвеншчыну бальшавікоў, выехалі ў Англію.

## У МАДЗЕЙКАХ ЖЫЎ БАРОН

Ёсць на Зэльвеншчыне вёска з прыгожаю назваю Мадзейкі. Мадзейкаўцы, як і ўсе беларусы, вясною, летам і восенню корпаюцца на градах і ў садах, каб на зіму папоўніць свае падвалы садавіной і гароднінай.

Вёска стаіць трохі воддаль ад аўтатрасы Зэльва–Ваўкавыск. Пры ўездзе ў вёску — былая школа і некалькі двухпавярховых будынкаў, дзе пераважна жывуць настаўнікі. У адным з гэтых дамоў жыве Іван Міхайлавіч Цімафейчык — настаўнік-пенсіянер. Іван Цімафейчык — своеасаблівы і цікавы чалавек. Па-рознаму аб ім адгукаюцца вяскоўцы: адны яго называюць дзіваком, другія пагаджаюцца, што ён адстойвае свае правы, а трэція яго проста не любяць. Але Іван Міхайлавіч не гарыць жаданнем, каб яго ўсе любілі. Ён жыве сваім жыццём, сваімі праблемамі і па-свойму іх вырашае.

У яго кватэры — паравое ацяпленне, а на кухні стаіць «буржуйка». А вось у астатніх жыхароў гэтага дома батарэй даўно няма, дом іх ацяпляюць толькі печкі. У аднаго спадара Цімафейчыка не адключылі ацяплення, ды ён і не хоча яго пазбаўляцца. Таму што здароўя няма, каб займацца нарыхтоўкаю дроў, ды і печку трэба ў невялікай кватэры прыбудоўваць. Няхай будзе так, як ёсць, — вырашыў вясковы пенсіянер. Але аднойчы (са слоў Івана Цімафейчыка) на столі кухні перакрылі трубу ад «буржуйкі», маўляў, каб яе не паліў, а яшчэ Іван Міхайлавіч баіцца, каб наогул не адключылі ацяплення. Таму і піша пенсіянер ва ўсе інстанцыі, патрабуючы справядлівасці, а таксама таго, чаго ён хоча. А такіх жаданняў і праблем у яго назапасілася вельмі шмат. Вось і едуць у Мадзейкі прадстаўнікі розных арганізацый і чыноўнікі, каб разабрацца з тымі крыўдамі і праблемамі, пра якія пастаянна піша і расказвае гэты вясковы Галілей.

Мясцовыя журналісты неяк хацелі пераканаць пенсіянера, каб ён супакоіўся і жыў, як і ўсе ягоныя рахманыя землякі. Але дзе там… Іван Міхайлавіч і слухаць не захацеў. Тым больш што ён выйграў некалькі судовых спраў у мясцовых чыноўнікаў, а на іншых — рыхтуе новыя паперы ў суд.

Але, шчыра кажучы, не пра гэта хацелася напісаць, расказваючы пра Івана Цімафейчыка. Ён наогул вельмі здольны і цярплівы чалавек, а таксама арыгінальны суразмоўца. Іван Міхайлавіч шмат гадоў збірае кактусы і камяні. Ён пра іх можа расказваць гадзінамі. Вось каб арганізаваць выставу камянёў з калекцыі вясковага збіральніка, напрыклад, у Слонімскім краязнаўчым музеі! Было б што людзям паглядзець. Бо розных камянёў у калекцыі Цімафейчыка вельмі многа. Ёсць нават метэарыты і такія камяні, якім па некалькі

мільёнаў гадоў. Ды і кактусаў шмат. Іх у кватэры гаспадара можна ўбачыць усюды.

Пасля нашай гутаркі ў двухпакаёўцы Іван Цімафейчык павёў мяне знаёміць з ягонай вёскай. Нічым яна асаблівым не вылучаецца сярод іншых вёсак. І тут ужо шмат гадоў не працуе лазня, хаця будынак лазні даволі дыхтоўны. За вёскаю вецер гуляе ў былым цялятніку, многія калгасныя пабудовы развальваюцца і расцягваюцца на вачах. Падчас гутаркі з вяскоўцамі высветлілася, што некаторыя з іх нават не ведаюць, да якой гаспадаркі іх вёска сёння адносіцца. Адны кажуць — да кааператыва імя Леніна, другія — да Мічурына, трэція — да «Прагрэсу», а чацвёртым — да лямпачкі наогул, куды іх аднеслі ці яшчэ аднясуць: сельскім жыхарам ад гэтага не лягчэй.

Мяне моцна ўразіў былы, як тут называюць, панскі хутар. Прыгажэйшага месца на Зэльвеншчыне мне не прыходзілася бачыць. Ён знаходзіцца за вёскамі Мадзейкі і Савічы, побач — Аўдзеевічы, Сухінічы. Недалёка ад хутара ўдалося пагутарыць з пенсіянерам Чэславам Каспярцом, які расказаў пра лёс гэтага хутара і яго гаспадароў. Са слоў мясцовага жыхара стала вядома, што да прыходу бальшавікоў гэты хутар належаў двум панам. «Аднаго з іх прозвішча было барон Вітарф, а другога — Бальскевіч. Пану Бальскевічу ўдалося ўцячы ў Варшаву на ўласным аўтамабілі, а вось барона арыштавалі і расстралялі. Але гэта былі добрыя гаспадары, і вельмі прыгожая ў іх была сяліба. Вы ж бачылі, што ад усяго засталося — адна пустэча і запусценне», — уздыхнуў спадар Каспярэц.

Сапраўды, мы ўбачылі сумны малюнак ад той панскай прыгажосці. Час і людзі знішчылі ўсё. Засталіся толькі падмуркі, сцены некаторых збудаванняў і дубы. Але многія векавыя дрэвы невядомыя асобы спальваюць з карэння, і яны падаюць долу і сохнуць. Здаецца, гэта не дубы, а людзі. Іх тут шмат — паваленых, згарэлых і сухіх. А тыя, што растуць, — нагадваюць пра залаты час гэтага зэльвенскага куточка. Час толькі не знішчыў крынічку, якая вузкаю рачулкаю бяжыць праз увесь былы панскі хутар. Менавіта яна нагадвае пра вечнасць нашага жыцця і папярэджвае пра тое, што чакае нас яшчэ наперадзе.

*2011*

# ГУТАРКІ

## АНАТОЛЬ КЛЫШКА: «БУКВАР — ПЕРШАЕ СВЯДОМАЕ ДАЛУЧЭННЕ ДЗІЦЯЦІ ДА РОДНАЙ МОВЫ»

Пісьменнік і перакладчык, крытык і паэт, вучоны і асветнік-педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі Анатоль Клышка больш за паўстагоддзя плённа працуе на ніве нацыянальнага адраджэння, верна служыць беларускай культуры, роднаму слову. Шмат гадоў вучоны аддаў на распрацоўку тэорыі навучання грамаце. Шырокую вядомасць атрымаў ягоны беларускі «Буквар». Першае выданне падручніка з’явілася на свет ажно ў 1969 годзе. Буквар шматразова перавыдаваўся. Нядаўна я сустрэўся са спадаром Анатолем, і мы доўга вялі гутарку пра буквар, педагогіку, літаратуру, мову і наогул пра наша жыццё.

*— Спадар Анатоль, дзякуй Вам вялікі за тое, што пагадзіліся пагутарыць са мной пра наш беларускі буквар. Дый не толькі пра наш... Таму адразу напрошваецца пытанне: калі ж у Беларусі з’явіўся першы буквар?*

— Мне прыемна весці гаворку пра першы школьны падручнік, бо сама сённяшняя назва гэтай кнігі — *буквар* — нарадзілася ў Беларусі. У 1618 годзе ў друкарні Святадухава брацтва ў нашым горадзе Іўі была выдадзена кніга пад назваю «Букварь языка славенска». У 1631 годзе вядомы выдавец Спірыдон Собаль падтрымаў гэтую назву сваёю кнігаю, выдадзенай у Куцейне. Так і пайшло гэтае слова — у рускую мову, украінскую, балгарскую, серба-харвацкую... Праўда, у Беларусі пазней выкарыстоўвалі слова «лемантар» ад лацінскага «элементарыус» — пачатковы. А згаданае слова, у сваю чаргу, паходзіць ад пачатковых літар другога раду лацінскага алфавіта LMN. Якраз з гэтых літар і пачыналі ў старажытнасці навучанне грамаце.

*— Дык іўеўская кніга і ёсць першы беларускі буквар?*

— Ды не. Першыя нашы буквары — гэта і самшытавы грабеньчык з кірыліцкімі літарамі на ім, які зберагаецца ў брэсцкім музеі. І скарынаўскі пераклад «Псалтыры», па якой у тыя часы навучаліся грамаце. Побач з вялікімі каляровымі літарамі ў пачатку раздзелаў Скарына змясціў малюнкі прадметаў, назвы якіх пачыналіся з гэтых літар, — прынцып, які выкарыстоўваецца і ў наш час… Увогуле, з 1590-га да 1653-га ў Беларусі выйшла 16 элементарных падручнікаў — болей за палавіну ўсіх выданняў на ўсходнеславянскіх землях.

*— Тут нельга абысці бокам і Сімяона Полацкага. Так?*

— Вядома ж, буквар Сімяона Полацкага, па якім сам аўтар вучыў дзяцей рускага цара. У тым ліку кіраваў навучаннем і маленькага Пятра Першага…

*— Нельга не згадаць і Цётку, Максіма Багдановіча…*

— Сапраўды, «Беларускі лемантар» Цёткі (1906) адыграў вялікую ролю ў развіцці беларускай школы. А 1911 год. У туберкулёзнай гарачцы, пры штодзённай 38-градуснай тэмпературы, Максім Багдановіч задумвае каляровы буквар. Неажыццёўленая мара вялікага паэта, якая рэалізуецца толькі ў нашы пасляваенныя гады! А буквар для дарослых: БССР першая сярод саюзных рэспублік ліквідавала непісьменнасць…

*— Спадар Анатоль, а што Вас натхніла на напісанне беларускага буквара?*

— Я з’яўляюся бацькам траіх дзяцей. І, як заўсёды — падрастаюць дзеці, міжволі робішся настаўнікам, вучыш іх чытаць, лічыць. А да паступлення ва ўніверсітэт я вучыўся ў Навагрудскім педвучылішчы, дзе грунтоўна выкладалася методыка навучання грамаце. У тыя пасляваенныя гады ў Навагрудку сабраліся моцныя выкладчыцкія кадры. Некаторыя з нашых настаўнікаў у даваенныя гады вучыліся ў славутым Белпедтэхнікуме, адкуль выйшла нямала пісьменнікаў. Але ў часе вайны некаторыя з гэтых выкладчыкаў апынуліся пад акупацыяй. І ў суровыя берыеўскія гады разгарнення ў Мінску ім не было, хоць асобныя з іх мелі ўжо напісаныя дысертацыі. Але не да абароны было, бо знаходзіліся пад акупацыяй.

У Навагрудку ў той час былі школа для глуханямых і школа для сляпых дзяцей. І мы, навучэнцы, таксама некалькі разоў наведвалі гэтыя школы ў час пасіўнай педпрактыкі. І нас уражвала, як дзіця, якое не чуе, вучылі размаўляць. Пасля мне добра гэта спатрэбілася пры роздуме-аналізе розных метадаў навучання грамаце, бо ўзаемадзеянне зрокавага, слыхавога, моварухальнага аналізатараў у працэсе чытання і пісьма вельмі і вельмі складанае.

Калі ў 1968 годзе Міністэрства асветы аб'явіла конкурс на новы буквар, я працаваў у нашым старэйшым часопісе «Полымя», галоўным рэдактарам якога быў Максім Танк. Неяк, вярнуўшыся з пасяджэнняў Генеральнай Асамблеі ААН, ён сказаў, што дзяржаўным народам прызнаецца народ, які мае свае герб, гімн, сцяг, буквар, энцыклапедыю, каляндар. Мяне здзівіла такое прызнанне значэння буквара. А да ўсяго буквар Надзеі Сіўко, па якім займаліся трое маіх дзяцей, мне апрыкраў — ненатуральная, калькаваная мова, нудотныя тэксты…

*— І Вы тады ўзяліся за напісанне свайго буквара?..*

— Так. І я ўзяўся за напісанне свайго «Буквара» і… перамог. А з 1968 года мой буквар штогод выходзіў, дапрацоўваючыся, перапрацоўваючыся ад выдання да выдання аж да 2010 года. Цяпер выдаецца раз у некалькі гадоў, як і іншыя падручнікі, хоць па ім штогод вучацца дзеці. У школах з беларускай мовай навучання ён адзіны, у адрозненне ад рускага буквара, у якога ёсць спаборнік, хоць, як паказала дзяржаўная экспертыза, тэхніка чытання ў дзяцей, якія вучыліся па маім буквары, на трэць вышэйшая, чым у тых, хто навучаўся па «Букварю» Н. Сторажавай.

*— Спадар Анатоль, нядаўна я прачытаў кнігу Валерыя Марусяка «Учим ребёнка читать. Как? Где? Когда?», якая выйшла ў маскоўскім выдавецтве «ЛабиринтПресс». Там у раздзеле «Методика обучения грамоте» разглядаюцца методыкі М. Зайцава, Ваша і амерыканца Г. Домана. Пра Ваш падручнік напісана: «Букварь Анатолия Константиновича Клышки в методическом плане удивителен и уникален. Могу утверждать это с полной ответственностью, поскольку ничего подобного я не нашёл в более чем трёхтысячной коллекции Юриса Цибульса (латышскі калекцыянер буквароў. — С. Ч.). Есть буквари, которые превосходят*

*букварь Клышки в оформительском отношении, но ни один из них не сравнится с его методической проработкой».*

— Дзякую. Гэтая ацэнка надзвычай каштоўная для мяне. Нават няёмка стала: на Радзіме чуў крытыку, а за мяжой атрымаў прызнанне.

*— Спадар Анатоль, раскажыце, як Вы працавалі над напісаннем беларускага буквара?*

— Вядома ж, тады, у 1968 годзе, перш чым узяцца за працу, я перачытаў каля 500 буквароў рознага часу на беларускай, рускай, украінскай, польскай, нямецкай мовах, якія былі ў Дзяржаўнай бібліятэцы, грунтоўна пазнаёміўся з сотнямі метадаў навучання грамаце, якія былі сабраны дарэвалюцыйным метадыстам Паульсанам. Гэтая праца працягвалася і пасля выхаду майго «Буквара». Калі хто са знаёмых ехаў за мяжу, я прасіў яго прывесці гэты першы школьны падручнік. Памятаю, добра дапамаглі мне такія вядомыя навукоўцы, ураджэнцы Слонімшчыны, як Алег Лойка і Янка Саламевіч. Алег Лойка з паездкі ў Францыю прывёз мне французскі буквар, а Янка Саламевіч з Польшчы — яўрэйскі буквар на ідыш (у Савецкім Саюзе ў тыя гады буквар на ідыш не выдаваўся). Праўда, гэтыя буквары нядоўга ў мяне заставаліся. Хутка знайшліся людзі, якім яны вельмі прыдаліся.

*— Цікава, і каму ж яны ў Беларусі прыдаліся?*

— Гандлярка-яўрэйка з польскай кнігарні «Przyjaźń» (быў тады такі магазін у Мінску), да якой я звярнуўся, каб яна прачытала-пераклала мне тэксты, сказала, што не ведае ідыш (мне пераклаў той буквар у парку Чалюскінцаў выдатны яўрэйскі паэт Хаім Мальцінскі). Але неўзабаве тая ж гандлярка папрасіла пазычыць ёй кнігу. А пасля і не вярнула. Але я не пакрыўдзіўся, бо ведаў: буквар робіць добрую справу, вучыць яўрэйскіх дзетак роднай мове ў Беларусі. Напісаў я тады і ліст да вядомага польскага букварыста Мар'яна Фальскага, ураджэнца Беларусі (родам з-пад Ляхавіч). Яго польскі буквар выдаваўся недзе з 1913 года праз увесь гэты час. Да рэвалюцыі Мар'ян Фальскі пераклаў на беларускую мову апавяданні Сянкевіча, Жэромскага. Ён тут жа адгукнуўся, даслаўшы мне свой буквар, метадычныя распрацоўкі да яго і цёплы ліст, першая палова якога была напісана на чысцюткай беларускай мове,

а на «Elementarzu» стаяў надпіс лацініцай па-беларуску: «Аўтару буквара беларускага ад аўтара буквара польскага».

*— Вы распавядаеце пра Мар'яна Фальскага, а мне згадалася постаць і другога выдатнага польскага букварыста, ураджэнца Мінска, Конрада Прушынскага…*

— Дарэчы, пасля заканчэння Варшаўскага ўніверсітэта (Віленскі ўніверсітэт тады быў зачынены царскімі ўладамі) Конрад Прушынскі, прыехаўшы ў польскую вёску, быў уражаны поўнай непісьменнасцю яе жыхароў. І з дазволу аднаго гаспадара пачаў пісаць, складаць на сцяне яго будынка свой буквар-самавучнік. Так сяляне, ідучы на працу і з працы, авалодвалі граматай. На падставе тых насценных запісаў з'явіўся буквар, які вытрымаў 49 выданняў і ў 1875 годзе ў Лондане быў прызнаны лепшым з 500 буквароў свету. І «Беларускі лемантар» Цёткі, які выйшаў у Пецярбургу ў 1906 годзе, паводле ўспамінаў Паўліны Мядзёлкі, якраз грунтаваўся на методыцы Конрада Прушынскага.

*— Спадар Анатоль, ці шмат Вы мелі клопатаў пры напісанні свайго буквара?*

— Найпершы клопат быў — гэта тэксты. У букварах пачатку XX стагоддзя яны з'яўляліся ў паслябукварны перыяд, калі пройдзены ўсе літары, засвоены розныя тыпы складоў. А так — слупкі слоў ды асобныя, не звязаныя між сабою сказы.

Памятаю, неяк я, шасцігодак, захацеў паказаць хатнім, што ўжо ўмею хутка чытаць ўголас. У буквары стаялі сказы: «У Данілы — барада. На дубе — жалуды». І я гучна затараторыў: «У Данілы барада на дубе…» А далей паветра не хапіла, і я змоўк пад агульны смех родных людзей…

Вельмі цяжка даць якасны і зразумелы тэкст, калі пройдзена ўсяго некалькі літар. Мажлівасцей мала, а патрабаванняў шмат. Скажам, прыдумай тэкст, ды яшчэ з выхаваўчым ухілам. І каб словы былі не даўжэйшыя, чым двухскладовыя, і з адкрытымі складамі (зычны + галосны). А ў цябе чатыры зычныя літары (м, н, ш, х) і дзве галосныя (а, ы).

Памятаецца, б'юся я над тэкстам, ніяк не выходзіць. І вось раптам нешта атрымліваецца: «Мама, мама! Наша Маша на шашы. На шашы машыны… Ах, ах!». Я ўсцешаны, і ўяўляецца малюнак

да гэтага — хлопчык, устрывожаны за сваю сястрычку, бяжыць да мамы. І настаўнік можа правесці гутарку з вучнямі, як паводзіць сябе пры дарозе… Якая мне радасць!

*— Я так зразумеў, спадар Анатоль, Вы вельмі хацелі, каб Ваш буквар значна адрозніваўся ад ранейшых беларускіх буквароў і буквароў іншых краін?*

— Буквар — першае свядомае далучэнне дзіцяці да роднай мовы. І мне хацелася, каб яно палюбіла родную мову. Каб буквар быў займальнай кніжкай для чытання, каб у ім былі вартасныя тэксты, якія маглі б вытрымаць шматразовае чытанне іх на ўроках…

Усе тагачасныя буквары ў адрозненне ад дзіцячых часопісаў былі зашпілены ў аднастайны адукацыйны шынель. А мне хацелася, каб у гэтым першым падручніку знайшлося месца гумару, жарту, казцы, загадцы, лічылцы, прыказцы, прымаўцы, народнай прыкмеце, рэбусу. Каб там былі гульні з гукамі, літарамі, словамі. Каб дзіця адчула, як словы пераасэнсоўваюцца, як ад адных нараджаюцца другія. «Даўней людзі пісалі гусіным пяром. Ад яго і назва — пяро, хоць цяпер яно сталёвае (шарыкавыя ручкі тады яшчэ не былі ў школьным ужытку). Нашы прадзеды пісалі яшчэ і алавянай палачкай. Здагадайцеся, адкуль пайшла назва алоўка?». Мне хацелася, каб дзіця, услухоўваючыся ў родныя словы, хоць раз задумалася над аднакаранёвасцю слоў: «Вунь у мох зашыліся махавікі. А там пень абляпілі апенькі». Або каб вучань проста адчуў алітарацыю — паўтор зычных гукаў. Напрыклад: «Нарач. Вечар. Хутка ноч. Шапоча чарот. То крыкне сыч, то заплача сава», — гэта на літару «ч».

Я тут, згадваючы, кажу, вядома, пра свае букварныя намаганні. А на практыцы раптам у метадычных мэтах мяняеш паслядоўнасць літар, і тэкст, які табе падабаецца, у наступным выданні буквара даводзіцца апускаць або перапрацоўваць у зусім іншым кірунку. Літары, літары, адпаведныя тыпы складоў… Вось чаму ніякі буквар нельга перакласці з адной мовы на другую… Але я зноў скажу пра свае букварныя памкненні. Я імкнуўся, каб у гэтай кнізе былі тэксты самыя розныя — лірычныя, апавядальныя, апісальныя, навукова-папулярныя. Пра нашу Беларусь, пра Мінск, пра Францыска Скарыну, пра Янку Купалу і Якуба Коласа, пра слуцкія паясы, пра нашы народныя святы, пра ветлівыя звароты, пра прыроду… І няхай

будзе шмат вершаваных радкоў, бо вершаванае слова, западаючы ў памяць, можа больш чым што вучыць мове, спрыяць яе засваенню.

*— Таму Вам з беларускім букваром вельмі пашанцавала…*

— Так. Неўзабаве пасля выхаду буквара на Выставе дасягненняў народнай гаспадаркі СССР мой беларускі «Буквар» атрымаў срэбны медаль акурат за тэксты. Украінскія калегі нават пазычылі некалькі для свайго «Буквара», у прыватнасці вышэй згаданы тэкст пра пяро і аловак, і прыслалі мне з удзячнасцю свой буквар. Для мяне гэта было радасна і прыемна. Пасля быў і залаты медаль на Лейпцыгскай міжнароднай кніжнай выставе.

*— Няўжо з эксперыментаваннем пры напісанні беларускага буквара ў Вас заўсёды быў толькі поспех і не было праблемаў?*

— Не ўсё было так проста, асабліва, як ты сказаў, Сяргей, з эксперыментаваннем, праверкаю новых метадычных здагадак. Давялося поўнасцю зазнаць беларускую школьную трагедыю.

*— Гэта што значыць?*

— У апошнія гады Савецкага Саюза быў перыяд, калі ў Мінску не было ўжо ніводнай беларускай школы. Праводзілася хітрая палітыка. Мінск рос, і ў навакольных вёсках, перш чым яны траплялі ў межы горада, навучанне з беларускай мовай пераводзілі на рускае. Так што і на ўскраінах Мінска школы ўсе працавалі на рускай мове. Праўда, пасля ўсё ж адчынілі адну з беларускай мовай навучання. І мне даводзілася цягніком дабірацца за 40 кіламетраў і пасля ісці гразкаю восеньскай дарогаю яшчэ некалькі кіламетраў у вёску да школы, настаўніца якой дазволіла мне эксперыментаваць у яе першым класе. Пасля, калі я перайшоў з рэдакцыі ў Інстытут педагогікі, з эксперыментальнай працай стала лягчэй. Не трэба было самому дамаўляцца з настаўнікамі. Была вызначана спецыяльна эксперыментальная школа. Але таксама за дзясяткі кіламетраў, куды трэба было дабірацца цягніком…

*— Спадар Анатоль, калі я не памыляюся, Вы яшчэ з’яўляецеся складальнікам рускага і польскага буквароў для беларускіх дзетак?*

— На напісанне рускага буквара скіравалі мяне настаўнікі і бацькі, якія пастаянна скардзіліся на складанасць тагачаснага падручніка. Для мяне важна было ўлічыць, што гэты рускамоўны буквар

ствараецца для беларускіх дзяцей. Таму яны павінны пазнаёміцца не толькі, напрыклад, з Пушкіным і Талстым, але і са Скарынам, Янкам Купалам, Якубам Коласам, з вядомымі мясцінамі Беларусі, з нашымі народнымі святамі і г. д.

А вось польскі буквар я ўвогуле не намерваўся складаць. Але супрацоўнік Міністэрства асветы, які ў свой час мусіў працаваць над гэтым падручнікам, адмовіўся. А я да гэтага выдаў у 1992 годзе 300-старонкавы «Беларуска-польскі размоўнік», і таму папрасілі мяне. Да гэтай задачы я паставіўся сур'ёзна і адказна: пазнаёміўся з вялікай колькасцю новых польскіх буквароў, з падшыўкамі дзіцячых часопісаў «Płomyk», «Płomyczek», «Miś». І, вядома, ганаровае месца ў маім польскім буквары занялі ўраджэнцы Беларусі Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Тадэвуш Касцюшка. І ў той жа час мне хацелася, каб малы паляк адчуваў сябе ў Беларусі паўнапраўным грамадзянінам нашай краіны, таму і ў гэты падручнік уключыў тэксты пра Францыска Скарыну, Янку Купалу, Якуба Коласа… Дарэчы, да тэксту Янкі Купалы далучыў яго верш «Вясна», які паэт напісаў па-польску. Даводзілася адшукваць цікавае, адметнае з нашага беларуска-польскага пабрацімства. Я тут згадаў пра Тадэвуша Касцюшку. Памятаю, неяк адзін наш вядомы кінадакументаліст, робячы фільм пра яго, ездзіў у Швейцарыю, а пасля хваліўся фактам, прывезеным адтуль. Пасля смерці Тадэвуша Касцюшкі набыўца яго каня быў вельмі здзіўлены, прыязджаючы ў горад: конь спыняўся перад кожным жабраком. Набыўца не ведаў, што Касцюшка, выязджаючы ў горад, заўсёды браў з сабой мяшочак з грашыма. І раздаваў тым, хто не мог ужо зарабляць на пражыццё.

А гэтаму кінадакументалісту і не трэба было ехаць па гэты факт у Швейцарыю. Яшчэ за сем гадоў да яго паездкі ён мог уведаць гэта з майго польскага буквара. Між іншым, гэтую згадку пра Касцюшку я падмацаваў у буквары выслоўем Яна Паўла II: «Bogatym nie jest, kto posiada, lecz ten, kto daje, kto potrafi dawać», — дзеля духоўнага ўзгадавання нашага маладога пакалення.

*— Ведаю, што ў 2004 годзе у Франкфурце-на-Майне Ваш польскі буквар быў адзначаны як лепшы падручнік 2003 года. Спадар Анатоль, акрамя буквароў Вы яшчэ напісалі і выдалі шмат казак, языкаломак, загадак. Усё гэта — каштоўныя дадаткі да буквара…*

— У канцы 2010 года выдавецтва «Народная асвета» выдала ў маёй апрацоўцы зборнік казак «Расказваў неяк Міхалка з Данеяк. Беларускія народныя казкі», а ў 2011 — перавыдала. Гэта сапраўды казкі, пачутыя мною ад майго дзядулі Міхалкі.

Зіма. Паліцца печка. Мы сядзім з дзедам. Кот ляжыць на яго каленях. Катова поўсць ад раскрытых дзверак печкі нагрэта так, што не дакрануцца, здаецца, апячэш рукі. А кату гэтая гарачыня падабаецца. У хаце паўзмрок — самы час казак… Мне цяпер нават здаецца, што ў сонечны летні дзень казкі не расказваюцца…

Летась у тым жа выдавецтве выйшлі «Прыгаршчы языкаломак». Мне не падабаюцца словы-запазычанні — «скарагаворка» або «хуткамоўка». Калі ёсць галаваломка, то чаму не быць языкаломцы? Бо тут языку ёсць работа ды работа: «У бабра торба дабра. Добра бабру: у бабра торба дабра». Або: «Далі Даню дома дыню». Ці: «Колькі вішняў Насця можа з'есці нашча?». Звычайна да языкаломак нашы паэты звяртаюцца як бы мімаходзь, побач з іншымі жанрамі. А мне парупіла падрыхтаваць асобны зборнічак на ўсе гукі беларускай мовы, каб праз іх дзіця адчувала смак роднага слова…

Сёлета якраз перад самым пачаткам навучальнага года ў прыватным выдавецтве «Асар» выйшла другое выданне майго ілюстраванага слоўніка беларускай мовы для пачатковай школы. Гэта амаль як буквар, дзе ёсць дзіцяці нагода пабыць у самых розных абставінах: дома, на пошце, ва ўніверсаме, у лясах, палях, лугах, у самыя розныя поры года, у будзённыя і ў розныя беларускія святы і ўдосталь наталіцца беларушчынай, дзе скажам, тыя ж птушкі спяваць па-беларуску: салавей цёхкае, бусел клякоча, верабей чылікае, жураўель курлыкае, шпак свішча, сініца цінькае…

Літаральна днямі для выдавецтва «Народная асвета» падрыхтаваў я зборнік сваіх літаратурных загадак «1000 арэшкаў». Ён маецца выйсці ў 2013 годзе.

*— Мне здаецца, спадар Анатоль, што наша літаратурная загадка апошнім часам неяк паблякла. Ці не так?*

— Таму што існуе падсвядомае жаданне («Каб хаця ж адгадалі»), якое стрымлівае адвагу яе ўяўлення, парадаксальнасць, інтэлектуальны спрыт, прыхаваную двухзначнасць, хітраватасць. Неяк мне нават напісалася і пародыя на адгадлівыя загадкі:

Што мы на галаву надзяём,
Калі ўзімку на двор ідзём?

Паспрабуй ухітрыцца не адгадаць! І як не ўспомніць тут вялікага педагога К. Д. Ушынскага, які казаў, што не самае галоўнае, каб дзіця адгадала загадку. Часам можна нават і падказаць яму. Але вельмі важна, каб вучань умеў прыкласці адгадку да загадкі, патлумачыць, чаму гэтая загадка мае тую ці іншую адгадку.

*— Можа, прывялі б тут некалькі сваіх загадак?*

— Калі ласка!

* * *

Вось вам быль-небыліца:
У пяці чалавек — адна паясніца.

*(Пальцы рукі)*

* * *

Дзе такое водзіцца?
Нарадзіўся ад маці,
Якая сама ад яго народзіцца.

*(Лёд і вада)*

* * *

Вось праява: ну і ну!
Кульгавая дарога палезла на сцяну.

*(Лесвіца, драбіны)*

* * *

Не спяшайся з адказам,
Разваж спакваля:
Калі Кастусь Каліноўскі
Абараняў караля?

*(Калі гуляў у шахматы)*

*— Спадар Анатоль, наша гутарка будзе няпоўнай, калі я ў Вас не запытаю і пра Вашу перакладчыцкую дзейнасць. Над чым працуеце? Што хвалюе ў гэтым плане?*

— Нядаўна скончыў пераклад са старагрэчаскай мовы на беларускую Новага Запавету (Евангелля). Такія творы трэба перакладаць толькі з арыгінала. Няхай узрастае ўсё большае разуменне намі Вялікай Кнігі ўсіх часоў, Кнігі на штодзень усіх хрысціян безадносна да розных канфесій, якую чытаюць і атэісты, каб зразумець эпахальнае шэсце Хрыстовага вучэння.

Як ні паважай удзельнікаў Біблейнай камісіі Беларускай праваслаўнай царквы, але працуюць яны надзвычай марудна. Два дзясяткі гадоў працы, а перакладзена ўсяго крыху больш за палову Евангелля. Ды і плён працы не той. І мне баліць, ды, здаецца, не толькі мне, а самой сённяшняй нашай мове: *Іісус, блажэнны, благадаць, знаменне, Вучыцель, Уцяшацель, стада, абіцель* і г. д. Яшчэ за паўстагоддзя да Францыска Скарыны ў нас пісалі *Ісус*. Так пісаў Скарына, так пісалі пасля яго, напрыклад вядомы дзеяч праваслаўя Філіповіч, так жыло і жыве гэтае імя ў нашых народных песнях і казках. І раптам — адкінуць пяцісотгадовую традыцыю! Між тым і ўкраінцы пішуць: *Ісус*. А дзе ў Нагорнай пропаведзі нашы перакладчыкі ставяць няўцямнае прыхаджанам «блажэнныя», у грэчаскім тэксце стаіць так зразумелае — *«шчаслівыя»*. І блага, кепска думаць, што ў мове 10-мільённага беларускага народа няма свайго адпаведніка да «благадаці». Гэта *«Боская ласка», «Ласка Божая»* — як пададзена ў «Русско-белорусском словаре» пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі (1953) і ва ўсіх выданнях і перавыданнях падобнага слоўніка. Дарэчы, і ў іншых славянскіх мовах, дзе слова «ласка» ўжываецца ў тых жа значэннях, як у беларускай, адпаведнікам «благодати» з’яўляецца «ласка», напрыклад у польскай.

Навошта ўжываць пры перакладзе *распяць* (бо распяць можна і бялізну!), калі ў нашай мове, на шчасце, ёсць *укрыжаваць*, гэтак жа, як у грэчаскай мове суадносяцца адпаведны дзеяслоў і назоўнік *крыж*. Або сама грэчаская мова сваім словам «тронас» падказвае беларускі адпаведнік *«трон»*, а яны перакладаюць па-руску «прастол». Перакладчыкі зусім не адрозніваюць кашы ад кошыкаў, магілу ад магільні. І як гэта разумець «дзверы магілы». Або замест

«кашалёк» ужываюць «мяшок». І ніяк не могуць абысціся без рускіх гукаспалучэнняў *узл, бл* у слове *ўлюбёны*.

Яшчэ ў «Слоўніку беларускай гаворкі» І. І. Насовіча (1870) задоўга да Янкі Купалы, Якуба Коласа стаіць *улюбёны* і рускі адпаведнік *возлюбленный*. *Улюбёны* не прыдуманае апошнім часам слова, дык чаму ж ім не карыстацца, а не чуць на кожнае хрысціянскае свята амаль непрыстойныя для беларускага вуха гукаспалучэнні?..

Я мог бы прыводзіць тут прыклады яшчэ і яшчэ. Наша мова багатая і распрацаваная… Дык давайце ўсе разам берагчы яе. Няхай нам усім дапаможа Бог!

*2012*

## АЛЕСЬ СЯРОЖКІН: «ДАБРАБЫТ І КУЛЬТУРА НАЦЫІ ВЫЗНАЧАЮЦЦА КОЛЬКАСЦЮ КАЛЕКЦЫЯНЕРАЎ»

На Беларусі калекцыяніраванне пачалося ў XII–XIV стагоддзях у канфесійных установах Полацка, Турава, Віцебска і ў іншых гарадах і мястэчках. Нашы далёкія продкі ўжо тады ў культурна-асветных асяродках збіралі рукапісныя кнігі, дакументы, абразы, царкоўнае ўбранне, рытуальны посуд. А прыватнае калекцыяніраванне ўзнікла на Беларусі дзесьці ў XVI стагоддзі ў асяроддзі адукаваных магнатаў, а з пашырэннем сувязей з Заходняй Еўропай — сярод іншых саслоўяў. Найбольшыя калекцыі ў XVI–XVIII стагоддзях захоўваліся ў Нясвіжы, Шчорсах на Навагрудчыне, Вішаве на Валожыншчыне і ў іншых рэгіёнах нашай Бацькаўшчыны. Гэта былі калекцыі кніг, мапаў, малюнкаў, карцін, ювелірных вырабаў, манет, зброі. У XIX стагоддзі ўвага калекцыянераў была накіравана на збіранне помнікаў айчыннай даўніны і мясцовых аб'ектаў прыроды. Вялікімі калекцыянерамі былі Тышкевічы, Чапскія, Пуслоўскія, Румянцавы, Слізні, Масальскія, Юндзілы.

Сёння ў Беларусі калекцыяніраваннем займаюцца тысячы беларусаў. Яны калекцыяніруюць паштовыя маркі, канверты, паштоўкі, кнігі, латарэйныя білеты, манеты, медалі, боны, творы беларускага выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, беларускае адзенне, вырабы ткацтва і г. д. З адным з калекцыянераў,

аршанскім збіральнікам «беларусцікі», адным з заснавальнікаў газеты «Беларускі калекцыянер», будаўніком-рэстаўратарам Алесем Сярожкіным я сустрэўся ў Оршы. За кубкам гарбаткі мы распачалі нашу гутарку пра калекцыяніраванне на Беларусі, пра лёс выдання «Беларускага калекцыянера» і, наогул, пра тое, што сёння ў нас мае навуковае, гістарычнае, мастацкае і пазнавальнае значэнне.

*— Спадар Алесь, давайце прыгадаем час 22-гадовай даўніны, калі на Беларусі ўпершыню пачала выдавацца газета для калекцыянераў і для тых, хто цікавіцца даўнінай, — «Беларускі калекцыянер». Як гэта вы ў Оршы надумаліся тады выдаваць такую неабходную нам і цікавую газету?*

— Найперш трэба нагадаць аб тым, што ў той час у Беларусі існавала Канфедэрацыя беларускіх суполак, у якую ўваходзіў і аршанскі клуб «Повязь». Старшынёй гэтага клуба быў я. Дык вось, канфедэрацыя выдавала сваю газету пад назвай «Супольнасць». Атрымаўшы 4 нумары гэтага выдання, я вельмі ўпадабаў змешчаныя там выявы розных беларускіх пячатак. І менавіта тады, у 1989 годзе, упершыню ўзнікла думка пра неабходнасць выдання для беларускіх калекцыянераў. Але апошняй кропкай, якая падштурхнула працу па выданню «Беларускага калекцыянера», была радыёперадача Язэпа Барэйкі «425-я ўгодкі беларускай пошты», што прагучала па «Свабодзе» напачатку 1990 года. Яна мне так спадабалася, што я яе запісаў на магнітафонную стужку, а потым са стужкі перапісаў у сшытак. Гэта ўжо быў фактычна матэрыял, з якога можна было пачынаць выданне для беларускіх калекцыянераў. Сваёй думкай пра выданне газеты «Беларускі калекцыянер» я падзяліўся з Уладзімірам Цярохіным — даследчыкам беларускага калекцыяніравання. Ён шчыра падтрымаў ідэю і параіў звярнуцца ў Аршанскую друкарню. Тагачасны дырэктар друкарні Рышард Лясота, да якога я трапіў на прыём, вельмі падрабязна мне ўсё растлумачыў, што трэба зрабіць мне з майго боку, каб выйшаў першы нумар «Беларускага калекцыянера». Больш таго, ён асабіста пазнаёміў мяне з супрацоўнікамі аршанскай раёнкі. Адзін з яе супрацоўнікаў — Мікола Дземідовіч узяў на сябе асноўную працу па вёрстцы і вычытцы матэрыялаў для газеты. Потым я купіў у аршанскай краме «Канцтавары» 32 кг «пісчай паперы», бо так

мы дамовіліся наконт майго разліку з друкарняй, і ў лістападзе 1990 года свет пабачыў першы нумар «Беларускага калекцыянера».

*— Колькі ўсяго выйшла нумароў газеты? Ці карысталася яна попытам?*

— Газету адразу заўважылі не толькі ў Беларусі, але і калекцыянеры з іншых краін Еўропы. Ад чытачоў пачалі прыходзіць лісты. Дарэчы, яны і сёння прыходзяць. Пасля выхаду першых нумароў «Беларускага калекцыянера» адразу адгукнуліся беларусы замежжа. Напрыклад, калекцыянер з Чыкага Багдан Павук даслаў выяву маркі Слуцкага паўстання, якую на той час мала хто бачыў у Беларусі. Пісалі пісьмы нам калекцыянеры з Прыбалтыйскіх рэспублік, Польшчы, Украіны, Германіі, Расіі. Дзякавалі за выданне газеты і прасілі дасылаць ім наступныя нумары, яны ж у сваю чаргу прысылалі ў газету і цікавыя, арыгінальныя матэрыялы, інфармацыю. А з Беларусі калекцыянеры нас проста завальвалі пісьмамі. Як бачыце, выданне вельмі карысталася попытам. Смаленскія калекцыянеры заўсёды бралі на рэалізацыю 20–30 асобнікаў. Дарэчы, усяго выйшла з друку 24 нумары. Быў падрыхтаваны да друку і 25-ы нумар, але так ён і не з’явіўся з-за недахопу фінансаў. Першыя нумары «Беларускага калекцыянера» выдаваліся накладам 990 асобнікаў. Распаўсюджвалася газета праз «Белсаюздрук», ТБМ, праз сядзібу БНФ, была на яе і падпіска. Пазней, калі змяніліся палітычныя ўмовы, газета выдавалася накладам 299 экзэмпляраў.

*— Значыць, такое выданне абавязкова павінна ў нас быць?*

— Гэта так. І калі раптам з’явіцца такая мажлівасць, то, безумоўна, трэба ўжо выдаваць не газету, а часопіс. Толькі мы ў Беларусі не маем свайго выдання для калекцыянераў. Бо на выданне няма сродкаў. Мы апошнія нумары газеты тады выдавалі, дзякуючы падтрымцы аршанскай незалежнай газеты «Куцейна», якая ўжо не існуе, а таксама дзякуючы фонду імя Філона Кміты, які ўзначальваў Віктар Андрэеў.

*— Аб чым тады пісаў «Беларускі калекцыянер»?*

— У асноўным газета асвятляла традыцыйныя кірункі калекцыяніравання: філатэлія, нумізматыка, фалерыстыка, баністыка, філуменія. Але яе старонкі былі адкрытыя і для іншых аматараў

калекцыяніравання. Вядома ж, асноўным прыярытэтам з’яўлялася беларуская тэматыка.

*— Спадар Алесь, няўжо мы адзіныя не маем для шматтысячных беларускіх калекцыянераў свайго выдання? А ці ёсць падобныя выданні ў нашых суседзяў? І якія гэта выданні?*

— Так, выданні для калекцыянераў у нашых суседзяў ёсць, і іх вельмі многа. У Расіі, напрыклад, кожны рэгіён выдае што-небудзь сваё. У нас, на жаль, няма. Некалькі гадоў таму ў Беларусі вучыўся адзін немец. Яму так спадабалася Беларусь і наша філатэлія, што ён, калі вярнуўся ў Германію, пачаў на нямецкай мове выдаваць там свой прыватны часопіс, цалкам прысвечаны беларускай філатэліі. Часопіс называецца «Belarus-Report». Ён змяшчае на сваіх старонках даволі цікавыя і сур’ёзныя артыкулы пра нашу філатэлію. Але не ўсе беларусы-калекцыянеры пра гэта выданне ведаюць. А тыя, хто ведае, нават дасылаюць туды свае артыкулы, іх там перакладаюць на нямецкую мову і публікуюць. Некалькі нумароў гэтага выдання ёсць і ў мяне.

*— Ведаю я, што для нумізматаў у Беларусі існуе сайт «Скарбонка», ёсць сайты і для тых, хто шукае скарбы. Мне здаецца, Алесь, ты не выдаваў бы «Беларускага калекцыянера», калі б сам не меў дачынення да гэтага захаплення. Што ты калекцыяніруеш?*

— Сам я збіраю беларускія значкі, памятныя медалі і беларускія латарэйныя білеты. Прычым калекцыяніруе значкі, зробленыя з металу, паперы, пластыка, шкла. Адзіная ўмова, каб гэты значок меў дачыненне да Беларусі. Збіраю іх тэматычна: гарады, прадпрыемствы, калгасы, дзяржустановы, войска, міліцыя, навучальныя ўстановы, культурныя фэсты і г. д. Латарэйныя білеты, акрамя ўласна беларускіх, калекцыяніруе тыя, якія выкарыстоўваліся на тэрыторыі Беларусі ў розны час: пад Расійскай імперыяй, СССР, нямецкай акупацыяй, даваеннай Польшчай…

*— Якая ў тваёй калекцыі, напрыклад, ёсць рэдкая беларуская латарэя?*

— Ёсць у мяне латарэйны білет мінскага таварыства «Прыхільнік дзяцей» 1928 года. Гэта была такая рэчавая латарэя, якая разыгрывалася ў дапамогу беспрытульным дзецям.

*— I што маглі тады выйграць беларусы, якія купілі гэту латарэю?*

— Усяго было выпушчана 10 тысяч такіх білетаў па 50 капеек. Тыя, хто купіў латарэю, маглі тады выйграць нікеліраваныя дзіцячыя ложкі, швейныя машыны, веласіпеды, паліто жаночае, гарнітуры мужчынскія, прымусы, штаны мужчынскія, самабрэйкі «Жылет», гадзіннікі, гарнітуры чайныя, галёшы, лодачкі жаночыя, чаравікі мужчынскія, адрэзы мануфактуры, коўдры дзіцячыя, муку пшанічную, радыёпрыёмнікі і нават барэльеф таварыша Калініна.

*— А якія ў цябе ёсць каштоўныя значкі?*

— Для калекцыянера кожная рэч каштоўная. Але часам гэты кошт вызначае сам калекцыянер. Напрыклад, у мяне ёсць сяброўскія значкі беларускіх суполак «Талака» (Мінск), «Узгор'е» (Віцебск) і «Повязь» (Орша). Гэта просценькія значкі, але для мяне яны вельмі каштоўныя. Ды і наклад іх быў мізэрны. Да гэтага часу шукаю значок «Паходні» (Гродна). Ёсць і іншыя значкі, якія выходзілі накладам у 50 і нават 10 асобнікаў. Такія значкі адразу становяцца рэдкімі. Магу пахваліцца і беларускімі значкамі пачатку 1950-х гадоў, якія выпускаліся пры Сталіне.

*— Спадар Алесь, ці падтрымліваеце вы сувязі з іншымі беларускімі калекцыянерамі?*

— Вядома ж. Сувязі з іншымі калекцыянерамі падтрымліваць трэба заўсёды. Без гэтых сувязей немагчыма папаўняць калекцыю і развіваць яе. Дзякуючы калекцыянерам латарэйных квіткоў Міхасю Верацілу з Ваўкавышчыны, Аркадзю Падліпскаму з Віцебска і Уладзіміру Бачкову з Бабруйска я ў апошні час значна папоўніў сваю калекцыю сучасных беларускіх латарэй. У сваю чаргу і яны ад мяне атрымліваюць нешта цікавае.

*— Спадар Алесь, як вы сталі калекцыянерам? I наогул, раскажыце пра сябе.*

— У 15 гадоў, пакідаючы Беларусь на вакзале ў Оршы, купіў на памяць тры значкі: Якуб Колас, Касцюшка і Белавежская пушча. У Ленінградзе, дзе я вучыўся, павесіў іх над ложкам. Разам са мной жылі некалькі землякоў, якія таксама мелі беларускія значкі. Вось такім чынам і пачалася мая калекцыя. Жывучы ў Ленінградзе, я

стаў наведваць клуб калекцыянераў, дзе вельмі здзіўляў расійскіх калекцыянераў, бо, калі яны пыталіся, што калекцыяніную, я адказваў: беларускія значкі і медалі. І калі я вярнуўся дамоў — стаў сур'ёзна займацца фалерыстыкай.

Беларускія латарэі я пачаў збіраць пазней — напачатку 2000 года. Таму ёсць вялікі прабел у гэтай маёй калекцыі. Але я паціху яго запаўняю.

Па спецыяльнасці я — будаўнік. Працаваў брыгадзірам у Аршанскіх рэстаўрацыйных майстэрнях ад самага іх утварэння ў 1987 годзе і да закрыцця ў 1996 годзе. Потым займаўся рэстаўрацыяй розных храмаў у Віцебскай вобласці і ў Расіі. Цяпер працую ў адной аршанскай будаўнічай фірме.

*— Ведаю, што вы цікавіцеся і старадаўняй цэглай і кафляй, нават калекцыяніруеце іх.*

— Такую сваю калекцыю я называю прафесійнай. Справа ў тым, што, працуючы са старадаўняй цэглай, часам трапляеш на цікавыя цагліны з рознымі надпісамі, кляймом, адрасамі. Такія цагліны я пакідаю сабе. У Оршы на месцы былога Успенскага Куцеінскага манастыра часам назіраю за рознымі землянымі работамі. І вось нядаўна знайшоў некалькі фрагментаў геральдычнай кафлі, якія склалі арыгінальны малюнак. Малюнак гэтай кафлі прапаную чытачам «Новага часу».

*— А ці шмат сёння ў Беларусі калекцыянераў?*

— Ёсць такое выказванне: узровень дабрабыту і культуры нацыі вызначаецца колькасцю калекцыянераў сярод чальцоў гэтай нацыі. Мне вядома, што ў Германіі, каля 10 % насельніцтва што-небудзь калекцыяніруюць. Колькі калекцыянераў у Беларусі сёння — цяжка сказаць, але яны ёсць. У маёй Оршы, напрыклад, з насельніцтвам больш за 100 тысяч чалавек набярэцца толькі каля 150 калекцыянераў. Тым не менш, яны ёсць і будуць. Калекцыя беларускай філатэліі, якую сабраў Леў Коласаў з Мінска, мае нацыянальную і дзяржаўную каштоўнасць. У яго калекцыі ёсць унікальныя выданні, якіх няма нават у беларускіх дзяржаўных музеях і архівах. Наогул, беларусы калекцыяніруюць шмат што. З'явіліся сёння нават калекцыянеры, якія збіраюць старыя бутэлькі з надпісамі на шкле. Нядаўна мае

землякі знайшлі бутэльку Аршанскага піўзавода царскіх часоў. Бутэлька вельмі прыгожая і цікавая, захавалася ў добрым стане. Знаходку выставілі ў Інтэрнэт. І хутка масквічы-калекцыянеры за добрыя грошы яе купілі. У нас — не. Бяда ў тым, што шмат дарагіх і каштоўных старых беларускіх рэчаў знікае за межамі Беларусі.

*— У набыцці беларускай даўніны найперш павінна быць зацікаўлена дзяржава. Яна павінна скупляць каштоўнасці нашага народа для архіваў, бібліятэк, музеяў. Дзяржава павінна і дапамагаць нашым калекцыянерам, хаця б выданнем газеты ці часопіса. Так?*

— Па-першае, вельмі хацелася б, каб дзяржаўныя структуры стварылі нацыянальную калекцыю ў поўным аб’ёме нумізматыкі, баністыкі, фларыстыкі, філатэліі, каб калекцыянер мог прыйсці ў Дзяржаўны гістарычны музей і паглядзець усё гэта. Па-другое, з боку дзяржавы, безумоўна, павінна быць дапамога ў выданні часопіса ці газеты для беларускіх калекцыянераў, дапамога ў выданні розных каталогаў і даведнікаў для калекцыянераў. Але пакуль, на жаль, гэтага няма.

*2012*

## ДАСЛЕДЧЫЦА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ 1920–1930-х ГАДОЎ

Застаць дома доктара філалогіі, выкладчыцу кафедры сучасных моваў Універсітэта Паўночнай Аёвы ў горадзе Сідар-Фолс штата Аёва ў ЗША беларуску родам з Гайнаўкі, што на Беласточчыне, Аліцыю Барута-Садкоўскі вельмі цяжка. Нядаўна яна зноў пэўны час адсутнічала, бо была ў Маскве. З Масквы вярнулася дамоў, але зноў яе чакаюць справы выкладчыцкія, справы навукоўцаў-славістаў то ў Еўропе, то ў Канадзе на штогадовым з’ездзе Таварыства Амерыканскіх Славістаў, то ў іншых краінах. І каб пагутарыць хаця б па тэлефоне ці праз Інтэрнэт, нашу зямлячку трэба было шукаць усюды. Так я і рабіў некалькі тыдняў і нават месяцаў, пакуль нарэшце не дачакаўся ад яе весткі. Спадарыня Аліцыя пагадзілася адказаць на мае пытанні і перадала самыя шчырыя прывітанні ўсім беларусам.

*— Спадарыня Аліцыя, раскажыце, калі ласка, дзе і ў якой сям'і Вы нарадзіліся?*

— Я нарадзілася ў Гайнаўцы на Беласточчыне 27 сакавіка 1961 года. Мой бацька быў родам з вёскі Скупава, але, калі ажаніўся, жыў у Гайнаўцы. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр у 1982 годзе. Мама родам з Ласінкі. Яна, дзякаваць Богу, яшчэ жыве ў Гайнаўцы. Мама і тата ў хаце заўсёды размаўлялі на роднай беларускай мове з мясцовым дыялектам. У іх і я навучылася роднай мове, якую берагу ў сэрцы да сённяшніх дзён.

*— Дзе Вы вучыліся, што скончылі?*

— Пачатковую і сярэднюю адукацыю я атрымала ў Гайнаўцы. Скончыла ў Гайнаўцы беларускі ліцэй. Затым паступіла ў Варшаўскі ўніверсітэт на факультэт беларуска-рускай філалогіі, дзе ў 1985 годзе атрымала ступень магістра. Тэмай магістарскай працы з'явіліся польска-беларускія літаратурныя адносіны ў першай палове 1980-х гадоў, што потым паўплывала на тэму маёй доктарскай працы.

*— А які лёс Вас закінуў ажно ў Амерыку?*

— Калі вучылася ў Варшаве, пазнаёмілася са сваім будучым мужам Конрадам. Ён родам з Польшчы, але ўсё жыццё яго бацькі, браты і ён жывуць у ЗША. Таму пасля заканчэння ўніверсітэта я паехала да яго і ў 1987 годзе выйшла замуж. Адсюль у мяне цяпер і два прозвішча: Барута-Садкоўскі. Муж мой — гісторык, выкладае гісторыю Еўропы. У нас растуць два сыны — Бен, яму 17 гадоў, і Карол, яму 15 гадоў.

*— І чым Вы займаліся ў Амерыцы, калі туды прыехалі?*

— У 1988 годзе я паступіла ў Мічыганскі ўніверсітэт у горадзе Ан-Арбор штата Мічыган на кафедру славянскіх моваў і літаратур, дзе ў 1997 годзе атрымала ступень доктара філалогіі.

*— І якая тэма была Вашай доктарскай дысертацыі?*

— Па-беларуску тэма маёй доктарскай дысертацыі гучыць так: «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў 1920–1930-х гадах на падставе гарадскіх варыянтаў Гродна, Вільні і Мінска і ўплыў рускай і польскай моў на гэта развіццё». На англійскай мове гэта тэма гучыць неяк не так доўга, як па-беларуску.

*— Чым Вы займаліся пасля абароны доктарскай дысертацыі?*

— У 1995 годзе я з сям'ёй пераехала ў Аёву, у горад Сідар-Фолс, дзе цяпер працую ва ўніверсітэце Паўночнай Аёвы, вяду заняткі па рускай і польскай мовах, па рускай і польскай літаратурах і агульныя заняткі па гісторыі Расіі, а таксама працягваю свае даследаванні ў галіне беларускай мовы. Часта ўдзельнічаю ў краёвых і замежных канферэнцыях, дзе выступаю з дакладамі пра беларускую літаратурную мову. Прымала ўдзел у Першым і Другім міжнародных кангрэсах у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка і ў Трэцім міжнародным кангрэсе беларусістаў. З'яўляюся членам краёвых і замежных беларусістаў і славістаў. Публікую артыкулы пра развіццё беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гадоў.

*— А ў сваёй сям'і на якой мове Вы размаўляеце?*

— У жыцці мы размаўляем на польскай мове, але мае сыны ведаюць і беларускую мову, хоць не так дасканала, як я, але ж ведаюць. Ды і мне самой цяпер прыходзіцца рэдка размаўляць на сваёй роднай мове, часцей за ўсё падчас беларускіх сустрэч, навуковых канферэнцый і г. д. Але, шчыра скажу, Беларусь і беларусы для мяне вельмі блізкія. Кожны раз, калі пабываю ў Мінску, мне здаецца, сустракаюся з такой цеплынёй, якую чалавек атрымлівае толькі ад самых блізкіх людзей. Уладзімір Васілевіч, мой дарагі сябра, з якім Вы таксама знаёмыя і які калісьці прыязджаў у Сідар Фолс і прачытаў даклад пра беларускую этнаграфію, заўсёды мне дапамагае, калі я ў Мінску.

*— А ці часта бываеце ў Гайнаўцы на Беласточчыне?*

— Амаль кожны год я з мужам прыязджаю ў Кракаў, дзе муж вядзе заняткі па гісторыі, а я выкладаю польскую мову. А летам мы едзем у Гайнаўку да маёй мамы. Вось і сёлета ў чэрвені зноў наведалі маму. Асабліва ў Гайнаўцы любяць бываць мае сыны. А я — тым болей, я ж прыязджаю дадому, дзе чую голас мамы, сваякоў і родную мову.

***2011***

## У КАЛЕКЦЫІ СЛАНІМЧАН — ФРАНЦУЗСКАЯ ЧАРНІЛІЦА, ПРАС ГРАФА ПУСЛОЎСКАГА І БЯЗМЕН ПУШКІНСКАЙ ПАРЫ…

Звычайная трохпакаёвая кватэра ў сланімчан Валерыя Пятровіча і Ніны Міхайлаўны Анішчыкаў даўно ператварылася ў музей старых рэчаў XVIII–XX стагоддзяў. Чаго там толькі няма: і рарытэтныя прасы, і самавары, і званочкі, гадзіннікі, чайнікі, фотаапараты, чарніліцы, керагазы, кнігі… На днях з дазволу гаспадароў гэтай кватэры пабываў ў гасцях у сям'і Анішчыкаў, каб паглядзець калекцыю. Валерый Пятровіч быў на працы, а мяне сустракала сама гаспадыня і заўзяты калекцыянер Ніна Міхайлаўна.

Самае ганаровае месца ў кватэры Анішчыкаў займаюць прасы. Для іх, як і для многіх іншых экспанатаў, слонімскія калекцыянеры зрабілі спецыяльныя паліцы. Але нашу сустрэчу і гутарку мы пачалі не з прасаў. Я запытаўся ў Ніны Анішчык: як узнікла гісторыя іх калекцыяніравання?

— Дзесьці ў 1976 годзе нам прапанавалі купіць партрэт індзейца. І мы за апошнюю савецкую дзясятку яго купілі. Партрэт гэты захоўваецца ў нашай кватэры да сённяшніх дзён. А потым да нас трапіў першы вугальны прас ад бабулі са Свіслацкага раёна. Потым я прывезла прас з Карэліі, пачалі прыносіць прасы сябры, суседзі, сваякі. Так і з'явілася ў нашай кватэры вялікая калекцыя прасаў. Цяпер у нас іх каля 200 штук.

*— Якія прасы ў вашай калекцыі самыя каштоўныя?*

— Для нас яны ўсе каштоўныя. Ёсць у нас прасы лідскія, пінскія, магілёўскія. Магілёўскі ложкавы завод некалі вырабляў і прасы. Раней у каго на вёсцы быў прас — гэта быў багаты чалавек. Гэтыя прасы ставілі на сурвэтку на стол пад абразом. У нашай калекцыі ёсць і бронзавы прас з альбярцінскага палаца Пуслоўскіх. Мы яго купілі гадоў дзесяць таму ў адной бабулі, якая працавала ў маладосці служанкай у Пуслоўскіх. А калі савецкія войскі прыйшлі ў Слонім у 1939 годзе, Пуслоўскія з'ехалі на Захад. А гэты каштоўны прас яны пакінулі служанцы на памяць. Цяпер ён у нашай калекцыі.

*— Побач бачу і алюмініевы прас. А як маглі ім прасаваць бялізну, калі ён пры награванні мог расплавіцца?*

— Вядома, алюмініевым прасам немагчыма прасаваць бялізну. Быў час, калі алюміній нельга было вывозіць за мяжу. Таму выраблялі такія прасы і спакойна перавозілі, як хатнюю неабходную для сям'і рэч.

*— А цяпер раскажыце нам пра вашу калекцыю званочкаў.*

— У нас іх няшмат. Але ёсць. Гучаць усе яны па-рознаму. Прымяняліся часцей за ўсё званочкі ў храмах. Ёсць нават званочкі з завода Васіля Ведзянеева з Ніжагародскай губерні Расіі.

*— Ніна Міхайлаўна, а хто вы па прафесіі?*

— Я скончыла гістарычны факультэт. Больш за 30 гадоў адпрацавала ў Слонімскім медыцынскім вучылішчы, выкладала сацыялогію, філасофію, паліталогію. А муж — інжынер-механік, але, як і я, вельмі любіць гісторыю і старыя рэчы.

*— Кідаюцца ў вочы з вашай калекцыі і розныя старыя падсвечнікі.*

— Я люблю падсвечнікі. Нядаўна наша калекцыя папоўнілася старым падсвечнікам з-пад вёскі Азярніца Слонімскага раёна. Трапіла да нас і срэбная карона 1795 года з-пад вёскі Новадзяляткавічы.

*— Цяпер раскажыце нам пра вашу калекцыю лямпаў, фотаапаратаў, вагаў, тэлефонаў.*

— Лямпы ў нас усе розныя і вельмі простыя. Ёсць у нас лямпы пушкінскай пары, старыя лямпы чыгуначнікаў і шахцёрскія лямпы. І нават адна лямпа партызанская, драўляная. Яе нам прынесла адна бабуля і сказала, што лямпа яшчэ з вайны вісела ў каморцы. Яна там яе знайшла і перадала нам. Ёсць у нас і лямпы «лятучыя мышы» («кажаны»), якія выраблялі ў Савецкім Саюзе, у Кітаі і ў Германіі. Фотаапаратаў мы маем няшмат. Вось фотаапарат 1938 года, ёсць фотаапараты «Москва», «Смена», «Чайка» і іншыя. У калекцыі нашай ёсць англійскія вагі і бязмены. Адзін бязмен 1839 года. А вось гірка вагой 2 фунты для вагаў. Выпушчана яна была ў 1879 годзе. Калекцыя савецкіх тэлефонаў у нас — ваеннага часу. Праўда, ёсць і два амерыканскія тэлефоны 1943 года, упакаваныя ў скураныя чахлы. Калекцыю дапаўняюць медныя кацялкі 1914 года, чайнік 1943 года і г. д. А вось такімі вялікімі падковамі падкоўвалі цяж-

кавагавых бельгійскіх коней — першэронаў. У гады вайны яны цягалі гарматы.

*— Скажыце пару слоў пра калекцыю гадзіннікаў.*

— Найбольш каштоўным з’яўляецца французскі гадзіннік 1905 года. Калі мы жылі з мужам на прыватнай кватэры, гаспадыня рабіла рамонт і хацела гэты гадзіннік выкінуць. Мы яго папрасілі ў яе, і яна нам аддала. Мы гадзіннік адрэстаўравалі, адрамантавалі, і ён працуе.

*— У вашай кватэры нельга абмінуць калекцыю пішучых прыналежнасцяў. Раскажыце трохі пра яе.*

— Іх у мяне шмат: ручак, пёраў, чарніліц. Сярод іх — і чарніліца паходная. Неяк я чытала кнігу пра Барадзіно, там было шмат ілюстрацый, звязаных з падзеямі 1812 года. Сярод ілюстрацый я і ўбачыла чарніліцу, якая ў Напалеона на стале стаяла. Такая ёсць і ў маёй калекцыі. Вядома, гэта чарніліца не Напалеона, але такія былі ў французскіх салдат.

*— Ніна Міхайлаўна, што ў будучым вы плануеце зрабіць са сваёй унікальнай калекцыяй?*

— Мы марым стварыць у Слоніме музей простых старых рэчаў. Але ці збудзецца наша мара — не ведаю. Трэба, каб гэта было зацікаўленне і з боку мясцовай улады, якая нам дапамагла б. Калі гэтага не здарыцца, то мы сваю калекцыю перададзім дзецям і ўнукам у спадчыну. Справа ў тым, што да нас прыходзяць шмат школьнікаў, студэнтаў, каб паглядзець гэтыя старыя рэчы. Ім даволі цікава, асабліва дзецям. Яны не толькі бачаць гэтыя старыя рэчы, але мы ім дазваляем іх патрымаць у руках, добра разгледзець, папісаць старымі ручкамі і абмакнуць іх у чарніліцы, пазваніць званочкамі і патрымаць у руках старыя цяжкія падковы. Гэта моладзі падабаецца, захапляе яе і здзіўляе.

*2010*

## МАЙСТАР ЧОРНАДЫМЛЕНАЙ КЕРАМІКІ, ЯКІ ПІША ВЕРШЫ І СПЯВАЕ ПЕСНІ

Сяргея Худзяева ў вёсцы Галынка Зэльвенскага раёна лічаць сапраўдным народным умельцам, як кажуць, спецыялістам ад Бога, які займаецца керамікай. Ён адзіны на Гродзеншчыне майстар па чорнадымленай кераміцы. За сваё майстэрства і аднаўленне старажытнага рамяства майстар з Галынкі шмат разоў узнагароджваўся дыпломамі і медалямі на розных выставах і фестывалях Беларусі.

Сяргей Худзяеў працуе настаўнікам працоўнага навучання і чарчэння ў вясковых школах суседняга, Слонімскага раёна. Таму застаць дома майстра можна толькі ў выхадныя дні. Але і тады ён не сядзіць без справы, а працуе з глінай. За працай і застаў я дома Сяргея Худзяева, дзе за ганчарным кругам адбылася наша гутарка.

*— Спадар Сяргей, хто навучыў Вас майстэрству чорнадымленай керамікі?*

— Ніхто. Сам навучыўся, бо вельмі хацелася навучыцца таму майстэрству, чым у нас мала хто займаецца. І спыніўся я менавіта на чорнадымленай кераміцы, якою некалі вельмі актыўна займаліся народныя майстры з Ружанаў, Пружанаў. Гэтае рамяства ў свой час мела вялікі поспех у Польшчы. І я самастойна пачаў вывучаць усе друкаваныя матэрыялы, запісваць старых людзей, якія займаліся керамікай, збіраў іншыя звесткі, звязаныя з керамікай. І прыйшоў да высновы, што вырабляць керамічны посуд — гэта не так і складана, галоўнае ўмець рабіць абпал гліністага посуду. Я зрабіў спецыяльную печ для абпальвання. Потым пабудаваў яшчэ адну печ. Не ўсё атрымлівалася спачатку, было шмат браку. Але цяпер навучыўся гліняныя вырабы абпальваць цудоўна, амаль без браку. Перажыўшы апальванне ў агні, посуд накіроўваецца альбо ў спецыяльны адвар, і атрымліваецца прыгожы ўзор, альбо ў дым, калі печ пасля апальвання замазваецца глінай, каб паветра не праходзіла, і амаль суткі вырабы «даходзяць» — у выніку чаго і атрымліваецца чорнадымленая кераміка.

*— Для гэтага патрэбна і добрая гліна…*

— Так. Гліна павінна быць даволі тлустай, як масла. Там, дзе былі старыя цагляныя заводы, гліняныя кар’еры — там добрая гліна, там я яе і бяру. Бывае, што гліну прыходзіцца купляць у іншых рэгіёнах Беларусі.

*— З гліны Вы вырабляеце толькі посуд?*

— Не толькі. Паводле свайго прызначэння кераміка падзяляецца на посуд, на рэчы мастацтва або культу, на будаўнічыя вырабы і г. д. Я займаюся посудам, а ў апошні час спрабую вырабляць і гліняныя цацкі. Дарэчы, гліняныя фігуркі ляпілі яшчэ ў першабытныя часы. Вучоныя-археолагі адкопваюць у старадаўніх курганах фігуркі коней, сабак і іншых свойскіх жывёлін, а таксама бразготкі ў выглядзе пустога шарыка з каменьчыкам усярэдзіне. Страсянеш — бразгаціць. На думку вучоных, свістулькі і бразготкі ўжываліся нашымі далёкімі продкамі не толькі як забаўкі: лічылася, што яны ахоўвалі ад «нячыстай сілы». Свіст нібыта адганяў злых духаў, аберагаў ад іх дзяцей. Таму я вырабляю і керамічныя свістулькі.

*— А ці купляюць сёння людзі керамічныя вырабы?*

— Купляюць, і даволі ахвотна. Купляюць найперш як упрыгожванне на летнікі, у пакоі, дзе стаяць каміны.

*— Спадар Сяргей, раскажыце трохі пра сябе.*

— Нарадзіўся я на Зэльвеншчыне ў вёсцы Пруд. Скончыў Брэсцкі політэхнічны інстытут. Працаваў прарабам, інжынерам, настаўнікам, дырэктарам Зэльвенскага раённага Дома рамёстваў у вёсцы Галынка, дзе цяпер жыву. Зараз працую простым настаўнікам на Слонімшчыне, езджу туды на машыне. Акрамя ўрокаў, вяду ў школах, дзе я працую, ганчарныя гурткі, а таксама гурткі выпілоўвання і выпальвання.

*— Ці з ахвотай наведваюць Вашы гурткі дзеці?*

— Яшчэ ні адзін бацька ці маці не сказалі, што вучу дзяцей абычаму. Ходзяць у гурткі дзеткі з самых розных сем’яў: і з паспяховых, і з праблемных. Хочацца, каб нашы дзеткі адчувалі прыгожае, вучыліся на добрых прыкладах і самі рабілі дабро. Край наш на таленты вельмі багаты, шмат творчых людзей выйшла з Зэльвеншчыны, Слонімшчыны, Дзятлаўшчыны. Дык мо калі і нашы гурткоўцы пра сябе скажуць — тым больш, што сярод іх нямала творчых здольных

асоб. І калі з іх хоць адзін юнак ці дзяўчына захопіцца керамікай у жыцці, то я буду вельмі рады і задаволены.

*— Спадар Сяргей, магчыма, і ў Вас былі продкі, здольныя да мастацтва, да керамікі, да вырабаў з дрэва?*

— Вельмі здольным быў мой дзед па маці Пётр Ульянавіч Іскра. Я памятаю добра яго. Ён быў мясцовым будаўніком. Садзікаў раней у вёсцы не было, таму я часам з дзедам хадзіў у сталярку і глядзеў, што ён робіць. Дзед быў майстар на ўсе рукі. Ён рабіў вазы, розныя з дрэва цацкі дзецям, вучыў і мяне сталяраваць. А бацька мой пісаў вершы, добра спяваў і граў.

*— Ведаю, што і Вы, акрамя керамікі, займаецеся паэзіяй, добра іграеце на гітары, часам выступаеце, як бард. Дый чытаў Вашы вершы ў мясцовым друку, у калектыўных зборніках, у «ЛіМе». Памятаю нават асобныя строфы, якія напісаныя проста са смакам:*

*...У хаце цёпла, дрэмле котка,*
*І водар яблыкаў сухіх.*
*Ад смальнячкоў жывіцай цягне,*
*Сасновым борам, чабарком.*
*На вожаку каўбаска вяне*
*З каляндрай, з кмінам, з часначком!*
*А на стале ў дзяжы пад коўдрай*
*Пірог падходзіць дражджавы.*
*Цялятку маці варыць пойла,*
*Насенняў сыпле ільняных...*
*У печы з салам млее бабка,*
*Капуста з бульбай у чыгуне,*
*Шкварчыць з цыбулькаю аладка,*
*А пах такі, аж слінкі прэ...*

*Цудоўныя радкі. Магчыма, вершаў у Вас назбіралася ўжо на добрую кніжку і пара выдаць іх асобным выданнем?*

— У мяне іншая задумка ёсць. Я хачу напісаць і выдаць кніжку пра гліну, пра кераміку. Гэта будзе не навуковая і даследчая кніга. Даследчыкаў керамікі ў Беларусі шмат. Найбольш вядомы і вопытны даследчык керамікі — наш сябра Яўген Сахута. А гэта будзе кніга пра тое, як я асабіста працую з глінай, займаюся керамікай.

У гэтую кнігу планую ўключыць і свае вершы. І гэта павінна атрымацца такая керамічная-паэтычная кніга. У ёй я кераміку не пакрыўджу і для паэзіі месца знойдзецца.

*2010*

## ВІКТАР ШВЕД: «НІХТО МЯНЕ НЕ ЗДОЛЕЎ ВЫРВАЦЬ З БЕЛАРУСКАГА ГРУНТУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ»

Старэйшы беларускі паэт і перакладчык з Польшчы Віктар Швед 23 сакавіка 2012 года адзначыў 87-годдзе. Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх кніг паэзіі і перакладаў. Быў сузаснавальнікам Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» ў Польшчы, сябра Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выхаваны на традыцыях беларускай класічнай літаратуры, Віктар Швед працягвае іх на Беласточчыне. Сваёй творчай і грамадскай актыўнасцю ён па-ранейшаму ўносіць істотны ўклад у культурныя і літаратурныя сувязі Польшчы і Беларусі.

— *Спадар Віктар, скажыце, калі ласка, што часцей за ўсё з вышыні Вашага ўзросту прыгадваецца ў гэтыя дні, у гэтыя гады?*

— Прыгадваецца мой шлях у літаратуру. Пачаткі майго існавання былі вельмі складаныя. З хворымі на трахому вачыма, вымушаны быў сядзець у цемры дзедавай хаціны са шчыльна завешанымі дзяружкамі малымі акенцамі. І толькі ў чатырохгадовым узросце ўпершыню змог я ўбачыць белы свет, які зачараваў мяне да такой ступені, што не мог я не ўсхваляць гэты чароўны свет. Таму яшчэ ў дашкольным узросце, пасвіўшы з вясковымі жэўжыкамі каровы, паўтараў я па памяці рыфмаваныя куплеты ў мясцовай гаворцы роднай вёскі Мора, што пад Белавежскай пушчай на Беласточчыне, чым здзіўляў сваіх сяброў.

Будучы вучнем пятага класа польскай пачатковай школы ў мястэчку Орля, пачаў я пісаць вершы на польскай мове. Пазнаёмілася з імі настаўніца Галена Ціжэхова і ўпершыню назвала мяне паэтам.

За савецкай уладай, у школьных 1939–1941 гадах, быў я ў мястэчку Орля вучнем беларускай дзесяцігодкі, у якой усе прадметы

выкладаліся на беларускай мове, на якой і стаў я пісаць вершы. Быў накіраваны школай са сшыткам сваіх вершаў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельску-Падляшскім. Пасля вайны паглыбляў я свае моўныя і літаратурныя веды ў беларускіх школах у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, а пазней на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Але калі працаваў рэдактарам у кніжным выдавецтве «Książka i Wiedza» ў Варшаве, я зрэдку друкаваў свае вершы ў сваім перакладзе на польскую мову ў адрыўных календарах, якія тады выдаваліся мільённымі тыражамі. На жаль, да 1956 года не было ў Польшчы магчымасці друкавацца на беларускай мове, тым больш што мы не мелі ў той час аніякіх кантактаў з Беларуссю.

*— Ведаю, што Вы дэбютавалі на старонках беларускага тыднёвіка «Ніва», што выходзіць у Беластоку, ажно ў 1957 годзе. Як гэта адбылося, што і хто Вас натхніў на літаратурную творчасць?*

— Пасля польскай «адлігі», у 1956 годзе, было заўважана польскімі ўладамі існаванне ў Польшчы нацыянальных меншасцей. Актыўна сталі дзейнічаць меншасныя арганізацыі, у іх ліку — Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган — тыднёвік «Ніва» ў Беластоку. Уключыўся я ў арганізацыю беларускага культурнага жыцця, наладзіў кантакты з нашым беларускім тыднёвікам і ў 1957 годзе стаў яго штатным рэдактарам. Нічога тады не было дзіўнага, што на той час прыпадае мой спознены творчы дэбют. Трэба было неяк навярстаць страчаны час. Што я і зрабіў. Таму за гэтыя гады апублікаваў у «Ніве» звыш 2500 сваіх вершаў, сотні артыкулаў і ўспамінаў.

*— Сёння на Беласточчыне Вы самы старэйшы беларускі літаратар. З друку выйшла ў Польшчы і ў Беларусі вельмі шмат Вашых кніг на роднай нашай мове. Ці цяжка пісалася і пішацца беларускаму літаратару ў іншай краіне? Хаця Польшча для Вас была і застаецца Радзімай.*

— У нашым беларускім літаратурным асяроддзі найстарэйшым з'яўляецца былы галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі, я займаю другое месца. Выдаў я дагэтуль 15 паэтычных зборнікаў, пяць з іх — у маім перакладзе на польскую мову. Жыў я і працаваў у Варшаве сорак гадоў, і за гэты перыяд выйшлі з друку толькі тры

мае паэтычныя кніжкі. Ніхто мяне не здолеў вырваць з беларускага грунту на Беласточчыне, так глыбока запусціў я тут свае карані. Таму не дзівота, што, жывучы ў Варшаве, я пастаянна ўслаўляў сваю малую айчыну — Беласточчыну, а варшаўскай тэматыцы прысвяціў невялікую частку сваіх твораў. Каб не адчуваць сябе адзінокім у польскім асяроддзі, працаваў я ў Варшаўскім аддзеле Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Аддзел налічваў каля 300 сяброў, большасць з іх былі студэнты вышэйшых навучальных устаноў Варшавы. Арганізоўвалі мы клубную культурна-асветную працу, праводзілі лекцыйную дзейнасць з беларускай тэматыкай. Наладжвалі аўтарскія сустрэчы з беларускімі і польскімі пісьменнікамі, якія пражывалі ў Варшаве, і пісьменнікамі з Беларусі, якія наведвалі Варшаву. Адбыліся сустрэчы з Максімам Танкам, Пятром Глебкам, Уладзімірам Караткевічам, Адамам Мальдзісам, Алегам Лойкам, а таксама з многімі навуковымі супрацоўнікамі з Беларусі.

У сваім зборніку «Мае айчыны» сцвярджаю, што я надта багаты, маю аж тры айчыны: Польшчу, якая мяне ўзгадавала, адукавала і дала працу, Беларусь, якая мяне натхняе да творчай дзейнасці, і малую айчыну — Беласточчыну, якую я ўслаўляю ў сваіх вершах, якая з'яўляецца маёй калыскай і будзе неўзабаве маім спачынам. Толькі ў пенсійны перыяд я пераехаў на Беласточчыну, але і тут разгарнуў свае крылы, выдаўшы аж дванаццаць сваіх паэтычных кніг!

*— Ведаю, што для дзяцей пісаць не проста. Але Вы заўсёды сваімі творамі радавалі юных чытачоў. Нядаўна я зноў перачытаў Вашы светлыя, арыгінальныя зборнікі для дзяцей «Вясёлка», «Вершы Натальцы», «Смяшынкі». Няўжо і праўда, як пісала Тэрэза Занеўская, Вашы вершы для дзяцей «уваскрашаюць мінулы час маладосці»?*

— Нягледзячы на тое, што меў я ў жыцці надта складанае дзяцінства — люблю вяртацца ў сваіх успамінах у перыяд дзяцінства і маладосці, і вельмі люблю не толькі сваю дачушку Наталку, якой прысвяціў цэлы том вершаў, але таксама ўсіх мілых дзетак, якім адрасаваў шэсць сваіх кніжак. Беручы пад увагу першыя два зборнікі, у якіх знайшліся таксама раздзелы вершаў для дзяцей, магу з упэўненасцю сцвердзіць, што палова маёй паэтычнай творчасці належыць маладому пакаленню. Сотні праведзеных мною ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне аўтарскіх сустрэч — гэта ў

большасці сустрэчы са школьнай моладдзю. Мая паэзія для дзяцей вядомая таксама і ў Беларусі, дзе быў надрукаваны ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1976 годзе ў Мінску мой зборнік для дзяцей «Дружба» з прыгожымі каляровымі малюнкамі неймаверным тыражом — 50 тысяч экзэмпляраў! Надта цешуся, што мае вершы для дзяцей уключаюцца і ў Беларусі ў дзіцячыя анталогіі і падручнікі.

*— Ці часта Вы бываеце на Беларусі? З кім сябруеце, кантактуеце?*

— Да болю патрэбныя мне кантакты з Беларуссю, з яе творчым асяроддзем. Патрэбныя размовы з людзьмі, літаратурныя і культурныя навіны. Першы раз пабываў я ў Мінску ў 1957 годзе, калі вяртаўся з Масквы з Сёмага міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў. Вельмі папулярная ў той час у Беларусі цёця Уладзя, жонка Янкі Купалы, прыняла мяне вельмі сардэчна і пазнаёміла з Купалаўскім музеем у Мінску. Быў я знаёмы з таленавітымі беларускімі пісьменнікамі, якія ўжо адышлі ў вечнасць: Ларысай Геніюш, Канстанцыяй Буйло, Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Пятром Глебкам, Пілiпам Пестраком, Алесем Адамовічам, Янкам Брылём, Алегам Лойкам, Аляксеем Карпюком, Барысам Сачанкам і Аляксеем Гардзіцкім. Вельмі добра ўспрымаю кантакты з Вольгай Іпатавай, Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Васілём Зуёнкам, Уладзімірам Казберуком, Уладзімірам Някляевым, Янкам Саламевічам, Сяргеем Панізьнікам, Іванам Пташнікавым, Сяргеем Законнікавым, Анатолем Вярцінскім. У сардэчных адносінах знаходзіўся з выхадцам з Беласточчыны Яўгенам Міклашэўскім, які быў рэдактарам трох маіх зборнікаў. Адам Мальдзіс напісаў сцэнарый да тэлефільма аб маёй творчасці, апрацаванага Мінскім тэлебачаннем у 1990 годзе. Знаёмы я таксама з многімі пісьменнікамі суседняга Гродна. Паэт Юрка Голуб апублікаваў інтэрв'ю са мною на старонках «Гродзенскай праўды», Марыя Шаўчонак апрацавала тэлефільм з нагоды майго сямідзесяцігоддзя і прысвяціла мне верш. Цешуся, што ў апошнія гады бываю ў Беларусі даволі частым госцем.

*— На Вашу думку, у якім сёння стане знаходзіцца беларуская творчая плынь у Польшчы?*

— Наша творчая арганізацыя — Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» ў Польшчы — адсвяткавала ўжо пяцідзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. Актуальна дзейсных літаратараў у арганізацыі дваццаць асоб, якія маюць свае ўласныя кнігі. З друку выйшлі дагэтуль звыш 200 кніжак, 7 альманахаў і 12 гадавікоў «Тэрмапілаў». Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» — гэта адзіная па-за межамі Беларусі творчая арганізацыя са знакам шматгадовай нацыянальнай духоўнай культуры. Сучасная Польшча з'яўляецца краінай дзвюх літаратур: польскай і беларускай. Таму беларуская літаратура Польшчы належыць як польскаму, так і беларускаму кантэксту. Польскія літаратурныя крытыкі сцвярджаюць, што «Белавежа» з'яўляецца найстарэйшай і з найбольшымі творчымі дасягненнямі літаратурнай групай у краіне.

*— Што чытаеце? Якія кнігі і творы хочацца чытаць і перачытваць?*

— Нягледзячы на слабыя вочы, прачытаў я ў жыцці вельмі многа кніг з мастацкай літаратуры. Будучы студэнтам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, прачытаў я ўсе беларускія кніжкі, якія знаходзіліся ў бібліятэцы Варшаўскага аддзела БГКТ, і ў арыгінале асноўную рускую класіку. Знаёмлюся з сучаснай польскай мастацкай літаратурай, асабліва з паэзіяй, якую выбарачна перакладаю на беларускую мову. Вельмі шкадую, што апошнім часам малавата атрымліваю літаратурных навінак з Беларусі.

*— Неяк нетактоўна ў 87-гадовага чалавека пытацца пра яго мару. Тым не менш я веру, што Вы сустрэнеце і новыя юбілеі, таму смела пытаюся ў Вас: ці ёсць у беларускага паэта з Польшчы мара?*

— Пачаў я ўжо пакрысе падсумоўвацца ў сваё 87-годдзе. Нягледзячы на свае пажылыя гады, маю я яшчэ, аднак, мару. Хочацца напісаць крыху новых вершаў, бо сапраўды ёсць аб чым пісаць. Мару яшчэ працягнуць завершаныя на нашай польскай «адлізе» ўспаміны з даволі доўгага і скамплікаванага, аднак, цікавага жыцця, бо ніхто гэтага за мяне не зробіць.

*— Вы шмат пражылі і на сваім жыцці, відаць, сустракаліся з таленавітымі людзьмі. Згадайце іх.*

— Сапраўды, сустракаўся я ў сваім жыцці з цікавымі і таленавітымі беларусамі. Прывозіў я з чэхаславацкай Прагі на гастролі

на Беласточчыну славутага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага. Ездзіў у Вільню да вядомага беларускага мастака Пятра Сергіевіча і апублікаваў у тыднёвіку «Ніва» ў Беластоку вялікую працу аб яго карцінах. Знаходзячыся ў Маскве, адведаў я таленавітую паэтэсу Канстанцыю Буйла, з якою запісаў размову для «Нівы». Падпісала яна мне свой паэтычны зборнік «Май» з прысвячэннем: «Віктару Мікітавічу Шведу на добры ўспамін. Масква, 10 студзеня 1984 г.». Цешуся, што яшчэ ўбачыўся з паэтэсай перад яе адыходам у вечнасць. Хачу прыгадаць, што яе верш «Люблю наш край» стаўся беларусам Беласточчыны народным гімнам, які спяваецца на ўсіх нашых культурных урачыстасцях. Пазнаёміўся я таксама з вядомым беларускім пісьменнікам Васілём Быкавым, які знаходзіўся ў складзе беларускай урадавай дэлегацыі, якая наведала Беласток у 1993 годзе. Паразмаўлялі мы сардэчна, і я падпісаў пісьменніку свой паэтычны зборнік «Родны схоў». І сотні іншых беларусаў магу прыгадаць.

*— І, нарэшце, традыцыйнае пытанне: што на рабочым стале ў паэта Віктара Шведа?*

— Выйшаў з друку чарговы зборнік вершаў, можа ўжо апошні. Памяняў я загаловак зборніка, таму што агарнуў мяне сум. Знікае ў маёй вёсцы Мора на Беласточчыне род Шведаў. Адышлі ў вечнасць мае бацькі, сястра Ніна і брат Пётр. Застаўся толькі я — як апошні з магікан. У зборніку многа вершаў аб тым, што мінула. Таму і выбраў я сімвалічны яго загаловак — «Адплываем з Мора».

***2012***

## ВІТАЛЬ СКАЛАБАН:
## «МЫ НЕ ТАКІЯ БЕДНЫЯ, ЯК НАМ ЧАСАМ ХОЧАЦЦА»

Гэта інтэрв'ю я зрабіў з беларускім архівістам, гісторыкам і літаратарам Віталем Скалабанам напярэдадні яго 60-годдзя — у жніўні 2007 года. А праз чатыры гады яго не стала.

— *Віталь Уладзіміравіч, раскажыце нашым чытачам трохі пра сябе.*

— Нарадзіўся я 5 жніўня 1947 года ў вёсцы Шылавічы Слонімскага раёна. Скончыў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт. Працаваў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя», намеснікам дырэктара, і саветнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, намеснікам дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. А з 2002 года працую ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь загадчыкам аддзела публікацый і дакументаў.

— *А што вам памятаецца з таго часу, калі Вы жылі на Слонімшчыне?*

— У Шылавічах мой бацька-франтавік працаваў настаўнікам і дырэктарам мясцовай сямігодкі. Жылі ў школе. Маці працавала ў Жыровічах у сельскагаспадарчай школе. Аднойчы яна, калі была цяжарная мною, пераходзіла Шчару і праваліся ў палонку. Так што я быў яшчэ ахрышчаны Шчараю да свайго нараджэння. Добра памятаецца школа ў Шылавічах. Туды часта прывозілі са Слоніма паказваць кіно. Гэта для нас была самая вялікая радасць і падзея. У 1951 годзе маці перавялі працаваць у Ляхавічы, куды мы ўсёй сям'ёй пераехалі. Але школа ў Шылавічах, Шчара, кіно памятаюцца да сённяшніх дзён.

— *Мусіць, адсюль і пачалося Ваша знаёмства з беларускім кінематографам?*

— Можа, і так. Бо я ж, як ты ведаеш, Сяргей, з'яўляюся сааўтарам сцэнарыяў дакументальна-мастацкіх фільмаў пра Цішку Гартнага, Усевалада Ігнатоўскага, Янку Купалу і іншых беларускіх дзеячаў.

— *І п'есы добрыя пішаце.*

— Спадзяюся, што п'есу «Людвіка і Фабіян», якую я напісаў разам з Людмілай Рублеўскай, паставіць калі-небудзь на маёй маленькай радзіме — Слонімскі драматычны тэатр.

*— Віталь Уладзіміравіч, кожны з нас ведае, што Вы шмат зрабілі і для нашых гістарычнай і філалагічнай навук. Вы даследуеце гісторыю беларускага нацыянальнага руху, культуры XIX — пачатку XX стагоддзя, пытанні архівазнаўства, краязнаўства і бібліяграфіі. Калі мы ўсе Вашы цікавыя матэрыялы ўбачым пад адной вокладкай?*

— Зрабі мне за гэта вымову. Тым не менш шмат выйшла і выходзіць з друку тое, што я рыхтую як складальнік.

*— Імя аўтара паэмы «Тараса на Парнасе», якая вывучаецца ў школе, доўгі час лічылася невядомым. Некалькі гадоў назад Вы даказалі, што гэту паэму напісаў Канстанцін Вераніцын.*

— Яшчэ ў 1986 годзе мне ўдалося знайсці копію рукапісаў Рэпінскага, дзе было пазначана аўтарства «Тараса на Парнасе», і з яе дапамогай вызначыць імя аўтара паэмы. Сёння нават у школьных падручніках ужо не гаворыцца, што «Тарас на Парнасе» — твор ананімны. Яшчэ больш, вядомыя дата і месца напісання паэмы: 15 красавіка 1855 года, мястэчка Гарадок. Сёлета паэме спаўняецца 152 гады. І яшчэ знойдзена паэма Вераніцына «Два д'яўлы» (пазначана 7 красавіка 1860, Масква). Мова і рэаліі сведчаць пра несумненную сувязь «Двух д'яўлаў» з Віцебскам і прыналежнасць абедзвюх паэм аднаму аўтару Канстанціну Вераніцыну. Знойдзена і апублікавана драматычная паэма Гераніма Марцінкевіча «Адвячорак». Таму дзіўлюся, чаму «Адвячорак» да гэтага часу ніхто не паставіў на сцэне. Выдатная рэч.

*— 2007 год для нас, беларусаў, — гэта год Купалы і Коласа. Што цікавае знойдзена пра іх у архівах?*

— Я падрыхтаваў кніжку «Купала і Колас, вы нас гадавалі» (кніга ўжо выйшла з друку. — *С. Ч.*). Сюды ўвайшлі новыя, раней не вядомыя дакументы пра нашых песняроў з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, а таксама з іншых сховішчаў. Гэта будзе сенсацыйнае выданне.

*— Да сённяшніх дзён так і не выйшла энцыклапедыя «Якуб Колас», хаця мы даўно маем энцыклапедыю «Янка Купала». Чаму так?*

— Ой, не сып мне соль на рану. Коласаўская энцыклапедыя будзе вельмі вялікая. Але праца над ёй вядзецца. Таму я мару, што і коласаўская энцыклапедыя некалі ўсё ж пабачаць свет. Шчыра скажу, у нас за што ні вазьміся — яшчэ шмат чаго не зроблена, не напісана.

*— Мы, беларусы, шчаслівы народ, бо ў нас працы па гісторыі, літаратуры, культуры хопіць яшчэ на тысячу гадоў.*

— Не кажы! Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што ў нас загінулі архівы, бібліятэкі, каштоўныя дакументы і г. д. Ды не. Мы не такія бедныя, як нам часам хочацца. У нас у Беларусі даволі багатыя архівы. І беларускіх збораў вельмі шмат па-за межамі Беларусі ў многіх краінах свету. Трэба не спаць, а шукаць гэтыя дакументы і вяртаць іх на Бацькаўшчыну.

***2007***

# ПРА КНІГІ

## ЦЭП І СЕРП АЛЕСЯ БАРСКАГА

Што такое серп — ведаюць усе. З дзяцінства памятаю вершаваны радок: серп і молат — смерць і голад. Пачуў я гэтую рыфмоўку ад старэйшых вяскоўцаў, але чаму яны так казалі — не разумеў, толькі бачыў гэтыя серп і молат на сцягах Савецкага Саюза. А вось як людзі ў вёсцы працавалі цэпам, я ўжо не застаў, але яго бачыў. Ды і цяпер у старой бацькоўскай хаце ў вёсцы захоўваюцца два цапы. Для тых, хто не ведае, што такое цэп, патлумачу, што гэта ручная прылада для малацьбы збожжа. Яна складаецца з доўгага драўлянага дзяржання — цапільна, да якога гужыкам і прывязкамі прымацоўваецца біч. Ды што гэта я пра цэп і пра серп? У Алеся Барскага «Аб цэпе і сярпе» ёсць цэлы раздзел у новай яго кнізе «Выбраныя творы», што нядаўна пабачыла свет у Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор» у вядомай серыі «Беларускі кнігазбор», заснаванай у Беларусі яшчэ ў 1996 годзе: «Напэўна, старэйшыя дасканала памятаюць малацьбу цэпам зімою. Дваццаціградусны мароз, дзьме ў клуню вострым снегам шалёны вецер. Пад дзвярыма кладзеш некалькі кулёў, каб паўстрымаць гэтых шаленцаў, але яны знаходзяць сотні дзірак і шчылін, каб уварвацца на ток і залезці пад тваю мізэрную ватовачку. Адзіны ратунак — варушыцца ды моцна лупіць цэпам. Ну і лупілі ад раніцы да вечара. Лічыш снапы, а іх усё многа і многа, абмалочаных жа мала і мала. Калі, аднак, пасля такой катаржнай работы прыходзіў чалавек дахаты і клаўся спаць, тады, каб заснуць, не трэба было ніякіх параных макавак. Засынаў ён за некалькі дзясяткаў секунд. Цяпер у мяне ў варшаўскай кватэры стаіць мой галоўны вораг і галоўны эксплуататар — бацькоўскі цэп… Вісіць у мяне таксама і матчын серп…».

Так пачынаецца другі раздзел «Выбраных твораў» Алеся Барскага, які мае назоў «З пабачанага і пераражытага». А першы раздзел кнігі — паэтычны. Ён амаль цалкам прысвечаны Беластоцкаму

краю і землякам. Але гэта не просценькія вершы-рыфмоўкі, лёгкія для чытання і настальгічныя аб тым, што было і што ўсё прайшло. Гэта арыгінальныя і шчырыя знаходкі, якія розняцца паэтычным настроем, рытмікай, мелодыкай, тэматыкай. Галоўны герой гэтых вершаў — асоба, якая вырасла на Беласточчыне, якая ўвабрала ў сваю душу зямлю, неба, лес, пушчу, людзей, іх лёсы. У Польшчы два вялікія паэты — гэта Віктар Швед і Алесь Барскі, у якіх тэма Бацькаўшчыны гучыць заўсёды: і ў вершах, і ў прозе, і ва ўспамінах, і ў выступленнях, і на сустрэчах. Гэта тэма вельмі вострая, пачуццёвая, шчырая да слёз. І творы на гэту тэму чытаюцца, слухаюцца, захапляюць. Алесь Барскі прызнаецца, што толькі на Беласточчыне ён «вольны тут, душой адпачывае». Ён дзякуе Айчыне за ўсё, найперш за лясы яе, за водар глебы і скібы, за працавітыя далоні, за радасць і смутак, за хлеб і песню, за дарогі і волю:

За ўсё гэта ў час нараджэння,
За ўсё гэта ў час маладосці,
За ўсё гэта ў момант канання
Шчыры дзякуй, Айчына!

Наогул, падзяка Радзіме, вера лёсу, гімн хлебу і песні Айчыны гучаць у паэзіі Алеся Барскага пастаянна. Асабліва гімн хлебу, жыту, полю. Вершы паэта моцныя сімволікай каласоў, жыта, снапа, сярпа, песні. Паэтычны дар Алеся Барскага, на мой погляд, моцны перш за ўсё канкрэтнасцю паказу, ёмістасцю паэтычных дэталяў, у іх — спакойны, разважлівы роздум аб нашым жыцці і аб мінулым, аб родных Бандарах, дзе нарадзіўся, дзе жылі бацькі. Сваю вёску Бандары паэт параўноўвае з Варшавай, ды куды там нейкай Варшаве да Бандараў Барскага, дзе добра прадуцца вершы, дзе светла думаецца:

Бандары для мяне
Аграмаднай Варшавай,
А я ў Бандарах
Малы і вялікі.
Там вецер прыклічу,
Здзьмухну пажар сонца
І з хмары зялёнай

Пахучага сена
Спраду верш.

Прадуцца вершы ў Алеся Барскага і пра каханне. Памятаю, здаецца, май 1981 года. Мінск, філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Магчыма, тады на факультэце была юбілейная вечарына прафесара Алега Лойкі. На гэтай вечарыне выступаў і Алесь Барскі. Высокі, у светлым касцюме, выглянцоны і выштальцоны, дый нядаўна яму споўнілася толькі пяцьдзясят. Калі госць пачаў выступаць — зала прыціхла. А ў зале былі амаль адны студэнткі-філфакаўкі. А калі Барскі прачытаў вершы пра каханне з трохі такой сексуальнай афарбоўкай — зала гучна зааплядзіравала, а нехта з дзяўчат крыкнуў: «Брава!» Адна з маіх аднакурсніц сказала: «Я ў гэтага беларускага паэта з Польшчы проста закахалася». Час тады быў няпросты і далёкі яшчэ да дэмакратыі, час тады быў такі, калі казалі, што ў Савецкім Саюзе сексу проста няма. Але Алесь Барскі ўнёс у альма-матар беларускай маладой філалогіі нейкі агеньчык свабоды, адкрытасці, кахання. Ды ці можна такому вобразу не парадавацца, не ўсміхнуцца:

Грудзі твае — урачыстасць,
Як сад, што зацвіў у нядзелю…

Вось такі ён, Алесь Барскі, у паэзіі — шматгранны, шматвобразны, шчыры, арыгінальны.

Другая частка «Выбраных твораў» — празаічная. Тут ён згадвае не толькі пра маленства з сярпом і цэпам, але і пра «пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну», па калектывізацыю і кулакоў, пра першыя дні акупацыі, пра дзяржаўнасць і нацыянальнасць.

Друкуецца ў кнізе і п’еса аўтара «Гарадскія госці» — гэта камедыя з вясковага жыцця.

Вялікім раздзелам кнігі Алеся Барскага з’яўляецца раздзел «Літаратуразнаўства, крытыка». Распачынаецца ён артыкулам, прысвечаным беларускаму літаратурнаму руху ў Польшчы ў 1958–1998 гадах. Аўтар падкрэслівае, што «беларускі літаратурны рух у пасляваеннай Польшчы — з’ява ўнікальная як у сваёй фармальна-жанравай спецыфіцы, так і ў тэматычных асаблівасцях». Вядома ж, усіх творчых людзей Алесь Барскі не згадаў, ён нават за гэта просіць

прабачэння. Тым не менш аўтар лічыць, што найвыдатнейшым здабыткам кожнага творцы з'яўляецца яго індывідуальная, асабістая кніга твораў. А такіх кніжак ужо за 50, больш чым 10 беларускіх літаратараў Польшчы прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў і ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Асобныя вялікія артыкулы ў кнізе аўтар прысвяціў жыццю і творчасці Георгія Валкавыцкага, Віктара Шведа, Васіля Баршчэўскага, Міколы Гайдука, Віктара Рудчыка, Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна. Не абышоў бокам і літаратурную спадчыну Кастуся Каліноўскага, камізм у творчасці Якуба Коласа, сказаў сваё слова і пра абрады беларусаў, звязаныя з нараджэннем і хрышчэннем.

Аналізуючы творчасць вышэй названых літаратараў, Алесь Барскі падкрэсліў і вызначыў у паэзіі Юркі Зубрыцкага касмічныя матывы. Усе вершы Віктара Шведа, на думку Барскага, — гэта рыфмаваныя апавяданні альбо мікрааповесці аб чымсьці ці аб кімсьці, гэта лагічны выклад, у якім ёсць уступ, кульмінацыя і заканчэнне. «Усё гэта, — піша крытык, — набліжае творчасць Віктара Шведа да традыцыйных літаратурных узораў».

Пішучы пра Васіля Баршчэўскага, які 8 гадоў працаваў у беларускім тыднёвіку «Ніва» ў Беластоку і, несумненна, прычыніўся да яго росту публіцыстычнага і журналісцкага ўзроўню, Алесь Барскі прыгадвае першыя навелы і апавяданні Васіля Баршчэўскага, падкрэсліваючы, што празаік на працягу свайго творчага шляху стаяў на грунце паслядоўнага рэалізму і яго не цікавілі фармалістычныя эксперыменты. Васіль Баршчэўскі лічыў, што традыцыйны рэалізм не вычарпаў усіх сваіх магчымасцяў і што ў іншую эпоху ён можа прыносіць добрыя мастацкія вынікі.

Пра Міколу Гайдука як паэта(ён у 1988 годзе выдаў сціплы зборнічак «Ціш») Алесь Барскі прызнаўся, што паэтычныя дасягненні яго значна саступаюць ягонай прозе. Яно сапраўды так. Чаго вартая адна толькі кніга «Паратунак» (Мінск, 1993), якую склалі гістарычныя публікацыі Міколы Гайдука. Спадар Барскі адзначае: «Гістарычныя апавяданні Міколы Гайдука маюць эстэтычны характар. Яны яскравяцца падзеямі і здарэннямі, у які дамінуюць жывыя эмоцыі: прыязнь і нянавісць, каханне і варожасць, прывязанасць да роднага пейзажу і краявіду».

Ілюстратарам беларускага жыцця назваў Алесь Барскі Віктара Рудчыка, які з сярэдзіны 1960-х гадоў у «Ніве», у «Беларускім календары» пачаў друкаваць свае апавяданні, якія адзначаліся добрымі мастацкімі якасцямі. На вялікі жаль, Віктар Рудчык рана пайшоў з жыцця, пражыўшы толькі 55 гадоў. Але, без сумнення, без Рудчыкавых, як піша Алесь Барскі, празаічных твораў беларускі літаратурны рух у Польшчы быў бы бяднейшым.

Аўтар «Выбраных твораў» Сакрата Яновіча лічыць найбольш плённым пісьменнікам сярод усёй плеяды «белавежцаў». Аднак вядома, што незалежна ад таго, што ён напіша, гэта будзе праява болю і горкага задумення над беларускім лёсам.

Ян Чыквін, на думку Барскага, паэт лірычнага задумення, паэт, які са значнай паслядоўнасцю, а нават напорыстасцю шукае першакрыніцы свае чалавечай тоеснасці.

Завяршае «Выбраныя творы» Алеся Барскага цыкл нарысаў пра Амерыку, дзе ў кастрычніку 1987 года ён пабываў. Свае развaжанні пісьменнік пачынае ўжо з самалёта, а потым іх працягвае ва ўніверсітэце, бібліятэцы, на вуліцах, у аўтамашынах, сустрэчай з беларусамі Амерыкі, найперш з беларускім спеваком Данчыкам, з Вітаўтам Кіпелем і іншымі. А калі вярнуўся ў Польшчу, то прыйшоў да высновы, што Амерыка насамрэч вельмі цікавая краіна.

Добрую прамову да кнігі Алеся Барскага напісаў вядомы беларускі літаратуразнавец Міхась Тычына. Усе старонкі выдання я ўважліва прачытаў, але потым зноў вярнуўся на старонку 68 і спыніўся зноў вось на гэтых радках: «Часта падыходжу да цэпа, але не бяру яго ў рукі. Ён мне страшэнна абрыд, і яго зненавідзеў. А серп матчын кранаю, праводжу пальцам па вастрыі і бачу тады далёкае дзяцінства, спелае збожжа, шчодрае сонца, дабраславёную пару жніва, святую і прачыстую постаць — з сярпом і збожжам у руках — сваю МАЦІ». Гэтыя радкі можна смела паставіць эпіграфам да ўсіх «Выбраных твораў» таленавітага, шчырага і мудрага жыццём Алеся Барскага.

*2011*

## ПРА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА І ЯГО ЭПОХУ

Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў паміж беларускімі гісторыкам Міхасём Бічом і літаратуразнаўцам Уладзімірам Казберуком узнікла спрэчка ў пытаннях грамадска-палітычных поглядаў Кастуся Каліноўскага. Уладзімір Казбярук лічыў дзейнасць Кастуся Каліноўскага выключна польскай. Міхась Біч не пагаджаўся з такімі аргументамі і казаў, што погляды Уладзіміра Казберука супадаюць з ацэнкай дзейнасці Кастуся Каліноўскага савецкай гістарыяграфіяй 1930-х гадоў. Але навуковыя даследчыкі пагадзіліся ў адным моманце, што падзеі, звязаныя з паўстаннем 1863–1864 гадоў, можна лічыць пачаткам беларускай нацыянальнай ідэі, ці, прынамсі, пачаткам пачатку.

Пра гэта і пра іншыя факты і падзеі, звязаныя з Кастусём Каліноўскім і яго эпохай у дакументах і культурнай традыцыі, можна даведацца з новага мінскага выдання, якое толькі што з'явілася ў кнігарнях. Зборнік складаецца з матэрыялаў VII Міжнароднай навуковай канферэнцыі Беларускага гістарычнага таварыства, якая адбылася два гады таму ў Мінску.

Аўтары кнігі «Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі» (Мінск, 2011) цікава і грунтоўна разглядаюць аспекты разгортвання антырасійскага паўстання на беларускіх землях, жыццёвы шлях яго кіраўніка, а таксама духоўную спадчыну Кастуся Каліноўскага і ягонае месца ў беларускай культурнай традыцыі.

Як лічаць гісторыкі Аляксандр Краўцэвіч і Алесь Смалянчук, прыйшоў час правесці свайго роду рэвізію нашых ведаў пра Кастуся Каліноўскага, прасачыць эвалюцыю ягонага вобраза ў нацыянальным дыскурсе і культурнай традыцыі (у першую чаргу ў культурнай памяці, якая пашыраецца з дапамогай мас-медыя і замацоўваецца ў помніках, назвах вуліц, школ, гістарыяграфіі, падручніках і літаратуры), ацаніць комплекс крыніц даследавання, вызначыць далейшыя яго кірункі. Сапраўды, рэвізія даследчыкам Кастуся Каліноўскага і яго эпохі ўдалася. Гэта відаць па ўсіх разнастайных матэрыялах, якія ўвайшлі ў кнігу.

Кастусь Каліноўскі, які быў родам з вёскі Мастаўляны, што на Беласточчыне, загінуў на шыбеніцы 10 сакавіка 1864 года ў Вільні. Першымі даследчыкамі жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага і

паўстання былі польскія даследчыкі. Адным з першых звярнуўся да постаці Кастуся Каліноўскага Агатон Гілер, вядомы дзеяч групоўкі «белых» падчас паўстання. У чатырохтомнай працы «Historia powstania narodu polskiego» (Парыж, 1867–1871) гісторык ахарактарызаваў Каліноўскага, як галоўнага арганізатара паўстання на Літве, адзначыў ягоную актыўнасць і «нязломнасць характару». Пісалі пра Кастуся Каліноўскага і Аляксандр Навалецкі, Валерый Пшыбароўскі, Баляслаў Ліманоўскі, Людвік Абрамовіч і іншыя польскія даследчыкі. Людвік Абрамовіч адзначаў вялікую ролю Каліноўскага ў паўстанні 1863 года, ягоную папулярнасць сярод радыкальнай моладзі, прыгадаў, што расійскія ўлады называлі яго «дыктатарам Літвы».

Як сцвярджае ў зборніку Алесь Смалянчук, вялікае значэнне мелі даследаванні літоўскага гісторыка і грамадскага дзеяча Аўгусцінаса Янулайціса, які трактаваў Кастуся Каліноўскага як беларускага нацыянальнага героя, які моцна канфліктаваў з Варшавай.

Беларуская гістарыяграфія жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага пачынаецца з артыкула Вацлава Ластоўскага «Памяці справядлівага», які быў апублікаваны 16 лютага 1916 года ў газеце «Гоман». Потым шмат даследавалі і пісалі пра Каліноўскага і яго эпоху Уладзіслаў Талочка, Іван Цвікевіч, Усевалад Ігнатоўскі, Адам Станкевіч, Вячаслаў Шалькевіч, Генадзь Кісялёў, Анатоль Смірноў і многія іншыя. З артыкуламі ў зборніку «Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі» выступаюць больш маладыя даследчыкі. Напрыклад, Сяргей Токць разважае пра нацыянальны і сацыяльны дыскурсы ў тэкстах «Мужыцкай праўды» і «Рассказов на белорусском наречии», Андрэй Кіштымаў — пра сямейную біяхроніку Каліноўскіх, Ірына Нікуліна — пра ссыльных паўстанцаў 1863–1864 гадоў на Алтаі і г. д. Напрыклад, за ўдзел у паўстанні ў Усць-Каменагорск быў сасланы Ігнат Бурачэўскі з мястэчка Кнышына (Морусь) з Беласточчыны, яму было тады толькі 16 гадоў, але дамоў ён ужо ніколі не вярнуўся. З гэтага самага мястэчка ў Паўладар выслалі і Адольфа Геберта, якому праз 10 гадоў удалося ўсё ж вярнуцца на радзіму.

З вельмі цікавым артыкулам «Фотаздымак як крыніца па гісторыі паўстання 1863 года» выступае ў зборніку Вольга Гарбачова. Справа ў тым, што ў пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя фатаграфія

становіцца досыць распаўсюджанай з’явай на беларуска-літоўскіх землях. У гэты час фотамайстэрні дзейнічалі ва ўсіх губернскіх беларускіх гарадах. У Гродне былі фотамайстэрні Штумана, Менцэля, Доўнар-Запольскага, у Мінску — Брафмана, Дэпласэ, Адамовіча, Бжэскага, Антона Прушынскага і г. д. Дарэчы, Антон Прушынскі быў родам з Падляшша, з падляшскай шляхты герба «Любіч». Яго-ным бацькам належаў маёнтак Асінцы ў Мінскай губерні. Фотамай-стэрствам Прушынскі пачаў займацца каля 1850 года. Ажаніўся з беднай беларускай дзяўчынай Пелагеяй Кулаковай. Спачатку жыў на Беласточчыне, а потым пераехаў у Мінск. Прушынскі дзейні-чаў досыць рызыкоўна. У сваёй майстэрні ён захоўваў крэсла, на спінцы якога змяшчаўся герб з Арлом і Пагоняй. Захаваўся шэраг здымкаў, на якіх асобы здымаюцца ў згаданым крэсле (некалькі здымкаў XIX стагоддзя друкуюцца ў зборніку). З развіццём на Беларусі паўстанцкага руху Антон Прушынскі далучыўся да «партыі чырвоных» і ўвайшоў у склад Мінскага паўстанцкага ка-мітэта. Аднак у самым пачатку 1863 года яго арыштавалі і выслалі на жыхарства ў Сібір. І там у Томску Антон Прушынскі трымаў невялікую фотамайстэрню, а абсталяванне туды яму прывезлі з Мінска. У 1873 годзе Прушынскі вярнуўся ў Варшаву, дзе да смерці кіраваў фотамайстэрняй. Фотаздымкі гэтага перыяду знаходзяцца ў аддзеле іканаграфіі Нацыянальнай бібліятэкі Варшавы і ў зборах Гістарычнага музея Варшавы.

Алена Фірыновіч, Андрэй Вашкевіч, Андрэй Унучка, Юрась Бачышча, Аляксандр Пагарэлы ў сваіх артыкулах на падставе ар-хіўных дакументаў і іншых матэрыялаў разважаюць пра Кастуся Каліноўскага і беларускі нацыянальны рух у XX стагоддзі, пра да-кументальныя матэрыялы Нацыянальнага архіва Беларусі ў Гродне па гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў, пра пытанні інтэрпрэтацыі ідэйнай спадчыны Кастуся Каліноўскага, пра постаць Кастуся Каліноўскага ў друкаванай спадчыне беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Напрыклад, кандыдат гістарычных навук Юрась Ба-чышча адзначае, што «ў хадэцкай друкаванай спадчыне належнае месца адводзілася асобе Кастуся Каліноўскага, які адназначна паўставаў як беларускі нацыянальны герой, пачынальнік барацьбы за палітычнае вызваленне беларусаў, чалавек надзвычайных якас-цяў і высокага непахіснага духу, які нібыта прарок з’явіўся ў свае

маладыя гады на беларускай зямлі, каб прамовіць словы праўды, “мужыцкай праўды” і ўскалыхнуць свой народ да разважання над сваім лёсам і да здабыцця лепшай долі».

Пра беларускага акадэміка Уладзіміра Перцава, які да праблемаў паўстання 1863–1864 гадоў звярнуўся яшчэ падчас Другой сусветнай вайны ў 1943 годзе, разважае ў зборніку Валянціна Яноўская. Даследчыца распавядае пра самога Перцава і яго адносіны да Кастуся Каліноўскага. Спадар Перцаў, як піша Валянціна Яноўская, у тыя няпростыя 1940-я гады для Беларусі смела заявіў і ахарактарызаваў Кастуся Каліноўскага, як «самага яскравага, самаадданага і самага таленавітага дзеяча беларускага паўстання ў часы польскай рэвалюцыі 1863 года».

Гартаючы і чытаючы зборнік «Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі», чытачы з вялікай цікавасцю азнаёмяцца з артыкуламі пра мемарыялізацыю Кастуся Каліноўскага ва ўрбананіміцы Беларусі Івана Сацукевіча, пра вобраз кіраўніка паўстання ў мастацкай літаратуры Настассі Жарскай, пра вексілалагічныя аб’екты ў паўстанні Каліноўскага Андрэя Шулаева, пра Яна Пазняка — першага даследчыка ўдзелу праваслаўнага духавенства ў паўстанні 1863–1864 гадоў (аўтар Аляксандр Ільін) і шэраг іншых вельмі цікавых і актуальных артыкулаў.

*2011*

## «КРЭСІВА» ПРАВАСЛАЎНАГА ПАЭТА ЗЬНІЧА

Вы чулі, як выконвае на раялі творы Агінскага ці Шапэна праваслаўны паэт Зьніч (Алег Бембель, брат Мікалай), які жыве ў Жыровічах на Слонімшчыне? Не чулі?.. Шкада!.. А я іх слухаў шмат разоў і бачыў, як спакойны Зьніч сядае за музычны інструмент і пачынае іграць. Ён ведае, што я люблю паланэз ля мінор Агінскага «Развітанне з Радзімай». І мне здаецца, што ніхто на свеце лепш за яго гэты музычны твор не выконвае. Бо гледзячы на паважнага, спакойнага, мудрага і таленавітага чалавека — хочацца жыць, радавацца жыццю, рабіць людзям дабро, хочацца пісаць, думаць, спадзявацца. Музыка і паэзія — родныя сёстры Зьніча. Ды паэзія ўсё ж найбліжэй і найвышэй, хаця ў 1969 годзе Алег Бембель скончыў

кансерваторыю. Праўда, потым была і аспірантура пры Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук БССР. Нават напісалася дысертацыя аб народных і інтэрнацыянальных элементах у літаратуры, але яна, на жаль, не была абаронена, таму што працу тады прызналі нацыяналістычнай.

За 73 гады Зьнічом пражыта шмат. Ён працаваў на тэлебачанні, у Акадэміі навук, у Нацыянальным навукова-даследчым цэнтры імя Скарыны і г. д.

Яго лічылі нацыяналістам, а за выданне ў Лондане ў 1985 годзе сваёй уласнай кнігі «Роднае слова і маральна-этычны прагрэс», наогул, рэпрэсавалі. Таму ў 1996 годзе Алег Бембель прыехаў у Жыровічы:

Жыровічы… Тут — сэрца Беларусі…
Тут — Маці Божая прыйшла да нас —
Як явіла Ікону — другі раз, —
Калі усе былі ў тузе і скрусе…

Прыехаў у Жыровічы і застаўся тут назаўжды, прыняўшы послух у праваслаўным Жыровіцкім манастыры. Але паслушнік брат Мікалай не зачыніўся ў Жыровіцкім манастыры ад людзей, сяброў, спраў жыццёвых, а тым болей ад літаратуры. Ён сёння жыве імкліва, як і бегае, у самым прамым значэнні гэтага слова, па старажытных і новых вуліцах і завулках Жыровічаў, Слоніма, Мінска, Гародні. Я яго часта сустракаю натхнёным, заклапочаным, імклівым. У яго спраў хапае. Ён выдае шмат гадоў багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток «Жыровіцкая абіцель», арганізоўвае канферэнцыі, прымае ўдзел у сустрэчах, прэзентацыях і піша вершы і філасофскія роздумы. Янка Запруднік у артыкуле «Паэзія Зьніча», якім адкрываецца вялікі 500-старонкавы том новай кнігі Зьніча «Крэсіва» (Слонімская друкарня, 2012), сказаў: «Праз свае нешматслоўныя кампактныя вершы Зьніч выявіў чулую душу, гарачыя пачуцці любасці да роднага краю, глыбокую пашану праўды ды няштодзённую эрудыцыю».

Сапраўды, вершы ў Зьніча кампактныя, кароткія, сціслыя, але з вялікім падтэкстам. У кожным вершы многа шматкроп’я. І гэтае шматкроп’е нясе ў сабе падтэкст. Зьнічовыя шматкроп’і імкнуцца дагаварыць за аўтара, кампенсаваць паэтычную абмежаванасць:

…Бог даў мне родавую сілу:
Пладзіся й засяляй Зямлю…
Любі, як Я цябе люблю…
…а я?..
…скажаюся паныла…

У тлумачальным слоўніку слова крэсіва азначае металічную прыладу для высякання агню з крэмню, інакш кажучы — красала. «Крэсіва» праваслаўнага паэта Зьніча — выбраныя публікацыі розных гадоў, якія высвечваюць творчае і духоўнае станаўленне аднаго з нашых сучаснікаў у адной асобе — гэта інака Мікалая, паэта Зьніча, філосафа і музыканта Алега Бембеля. У «Крэсіва» ўвайшло ўсё лепшае, напісанае аўтарам за гады яго жыцця і творчасці.

Красала Зьніча распачынаецца кнігай «Рэха малітвы», выдадзенай у Нью-Ёрку ў 1988 годзе:

…з россыпу слоў-крышталю
прэлюдыяй і высновай,
промнем Хрыстовай хвалі
бліснe Боскае слова…

Затым публікуецца лонданскае выданне «Роднае слова і маральна-этычны прагрэс». Потым — «Саната ростані», якая пабачыла свет у Беластоку ў 1988 годзе. Гэта кніга складалася з пяці частак, дзе кожная з іх і сёння кранае грамадскімі, маральнымі, філасофскімі тэмамі. Але ў тыя савецкія часы паэтычныя радкі Зьніча выклікалі неадназначную рэакцыю. Ды і не маглі тады надрукавацца ў Беларусі, напрыклад, вось такія радкі:

Каб палепшыць нашы справы,
Партыю — а не Маскву! —
Мы аддзелім ад дзяржавы,
Быццам грэшную царкву…

Уключыў у свой аднатомнік Зьніч і зборнік вершаў «Малітвы за Беларусь» — першы зборнік, што выйшаў на Радзіме ў Мінску ў 1989 годзе. Гэта кніга-гімн Беларусі, гімн роднаму слову, гэта пачатак адраджэння веры ў беларускай інтэлігенцыі.

Вядома, кніга паэта Зьніча была б няпоўнай, калі б там адсутнічалі іншыя яго выданні: «Нябеснае і зямное» (1994), «За мурам» (2007), «Мне не цябе шкада, а тваю маці…» (2009), «Між тэктанічных пліт» (2011) і г. д.

Пасуюць да выдання і гутаркі Зьніча з паэтам Алесем Клышкам. Іх аўтар таксама не абмінуў увагай, і яны даволі чытэльныя і разнастайныя: там вера, літаратура, палітыка, культура, гісторыя, чалавечыя ўзаемадносіны скразнымі лініямі праходзяць праз усе гутаркі.

Чытаецца ў кнізе і гутарка Алега Бембеля з журналістам Юрасём Залоскам. Гэта вялікае інтэрв'ю, даволі грунтоўнае, біяграфічнае, літаратуразнаўчае і рэлігійна-культуралагічнае, не састарэла і сёння. Яно цікава чытаецца, а на пытанне: «Як з вышыні Жыровіцкай абіцелі ты глядзіш на творчасць?» брат Мікалай адказвае:

Зямную сцяжыну завершы
Раскаяным сэрцам, найперш…
Маленні — вышэй за вершы,
Хай стане маленнем — верш!..

Знайшлося месца ў «Крэсіве» і артыкулам пра творчасць Зьніча. Вядома сюды ўвайшлі не ўсе артыкулы і не ўсе інтэрв'ю, але многія аўтары гэтых артыкулаў прафесійна разважаюць пра творчасць паэта і філосафа. Людка Сільнова, напрыклад, кажа, што «Зьніч — безумоўна, адметная зорка на сцямнелым небасхіле сучаснай беларускай паэзіі». А Любоў Турбіна падкрэслівае, што Зьніч «стварае вобраз Паэта, міфалагему пра яго, а гэта дадзена далёка не кожнаму, хто піша сапраўдныя, жывыя вершы». Наталля Марціновіч мяркуе, што «аснова светапогляду А. Бембеля — суцэльнасць успрымання жыцця, дадзенага Богам». А Галіна Твардовіч адзначае, што «Зьнічовы тэксты адметныя шматпланавай лексікай, своеасаблівым рытмам, інтанацыяй». Міхась Скобла нібы падводзіць рысу творчай і грамадскай дзейнасці брата Мікалая: «Паслушнік Алег Бембель у Жыровіцкім манастыры — стваральнік вершаў-маленняў, каталізатар беларушчыны». Гэты таленавіты каталізатар беларушчыны і сам шырока разважае, і ўмее разважаць пра творчасць Алега Лойкі, Уладзіміра Конана і іншых вядомых асоб Беларусі. Гэтых людзей ужо няма сярод нас, яны пайшлі да Госпада. Але шчырыя

словы пра іх напісаў у сваёй новай кнізе Зьніч. Аўтар прыгадвае і пра паэму невядомага аўтара «Стагоддзяў жырандоля», якую ён знайшоў у архіве Жыровіцкага манастыра на рускай мове. Прынёс паэму Алегу Лойку, які за тыдзень яе пераклаў на беларускую мову.

Шмат у кнізе Зьніча аднастрофных вершаў, вершаў думак, разваг, вобразнасці, філасофскіх радкоў. У іх — любоў да праваслаўнай Беларусі, малітвы за Беларусь, за мову, за родны народ беларускі:

…Світальную ратункавую ніць
Ніколі нас пакінуць не прымусяць…
Жыла, жыве і вечна будзе жыць
Патронка Праваслаўнай Беларусі!..

Творам аднатомніка «Крэсіва» Зьніча заўсёды было і застаецца вострае адчуванне часу, імкненне зазірнуць у складаны свет сучасніка, у гістарычны працэс. Радкі паэта сугучныя настроям, поўныя любові да ўсяго роднага, да нашай светлай і вялікай Айчыны. Кніга чытаецца, запамінаецца, над ёй можна доўга разважаць, думаць, асэнсоўваць. Бо такі гэты Зьніч і ягонае яркае «Крэсіва»! Ды і вершы, як пісаў паэт, павінны зіхцець! Доўга-доўга… вечна!

*2012*

## 35 ГАДОЎ ЗБІРАЎ ДЫЯЛЕКТЫ НАСТАЎНІК З КОСАЎШЧЫНЫ

На гэты раз з настаўнікам Алесем Фамічом Зайкам з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна мы сустрэліся ў Слоніме, каля мясцовай друкарні, скуль ён з радасцю насіў у машыну пачкі са сваёй новай кнігай. «Я звычайна прыязджаю ў Слонім і вандрую па сваім Івацэвіцкім раёне на матацыкле, але сёння папрасіў сваяка, і мы прыехалі па кнігі ў друкарню на машыне», — прызнаўся Алесь Фаміч.

Калі ўсе пачкі былі пагружаны ў машыну і вырашаны пытанні з друкарняй, Алесь Фаміч дастаў адну кнігу і паставіў мне на ёй свой першы аўтограф. «Гэта плён маёй 35-гадовай працы. І цяпер, Сяргей, у мяне столькі гонару за родную мову, што ты не паверыш. І мне так шкада тых, хто не ведае яе…» — радасна сказаў Алесь Фаміч і падараваў мне сваю новую кнігу «Дыялектны слоўнік Ко-

саўшчыны». Калі я ўзяў у рукі слоўнік і хуценька прабег старонкі вачыма — быў у шоку ад таго, што сабраў і зрабіў гэты вясковы энтузіяст. Такія слоўнікі павінны збіраць і выдаваць цэлыя інстытуты, а ён справіўся адзін і выдаў асобнай кніжкай, якая налічвае ажно 270 старонак і каля 4000 слоў, запісаных краязнаўцам. І гэта толькі пра дыялекты Косаўшчыны. А ў планах асобнымі кнігамі Алесь Фаміч плануе выдаць «Мікратапанімію Івацэвіччыны», «Паселішчы Івацэвіччыны», «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны», «Прымаўкі і прыказкі Косаўшчыны» і іншыя. Вось каму трэба даваць дзяржаўныя прэміі, ордэны і медалі…

Алесь Зайка нарадзіўся і жыве ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна. У 1966 годзе скончыў Косаўскую сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Потым вярнуўся ў родную вёску, дзе працаваў настаўнікам спачатку фізкультуры, пасля беларускай мовы і літаратуры. Цяпер у роднай школе кіруе этнаграфічным музеем.

Многія этнаграфічныя работы Алеся Зайкі ўвайшлі ў выдадзеныя кнігі аб Івацэвіцкім раёне, артыкулы па даўнім і нядаўнім гістарычным мінулым раёна пастаянна друкуюцца ў прэсе, з цікавасцю сустракаюцца чытачамі. Сёлета ў Мінску ён выдаў і кнігу прозы «Дым у коміне», куды ўвайшлі лірычныя запісы, мініяцюры і апавяданні. Мастацкая проза Алеся Зайкі прасякнута шчырай любоўю да роднай зямлі, да сваіх землякоў, напоўнена непадробным захапленнем, духоўным багаццем беларускага народа, прыгажосцю свайго краю.

Але найбольшае захапленне Алеся Зайкі — збор этнаграфічных і краязнаўчых матэрыялаў. «Любіць мову — значыць ведаць яе, берагаць, не даваць памерці, не згубіць ніводнага слова», — разважае Алесь Фаміч. І ён не дае, каб губляліся беларускія словы, а наадварот, іх збірае, запісвае, вывучае. Гэта Алесь Зайка некалі адстаяў у краязнаўчых колах сапраўдны назоў урочышча, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка, — Марачоўшчына. Бо ўсе выданні пісалі на польскі манер і называлі гэта ўрочышча Мерачоўшчына. А косаўскі краязнавец даказаў, што слова «марачоўшчына» паходзіць ад слова «марочна» — гэта значыць балоцістая мясцовасць.

Чытаючы «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» Алеся Зайкі, можна знайсці сотні вельмі цікавых, арыгінальных, калі так можна сказаць, «смачных» беларускіх слоў. Ну, чаго каштуе, напрыклад,

слова «сухарэбрык». Ці такія словы, як сусло, палявік, клёк, дзяцеліна, бэзло, чарняк, падбіванка, навільнік, крыкля, званярня і г. д. Усе гэтыя і іншыя словы і іх значэнні можна знайсці ў слоўніку. Дарэчы, размаўляюць на Косаўшчыне гаворкай, характэрнай для Гарадзенска-Баранавіцкай дыялектнай групы, якая вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку: дзеканне і цеканне, пераход *в*, *л* у пэўнай пазіцыі ў *у нескладовае*, цвёрдыя шыпячыя, *р*, *ц*, аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і склада перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на канцы слова, чаргаванне *ро*, *ло*, *ле* з *ры*, *лы*, *лі* і іншыя. Разам з тым у слоўнікавых артыкулах адлюстраваны дыялектныя адметнасці Косаўшчыны.

У кнізе знайшла сваё адлюстраванне самая разнастайная па значэнню лексіка: назвы страў, адзення, абутку, назвы прадметаў ужытку, тэрміны рыбалоўства, ткацтва, будаўніцтва, лясной гаспадаркі, батанічная заалагічная лексіка, лексіка медыцыны, ветэрынарыі і іншая. Усе яны маюць адпаведныя паметы ў слоўнікавых артыкулах. Таксама шырока прадстаўлены назвы дзеянняў, стану, якасці, уласцівасцей і прымет прадметаў.

Пасля кожнага прыкладу ўказваецца населены пункт, у якім запісана слова, яго адміністрацыйная прыналежнасць. А ў канцы слоўніка аўтар прыводзіць звязныя тэксты, якія яскрава ілюструюць дыялектныя асаблівасці жывой гаворкі Косаўшчыны.

У «Дыялектным слоўніку Косаўшчыны», як кажа сам Алесь Зайка, «не толькі словы, выразы, сказы… для мяне слоўнік гучыць, ён жывы, поўніцца галасамі людзей, што зберaглі такое моўнае айчыннае багацце».

Захапленне Алеся Зайкі заўсёды падтрымліваў ягоны сябра, зямляк і аднакурснік паэт Алесь Разанаў. Гэта дзякуючы яго маральнай і матэрыяльнай падтрымцы ўбачыў свет «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны».

…Калі мы развіталіся каля Слонімскай друкарні, Алесь Фаміч сказаў, што як хопіць у яго сіл, то будзе натхнёна і доўга працаваць над наступнымі кнігамі. «Трэба дбайна збіраць скарбы сваёй зямлі, апрацоўваць іх, выдаваць, і тады ў нас усё будзе, як у еўрапейскіх людзей», — усміхнуўся Алесь Фаміч, сеў у машыну і з каштоўным

сабраным народным скарбам — «Дыялектным слоўнікам Косаўшчыны» паехаў у сваё Заполле.

*2011*

## КНІГА ПРА ВЁСКІ ІВАЦЭВІЦКАГА РАЁНА

Летась віншаваў Алеся Зайку з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна з выхадам першых ягоных дзвюх кніг — «Дым з коміна» і «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны». І вось новы падарунак — кніга «Населеныя пункты Івацэвіччыны». Выйшла яна накладам 700 асобнікаў у Пінскай рэгіянальнай друкарні.

Том салідны, і матэрыял пра кожную вёску аўтар сабраў багаты. Як кажа сам Алесь Зайка, ягоная кніга — гэта плён шматгадовай працы ў архівах і кнігасховішчах Беларусі і за яе межамі. Сабраныя гістарычныя звесткі пра кожны населены пункт Івацэвіцкага раёна дапамаглі аўтару і дапамагаюць чытачам зазірнуць у іх далёкае мінулае.

Населеныя пункты ў кнізе пададзены ў алфавітным парадку, пачынаючы з вёскі Аброва і завяршаючы Ятвеззю. Наогул, даследаванне Алеся Зайкі змяшчае даволі багаты фактычны і навуковапазнавальны матэрыял. Спачатку пры апісанні кожнай вёскі аўтар паведамляе, дзе яна ў раёне знаходзіцца, дае кароткую гістарычную даведку: каму і калі яна належала, колькі жыхароў там жыло ў мінулых стагоддзях і колькі цяпер, чым прыкметны той ці іншы населены пункт, кім і чым ён славіцца і г. д. Але гэта не сухія факты і лічбы, а, наадварот, цікавы і чытэльны тэкст, апісанне, вандроўка па Івацэвіччыне. Здаецца, добра ведаю Беларусь, а тым больш суседні раён са Слонімам, але менавіта з кнігі Алеся Зайкі даведаўся шмат цікавых фактаў. Напрыклад, тое, што ў 1864 годзе ў Быцені было адчынена народнае вучылішча, дзе Закон Божы выкладаў Макар Іванавіч Ігнатоўскі, бацька Усевалада Ігнатоўскага — дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Беларусі, вучонага-гісторыка, першага прэзідэнта Акадэміі навук БССР.

З гонарам піша аўтар і пра Івана Мялешку (1552–1622), які нарадзіўся ў вёсцы Бусяж і праславіўся сваім выступленнем на Варшаўскім сейме 1609 года, на якім прысутнічаў кароль Жыгімонт III

Ваза. Гэтая прамова, як помнік палітычнай сатыры, увайшла ў беларускую гісторыю пад назвай «Прамова Мялешкі».

З вялікім задавальненнем прачытаў і пра Гамаліцкіх. У вёсцы Бялавічы ў 1791 годзе ў сям'і ўніяцкага святара Льва Гамаліцкага нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Міхалам. Лёс распарадзіўся так, што яму было суджана праславіць свой род, сваё імя, сваю Айчыну. Міхал Гамаліцкі скончыў Віленскі ўніверсітэт, стаў доктарам медыцыны, прафесарам. Даследаваў фізіялогію чалавека, упершыню ў свеце вывучыў пытанні пералівання крыві, займаўся археалогіяй, гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, літаратурнай дзейнасцю. У Льва Гамаліцкага было яшчэ два сыны. Ігнат Гамаліцкі стаў брэсцкім канонікам, а Іпаліт Гамаліцкі быў апошнім рэктарам уніяцкай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Пасля смерці Іпаліта Гамаліцкага засталіся сіротамі шасцёра дзяцей (жонка памерла на тыдзень раней). Клопат пра сірот узяў на сябе брат нябожчыцы Плакід Янкоўскі, былы прафесар дагматычнай тэалогіі і лацінскай мовы ў Літоўскай духоўнай семінарыі, пісьменнік, краязнавец. Каб пракарміць вялікую сям'ю (меў сваіх пяцёра дзяцей), Плакід Янкоўскі пераехаў з Вільні ў Бялавічы, дзе з 1847 па 1858 год служыў у мясцовай царкве. Алесь Зайка піша, што Плакід Янкоўскі выдаў кнігу нарысаў «Запіскі сельскага свяшчэнніка», у якой апісаў жыццё мясцовага люду. Тут аўтар памыліўся, бо пры жыцці Плакід Янкоўскі падобных кніг не выдаваў. Пры жыцці Плакід Янкоўскі выдаў кнігі прозы на польскай мове «Засценак» (1841), «Хвілінка» (1842), «Апавяданні» (1843), «Складзеная аповесць» (1843, разам з Юзафам Крашэўскім), «Універсітэцкія ўспаміны» (1849), «Крыніцы» (1853), «Адась» (1856), «Фанабэрыя пана старосты Канеўскага» (выйшла пасля смерці ў 1873 г.), камедыю «Прадчуванне» (1842) і іншыя. Дарэчы, аўтабіяграфічны нарыс «Пасхальныя кулічы» раскрывае пастырскае служэнне протаіерэя Плакіда Янкоўскага ў Бялавічах. Пераклаў на польскую мову асобныя творы Шэкспіра, Гётэ і г. д. Пісаў ён і на рускай мове. А «Записки сельского священника» Плакіда Янкоўскага на рускай мове пабачылі свет у 2004 годзе ў Мінску, куды ўвайшлі яго нарысы і ўспаміны.

Добра, што Алесь Зайка згадвае ў сваёй кнізе знакамітых землякоў, якія нарадзіліся на Івацэвіччыне. Праўда, пра адных больш напісана, пра іншых — менш. Крыўдна, напрыклад, што толькі

адным сказам: «Косава — радзіма беларускага пісьменніка У. Мароза» аўтар згадаў ці не самага таленавітага на сёння літаратара Івацэвіччыны Уладзіміра Мароза, які напісаў больш за 60 сцэнарыяў дакументальных, навукова-папулярных і вучэбных кінафільмаў, асноўныя з якіх звернуты да гісторыі і культуры Беларусі. Ім таксама напісана і выдадзена шмат кніг паэзіі, прозы і г. д. І пра пісьменніка Сцяпана Крываля згадваецца ў кнізе толькі тое, што вёска Гутка — яго радзіма. Тым не менш, згадкі, кім славіцца той ці іншы населены пункт Івацэвіччыны, ёсць.

Не абышоў бокам Алесь Зайка і паўстанні на Беларусі пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага і паўстанне 1830–1831 гадоў. А іх падтрымлівалі беларусы населеных пунктаў Івацэвіччыны. У вёсцы Гошчава, чытаем у кнізе, у 1842 годзе былі канфіскаваны землі ўдзельніка паўстання 1830–1831 гадоў Франца Шабанскага. За ім лічылася 1610 дзесяцін зямлі і 379 рэвізскіх душ. А пра вёску Дабромысль аўтар паведамляе, што 5 мая 1863 года ваенны начальнік Слонімскага павета Ісідор Лукашэвіч прыбыў у Дабрамысль і, сабраўшы каля царквы ўсіх жыхароў, аб'явіў Маніфест Нацыянальнага ўрада аб надзяленні сялян зямлёй і пра ўраўнаванне саслоўяў. Затым прысутныя прынеслі прысягу на вернасць Нацыянальнаму ўраду. Падпісалі гэты дакумент Ісідор Лукашэвіч, валасны старшыня Ян Лазарчук, а таксама Змітрук Шаціла і Тамаш Канявега. А сяляне Сцяпан і Павел Хомічы далучыліся да атрада касінераў. А пра Гута-Міхалін аўтар напісаў, што паўстанцкі рух на Івацэвіччыне ўзначальваў Францішак Юндзіл. Актыўны ўдзел у паўстанні прынялі рабочыя і служачыя Міхалінскай гуты.

Апісваючы гісторыю івацэвіцкіх вёсак, Алесь Зайка сустракаўся з вяскоўцамі-доўгажыхарамі, гутарыў з імі, а некаторыя імгненні з гэтых гутарак уключыў у гісторыю вёсак. І яны вельмі файна пасуюць, дапаўняюць гістарычныя факты населеных пунктаў. Вось што распавёў 97-гадовы жыхар Ёдчыкаў Рыгор Бабей аўтару кнігі: «Калі кепско робіць хлопец у пана, лянуецца, то пан яму і дзеўку кепскую дасць… Па конях пазналі ў 1939 годзе, якія яны, рускія, гаспадары: коні не кутыя… Сапега гэты, што ў Ражаной пабудаваў, дапамагаў французам ваяваць маскоўцаў, бо Напалеон абяцаў вярнуць свабоду Літве…».

У апісанні вёсак Алесем Зайкам натрапіў і на такія цікавыя факты, як археалагічныя знаходкі. Іх таксама аўтар не абмінуў, і гэта вельмі добра. А такія скарбы на Івацэвіччыне траплялі. Напрыклад, у 1970-х гадах у ваколіцах Бялавіч мясцовым трактарыстам быў знойдзены скарб манет часоў Вялікага Княства Літоўскага. Гэта былі білонавыя манеты перыяду 1530–1570 гадоў. Скарб быў перададзены ў Бярозаўскі гісторыка-краязнаўчы музей. А напачатку 1980-х гадоў паблізу вёскі Козікі ў трубе былі знойдзены біўні і асобныя косткі мамантa.

Пры апісанні кожнага населенага пункта аўтар кнігі згадвае верасень 1939 года, калі Заходняя Беларусь «вызвалілася ад панскага прыгнёту», а значыць, былі вызвалены ад гэтага прыгнёту і ўсе вёскі Івацэвіччыны. Але Алесь Зайка чамусьці не спыніўся на самым галоўным, што на змену польскаму прыгнёту ў населеныя пункты Івацэвіцкага раёна прыйшоў савецкі прыгнёт. Поўнасцю адсутнічаюць у гістарычным арэоле івацэвіцкіх населеных пунктаў апісанні сталінскіх рэпрэсій. Як быццам іх на Івацэвіччыне і не было. Але яны былі. З кожнай беларускай вёскі пад рэпрэсіі трапілі ад 5 да 20 вяскоўцаў і нават болей. Хто яны, як склаўся іх лёс, лёс іх дзяцей — пра гэта ў кнізе ані слова. Няма радкоў і пра тое, як адбывалася калектывізацыя. Нават у выданні «Памяць. Івацэвіцкі раён» (Мінск, 1997. С. 391) згадваецца: «Аднак першыя пасляваенныя гады не былі пазбаўлены памылак, парушэнняў законнасці. Як і да вайны, былі рэпрэсіраваны сотні невінаватых людзей. Сярод іх З. Малік — загадчык базы райспажыўсаюза ў Целяханах, М. Лешка з Даманава, П. Гардзейчык з Гошчава і іншыя. Частка з іх выступала супраць калектывізацыі…». У тэксце пра вёску Ятвезь аўтар піша, што, паводле перапісу 1940 года, у вёсцы было 108 жыхароў. У час вайны загінулі 7 мірных жыхароў і адзін загінуў на фронце. А ў 1959 годзе ў гэтай вёсцы засталося толькі 48 жыхароў. Дык куды ж дзеліся за гэтыя гады ажно 52 вяскоўцы?..

Цяпер вернемся да Першай сусветнай вайны. Пра вайну аўтар згадвае пры апісанні кожнай вёскі. Ну, напрыклад: «у гады Першай сусветнай вайны вяскоўцы пакінулі родныя мясціны, падаліся ў бежанства» (вёска Вялікая Гаць), «у 1915 годзе, у час Першай сусветнай вайны, пры наступленні немцаў быценцы рушылі абозамі на ўсход, у Расію» (вёска Быцень), «спякотным вераснем 1915 года

амаль усе падстарынцы пакінулі родныя мясціны, сталі бежанцамі: уцякалі ад нямецкіх захопнікаў — ішла Першая сусветная вайна» (вёска Падстарынь), «у верасні 1915 года амаль усе размеркаўцы выправіліся ў бежанства ў Расію, бо наступалі немцы…» (вёска Размеркі) і г. д. Сапраўды, як нас вучыла савецкая гісторыя, беларусы ўцякалі ад немцаў у Расію. Але сёння мы добра ведаем, што беларусы са сваёй зямлі ніколі нікуды не ўцякалі, не выязджалі і не любяць выязджаць. Перад прыходам на Беларусь немцаў рускія казакі сілай і зброяй выганялі беларусаў у бежанства, палячы іх хаты і гумны. Царскі ўрад на прыклад з Паўночнай вайны вырашыў абязлюдзіць тэрыторыю, якую маглі заняць немцы, і арганізаваў прымусовае бежанства. З Гродзенскай губерні выгналі ў бежанства 751 тысячу беларусаў, з Віцебскай губерні — 52 тысячы, з Віленскай — 164 тысячы, з Мінскай — 162 тысячы. Амаль апусцелі Слонімшчына, Пружаншчына, Івацэвіччына, Кобрыншчына, Ашмяншчына, Навагрудчына, Сакольшчына, Бельшчына, Лідчына, Ваўкавышчына і іншыя рэгіёны. Агулам з-за ваенных дзеянняў бежанцамі сталі 2 мільёны 292 тысячы чалавек. З іх вярнуліся дамоў толькі 700 тысяч беларусаў. Адначасова аказалася зруйнаваная гаспадарка рэгіёнаў, адкуль вывезлі ў Расію беларускае насельніцтва. Прымусовае бежанства 1915 года паўплывала на далейшы лёс Беларусі, у тым ліку і рэгіёнаў Івацэвіччыны. Так што бежанства 1915 года — гэта трагічная старонка ўсіх рэгіёнаў Беларусі, таму, лічу, яе нельга абыходзіць бокам ці згадваць пра гэта адным сказам.

І ўсё ж кніга Алеся Зайкі, нягледзячы на мае заўвагі, унікальная. Падобным выданнем, мне здаецца, не можа пахваліцца ні адзін раён Беларусі. І мае рацыю аўтар, напісаўшы ў сваёй прадмове, што «магчыма, уніклівыя крытыкі і знойдуць у ёй хібы, але, як казалі старажытныя рымляне, “хто зможа, хай зробіць лепей”. Адно магу сказаць: у кнізе я пакінуў часцінку свайго сэрца». Часцінку свайго сэрца вы, Алесь Фаміч, пакінулі не толькі ў напісанай магутнай кнізе «Населеныя пункты Івацэвіччыны», але і ў ранейшых, і ў тых, якія яшчэ напішуцца, выдадуцца, з’явяцца на паліцах нашых кнігарняў.

*2012*

# ВЕРШЫ, ЯКІЯ НАС НЕ ПАКРЫЎДЗЯЦЬ

Неяк Янка Брыль сказаў: «Маленькі чытач непадкупна патрабавальны, чулы на праўду і фальш у іх найменшым выяўленні, ён дапускае ў свет сваёй чыстай, паэтычнай душы толькі таго, хто таксама шчыры і закаханы ў прыгожае». Шчыры і закаханы ў прыгажосць і духоўнасць аўтар зборнічка вершаў «Даравальная нядзеля» (Мінск, 2010). Аўтар гэты — беларускі паэт Алесь Клышка. Сваю чарговую кніжку вершаў ён прысвяціў дзеткам і іх бацькам. Кніжка надзвычай арыгінальная і добрая ва ўсіх мастацкіх адносінах. Дый інакш быць не можа. Бо сама назва яе «Даравальная нядзеля» настройвае на добры лад, на мудрасць, на чысціню. Калі юныя чытачы не ведаюць, дык нагадаю, што даравальная нядзеля — гэта апошняя нядзеля перад Вялікім пастом, ці 7-я нядзеля перад Вялікаднем. У гэты дзень усе праваслаўныя вернікі просяць адзін у аднаго прабачэння, даравання. Просяць дзеля таго, каб далучыцца да посту з добрай душой, засяродзіцца на духоўным жыцці, каб з чыстым сэрцам сустрэць Вялікдзень — дзень Уваскрэсення Хрыстова.

У гэты самы дзень трэба дараваць і тым, хто нас пакрыўдзіў. Інакш марнымі будуць нашы імкненні падчас посту. Не прыме Гасподзь нашых шматлікіх зямных паклонаў, калі ў сэрцы нашым будуць працягваць жыць крыўды на родных і блізкіх людзей.

Некалі нават цары прасілі прабачэння ў сваіх падданых. З гэтай мэтай яны аб’язджалі войска і прасілі прабачэння ў салдат, а потым наведвалі храмы. Маленькім храмам духоўнага даравання з’яўляецца кніжка вершаў Алеся Клышкі. Яе галоўны герой — хлопчык Ясік (Янка). У пачатку кнігі юнага героя цікавіць ранак, які абуджае людзей да справы, потым — дзень, які ўпрыгожвае стол прысмакамі, а потым ноч, якая сцеражэ спакой і змрок. Ясік падрастае, і яго пачынае захапляць рыбалка, ён жадае даведацца, хто такі цвыркун. Але найбольш хлопчыка цікавяць народныя і рэлігійныя святы і звычаі — масленіца, пост і, вядома ж, даравальная нядзеля.

У канцы кнігі Ясік становіцца дарослым, ён ходзіць у царкву, яму, як і ўсім беларусам, аўтар жадае:

Дык будзь жа заўсёды здаровы,
Волат зямлі беларускай.

Зборнік вершаў Алеся Клышкі прыцягвае чытачоў сваім таленавітым духоўна-драматычным і гумарыстычным спалучэннем. Юных і дарослых чытачоў вершы аўтара прымусяць думаць, супастаўляць, рабіць вынікі, пазнаваць прыгажосць, мудрасць і сілу, а таксама дапамогуць у хрысціянскім выхаванні. Калі нешта дзеткам падчас чытання гэтай кніжкі будзе незразумелае, то ім дапамогуць дарослыя, якія адкажуць на пытанні, каб яны больш актывізавалі думку дзяцей, іх мастацкае мысленне і фантазію. І самае галоўнае, дзякуючы «Даравальнай нядзелі» Алеся Клышкі чытачы, па словах французскага паэта Поля Элюара, узнімуцца ў сваім светапоглядзе «ад далягляду аднаго да далягляду ўсіх». А гэта сёння вельмі важна.

*2010*

## «ПОЛЫМЯ РОДНАЕ» ЎЛАДЗІМІРА ГАЙДУКА

У Беластоку ў бібліятэцы беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа» свет пабачыла новая кніга беларускага паэта з Гайнаўскага павета Уладзіміра Гайдука. Кніга мае шчырую назву — «Полымя роднае», рэдагаваў яе Ян Чыквін. Чытаю радкі з верша, які адкрывае кнігу выбраных твораў: «А людзям хопіць адной слязы — на ўсё жыццё». Магчыма. Але я не пра сумнае, бо паэт у сваіх радках не плача, не наракае на ўласны лёс, бо думка паэта, якая «паліць сум», яна таксама «дорыць шчасце».

Уладзімір Гайдук на Беласточчыне жыве (памёр 24 лютага 2012 года. — *С. Ч.*) у сельскай мясцовасці, як кажуць беларусы — «гаспадарыць на хутары». А Міра Лукша ў Беластоку неяк пры сустрэчы сказала: «Давай возьмем добрую пляшку і паедзем да Валодзі». Валодзем называюць яго ўсе сябры і паэты, нягледзячы на 70-гадовы ўзрост. А тыя, хто пісаў пра Уладзіміра Гайдука, заўсёды падкрэслівалі, што ён паэт-селянін (Уладзімір Конан), што яго матэрыяльныя ўмовы моцна трымаюць пры зямлі, прыніжаюць яго, ставяць у недарэчную залежнасць (Ян Чыквін). Тым не менш, Уладзімір Гайдук даўно вырваўся з гэтай, мякка кажучы, матэрыяльна-фізічнай сялянскай прыгнечанасці. Зямля, вёска, праца, хутар — гэта ўсё ні пры чым. Галоўнае, што ёсць паэт — шчыры, светлы, адкрыты, просты, лёгкі, паэт — якому можна толькі верыць:

На лясы, на луг шырокі
Сонца падаюць праменні,
А дзяўчынка сінявока
Ловіць «зайчыка» у жменю.
Замігцелі, як жывыя,
Пасярэбраныя росы,
А дзяўчынка боткі шые,
Каб не змерзла лялька босай.

У кнігу «Полымя роднае» Уладзіміра Гайдука змешчаны вершы з ранейшых паэтычных зборнікаў «Ракіта» (Беласток, 1971), «Блакітны вырай» (Беласток, 1990), «Пах аернага хлеба» (Беласток, 1997), а таксама вершы, якія не ўвайшлі ў вышэй пералічаныя выданні. Вядома ж, тэма вёскі, зямлі, сялянскай працы застаецца галоўнай тэмай новага выдання. Вершы прасякнуты пачуццём нейкай ціхай радасці, лёгкай журбы. Але ў душы паэта, як пісаў Ян Чыквін, «няма пакутных думак пра нацыянальную пакрыўджанасць, няма комплексу нацыянальнай непаўнацэннасці, якія пераходзілі б у плач і скаргі беларусаў». У. Гайдук піша шчыра, па-народнаму цнатліва, дасягае бездакорнай канцэнтрацыі паэтычнай думкі і пачуцця.

Аўтар «Полымя роднага» хараша апявае вясну. Спадзяванне на вясну ў яго не толькі як натхненне на творчасць, але і сялянская надзея. Паэт так і піша: «Зноў будзем поўнай жменяй сеяць і верыць сонцу і зямлі». Аўтар верыць найбольш зямлі. Не людзям, а менавіта зямлі. Калі прыгадаем Якуба Коласа, які спяваў гімны роднай беларускай зямельцы, то Уладзімір Гайдук на Беласточчыне пяе свае гімны той зямлі, на якой жыве і працуе. Ён то далучаецца да жаваранка, які «спявае песню маці-зямлі», то апраўдвае вецер і называе яго «святой песняй вечна жывой зямлі», то лісцем жоўтае восені абсыпае дарогу, каб ногі параднілісся з зямлёй. Дабрыня чалавечага замілавання да зямлі, да маці-прыроды, асабліва ў апісанні жаваранкаў, жураўлёў, салаўёў, кнігавак, душэўная тонкасць і шчодрасць выяўлены ў кнізе вельмі проста і разам з тым глыбока. Пошукі глыбіні ў выяўленні любой іншай тэмы, пошукі раскрыцця ў жанры лірычнага верша ўсёй складанасці духоўнага свету чалавека, яго псіхалогіі — без гэтага проста немагчыма ўявіць сабе Гайдука-паэта.

Чытаючы кнігу паэта з Беласточчыны, адчуваеш і замілаванне аўтара да слова народнага, да традыцыйна-народных вобразаў, матываў, да паэтыкі народнай песні. Народнасць заключаецца ў рэалізме, у праўдзівым паказе жыцця, асабліва ў ранніх вершах паэта. Паэтычныя радкі аўтара арганічна развіваюць песенна-фальклорныя традыцыі і надаюць народны каларыт:

Ой вы, думкі-песенькі
З роднае старонкі.
Ой вы, песні сумныя,
Ой вы, песні звонкія…

Ці вось гэтыя радкі з верша «Дажынкі»:

Ой, вылець, вылець,
Перапёлачка,
Жытка выжата
З свайго полечка…

«Полымя роднае» Уладзіміра Гайдука — зборнік арыгінальны, паэзія, па сутнасці, ужо сталага і вельмі своеасаблівага паэта. На жаль, на Беласточчыне ён не так часта друкаваўся і друкуецца. Паэт ён нешматслоўны, схільны да афарыстычнасці, запамінальны, даверлівы, трохі нават наіўны з «тугой затоенай». Асабліва гэтая наіўнасць адчуваецца ў лірычных радках пра каханне і пра каханую. Ён апраўдвае сябе і былую сваю сяброўку: «Я не вінаваты, ты не вінавата, што была нам святам палявая мята».

Ёсць у зборніку і слабаватыя радкі і строфы, наіўныя, часам смешныя. Асабліва іх шмат у вершах, якія раней не друкаваліся ў яго паэтычных зборніках і склалі трэці раздзел кнігі. Калі іх чытаю, здаецца, гэтыя радкі-экспромты пісаліся проста дзеля рыфмы. Ну, напрыклад: «Устаў я пазнавата, а ў галаве шумок: зачадзілі багата… трэ ехаць ў Беласток…» і г. д. Усё ж для кнігі выбраных твораў трэба падбіраць самыя лепшыя і моцныя творы. І тым не менш кніга атрымалася, бо, як піша аўтар, «паэзія — душы гарэнне». А Полымя — назва роднай вёскі Уладзіміра Гайдука на Беласточчыне.

*2011*

## «ГОД БЕЛАРУСКІ — 2010» АД САКРАТА ЯНОВІЧА

Знаёмства з чарговым (адзінаццатым па ліку) выданнем «Annus Albaruthenicus — 2010» я пачаў з артыкула дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ) Ганны Запартыка, які гучыць так: «Асабісты архіў Сакрата Яновіча і яго роля ў ацэнках літаратурна-грамадскага жыцця Беласточчыны». У ім спадарыня Ганна паведамляе, што архіў Сакрата Яновіча — гэта пакуль што адзіны архіўны фонд у БДАМЛМ прадстаўніка магутнай плеяды беларускіх дзеячаў Польшчы другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя. Гэта адзін з багацейшых архіўных збораў у Беларусі, які змяшчае амаль 9 тысяч дакументаў аб літаратурна-грамадскім жыцці Польшчы і Беларусі, а разам з тым і Еўропы, адлюстроўвае важныя ўзаемадачыненні яго яркіх прадстаўнікоў з дзеячамі многіх краін свету.

Аказваецца, першыя паступленні ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва дакументаў Сакрата Яновіча адбыліся ажно ў 1981 годзе. Далей былі паступленні ў 1987, 1989, 1990, 1991, 1993 гадах. У 1995 годзе архіўны фонд пісьменніка прайшоў навуковую апрацоўку, што дало магчымасць сфарміраваць 493 справы, якія ахапілі перыяд з 1944 да 1994 гадоў і змясцілі 3276 дакументаў. Як навуковая архіўная сістэма гэтая частка фонду мае сёння сем раздзелаў: 1. Рукапісы аўтара. 2. Пераклады твораў Сакрата Яновіча. 3. Перапіска. 4. Біяграфічныя матэрыялы. 5. Матэрыялы пра пісьменніка. 6. Матэрыялы, сабраныя Сакратам Яновічам. 7. Выяўленчыя матэрыялы. У кожным з гэтых раздзелаў, як паведамляе Ганна Запартыка, ёсць свая інфармацыя, што асвятляе жыццё і дзейнасць фондаўтваральніка, паказвае як кола інтарэсаў, так і службовыя, сваяцкія, сяброўскія сувязі.

Апошняе і самае вялікае паступленне дакументаў Сакрата Яновіча ў БДАМЛМ адбылося ў ліпені 2007 года ў дні правядзення «Беларускага Трыялёгу». Дастаўку гэтай часткі архіва С. Яновіча ў Беларусь ажыццявілі супрацоўнікі Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Прачытаўшы гэты артыкул, адразу задаешся пытаннем: а хто наступны са старэйшых беларускіх літаратараў Польшчы перадасць свой архіў на Беларусь?..

Значнае месца ў «Годзе беларускім — 2010» займаюць вершы Дзмітрыя Шатыловіча на дзвюх мовах — польскай і беларускай. Гэта вершы, прысвечаныя роднай мове, гісторыі Беларусі і яе асобам.

Віталь Воранаў у сваім перакладзе знаёміць беларускамоўных чытачоў выдання з новымі творамі ірландскага літаратара, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Сэмюэла Бэкета. Дарэчы, і летась у штогодніку «Annus Albaruthenicus» друкаваліся яго творы ў перакладзе таго ж Віталя Воранава.

У 90-х гадах ХХ стагоддзя разам з хваляй эміграцыі тысячы беларусаў апынуліся ў Нямеччыне. У аднаго з іх, пісьменніка і журналіста Аляксандра Тарановіча, глыбока інтэграванага ў нямецкае грамадства, з'явілася жаданне даць параўнальны аналіз двух народаў — нямецкага і беларускага. Як піша аўтар, у адрозненне ад французаў ці фінаў, вонкава беларусы і немцы падобныя на 99 %. Тым не менш гэта два розныя народы. Таму ў сваім эсэ аўтар на падставе фактаў і вывадаў спецыялістаў, аб'ектыўных і суб'ектыўных назіранняў і параўнанняў адказвае на пытанні: чаму немцы не п'юць, а выпіваюць і не лаюцца матам? Чаму тыповы беларус жыве ў штучна створаным ім у сваім уяўленні ідэальным свеце, а немец гэты свет будуе ўласнымі рукамі? Чаму філасофія беларуса — гэта вера ў наканаванасць, а філасофія немца — вера ў свае магчымасці і сілы?.. І сапраўды, чаму?..

Артыкул Віталя Карнелюка «Destination Belarus» прысвечаны пытанням развіцця турызму ў Беларусі. Але сярод рознага кшталту пытанняў, якія нараджае сённяшняе развіццё турысцкага прадпрымальніцтва ў Беларусі, ёсць адно выключэнне: месца і роля беларускай мовы ў турысцкай індустрыі краіны. Як разважае аўтар, ужо цяпер бачна тэндэнцыя: тыя, хто наведвае нашу краіну (а сярод іх большасць з Расіі), хочуць бачыць беларускі народ адметным, са сваім, у тым ліку моўным, каларытам. Нельга рабіць, каб ва ўмовах рынкавай кан'юнктуры нацыянальная мова была чарговы раз выціснута з ужытку, бо доўгатэрміновае, стратэгічнае планаванне турыстычнай паспяховасці напрасткі звязана з актыўнай, паўсюднай роляй беларускай мовы ў турбізнесе. Турызм — не навіна для Беларусі. Таму трэба прыкласці ўсе намаганні, каб ён сфарміра-

ваўся сапраўды беларускім, а значыць адметным, арыгінальным, прывабным і канкурэнтаздольным.

Зміцер Вішнёў ў сваім артыкуле «Aktuelle literarische Entwicklungstendenzen in Belarus» суб'ектыўна ацэньвае сённяшні літаратурны працэс на Беларусі, падкрэсліваючы пры гэтым, што ў апошнія дзесяць гадоў узрасла цікавасць еўрапейцаў да сучаснай беларускай літаратуры. Тым не менш аўтар даволі скептычна выказвае сваё меркаванне наконт перыядычных літаратурных выданняў, паказваючы іх недахопы і пралікі.

Анджэй Пісказуб у «Годзе беларускім — 2010» разважае пра Буг, а канкрэтней — пра мёртвы рэгіён паабапал берагоў Буга. «Як гэта сталася, — піша аўтар, — што Буг з вялікай рэчкі зрабіўся памежным ручайком між дзяржавамі? Будучыня рэгіёна Буга залежыць цяпер ад паразумення трох дзяржаў — Польшчы, Беларусі і Украіны. Ад таго, наколькі яны якраз убачаць карысць сабе ў аднаўленні адвечнага бугскага шляху "ад мора да мора", г. зн. ад Балтыкі да чарнаморскіх партоў».

Прафесар з Гродна Вячаслаў Швед вяртае чытачоў да першай чвэрці XIX стагоддзя — філаматаў, філарэтаў, прамяністых, Таварыства Шасці, Навуковага і Маральнага таварыстваў, Заранаў, Згодных братоў. Гісторык мяркуе, што ліцвіны, якія складалі большасць складу таемных таварыстваў, паходзілі з мясцовага насельніцтва, таму яны з'яўляюцца гістарычнай спадчынай грамадзян Беларусі, яе нацыянальнымі героямі.

Доктар гуманітарных навук Юры Вашкевіч вырашыў падзяліцца сваімі суб'ектыўнымі думкамі наконт беларусаў, хаця з гэтымі думкамі можна пагадзіцца. Ён піша, што беларусы — гэта ўнікальнае ў Еўропе насельніцтва без пачуцця бацькаўшчыны, як і перспектывы на будучыню, якая немагчымая без нацыянальнасці. «Менталітэт жыхароў Беларусі, — піша аўтар, — знаходзіцца на ўзроўні мужыцка-калгаснага існавання без сур'ёзных імкненняў у бок цывілізаванага развіцця. Зрухі дзеля еўрапеізацыі адбудуцца не раней, чым у пакаленні сённяшніх унукаў. Пры ўмове, што не вырадзіцца ўшчэнт цяперашняя папуляцыя. Рэспубліцы Беларусь пагражае апустыненасць, засмоктванне ўплывам еўрапейскіх арэалаў росквіту, перш за ўсё Нямеччыны, а таксама Польшчы і Чэхіі».

Адкрываецца штогоднік маральна-філасофскім эсэ Ігната Канчэўскага-Абдзіраловіча «Адвечным шляхам», якое ён напісаў і выдаў ажно ў 1921 годзе ў Вільні. У выданні друкуюцца першыя два раздзелы гэтага артыкула ў перакладзе на нямецкую мову. Ігнат Канчэўскі (1896–1923) у «Адвечным шляху» раскрыў драматызм гістарычнага лёсу беларусаў і ў той жа час падкрэсліў іх неадольнае імкненне захаваць незалежнасць, «ісці пароўні з іншымі народамі на будоўлю новага агульначалавечага ідэалу». Галоўным у адраджэнні Ігнат Канчэўскі лічыў дзяржаўную незалежнасць, разглядаў яе як агульначалавечы ідэал…

Хачу падкрэсліць, што тэматыка артыкулаў у «Годзе беларускім — 2010» вельмі разнастайная. Галоўнае, каб кніга ў першую чаргу дайшла да еўрапейскага чытача, каб еўрапейцы з цікавасцю яе прачыталі і зразумелі, што ёсць такая краіна Беларусь са сваёй багатай і няпростай гісторыяй.

*2010*

## КУПАЛАЎСКАЯ І КОЛАСАЎСКАЯ ТЭМЫ Ў «ГОДЗЕ БЕЛАРУСКІМ — 2011»

Прыйшоў да чытачоў чарговы нумар штогодніка «Год беларускі» (Annus Albaruthenicus), які рэдагуе ў Крынках (Беласточчына) Сакрат Яновіч. Прачытаў і я. Атрымаў задавальненне. Атрымаў таму, што ў выданні на 330 старонках, сапраўды, ёсць што пачытаць, адкрыць для сябе новае і цікавае.

Гэты «Год беларускі» заслугоўвае ўвагі яшчэ і таму, што ён амаль цалкам прысвечаны народным пісьменнікам Беларусі Янку Купалу і Якубу Коласу, а таксама таму часу, калі пачыналася новая беларуская літаратура.

Знаёміцца з тэкстамі выдання я пачаў з артыкула Уладзіміра Арлова «Зыход паэта з яснай явы. Версія Купалавай смерці». Сапраўды, смерць Янкі Купалы ў гасцініцы «Масква» ў Маскве ў 1942 годзе да сённяшняга часу застаецца загадкай для беларусаў. Гэту загадку спрабавалі разгадаць пісьменнікі Барыс Сачанка, Георгій Колас, Уладзімір Някляеў і іншыя. Але сапраўднай версіі смерці нашага песняра пакуль няма. Вядома толькі, што 28 чэр-

веня 1942 года каля дзясятай гадзіны вечара ў № 1034 гасцініцы «Масква» зазваніў тэлефон. Да апарата запрасілі Янку Купалу, які, пасля размовы, тэрмінова выйшаў. І ўжо жывым ніхто больш нашага песняра не ўбачыў. Яго скінулі з дзясятага паверха гасцініцы. А патэлефанавала ў нумар, магчыма, Паўліна Мядзёлка.

Уладзімір Арлоў мяркуе, паводле факту смерці такой вядомай асобы, як Янка Купала, абавязкова павінна была заводзіцца крымінальная справа. Але дзе тая справа? Ёсць звесткі, што яна захоўваецца не ў архівах пракуратуры ці ФСБ Расійскай Федэрацыі, а ў закрытых фондах архіва прэзідэнта Расіі (былым архіве КПСС). Я неяк прасіў аднаго ўплывовага беларуса ў Маскве, дэпутата Расійскага парламента, дапамагчы знайсці ў архіве прэзідэнта Расіі папку, прысвечаную гібелі Янкі Купалы. Ён, дарэчы, паабяцаў, але да сённяшніх дзён пакуль ніякіх звестак няма.

Аляксандр Баршчэўскі ў сваім артыкуле «Разгром нашаніўскага нацыянальнага адраджэння вульгарнымі крытыкамі» распавёў пра расправы камуністычнымі важакамі выдатных беларусаў, якія закладалі падмурак пад гмах беларускага нацыянальнага адраджэння падчас існавання «Нашай Нівы». Гэта Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш. і Максім Багдановіч. Вульгарныя крытыкі ў асобе Канстанціна Гея, Лукаша Бэндэ, Айзіка Кучара і іншых публікавалі розныя паліцэйскія даносы, фальшывыя абвінавачванні ў адрас класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ахвярай вульгарных пісак, як сцвярджае Аляксандр Баршчэўскі, стаўся і Цішка Гартны. Пісакі нават не згадалі аб тым, што гэты пісьменнік — у адрозненне ад Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія адносіліся да Кастрычніцкага перавароту крытычна, — сэрцам і душою быў аддады ідэалам БССР. Гэта ён быў аўтарам гэтак званага «Маніхвэсту», які быў абвешчаны ў Смаленску 1 студзеня 1919 года. Бэндэ і Кучар замоўчалі таксама той факт, што Цішка Гартны быў першым прэм’ер-міністрам гэтай прамаскоўскай палітычнай структуры. Вульгарызатары з нянавісцю накінуліся на Цішку Гартнага, сцвярджаючы, што «ён у часы сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элементы хістаецца ў бок рэштак буржуазіі, аб’ектыўна выконваючы сацыяльныя заказы контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму».

Характарызуючы палітычную паставу і творчасць Змітрака Бядулі, як піша Аляксандр Баршчэўскі, Бэндэ і Кучар прыпісалі яму песімізм, безнадзейнасць, фаталізм, пахвалу феадалізму і хваравітую любоў да незалежнасці Беларусі. Ну, як быццам бы гэта сёння адбываецца ў незалежнай Беларусі з падобнымі фальсіфікатарамі гісторыі і падзей у дзяржаўных СМІ. Гэтыя ж Бэндэ і Кучар накінуліся і на Ядвігіна Ш., даказваючы, што адносіўся ён з пагардаю да простага беларускага народа. А Максіма Багдановіча называлі галоўным ідэолагам беларускай буржуазіі. Пра ўсе гэтыя нюансы і факты далікатна і сур'ёзна разважае Аляксандр Баршчэўскі.

Пра дыялектызмы ў мове Янкі Купалы і Якуба Коласа расказвае Ніна Баршчэўская. Аўтарка піша, што Купала і Колас пачалі пісаць тады, калі яшчэ беларуская мова не была нармалізаванай, таму іх творы характарызуюцца вялікім лексічным багаццем. Даследчыца прааналізавала і падзяліла дыялектызмы на лексічныя, этнаграфічныя, лексічна-этнаграфічныя і семантычныя, якімі багаты творы нашых класікаў. Вось некаторыя прыклады дыялектызмаў: асвер (журавель), рытва (калдобіна), суздром (цалкам), пастыр (пастух), зірк (позірк), тэю, аднэю (тою, адною), у чом (у чым), груца (ячменныя крупы), пяколак (прыпечак) і г. д.

Прафесар Зіна Гімпелевіч з Антарыа ў сваім артыкуле разглядае паэму Янкі Купалы «Жыды», напісаную ў 1919 годзе. Крытычны агляд гэтага і іншых твораў Янкі Купалы паказвае, што беларускі народны паэт заўсёды прапагандаваў ідэю яднання беларусаў розных рэлігій: як у часы, калі ў Савецкім Саюзе разгортвалася антысеміцкая кампанія, так і пазней, падчас фашысцкага нашэсця (нясконачаная паэма «Дзевяць асінавых колляў», 1941–1942). Купалава паэма-балада «Жыды», прысвечаная ўзаемаадносінам паміж беларускімі яўрэямі і хрысціянамі, аналізуецца ў працы з гістарычнай, нацыянальнай і мастацкай перспектываў, прычым асабісты жыццёвы досвед паэта выкарыстоўваецца як падмурак для такога аналізу.

Купалаўскую, коласаўскую і нашаніўскую тэмы ў «Годзе беларускім — 2011» працягваюць артыкулы «Рэцэпцыя творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сучасным беларускім тэатры» Сяргея Кавалёва, «Тэма роднай мовы ў драматургіі Нашаніўскага Адраджэння (Карусь Каганец і Янка Купала)» Ніны Мячкоўскай,

«Паэты пакалення «Бум-Бам-Літа» ў адносінах да спадчыны «Нашаніўцаў» Катажыны Бартноўскай і іншыя.

Сяргей Кавалёў, напрыклад, бачыць прычыны частага і плённага звароту беларускіх рэжысёраў да спадчыны Купалы і Коласа ў наступных аб'ектыўных і суб'ектыўных фактарах. Гэта і тое, што канон класічнай беларускай драматургіі надзвычай небагаты (у параўнанні, напрыклад, з класічнай рускай ці польскай), а нацыянальны тэатр ва ўсіх краінах абапіраецца менавіта на класічны рэпертуар. Гэта і тое, што ў творах нашых песняроў закладзены важныя для беларускай ментальнасці сэнсы і архетыпы, вызначаны падставы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Гэта і юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама тое, што з'яўленню на тэатральных афішах імёнаў Купалы і Коласа спрыяе, як гэта ні парадаксальна, вузкі культурны кругагляд большасці беларускіх рэжысёраў, якія не ведаюць такіх драматургаў, як Аляхновіч, Родзевіч, Шашалевіч, Лебяда і г. д.

Вельмі цікавы і багаты на фактурна-статыстычныя звесткі артыкул Ніны Мячкоўскай. Аўтарка сцвярджае, і з ёй поўнасцю можна пагадзіцца, што ў перыяд Нашаніўскага адраджэння былі наймацнейшыя і выніковыя рухавікі — гэта газета «Наша Ніва» і літаратурна-выдавецкая дзейнасць, а таксама тэатр.

У 1913 годзе Максім Гарэцкі пісаў: «Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэння». А праз дзевяць гадоў Змітрок Бядуля паведаміў, што беларуская драматургія была створана практычна за гады адраджэння і налічвала 200 драматычных твораў. Гэта быў 1922 год. Варта нагадаць, што толькі пяру Уладзіслава Галубка належала тады 40 п'ес.

Пра месца беларускай мовы ў інфармацыйнай прасторы напачатку XX стагоддзя можна меркаваць толькі па тым, што на беларускай мове з 1906 па 1916 год выдавалася толькі штотыднёвая газета «Наша Ніва». У той жа час у Беларусі, па звестках Сцяпана Александровіча, у 1904 годзе выходзіла 11 рускамоўных газет, у 1914 годзе — 45 газет, у 1917 годзе — 17. Напачатку XX стагоддзя ў Мінску ў асноўным ставіліся рускамоўныя сцэнічныя творы. У імперыі, асабліва да пачатку Першай сусветнай вайны, ніхто асабліва не спачуваў беларускаму руху і не надта ім цікавіўся. Але найбольшае разуменне беларускаму руху выказала польская

інтэлігенцыя. Марыя Канапніцкая пасля паездкі ў Гродна ў 1880-х гадах пісала польскаму паэту Тэафілу Ленартовічу пра Беларусь: «Тое, што там народзіцца калісьці ў народным асяроддзі, не будзе Польшчай або Літвой, але Беларуссю»…

У «Годзе беларускім — 2011», акрамя вышэй згаданых артыкулаў, увагі заслугоўваюць і матэрыялы Алега Латышонка, Аляксандра Госцева, Вячаслава Шведа, Віталя Карнелюка, Арнольда Макміліна і іншых гісторыкаў, літаратараў і навукоўцаў.

*2011*

## ШЧЫРАЯ СУСТРЭЧА З «БЕЛАВЕЖАЙ»

Мае рацыю Ян Чыквін, які называе літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» Саюзам беларускіх пісьменнікаў Польшчы. Вось гэты саюз творчых беларусаў атрымаў летась новы падарунак — літаратурны альманах «Белавежа». Гэты падарунак «белавежцы» зрабілі самі сабе, але для шырокага кола чытачоў, якім яшчэ не абыякава беларуская літаратурная творчасць.

Шчыра скажу, я парадаваўся за альманах «Белавежа» не менш за тых, чыя творы склалі гэту кніжку. Я люблю і цаню «белавежцаў» за іх талент, адданасць роднаму слову, за беларускасць. Я ганаруся імі і буду заўсёды нізка перад імі кланяцца. Гэта розныя людзі па ўзросту: ад старэйшага і мудрага Георгія Валкавыцкага да таленавітай прыгажуні Кацярыны Сянкевіч. І прачытаў я альманах з вялікай радасцю і прыемнасцю. Прачытаў і адпачыў душой і сэрцам.

Наогул, пра літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» можна ўжо пісаць і абараняць доктарскія дысертацыі. Шлях яно прайшло ўжо вялікі — ажно 54 гады. І шлях працягваецца, і на гэты шлях ступаюць усё новыя і новыя творцы-спадарожнікі, далучаюцца яны смела, апантана, ярка. Праўда, альманах «белавежцаў» даўно ўжо не з'яўляўся на свет. Затое асобныя зборнікі беларускіх літаратараў Польшчы выходзяць рэгулярна і чытаюцца даволі цікава, хаця хапае ў іх і слабых твораў.

Мне прыгадваюцца, і я маю іх у сваёй прыватнай бібліятэцы, літаратурныя альманахі «Рунь» (1959), «Мой родны кут» (1963), тры кнігі «Белавежы» (1965, 1972, 1980), «Літаратурная Беласточчы-

на» (1973), «Гасцінец» (1992), «Беларускія пісьменнікі Польшчы» (2000), «Букет Белавежа» (2001), якія выдаваліся ў Польшчы і ў Беларусі. І вось новы літаратурны альманах «Белавежа» — шчырая сустрэча з беларускімі пісьменнікамі Польшчы. У прадмове да «Руні» Георгій Валкавыцкі — ініцыятар стварэння «Белавежы» — тады пісаў: «Беларускія літаратурныя сілы ў Польскай Народнай Рэспубліцы толькі што пачалі пускаць першыя парасткі; перад імі ўсе цяжкасці творчага станаўлення і нязведаныя далі рамантычнага падарожжа, якое вабіць і насцярожвае. Трэба спадзявацца, што выданне гэтага зборніка прычыніцца да творчага ўзросту нашых аўтараў, будзе значным штуршком у прад'яўленні да саміх сябе большай патрабавальнасці ў авалодванні літаратурным майстэрствам, і гэтым самым унясе каштоўны ўклад у развіццё культуры нашай народнай краіны. З тым большай упэўненасцю можам аб гэтым гаварыць, калі ўлічым факт, што дагэтуль на Беласточчыне не выйшаў ніводзін паэтычны зборнік. Тое, што мы першымі выйшлі абрабляць паэтычныя аблогі, павінна дадаць нашым паэтам бадзёрасці ў пошуках сваёй папараці-кветкі». Цяпер так сказаць нельга, бо першыя парасткі «Белавежы» даўно далі і даюць добрыя творчыя ўраджаі, а маладыя ад іх не адстаюць, а ў нейкай ступені нават перасягаюць. І тая задумка Георгія Ваўкавыцкага аб стварэнні ў Польшчы «Белавежы» не была марнай і часовай, а дае плён і сёння: у Польшчы выдаюцца беларускія кнігі, ладзяцца прэзентацыі, вечары, сустрэчы, семінары, творы «белавежцаў» перакладаюцца на розныя мовы, некаторыя ўвайшлі ў школьныя падручнікі. Значыць, спадар Ваўкавыцкі тады не памыліўся, а глядзеў далёка наперад з надзеяй, што з творчых беларусаў Польшчы будзе толк. Так яно і атрымалася.

Распачынаецца новы літаратурны альманах «Белавежа» ўспамінамі Георгія Валкавыцкага, які хутка адзначыць сваё 89-годдзе. Гэта невялікія згадкі пра маму, а таксама ўрывак з кнігі «Віры. Нататкі рэдактара», дзе старэйшы беластоцкі «белавежац» прыгадвае пачатак стварэння літаб'яднання і людзей, якія стваралі беларускі тыднёвік «Ніва», а на яго старонках друкавалі свае першыя літаратурныя творы.

Побач з беларускім літаратурным аксакалам Георгіем Ваўкавыцкім у альманаху друкуюцца творы не менш паважаных, таленавітых

і шаноўных Віктара Шведа, Васіля Петручука, Дзмітрыя Шатыловіча, Алены Анішэўскай, Яшы Бурша, Алеся Барскага. Усім ім ужо за 80, але ў творчасці яны застаюцца маладымі майстрамі слова, адкрывальнікамі новага, цікавага і непаўторнага. Бо яны ў сваім жыцці не адзінокія, як піша Віктар Швед «не адзінокі я, струёй шырокаю паэзія бруіцца…». Так, у іх душах бруіцца літаратура, магчыма, яна іх лечыць, суцяшае і дапамагае доўга жыць. Таму і прыклад нам, маладзейшым, ёсць у каго браць. І калі я чытаю творы старэйшых беларусаў «Белавежы», прыгадваюцца радкі Янкі Сіпакова з ягоных успамінаў «Мая бібліятэка»: «Мы ішлі ў літаратуру не па адным. Мы ўрываліся ў літаратуру ўсе разам — гуртам, выраем, моцнаю хваляю, усім пакаленнем. Нам так было зручней, цікавей, весялей, радасней. І чым больш было ў нас паплечнікаў, тым больш упэўнена мы сябе адчувалі: расце наша родная літаратура! Заўсёды думалі мы не толькі пра свае творы, але і пра літаратуру». Усе разам беларускія літаратары Польшчы стварылі 8 чэрвеня 1958 года літаб’яднанне, якім могуць ганарыцца і сёння. А вось у Беларусі многія літаратурныя аб’яднанні, якія існавалі ў абласных і раённых гарадах дзясяткі гадоў, проста зніклі, а літаратары кожны па-свойму цугляе Пегаса, адольваючы літаратурны Парнас.

Добра, што ў літаратурным альманаху «Белавежа» апублікаваны здымкі пісьменнікаў і іх біяграфіі, а таксама ці не ўпершыню даюцца звесткі пра іх літаратурныя псеўданімы, якіх нават няма ў «Слоўніку беларускіх псеўданімаў» (Мінск, 1983) Янкі Саламевіча. Наогул, беларускія пісьменнікі сталі карыстацца псеўданімамі яшчэ з XVI стагоддзя. Гэта былі пераважна пісьменнікі-палемісты, якія выступалі супраць каталіцызму, супраць уніі. Ва ўмовах жорсткай рэлігійна-класавай барацьбы, фанатычна неверагодных ганенняў на ідэолагаў праваслаўя ў Рэчы Паспалітай XVI–XVII стагоддзяў выкарыстанне псеўданімнага і ананімнага выдання палемічных твораў было адзіным ратункам ад суда і кары смерцю. Так, напрыклад, у Брэсце ў 1564 годзе была выдадзена ананімна прагрэсіўная на той час брашура «Размова паляка з літвінам пра тое, што ёсць права, вольнасць, або свабода, і пра унію кароны Польскай з княствам Літоўскім». Чытаючы «Белавежу», я даведаўся, хто такія Адоль Кастрыца, Колька Сплюх, Ларс, Ігнат Снарскі, Алесь Чабор,

Станіслаў Ян, Андрэй Самасей, Сідар Макацёр, Рыгор Лясун, Янка Дубіцкі, Павел Бельскі і г. д. Аказваецца, такімі псеўданімамі карысталіся Сакрат Яновіч, Юрка Геніюш, Мікола Гайдук, Аляксандр Баршчэўскі, Якаў Анісэровіч, Віктар Швед, Георгій Ваўкавыцкі, Ян Чыквін. Маладзейшае пакаленне «белавежцаў» псеўданімы амаль не выкарыстоўвае.

Шмат гадоў узначальвае літаб'яднанне прафесар Ян Чыквін. Ён у 1990 годзе быў ініцыятарам і выдання бібліятэкі «Белавежы», дзе ўжо выйшла з друку 83 беларускія кнігі, у тым ліку і літаратурны альманах «Белавежа». Ян Чыквін сапраўды для літаб'яднання і яго сяброў робіць у Польшчы шмат. Ён не толькі быў і застаецца паэтам-наватарам у літаратуры, але і наватарам у прапагандзе беларускага літаратурнага слова ў Польшчы і па-за яе межамі. «Я тое, што не згіне», — пісаў ён у адным са сваіх ранніх вершаў. Сапраўды, не згіне і тое добрае, што робіць прафесар Чыквін.

Творчасць самабытнага празаіка лірычнага складу Сакрата Яновіча адметная, як пісаў Пятро Васючэнка, нечаканымі пераходамі і неспадзяванкамі. Цяжэй у творах празаіка пераадольваюцца страхі жыцця. Чаму так — адказ шукаю ў ягонай прозе: «Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне. І ў вечнае, бо бязмежнае. І ў чалавека. І ў свет — веру!».

З празаічнымі жыццёвымі развагамі ў літаратурным альманаху выступаюць Янка Целушэцкі, Міра Лукша, Міхась Андрасюк, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Яўген Вапа, Алена Анішэўская і іншыя.

Падборка вершаў Віктара Стахвюка адкрываецца яго жыццяпісам. На маю суб'ектыўную думку, гэты жыццяпіс не пасуе да альманаха, тым болей што ў кнізе надрукавана і кароценькая яго біяграфія, якой хапіла б да падборкі добрых вершаў паэта, які «міг гэты прагна п'е» і жадае «апошняй птушкай у ключы паляцець у вырай». Да птушак звяртаецца ў сваіх філасофскіх вершах і Галіна Твярановіч, бо, насамрэч, «вялікай птушцы знаць: пакрысе спеюць высі і крылы крэсляць ШЛЯХ». А вось птушкі і крылы вершам-роздумам Лідзіі Маліноўскай не патрэбны, бо паэтка «ўзлятае без крылаў», дзе наўкола «разнаколерныя воблакі… і яркае сонца».

Уладзімір Саўчук, Жэня Мартынюк, Юрый Баена, Міра Лукша, Міхась Андрасюк народжаныя ў другой палове 1950-х. Адчуваецца, што гэта пакаленне моцна настальгуе па маладосці, па

тым часе, калі шчасна і светла жылося ў бацькоўскіх хатах, калі грэла «святло дзяцінства» (Жэня Мартынюк), калі «вёска танула ў мелодыях песняў» (Юрый Баена), калі «шукалі кожны з нас мы шчасця незямнога» (Міра Лукша), бо цяпер вельмі часта «ажывае свядомасць пражытых гадоў» (Уладзімір Саўчук), «сніцца дурная маладосць, песні-красуні і віно» (Міхась Андрасюк) і сняцца мамы, якія ткуць і вышываюць «задушэўнай ласкай, цёплаю журботай, песняю сваёй» (Жэня Мартынюк).

Ну, а цяпер пра самае прыемнае, што надрукавана ў альманаху «Белавежа». Гэта вершы маладых беларускіх паэтаў Польшчы — Юркі Буйнюка, Юстыны Каролькі, Віялеты Нікіцюк і Кацярыны Сянкевіч. Толькі юная Віялета Нікіцюк яшчэ не мае свайго ўласнага зборніка вершаў, але гэтая радасць у яе наперадзе. Затое як яна сур'ёзна, геніяльна і мудра разважае ў сваіх паэтычных строфах:

> Хочацца мне ўзысці на Парнас
> Сустрэцца з зоркамі сусвету
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Побач Гарацыя стаіць свабоднае крэсла.

Вершы Юркі Буйнюка, Юстыны Каролькі і Кацярыны Сянкевіч здзіўляюць сваёй смеласцю-разважаннямі аб нашым няпростым жыцці, яны арыгінальныя і кранальныя, простыя і разнастайныя паводле тэматыкі і формы. Паэты шматабяцальныя, і гэта радуе.

Складальнік альманаха ўключыў у кнігу і творы тых аўтараў, якіх ужо няма на гэтым свеце, — Янкі Жамойціна, Міколы і Уладзіміра Гайдукоў, Юркі Геніюша, Міхася Шаховіча. Мініяцюра Юркі Геніюша «Смыком па сэрцы» пачынаецца так: «Навошта ў чалавеку струны існуюць? Закрані абы-якую — гул ідзе. Вясёлую — і рогат півам пеніцца. А калі сумную — кіпцюры па сэрцы заскрабуць…». З мелодый розных літаратурных струн складаецца і беларускі альманах «Белавежа» з Польшчы. То сумныя гэтыя мелодыі, то радасныя, то выразныя, то ціхія, то філасофскія, то простыя… Але так і павінна быць.

***2012***

## ПА БЕЛАРУСІ З «РАДЗІМАЗНАЎСТВАМ»

Нядаўна атрымаў у падарунак адну з апошніх кніг Алеся Карлюкевіча «Радзімазнаўства» (Мінск, 2010) з ягоным аўтографам. Прачытаў, потым яшчэ раз перачытаў і вырашыў напісаць некалькі слоў пра гэта выданне. Вырашыў напісаць не таму, што Алесь Карлюкевіч — даволі вядомая асоба ў чыноўніцкіх колах рэспублікі і даўно ўзначальвае РВУ «Літаратура і мастацтва», а таму хочацца неяк перад ім «прагнуцца», і не таму, што ён — шаноўны ў літаратурных і выдавецкіх справах чалавек, і не таму, што адзін з раздзелаў сваёй новай кнігі ён прысвяціў мне. А таму, што Алесь піша і выдае добрыя, вартыя ўвагі і пашаны кнігі, і таму, што з Алесем я знаёмы вельмі шмат гадоў. Мы разам некалі са школы пачыналі друкавацца ў часопісе «Бярозка» і ў газеце «Піянер Беларусі» (цяпер «Раніца»). Тады, у савецкі час, не вельмі шмат было газет і часопісаў, куды маглі прабіцца са сваімі творамі хлопцы і дзяўчаты, асабліва з правінцыі. Але нам гэта ўдалося. Многія з нас, як і Алесь Карлюкевіч, сталі вядомымі сёння пісьменнікамі, журналістамі, палітыкамі, выдаўцамі. Зрэдчас мы сустракаемся, спрачаемся, абмяркоўваем надзённыя справы.

Пасля школы лёс нас раскінуў па былой вялікай краіне. Алесь пасля школы паехаў вучыцца ў Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча. Потым працаваў ваенным журналістам, а я паступіў у Белдзяржуніверсітэт. І толькі праз пэўны час, калі з далёкіх і нялёгкіх вайскова-журналісцкіх дарог сябра вярнуўся ў родную сталіцу, мы сустрэліся ў Мінску. З Мінска да яго вёскі Зацітава Слабада на Пухаўшчыне рукой падаць. Таму ён асеў у сталіцы, а я паехаў на Слонімшчыну — на сваю радзіму. Вядома, у сталіцы творчаму чалавеку лепш, лягчэй, цікавей жывецца. У глыбінцы — цяжэй. Але гэтыя дзвесце кіламетраў, якія аддзяляюць Слонім ад Мінска, не перашкода, тым больш у час мабільнай сувязі і Інтэрнэту, для сяброўства. Я сачу за тым, што піша і выдае Алесь Карлюкевіч. А піша ён шмат і выдае нямала. І калі ён паспявае ўсё рабіць — дзіву даюся.

Некалі ў прадмове да кнігі «Чаканне Айчыны» (Мінск, 1998) Уладзімір Саламаха назваў Алеся Карлюкевіча чалавекам, які стварае «ўласны “фрэскавы” вобраз Радзімы». І гэта сапраўды

так. Фрэска — гэта малюнак вадзянымі фарбамі, нанесенымі на свежаатынкаваную сцяну. Малюнкі-фрэскі Алеся Карлюкевіча нанесены на гістарычную сцяну Айчыны. Асабліва не любіць аўтар рассюсюквацца ў сваіх фрэсках, у яго — канкрэтна, ясна, проста. З такіх канкрэтных краязнаўчых фрэсак-нарысаў складаецца і кніга пра мясціны і асобы Беларусі, кніга, якую аўтар шчыра назваў «Радзімазнаўства».

Радзімазнаўства — значыць пра Радзіму, пра родны край. Гартаю першыя старонкі шыкоўнага выдання і адпраўляюся ў падарожжа ад Ашмянаў да Сіняўкі. Божа ж мой, колькі мясцін апісаў аўтар, а колькі прозвішчаў згадаў, якія ўнеслі вялікі ўклад у гісторыю нашай Бацькаўшчыны. Шкада толькі, што ў падобным выданні адсутнічаюць і геаграфічны паказальнік, і імянны. А яны ў гэтым выданні былі б дарэчы. Польскія гісторыкі, краязнаўцы і даследчыкі літаратуры без падобных паказальнікаў кніг ужо амаль не выдаюць. Паказальнікі ў такіх выданнях, як «Радзімазнаўства», мусяць быць. Гэта вельмі важна. Тым не менш кніга Алеся Карлюкевіча атрымалася фундаментальнай, як з боку краязнаўца-даследчыка, так і з боку географа-турыста. Аўтар перапапаціў шмат і як журналіст, і як гісторык, і як літаратар. Каго ён толькі не згадвае ў сваёй кнізе! Вядома ж, найбольш беларусаў — знакамітых, вядомых і маладомых. Акрамя беларусаў аўтар не шкадуе згадак і пра яўрэяў, рускіх, украінцаў, палякаў, немцаў, татараў — для якіх Беларусь была і застаецца Радзімай.

«Радзімазнаўства» Алеся Карлюкевіча — пра сівую даўніну і сённяшні дзень роднай зямлі, пра яе самыя ўнікальныя мясціны і, вядома ж, пра людзей, найперш таленавітых. Апісваючы Бярозу (Бярозу-Картузскую), аўтар, напрыклад, прыгадаў таленавітага драматурга Міколу Арахоўскага, які рана пакінуў гэты свет. У 1990-х гадах пра Міколу шырока пісалі СМІ, ставілі яго п’есы «Ку-ку», «Машэка» на сцэнах беларускіх тэатраў. Цяпер гэтае імя забыта. Алесь яго прыгадаў. Малайчына!

Апісваючы Валожыншчыну, аўтар кнігі знайшоў некалі слоў і пра Пятра Бітэля, які ў сталінскіх лагерах пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. Але, акрамя перакладаў, Пятро Бітэль напісаў і пакінуў нам цудоўныя гістарычныя паэмы

«Замкі і людзі», «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», «Памятны верасень», шэраг вершаваных аповесцей.

Хоць сціпла, але прыгадаў літаратар і краязнаўчага пісьменніка (тэрмін, здаецца, упершыню ўвёў Алесь Карлюкевіч) Ярослава Пархуту, які быў родам з Івацэвіцкага раёна. Яраслаў Сільвестравіч застаўся ў маёй памяці цікавым і ўнікальным, апантаным і ўлюбёным у свой край чалавекам. Я быў з ім добра знаёмы, мы шмат разоў вандравалі па Слонімшчыне, Пружаншчыне і Івацэвіччыне. Кнігі падарожжаў Ярослава Пархуты — гэта помнікі сапраўднага краязнаўства. Адна з іх — «Зямля бацькоў нашых» — нават была адзначана ў 1992 годзе Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. Алесь Карлюкевіч з'яўляецца прадаўжальнікам вандровак Ярослава Пархуты. Праўда, розныя гэтыя два аўтары. Яраслаў Пархута больш празаік, адметнасць якога відаць з паэтычных замалёвак, разваг, яму ўласціва свежасць успрымання навакольнага свету, мастацкая апісальнасць. Алесь Карлюкевіч — чысты краязнавец, энцыклапедыст, даследчык. Але справа, якую рабіў Яраслаў Пархута, і тая справа, якую робіць Алесь Карлюкевіч, адна — радзімазнаўства.

Апісваючы Навагрудак — першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, аўтар шчыра асыпае кампліментамі Тамару Вяршыцкую і Міколу Гайбу, якія там жывуць і шмат робяць дзеля беларускай культуры. Насамрэч, гэта правільна. І Тамара Вяршыцкая, і Мікола Гайба заслугоўваюць пахвалы, бо робяць яны ў родным горадзе больш, чым некаторыя ў сталіцы. Апісваючы Навагрудчыну, Алесь Карлюкевіч згадаў і Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера). Шмат кніг напісаў гэты чалавек, але найвялікшай каштоўнасцю з'яўляецца яго выданне пра Навагрудскую беларускую гімназію. Цікава, а хто напіша манаграфіі пра Клецкую беларускую гімназію, пра гімназіі ў Свіслачы, Будславе, Вільні, Нясвіжы, Радашковічах?.. І нават пра польскія гімназіі ў нас няма добрых кніг, а яны ў 1920–1930-х гадах дзейнічалі ў былой Заходняй Беларусі.

Гартаючы кнігу Алеся Карлюкевіча, спыняю свой позірк на старонкі, дзе аўтар апісвае Случчыну, якая багата на таленавітых людзей. Некаторых вядомых случчакоў згадвае аўтар, але сярод згадак не мінае і Рыгора Родчанку. Дзіўным да апантанасці ў краязнаўстве быў гэты чалавек Рыгор Родчанка. Шкада, мала ён пражыў

на гэтым свеце, а мог зрабіць для беларускага краязнаўства вельмі шмат. Але ён паспеў выдаць дзве цудоўныя кнігі — «Старэйшая школа Беларусі» і «Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: нарыс жыцця і творчасці». Меў рацыю Рыгор Барадулін, калі напісаў такія радкі: «Радзімазнаўства — мудрая навука, яе адолець могуць дзівакі…». На дзіваках сёння і трымаецца наша краязнаўства, наша радзімазнаўства. На дзіваках краязнаўства трымалася заўсёды…

Раздзел «Асобы» кнігі Алеся Карлюкевіча пачынаецца з Пінска з асобы Аляксандра Вітмера. Але якую карысць прынёс Беларусі гэты Вітмер? Ды зусім ніякую. І чым ён такі знакаміты? Тым, што пабудаваў гасцініцы і рэстараны на Ялцінскай набярэжнай?.. А для Беларусі што ён зрабіў карыснага?.. Ды нічога. Таму няма сэнсу пра такіх людзей пісаць у добрай кнізе, згадваючы знакаміты Пінск. Там ёсць беларусы, якія сапраўды заслужылі памяці: і тая ж Люба Тарасюк, і той жа Міхаіл Дубянецкі, і тая ж Яўгенія Янішчыц… Але Алесь Карлюкевіч уключыў у сваю кнігу і невялікі артыкул пра Вітмера. Гэта права аўтара.

Адзін з нарысаў кнігі прысвечаны рускай пісьменніцы Яўгеніі Таратута. Лёс яе бацькі непасрэдна быў звязаны з Беларуссю. Але я хачу сказаць не пра гэта. Яўгенія Таратута, як піша Алесь Карлюкевіч, з'яўляецца аўтарам кнігі «Каштоўныя аўтографы», што выйшла ў Маскве ў 1986 годзе. Дарэчы, у Расіі шмат павыходзіла кніг, прысвечаных аўтографам. У сваёй прыватнай бібліятэцы маю ўнікальную кнігу Вольгі Голубевай «Автографы заговорили…» (Масква, 1991). У ёй аўтарка ў форме невялікіх эцюдаў распавядае пра некаторыя выданні з дароўнымі надпісамі, якія зберагаюцца ў расійскай Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына. У эцюдах зроблена добрая спроба ўявіць гісторыю аўтографаў Крылова, Жукоўскага, Някрасава, Дастаеўскага, Купрына, Гумілёва, Блока, Ахматавай і іншых рускіх пісьменнікаў, ажывіць схаваныя ад нас часам сувязі дарыльшчыкаў і адрасатаў. У Беларусі, на вялікі жаль, падобных кніг няма, не напісана. Толькі ў 1994 годзе гродзенскі гісторык Валерый Чарапіца выдаў нарысы пра аўтографы даследчыкаў гісторыі Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя пад назвай «Са скарбніцы кніжных паліц». А вось пра аўтографы беларускіх пісьменнікаў на нашых паліцах кніг няма. А гэта таксама праца краязнаўцаў.

З асаблівай цікавасцю я прачытаў таксама артыкулы, якія прыцягваюць і захапляюць, пра Адама Мальдзіса, Алеся Марціновіча, Міхася Міцкевіча, Алеся Пальчэўскага і Тамару Цулукідзэ, Пятра Альхімовіча, Уладзіміра Ліхадзедава. Артыкулы пра сваіх людзей, адчуваецца, пісаліся аўтару кнігі лягчэй, цяплей, шчырэй. Яны і лепш чытаюцца, наводзяць на роздум, запамінаюцца. Як казаў некалі таленавіты Фёдар Янкоўскі: добра, правільна, па-гаспадарску.

Каштоўныя звесткі, змешчаныя ў кнізе «Радзімазнаўства» Алеся Карлюкевіча, а таксама і тыя, якія трэба яшчэ аўтару адшукаць, даследаваць, напісаць, дый не толькі аўтару гэтага выдання, а ўсім нам, — наша агульная гістарычная спадчына, якая з кожным годам патрабуе ўсё большай і большай увагі, павагі і вывучэння. Таму даследчая справа Бацькаўшчыны працягваецца. І спадзявацца трэба не толькі на аўтара «Радзімазнаўства», але і на ўсіх краязнаўцаў, літаратараў і гісторыкаў Беларусі, спадзявацца трэба на нас саміх. Хто ж, калі не мы?..

*2010*

## СПАВЯДАННЕ РОДНАСЦІ

За літаратурнай творчасцю беларускага паэта з Беласточчыны Юрыя Баены сачу даўно, бо вельмі мне даспадобы яго паэтычныя радкі, вершы, кнігі. У іх ёсць усё: і зямля, і свет, і дрэвы, і кветкі, і людзі. Ды і дыханне яго паэтычнага слова не губляецца ў кагорце беларускіх паэтаў Польшчы. Наадварот, паэт дасягнуў мастацкай сталасці і спеласці, філасофскай навізны і сапраўднага творчага ўзросту. А эпіграфам да яго паэзіі могуць быць радкі:

Веру — жывым перадай.
Веру жывую — пакінь!

Гэтыя радкі да эпіграфа я ўзяў з новага паэтычнага зборніка «Бераг надзеі» (Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа», Беласток, 2009) Юрыя Баены, куды ўвайшло ўсё лепшае, напісанае паэтам за 52 гады яго жыцця і за 18 гадоў творчасці (улічваючы час, калі выйшаў першы зборнік вершаў «Лісты

блакітных успамінаў»). Але верыцца, што самае найлепшае яшчэ напішацца.

«Бераг надзеі», які я ўважліва прачытаў, пакідае прывабнае, свежае, хоць крыху і супярэчлівае ўражанне. Кніжку амаль цалкам складаюць свабодныя вершы (верлібры). Жанр гэты ўжо досыць абжыты ў нашай паэзіі. І ўсё ж па-ранейшаму як бы малады, вуглаваты, ёмісты ў важкай хадзе. З намёкам на шматсказальнасць, філасафічнасць, што выступаюць як бы «пробным каменем» нашай паэтыкі. У маёй памяці яны высякаюць адмысловыя іскры («крэмень аб крэмень»), роднасныя падабенствы з творча-ўзорнага скарбу Максіма Танка («Шыбы старой камяніцы»), Сяргея Дзяргая («Сляза заўсёды горкая») і іншыя. Раўняцца ёсць на каго. Хоць самае адказнае раўненне — гэта на самога сябе, на свой вопыт і важкі змест, што просіцца з жыцця ў верш, у змест, прапушчаны праз сэрца.

У зборніку Юрыя Баены невыпадкова сэрца, душа — паняцці кроўна-набліжаныя. Радкі праграмнага верлібра адразу настройваюць на лад сур’ёзны, узвышана-спавядальны:

З глыбіні адкрытай душы
Неспакой струменіцца.

І далей — мовіцца важна: «гусцеюць словы», яны — нібы «раны-маршчыны»…

З першых радкоў уражвае менавіта разгорнуты вобраз размовы са сваім вершам. Размова аб самым жыццёва-істотным, рэчыўным і запаветным:

Берагам надзеі іду,
Дзе зямля,
Вада і паветра.

Паэтызацыя — як бы ў духу рэчыўнага пералічэння танкаўскага верлібра. І была ж просьба-перасцярога. Мальба і варажбітная замова, прамоўленая ў бяссонную ноч. Заклінанне. Ідуць важкія пералічэнні паняццяў, нібы рэальных рэчаў:

Ад голаду,
Ад холаду,

Ад агню і ветру,
Ад бяздушша свету —
Засцерагай мяне, верш…

Аднак калі зазірнуць у некаторыя іншыя вершы, то няцяжка заўважыць, што ў гэты ж падмагучны ход размовы ў часе яе, як бы далейшага працягу, сям-там нечакана ўрываецца агульна-вяшчальнае, досыць вядомае: «Верш мой — споведзь душы». Ужо залітаратурызаванае. Падобныя дэкларацыі павісаюць у бязважкасці, калі іх не пацвярджае сапраўды асабіста перажытае («з глыбіні адкрытай душы»!). Або і ў тых выпадках, калі дэкларатыўная ўяўная гучнасць збіваецца на загадкавую шматзначнасць. Як скажам: «Паэзія — кроў маёй душы»! Зрэшты, аўтар гэтага выслоўя, што падобнае на самаатэстацыю, ведае, дзе жывая кроў яго паэзіі:

Таму на тваю
Дапамогу разлічваю —
Сэрца!

Разбіўка красамоўная. Але ж яно, сэрца, назыўное і бясконца падторанае, пачынае траціць паўнату пачуццёвай каштоўнасці, даверу. І ў вершы ўжо не радуе моц паэтызацыі.

У Юрыя Баены рэдка які вобраз абыходзіцца без гэтага ўлюбёнага слоўца (вершы «Сэрца», «Словы мае…» і іншыя). Сярод іх, падобных «сардэчных» вершаў, нельга не разгледзець істотна-значныя радкі, якія паслужылі пачаткам і канцоўкай запамінальнага верлібра:

Край мой — крык дзікай ружы.
Спадчына — боль майго сэрца.

Пераклічка з вядомым вершам Уладзіміра Дубоўкі відавочная: «Беларусь — мая шыпшына». Тая ж дзікая ружа. І яе крык у Юрыя Баены выкліканы менавіта лёсам спадчыны («боль майго сэрца»). Гэты крык не менш балючы, чым беды-трывогі, прароча разгаданыя Уладзімірам Дубоўкам, пра «вецер дзікі» Чарнобыля. Эпітэт «дзікі» — як асацыятыўная пераклічка двух нашых паэтаў — старэйшыны і паэта маладога пакалення.

Сярод руін
Шукаю жывых і мёртвых,
Збіраю абломкі памяці.

Усё перакрыжавалася: Спадчына, Чарнобыль. «Лёс такі?» Пытанне амаль роспачнае.

Праз імглу
Вобмацкам іду
Да роднага дому.

Верлібр Юркі Баены, нягледзячы на наследаванне, не губляе самастойнасці. Ён — адзін з лепшых у набытку паэта. Радкі — суцэльная асацыяцыя.

Трэба сказаць, што тут, як і ў многіх вершах паэта, акрэслілася з добрым плёнам ужо сталая рыса яго ўмоўна-асацыятыўнага мыслення, якое надзвычай характэрнае для свабоднага верша.

Цёмная рака
З пакалення ў пакаленне плыве.
Выбірае пясок з-пад ног,
Падмывае бераг.
Час правальваецца…

На вачах глыбее, напаўняецца трывожным зместам вобраз, які даў назву кніжцы паэта «Бераг надзеі». Цяжка ўтрываліцца надзеі на падмытым беразе, і правальваецца час!

Юрка Баена арганічна валодае асацыятыўнасцю вобразнага мыслення. Без гэтага дару многія верлібры не дабіралі б ёмістасці зместу, філасафічнасці («Я — камень», «Справядлівасць спазняецца», «Маяк», «Паміж зямлёй і небам» і іншыя).

Таямніца асацыятыўнасці запрашае чытача роздумна прыпыніцца, прыпасці ўважна да радкоў, шукаць разгадкі, заглыбіцца ў разгалінаванне шматзначнасці. Не ўсё, вядома, паддаецца асэнсаванаму прачытанню, знойдзенай адпаведнасці з уласна перачытаным, дадатковаму акрыленню таямніцы закладзенага сэнсу ў глыбінях вобраза. Здараюцца, на жаль, і водавочныя выдаткі, калі радкі, не сцэментаваныя скразной думкай, запісваюцца штучнай разбіўкай,

разрыхлена, а то і ў празаічнай манеры, у выглядзе асобных сентэнцый, далёкіх ад дыхання паэзіі, як, напрыклад, гэтыя радкі:

Многае зямное адбываецца
Па-за нашым прадбачаннем,
Без ніякай патрэбы
І без дазволу і г. д.

Кампенсуе тое, што ў паэзіі Юрыя Баены з прыемнасцю ўсё ж выяўляецца душа паэта-лірыка, улюбёнага ў Бацькаўшчыну, у родную мову. Вершы ўражваюць спавяданнем роднасці. Не губляючы сваёй мудрай сузіральнасці, зліцця з усім светам, яны дыхаюць унутранай адухоўленасцю:

Калі памяць твая
жыве,
Калі кліч Айчыны
нясеш!

Часам можа здзівіць роднаснасцю светаадчування як бы розных па прыродзе таленту паэтаў. Напрыклад, верлібр «Трава» выклікае прыемнасць пераклічкі, па сваім як бы наіве вытанчанага лірычнага дапушчэння, якое знаходзім у дзівоснай паэтызацыі танкаўскага сужыцця і адзінства з жывой прыродай. Гэта рэдка, калі ў сэрцы паэта прырода здолее так загняздзіцца, што наіў задзіночання перарастае ў сапраўдную паэзію. Тое ж сталася і ў вырашэнні задумы свабоднага верша Юрыя Баены «Трава», у якім таксама ёсць бясспрэчнае наследаванне Максіму Танку. Гэта яго вытанчанасць успрыняцця прыроды здольная на паэтызацыю запытання: чаму лятаюць птушкі? Аказваецца, ім проста балюча таптаць «вочы лотаці», нечапаную раскошу вясновага красавання траў. Наіў далёкі ад наіўнасці, калі ў ім дыхае паэзія. Гэтаксама захацелася і Юрыю Баену прымерыць сваю задуму верлібра на жывую адчувальнасць травы ў квецені, на якую ажно боязна ступаць. А ў жыцці аўтару даводзіцца ці не раз і самому стацца патаптанай травой з падобным лёсам.

Цікава, што поруч з «Травою» сэнсава блізкая і задума верлібра «Камень». А яму, каменю з бруку, ці лёгка «голасна» маўчаць?

Мажліва, што і я
буду маўчаць, як камень,

калі стануць таптаць
мяне, як брук.

Повязь асацыяцый аналагічная. Просяцца на спасылкі адметныя радкі верлібраў — іх мноства, якія маюць годнасць выслоўя, знешне шурпатых, як бы не абчасаных, і тым не менш запамінальных, ударна-выбуховых сваёй спрасаванасцю сэнсу. Асацыятыўная вобразнасць як бы кампенсуе іх недастатковую рытмічную арганізаванасць («Свежым бунтам бінтуйце думкі…», «Мой унутраны голас — гэта крык белых сцен…»). Аднак мне больш даспадобы не знешняя замыславатасць, калі яе аж занадта. А спавяданне роднасці і нават зусім апраўданага болю:

Паэзія — жменька матчыных слоў
у дні пагарды і здрады…

Аўтару выбраных вершаў, пераважна верлібраў, вельмі не проста знаходзіць іх унутраную рухомую моц, іх мабільнасць, якая непаслабна трымала б думку ў напружанні. Паэт ці не зачаста выбірае простую форму руху свайго героя («Іду да вас», «Хаджу ад вакна да вакна, ад дзвярэй да дзвярэй», «Папацёмку ідзём», «Бягу туды»). Імітацыя руху стварае толькі знешні антураж. Калі, па прызнанню аўтара, «няма патрэбы ісці за далягляд сэрца».

Сутнасць удумнай сцішанасці і лірызму мне бачыцца ў трохі іншай іпастасі, у глыбокай спавядальнасці і мальбе, нават у драматызме сутыкнення радкоў аднаго і таго ж верлібра («Вачыма радкоў у даль бягу…»), а менавіта:

Найвышэй падымаюся,
калі на каленях стаю…

Кніга Юрыя Баены «Бераг надзеі» — кніга філасофіі жыцця, чалавечая прага лепшай радасці і высокай раскошы шчасцем. Сама душа (не як метафара, а як паняцце метафізічнае) для паэта — скарб, матчын дар. Любоў да маці, да Айчыны, да зямлі, да людзей — старонка беларуская, якой шчыра прысягае аўтар на вернасць сваімі вершамі, сваім чулліва-шчырым «Берагам надзеі».

*2009*

## АДПЛЫВАЦЬ З МОРА ЯШЧЭ РАНА

Роднай вёсцы Мора, што на Беласточчыне, паэт Віктар Швед прысвяціў шмат шчырых паэтычных радкоў. Так міла і хораша ён апеў Мора, як Алег Лойка свой родны Слонім, як Рыгор Барадулін сваю Ушаччыну, як Янка Купала апеў Беларусь. У новым паэтычным зборніку «Адплываем з Мора», які нядаўна дзякуючы праграмнай радзе тыднёвіка «Ніва» пабачыў свет у Беластоку, аўтар зноў вяртаецца да Мора, да сваіх землякоў, сваякоў і сяброў. Прачула, адклікаючыся самымі чыстымі глыбінямі душы, гучаць вершы Віктара Шведа, якія так ці інакш звязаныя з родным бацькоўскім гняздом, з маленькай радзімай, з аднавяскоўцамі. Але на гэты раз у радках і між радкамі паэта адчуваецца ўзрушанасць, трывога, нейкі жыццёвы адчай. Ды і назва зборніка таксама самотная — «Адплываем з Мора». Хаця мы добра ведаем і разумеем, што ўсё проста ў гэтым свеце: адны нараджаюцца — іншыя паміраюць, такое яно, жыццё, такі закон прыроды:

> Маланкава імкнуць гады,
> Нясуць світанні і змяркканні.
> Нас накіроўваюць туды,
> Адкуль ужо няма вяртання.

Па вялікаму рахунку, у цэлым зборнік багаты па настраёвасці, шчыры і непасрэдны па гучанню. Магчыма, менавіта творчасць гэтага паэта сёння можа служыць пераканальным пацвярджэннем, калі гэта каму спатрэбіцца, як шмат значыць у агульным фарміраванні паэта звычайная шчырасць пачуцця. Здаецца, шмат якія сур’ёзныя творчыя ўдачы і дасягненні паэта маюць сваёй падасновай здзіўляючую здольнасць адкрывацца на праявы жыцця перш за ўсё рэакцыяй сардэчнай шчырасці. Шчыры паэт у жыцці, шчыры ў сваёй паэтычнай творчасці. І адкрыцці яго вельмі простыя, зразумелыя, гістарычна-апісальныя, немудрагелістыя. Ён не можа мудрагеліць, бо ўсё жыццё паэта было няпростым і нялёгкім, пра гэта распавядаецца ў вершах, як у падручніках па беларускай гісторыі.

Зборнік Віктара Шведа «Адплываем з мора» — гэта найперш аўтабіяграфічная паэтычная кніга. З яе любы чытач даведаецца, што бацька паэта быў царскім салдатам, які некалі ўцёк з палону

і, дзякуючы мазалям, ён застаўся жыць. Што потым бацька збіраўся эмігрыраваць у Аргенціну, каб зарабіць грошай, але ён быў няздольны да цяжкой працы, бо кульгаў. Чытаючы вершы, лёгка можна даведацца, што маці паэта вельмі шмат працавала, што мама, седзячы, драмала, што яна мала спала, а цяпер «працай змучаная мама на пагосце, пад крыжамі спіць спакойна сном трывалым…» і г. д. А далей мы даведаемся пра родную сястру Ніну і брата Пецю, якіх ужо няма на гэтым свеце.

Зборнік «Адплываем з Мора» — гэта гісторыя беларускага Падляшша і яго людзей. Паэта хвалюе, што беларусы Беласточчыны ўжо сталі панове, што дзетак толькі «горстачка малая ў Беластоку вывучае сваю мову» і што дзякуючы тыднёвіку «Ніва» паэт заўсёды быў шчаслівы, бо менавіта ў «Ніве» «майго ўсяго жыцця адбітак».

Зборнік «Адплываем з Мора» — гэта кніга прысвячэнняў пры свячэнні. Як пісаў Сяргей Панізьнік, «каб жылі мы ў пасвячэнні, што і нашыя імёны ўзгадаюць пры свячэнні». Віктар Швед шчыра прыгадвае ў вершах слаўныя імёны беларусаў Польшчы, з якімі быў знаёмы, сябраваў, тварыў беларушчыну. Гэта прафесар Васіль Белаказовіч, журналістка Ада Чачуга, гэта Кастусь Майсеня, Янка Крупа, Зінаіда Навіцкая і іншыя. Шмат шчырых радкоў паэт з Мора прысвяціў сваім сябрам па пяру, сябрам па жыцці — Дзмітрыю Шатыловічу, Алесю Барскаму, Міраславе Лукшы, Аліне Ваўрынюк, Басі Пякарскай, Міхасю Хмялеўскаму, Уладзіміру Юзвюку, Уладзіміру Наумюку, Пятру Гагану ды іншым.

Зборнік «Адплываем з Мора» — гэта кніга лёсаў. Лёсаў беларускай сям'і, роднай вёскі, краіны. Паэт неабыякавы да гэтых лёсаў. Ён сам шмат перажыў, бачыў, ведае. Віктара Шведа, як і любога беларуса, найбольш хвалюе лёс краіны і роднай мовы. Паэт пытаецца ў сябе і ў чытачоў:

Чаму Беларусь рускамоўная,
Калі маем уласную мову?

Сапраўды: чаму?.. І ў той жа час аўтар верыць, што «герб наш абаронім і сцяг наш бел-чырвона-белы».

Калі я пішу пра шчырасць новага зборніка Віктара Шведа, гэта не значыць, што паэзія шчырага выпявання, простых вобразаў

заўсёды просценькая па зместу. Ёсць прастата, непасрэднасць і звычайнасць, якія зусім не супрацьпаказаны адлюстраванню складаных і глыбокіх зрухаў чалавечага быцця. У вершах Віктара Шведа за прастатой не адзін раз адкрываецца сапраўдная інтэлектуальнасць у адчуванні і разуменні рэчаіснасці. Яна ўмее пранікаць праз простае аблічча рэчаў у глыбокую сутнасць спраў чалавека, як, напрыклад, у вершах «Наш Новы Запавет», «Адплываем з Мора», «Этапы праміналння», «Мала мама спала» і іншыя. Зусім простыя вобразы ў гэтых і іншых вершах нясуць часта багацце ўзнёслага зместу, філасофію глыбокага напаўнення. А ўнутраная прывязанасць паэта да вобразных утварэнняў, блізкіх да простага ладу беларускага жыцця, моцная і відавочная. Але нельга сказаць, што ва ўсёй паэзіі Віктара Шведа глыбокі філасофскі змест выяўляецца толькі ў нескладаных, простых формах мастацкага мыслення. Не, у новым зборніку паэта нямала вершаў складаных мастацка-стылёвых вырашэнняў, у якіх выявілася імкненне паэта данесці да чытача плён напружанага філасофскага роздуму над таямніцамі сусвету. Нярэдка сустракаюцца спробы абагульніць у паэтычных вобразах сам ход гістарычнага працэсу, няпростую злучанасць з гэтым працэсам сучасных намаганняў беларусаў. У багатым спектры светаадчування паэта, бадай, найбольш ярка і акрэслена вылучаюцца тры, у тым ліку і каханне, скразныя паэтычныя матывы — сям'я, любоў да працы, яе ўслаўленне і любоў да Радзімы, да бацькоўскай зямлі:

Не магу я заснуць цвёрдым сном,
Не магу я самкнуць свае вейкі.
На сасне за пакоя акном
Так прыгожа пяе салавейка…

Адзін з раздзелаў кнігі прысвечаны гумару, ён так і называецца — «Аб жыцці шчыра ў святле гумару і сатыры». Я прачытаў з усмешкай гэты раздзел і прыйшоў да высновы, што Віктар Швед — добры гумарыст. Вось дыялог двух літаратараў: Сакрата Яновіча і Віктара Шведа. Яновіч часта пытае ў Шведа: чаму ён так доўга жыве? На што аўтар адказаў вельмі арыгінальна:

Як зразумець акурат
Думкі Сакрата, паверце,

Каб жыць мог Яновіч Сакрат
Ці ж Віктар павінен памерці?..

Прачытаўшы мой водгук пра кнігу Віктара Шведа, шаноўны чытач запытаецца: няўжо ў новай паэтычнай кнізе Віктара Шведа ўсё так добра і гладка? Вядома ж, не. Як і ў кожнага аўтара, так і ў новай кніжцы беластоцкага паэта ёсць сякія-такія і недахопы, але іх няшмат. Ну, напрыклад, у вершы «Аўтамабільнае крушэнне» чытаю:

Пагас электрычны стоўп,
Навокал людзей натоўп.

Правільна і па-беларуску будзе «патух электрычны слуп», а слова «стоўп» у беларускай мове няма, у рускай мове ёсць слова «столб». А калі замяніць слова «стоўп» на слова «слуп», то ўжо губляецца рыфма са словам «натоўп».

Ці першы радок верша «Мы шагаем па родным краю…». Чаму «шагаем»? Ёсць добрае беларускае слоўка «крочым», а «шагаць» — гэта рускае слова.

Я прывёў тут некалькі моўных хібаў зборніка «Адплываем з Мора», але, яшчэ раз падкрэслю, іх няшмат. Таму ад душы прызнаюся, і гэта не будзе перабольшаннем, што ўся кніга вершаў Віктара Шведа «Адплываем з Мора» пакідае адчуванне вялікай, напружанай і пастаяннай творчай працы. Працавітасць паэта найбольш бачыцца ў ягонай лёгкасці і дакладнасці радка, у нечаканасці і змястоўнасці вобраза. Шмат якія вершы нейкім дзіўным, ледзь-ледзь улоўным эмацыянальным акцэнтам даюць адчуць, што яны ствараліся аўтарам з любоўю, што сама творчая паэтычная праца прыносіць паэту велізарную радасць. Так што, шаноўны спадар Віктар, вам адплываць з Мора яшчэ рана. Жывіце, пішыце і радуйце нас, чытачоў, сваім паэтычным словам.

*2010*

## МІНСКАЯ ПАЭМА-НАСТАЛЬГІЯ, ПАЭМА-ПАМЯЦЬ

Пра сваю зямлю беларусы напісалі шмат літаратурных твораў. Бо сваю зямлю мы любім мацней за іншыя землі. Памятаеце раман «Зямля» Кузьмы Чорнага, які пісьменнік планаваў напісаць як трылогію? Вульгарызатары-крытыкі не далі. Але ж з'явілася першая частка рамана. Цудоўны твор! А паэма «Новая зямля» Якуба Коласа — своеасаблівы гімн беларускай зямлі, гімн сялянству, гімн беларусу-працаўніку, які лічыў і лічыць асновай усяго родную зямлю.

У пачатку 2002 года Алег Лойка напісаў паэму «Плач зямлі Слонімскай». Гэта плач аўтара — плач любові па роднай слонімскай зямлі, дзе нарадзіўся, дзе хадзіў у школу, куды заўсёды вяртаўся з далёкіх і блізкіх дарог.

Алесь Клышка прысвяціў свае творы таксама зямлі. Сваёй роднай мінскай зямлі, а больш канкрэтна — Мінску. «Мінская зямля» Алеся Клышкі — найбольш «асабісты» твор паэта. І не таму, што ён у сваёй аснове аўтабіяграфічны — ён самае яркае мастацкае выяўленне адной з асноўных ідэй аўтара — паказаць чалавечнасць, маральную вышыню простага чалавека-гараджаніна, яго нялёгкае жыццё і яго няпростае, але светлае шчасце.

Пра Мінск у нас таксама напісана шмат. Але Алесь Клышка зрабіў гэта па-іншаму, па-свойму арыгінальна і даволі шчыра. Праз успаміны ён паказаў мінскае пасляваеннае жыццё. Сваю паэму аўтар пачаў з маці, пачаў з малітвы маці: «Божа мілы, дзень распачаць не маю сілы, сям'ю чым сёння накарміць, з адчаю сэрцайка баліць…». І дзеці разумелі, што цяжка ўсім, але дзеці хацелі есці. А ў Мінску, як і па ўсёй Беларусі, у пасляваенныя гады жыць было даволі няпроста. Вось як успамінае пасляваеннае жыццё старэйшая сястра Алеся Клышкі Ірына Клышка: «Са сваёй першай стыпендыі я купіла сабе піражнае. Таму што ніколі яго не ела. На тыдзень давалі 100 грамаў масла на дваіх маленькіх дзяцей. Смятаны давалі 200 грамаў. Я заўсёды была галодная. Смачнейшага за хлеб да сённяшняга дня я нічога не ведаю. Каб хоць нешта паесці, смажылі дрожджы. Яны кіпелі, цямнелі, гусцелі. І даходзілі да такой кандыцыі, што іх пасля на чорны хлеб намазвалі. Яны былі вельмі танныя: 7 капеек за сто грамаў. Смачна было, здавалася, што гэта смажаныя грыбы…». Гэтыя ўспаміны пра пасляваеннае мінскае

жыццё запісаў ад сваёй старэйшай сястры сам Алесь Клышка і апублікаваў іх у часопісе «Беларусь у свеце» (2006. № 2 (37). С. 14).

Пра Ірыну Алесь Клышка таксама згадвае ў сваёй паэме, бо сястра была таленавітай дзяўчынай, добра вучылася ў школе, даражыла кожнай хвілінай, а потым вучылася ў Белдзяржуніверсітэце, працавала настаўніцай матэматыкі. Аўтар піша, што Ірына:

Нам прыкладам заўжды была,
Бо самастойнаю расла…

Вяртаецца ў сваёй паэме Алесь Клышка і да ваеннага ліхалецця. Тое, што яму расказвалі бацькі, ён згадаў у «Мінскай зямлі» (Мінск, 2010). І самы пачатак вайны, калі нямецкія самалёты бамбілі атэль «Еўропа» і вакзал, казармы і склады, і пра бацьку, які з вайны вярнуўся ў 1945-м, і пра нямецкага доктара, які выратаваў жыццё дзіцяці, і г. д.

Захоўваючы праўду гісторыі, аўтар паэмы найбольш ярка паказаў усё ж пасляваенны мінскі час. Тое, што зберагла памяць, і тое, што найбольш памятаецца пра Мінск 1940–1960-х гадоў, сапраўды чытаецца з вялікай цікавасцю. Майстэрства паказу мінскага жыцця, мастацкага асваення яго праз бытавыя малюнкі, праўдзівыя жыццёвыя факты, успаміны — надало «Мінскай зямлі» нейкай хрэстаматыйнасці, пэўнай эмацыянальнай афарбоўкі, завершанасці. Магчыма, нехта паспрабуе раскрытыкаваць паэму Алеся Клышкі. І, магчыма, яму гэта ўдасца. Але задумку аўтара, ідэю твора раскрытыкаваць ніхто не зможа. Бо ідэя твора — арыгінальная. Таму што «Мінская зямля» — гэта маленькі гімн Мінску, мінскай зямлі і мінчукам. Гэта паэма-роздум аб сваёй сям’і, аб людзях, якія жылі побач, гэта паэма-памяць, паэма-сумленне і паэма-настальгія. У кожнай частцы твора ёсць свой эмацыянальны ключавы матыў. Ён разрастаецца, нарошчвае вакол сябе нейкія гукавыя сугалоссі, алітарацыі, асанансы, падхоплівае сэнсавыя значэнні, адценні трагічнага, смешнага і настальгічнага пачуцця, становячыся глыбокім матывам перажывання. Уражваюць матывы «ў краме “Под часами”», «як “калпакамі” гандлявалі», «дом “над Лакомкою”, «дні футболу на “Дынама”» і г. д. Цяжкія пасляваенныя гады разам з тым — шчаслівыя гады. Бо яны — маленства і юнацтва аўтара. Па

іх адчуваецца настальгія, але ў гэтай настальгіі прысутнічае нейкая духоўнасць, цеплыня і чалавечая культура.

У паэме «Мінская зямля» Алеся Клышкі праявілася наватарская ў сваёй сутнасці канцэпцыя ўзвышанага, канцэпцыя глыбокага бачання ўсіх пластоў народнага жыцця, бачанне многіх радасцей і пакут, хмарных дзён і жыццёвых прасветлін. Няцяжка заўважыць, што героі паэмы надзелены чуйнасцю самога аўтара. І гэта надало паэме нейкай мудрай і чароўнай сілы. А сіла гэта ў любові да роднай мовы, да спадчыны бацькоў і да нашай зямлі.

Верыцца, што новая кніга Алеся Клышкі пакіне прыкметны след у гісторыі мінскай зямлі і нашай літаратуры.

*2010*

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОВЫХ ФАРМІРАВАННЯЎ

У сённяшняй афіцыйнай дзяржаўнай (ёсць такая) гістарыяграфіі Рэспублікі Беларусь гісторыя беларускіх вайсковых фарміраванняў пачынаецца з 1941 года. Ну, магчыма, яшчэ з крэйсера «Аўрора», дзе служыла нямала беларусаў. Але не раней…

У 2003 годзе прывёз мне сябра з Мінска дзве кнігі майго земляка, сённяшняга міністра абароны Рэспублікі Беларусь Леаніда Мальцава (ужо не міністр. — *С. Ч.*). Адна з іх называецца «Вооружённые Силы Республики Беларусь: История и современность». Вось, думаю, тут я знайду хоць адзін раздзел па гісторыі вайсковых фарміраванняў Беларусі. Тым больш, што другая частка кнігі называецца так: «История Краснознамённого Белорусского военного округа и военные реформы XX века: итоги и уроки». Цікавы назоў. Пачаў чытаць, спадзеючыся, што менавіта тут і згадаюцца беларускі вайскова-палітычны рух у 1917–1918 гадах, Беларуская вайсковая цэнтральная рада, беларускія атрады ў літоўскай арміі, дзейнасць генерала Станіслава Булак-Балаховіча, Слуцкае паўстанне і г. д. Ды дзе там!.. Урокі і вынікі гісторыі беларускіх ваенных фарміраванняў беларускі генерал Мальцаў пачаў з «уроков Великой Отечественной войны в контексте современных задач реформирования Вооружённых Сил». Таму мае рацыю Алег Латышонак, калі ва ўступе да

сваёй фундаментальнай працы «Жаўнеры БНР» (Вільня, 2009) не згадаў і блізка кнігу Мальцава, ды і ранейшыя савецка-бальшавіцкія кнігі, якія свядома адмаўлялі існаванне беларускіх вайсковых фарміраванняў. Пра іх і сёння ў Беларусі мала пішацца і выдаецца. Хаця сёе-тое свет ужо пабачыла, аб чым сказаў ва ўступным слове Алег Латышонак. Ён і станоўча ацаніў гэтыя выданні.

Тады, у 1995 годзе, калі ў Беластоку на польскай мове упершыню выйшла з друку яго кніга «Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923» я падумаў: вось бы гэтую кнігу перакласці на беларускую мову, выдаць яе добрым накладам і забяспечыць усе кнігарні, а таксама бібліятэкі, ваенныя ўстановы і школы Беларусі. Нарэшце — дачакаўся. Але мала веры, што «Жаўнеры БНР», напрыклад, трапяць у школы ці ваенныя ўстановы. Бо нават прэзентацыі кнігі ў некаторых месцах у Беларусі сёння забараняюць. Тым не менш, як казаў Міхаіл Гарбачоў, працэс пайшоў: кніга ёсць, кніга з’явілася, кнігу купляюць, кнігу чытаюць…

Алег Латышонак, як ніхто іншы да гэтага, зрабіў аб’ектыўны, грунтоўны, зразумелы чытачам гістарычны агляд беларускіх вайсковых фарміраванняў напачатку XX стагоддзя. Нялёгкі лёс быў у беларускіх жаўнераў як да пачатку Першай сусветнай вайны, так і пасля 1917 года. І наогул, мае рацыю гісторык Латышонак, які, падсумоўваючы перыяд развіцця вайсковых фарміраванняў на Беларусі, падкрэсліў, што «за незалежнасць Беларусі змагаліся ў той час дзесяць з лішнім тысяч чалавек. Гэтая колькасць — невялікая, але гэта былі выключна добраахвотнікі».

Беларускія стабільныя, надзейныя вайсковыя фарміраванні ў пачатку XX стагоддзя ў час, калі розныя акупанты тапталі Беларусь, стварыць было цяжка. То рускія, то бальшавікі, то немцы, то палякі дужа баяліся гэтых аб’яднаных беларускіх ваенных фарміраванняў. І яны стараліся ўсё зрабіць, каб спроба стварэння беларускага войска не атрымалася, зацягнулася, адкладвалася. Таму, як піша гісторык, афіцэры і жаўнеры беларускага войска не здолелі заваяваць незалежнасці Беларусі. Але яны здолелі даказаць, што і беларусы імкнуцца да сваёй незалежнасці, што і беларусы могуць ваяваць (ваявалі ж пад рознымі сцягамі) не на баку тых ці іншых акупантаў, а на сваім баку, за сваю Бацькаўшчыну. Пазней белару-

сы даказалі, нягледзячы на ўсе памылкі, сваю вайсковую сілу пры баявых дзеяннях Першай Слуцкай стралковай брыгады.

Шмат радкоў у кнізе Алега Латышонка прысвечана генералу Станіславу Булак-Балаховічу. Мае рацыю аўтар, калі піша, што С. Булак-Балаховіч павінен знайсці трывалае месца ў беларускай гісторыі, гэтаксама як ягоная Беларуская народная армія. Наогул, пра Булак-Балаховіча варта напісаць добрую кнігу і выдаць яе па-беларуску для беларусаў. А то палякі пра яго пішуць (Marek Cabanowski. General Stanisław Bułak-Bałachowicz. Warszawa, 1993 і інш.), а мы заўсёды спазняемся. Таму, чытаючы «Жаўнеры БНР», мяркую, што падобнае выданне можа ажыццявіць Алег Латышонак.

У апошнім раздзеле кнігі змешчаны артыкулы, якія непасрэдна звязаныя з гісторыяй беларускага войска, з Беларускай Народнай Рэспублікай. Гэта матэрыялы, якія асобна друкаваліся ў беларускім і польскім друку, але яны вельмі добра ўпісваюцца ў кантэкст усёй кнігі. Гэта артыкулы, прысвечаныя дзяржаўнай сімволіцы БНР, Алесю Гаруну, які займаўся не толькі літаратурай, але і палітыкай, быў выбраны памочнікам старшыні Усебеларускага кангрэсу ў снежні 1917 года, быў радным Рады БНР, артыкулы, прысвечаныя беларускай палітычнай эліце і Рыжскай дамове ад 12 кастрычніка 1920 года, Міколу Дзямідаву — беларускаму вайскоўцу і генералу на эміграцыі, Беласточчыне і беластаччанам у перыяд змагання за незалежнасць БНР і іншыя.

Кніга Алега Латышонка «Жаўнеры БНР» вартая ўвагі і з'яўляецца, несумненна, важнай крыніцай для вывучэння гісторыі беларускіх вайсковых фарміраванняў. І яшчэ. Вельмі хочацца спадзявацца, што яна трапіць у рукі Леаніда Мальцава, і ён яе ўважліва прачытае, а таксама загадае прачытаць беларускім генералам і афіцэрам.

*2009*

## МОЦ СМАКУ БЕЛАРУСКАЙ КУХНІ

Арыгінальная і суперпрыгожая кніга Юрыя Качука «Моц смаку» (2010) прысвечана беларускай кухні. Такой арыгінальнай і «смачнай» беларускай кнігі страў я яшчэ не трымаў у руках. Сапраўды, кніга ўнікальная як па зместу, так і па мастацкаму афармленню.

Юрый Качук жыве ў Зэльве на Гарадзеншчыне. Але, як бачыце, і ў беларускай глыбінцы можна пісаць, рыхтаваць і выдаваць добрыя беларускія кнігі. Так, як гэта робіць Юрый Качук. Дарэчы, гэта ўжо другая кніга спадара Юрыя, прысвечаная стравам і кухні. У 2007 годзе ён разам з Янінай Чыжэўскай на Беласточчыне выдалі сваю сумесную працу «Традыцыйныя стравы Беласточчыны і Гродзеншчыны». І вось — новая выданне, над якім Юрый Качук працаваў апантана і доўга. Кнігу ён сам задумаў, сам афармляў, сам рабіў фотаздымкі страў, а таксама сам займаўся вёрсткай.

Юрый Качук — часты госць на Беласточчыне. Штогод яго запрашаюць да ўдзелу ў конкурснай камісіі на Падляскай Бяседзе Мядовай у Тыкоціне, дзе ён з'яўляецца старшынёй журы турніру Мядовых Налівак і конкурсу на найсмачнейшы Мёд Падлясся. Яніна Чыжэўская пра Юру Качука кажа, што ён заўжды ў дасціпнай і адначасова паэтычнай форме растлумачыць вердыкт камісіі. «Калісьці аб адной з налівак Юры сказаў, што даў бы ёй назву "Каўказскі джыгіт" ці "Мачо", бо яна прыйдзецца да смаку толькі сапраўдным мужчынам, што вельмі спадабалася гледачам, і гэта віталася бурнымі апладысментамі», — прыгадвае Яніна Чыжэўская.

Доўгі час і традыцыйная беларуская кухня была ў забыцці. А калі ў беларусаў пыталіся пра іх традыцыйную беларускую страву, то яны адказвалі і адказваюць цяпер: гэта дранікі. Аказваецца, не толькі дранікі. І ў гэтым любы пераканаецца, калі пагартае і пачытае кнігу «Моц смаку». Наогул, у кулінарным майстэрстве сучасная беларуская кухня захавала ўсю гістарычную традыцыйнасць, якая склалася на працягу тысячы гадоў, пра што сведчаць і розныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі. Якое ўнікальнае захапленне ад адной толькі думкі, як піша аўтар, аб інжынернай распрацоўцы сагана, які існуе па звестках з раскопак таксама некалькі тысяч гадоў. Да сённяшніх дзён кухня гістарычнай Вялікай Літвы (Беларусі) слаба вывучана. Усім вядома толькі пра вынаходніцтва абаранкаў у Смаргоні, і то прыпісаных сабе расейцамі.

Некалі ў старажытных рымлян абед пачынаўся з яблыкаў і завяршаўся садавінай. Кніга страў Юрыя Качука пачынаецца са страў з яйкаў і завяршаецца напіткамі. Чытаючы і гартаючы кнігу Юрыя Качука, бачыш, якая ўсё ж багатая на стравы наша беларуская кухня. Тут стравы з яек, з грыбоў, мясныя і рыбныя стравы, стравы

з дзічыны, з агародніны, з малака, мукі, круп, а якія ёсць смачныя напоі, заедкі, ласункі і слодычы. Сліна цячэ, калі, напрыклад, чытаеш пра паляндвіцу па-гусарску, свіны кумпяк у сухарах, пра катлеты з хрэнам ці пра гуляш па-дзярэчынску. Так і хочацца паспрабаваць прыгатаваць і пачаставаць беларусаў карпам з чырвоным перцам, шчупаком з грыбамі ў белым віне, бульбяной кішкай, свінымі рабрынамі па-засцянкоўску. Дарэчы, у кнізе апісаны ўсе стравы, а таксама тое, як і з чаго іх прыгатаваць. Усе стравы вельмі проста гатаваць, без ніякіх там заморскіх прыправаў і выкрунтасаў. Кожная страва складаецца з беларускай садавіны ці агародніны, свініны, дзічыны і рыбы. Амаль да кожнай стравы ў кнізе падаецца здымак аўтара ці малюнак зэльвенскага мастака Васіля Шамрука. Усё гэта ў кнізе зроблена і аздоблена прафесійна і з густам.

*2010*

## ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ПОЛЬШЧАЙ

Беларускага драматурга Сяргея Кавалёва ведаю яшчэ з пачатку 1980-х гадоў. Мы — аднакурснікі, разам вучыліся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Тады светла-русы юнак з Магілёва спрабаваў пісаць вершы. Некаторыя нават публікаваў у студэнцкім друку, калектыўных зборніках. Потым зарэкамендаваў сябе як крытык, выдаў некалькі кніг літаратурна-крытычных артыкулаў, прысвечаных праблемам беларускай паэзіі 1980-х гадоў, узаемаадносінам мастацкай літаратуры і крытыкі.

Пасля крытыкі Сяргей Кавалёў перайшоў на казкі, выдаў кніжачку казак «Мэва». А з казак — ступіў на сцяжыну драматургіі. І гэтая сцяжына аказалася самай плённай і ўдалай. Па ёй Сяргей Кавалёў вось ужо 20 гадоў крочыць надзейна і ўпэўнена.

Да 20-годдзя творчай дзейнасці Сяргея Кавалёва як драматурга ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» выйшла з друку кніга «Паміж Беларуссю і Польшчай». Адзначу, што драматург не толькі піша добрыя п’есы, якія атрымліваюць сцэнічнае жыццё ў Беларусі, Расіі, Украіне, Славакіі, а таксама ў Польшчы. Але, акрамя гэтага, Сяргей Кавалёў — доктар філалагічных навук, прафесар Люблінскага ўніверсітэта імя М. Кюры-Складоўскай. Пэўны час ён жыў паміж

Мінскам і Люблінам. Пэўны час у Мінску выкладаў у Белдзяржуніверсітэце гісторыю беларускай літаратуры. Але ў 1993 годзе ў Люблінскім універсітэце адкрылі аддзяленне беларусістыкі, і Сяргея Кавалёва запрасілі туды чытаць лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры. Як сказаў сам выкладчык, у Любліне было не шмат лекцый, таму амаль усе свае п'есы ён напісаў там. Вялікі ўплыў на яго тэатральны досвед аказалі і фестывалі, якія часта ў Любліне праводзяцца. Найперш такія фестывалі, як «Канфрантацыя» і «Суседзі». Акрамя таго, драматург паглядзеў шмат разнастайных тэатральных пастановак на сцэнах Кракава, Варшавы, Беластока. У Любліне на польскай мове ў 2004 годзе пабачыла свет яго кніга п'ес «Zmęczony diabeł». А Люблінскі тэатр імя Ю. Астэрвы ў 1997 годзе паставіў яго п'есу «Стомлены д'ябал». Ды і асеў драматург і прафесар у Любліне, відаць, надоўга.

Кнігу «Паміж Беларуссю і Польшчай» падрыхтавалі тэатральныя крытыкі Людміла Грамыка з Беларусі і Ірына Лапо з Польшчы. Кніга гэта прысвечана драматургіі Сяргея Кавалёва, яна, як адзначаецца ў анатацыі, дае ўнікальную магчымасць прасачыць мастацкую эвалюцыю пісьменніка, параўнаць рэцэпцыю яго творчасці на радзіме і ў краіне, з якой Сяргей Кавалёў звязаў свой лёс як выкладчык Люблінскага ўніверсітэта.

Кніга складаецца з трох частак, якія дазваляюць убачыць драматургічную творчасць Сяргея Кавалёва на Беларусі і ў Польшчы з перспектывы дыяхранічнай і геапалітычнай. У кнігу ўвайшлі рэцэнзіі на п'есы і спектаклі драматурга, гутаркі з ім, спрэчкі наконт яго п'ес, апублікаваныя раней у беларускім і польскім друку. А напісана пра п'есы даволі папулярнага на Беларусі сёння драматурга было шмат.

За 20 гадоў сваёй драматургічнай творчасці Сяргей Кавалёў напісаў больш за 20 п'ес, паводле якіх адбылося каля 100 прэм'ер. Найбольш вялікі рэзананс у польскім і беларускім друку выклікалі яго п'есы так званага герменеўтычнага праекту — «Тарас на Парнасе», «Звар'яцелы Альберт», «Стомлены д'ябал», «Трышчан ды Іжота», «Саламея», «Балада пра Бландою», «Навука кахання», «Легенда пра Машэку».

У кнізе, дзе разглядаецца крытыкамі драматургія Сяргея Кавалёва, апублікаваны і матэрыялы, у якіх адны крытыкі расхвальваюць

спектаклі па п’есах драматурга, іншыя — іх крытыкуюць, ганяць. Чытаючы такія разнастайныя меркаванні, чытач бачыць розніцу паміж беларускім і польскім падыходам да тэатра з пункту гледжання метадалогіі апісання, стаўлення да сучаснай драматургіі, рэжысуры, акцёрскага ўвасаблення. Кніга, здавалася б, толькі пра творчасць аднаго драматурга, але разам з тым у складальнікаў атрымалася добрае выданне пра эстэтычны канфлікт, як пішуць Людміла Грамыка і Ірына Лапо, «паміж польскай і беларускай культурай і пра глыбокую ўнутраную знітаванасць гэтых культур, сведчаннем чаго з’яўляецца звязаная адначасова з Беларуссю і Польшчай творчасць Сяргея Кавалёва».

Тэксты ў кнізе надрукаваны на беларускай, рускай і польскай мовах. Аўтары іх — даволі вядомыя тэатральныя крытыкі і знаўцы сцэнічнага мастацтва ў Беларусі і ў Польшчы — Таццяна Арлова, Тамара Гаробчанка, Пятро Васючэнка, Жанна Лашкевіч, Рычард Смольскі, Андрэй Курэйчык, Вольга Барабаншчыкава, Юлія Палачаніна, Фёдар Драбеня, Агнешка Баровец, Ірына Лапо, Беата Сівэк і іншыя.

У апошні раздзел кнігі ўвайшлі выбраныя інтэрв’ю, якія драматург даваў у розныя гады. На пытанне: «Ці задаволеныя вы сваім тэатральным лёсам?» Сяргей Кавалёў адказаў так: «Я спачуваю драматургу, які любіць тэатр, а яго творы не ставяць. І калі б мае п’есы не ставіліся, я б іх не пісаў. Бо калі ты бачыш свой твор на сцэне, ты па-іншаму разумееш драматургію… У гэтых адносінах я шчаслівы, бо ўсе мае п’есы знайшлі свайго гледача і сваіх рэжысёраў… Таму па сённяшні дзень тэатр для мяне — казка».

*2010*

## «ЛЮДЗІ СБМ» АД ЮРЫЯ ТУРОНКА

У тлумачальным слоўніку слова «манаграфія» тлумачыцца як навуковая праца, прысвечаная ўсебаковаму вывучэнню якой-небудзь адной тэмы, праблемы. Можа, са мной хто і не пагодзіцца, але я смела магу заявіць, што напрыканцы 2006 года ў Юрыя Туронка свет пабачылі ажно дзве не манаграфіі, а суперманаграфіі, прысвечаныя гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Адна з іх — «Мадэрная гісторыя

Беларусі» і другая — «Людзі СБМ». Па аб’ёму старонак, вядома, іх нельга параўнаць, бо «Мадэрная гісторыя…» — гэта вялікі, на 900 старонак, том артыкулаў, а манаграфія пра Саюз беларускай моладзі налічвае 215 старонак. Але справа не ў старонках, а ў фактуры з падрабязнымі звесткамі, датамі, прозвішчамі, фотаздымкамі і г. д. А ў працах Юрыя Туронка фактура ёсць.

Пра «Мадэрную гісторыю Беларусі» нашага вядомага гісторыка крытыкі свае слова яшчэ скажуць, ды ў Беларусі ўжо з’яўляюцца станоўчыя водгукі на гэта выданне. А «Наша Ніва» назвала кнігу Юрыя Туронка лепшым выданнем 2006 года. Таму далучаюся да гэтага правільнага выбару.

Скажу шчыра, не планаваў пісаць падрабязную рэцэнзію на кнігу «Людзі СБМ». Я проста хачу давесці да ведама чытачоў, што такая кніга атрымалася, з’явілася, ёсць. Нарэшце, адбылося доўгачаканае свята — кніга-згадка ёсць, хоць з дня заснавання Саюза беларускай моладзі прайшло ажно 63 гады. Не, я ні ў якім выпадку не хачу пакрыўдзіць Лявона Юрэвіча, аўтара выдатнай кнігі «Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюза Беларускай Моладзі» (Мінск, 2001), Ціну Клыкоўскую, якая напісала і выдала арыгінальную працу «Саюз беларускай моладзі — вяртаньне з забыцьця» (Беласток, 2004), Аляксандра Каваленю і яго суб’ектыўнае даследаванне «Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. 1941–1944. Вытокі, структура, дзейнасць» (Мн., 1999). Але гэтага было мала. Бо падобныя кнігі — толькі згадкі пра СБМ, толькі «вырваныя бачыны» з нашай гісторыі.

Кніга Юрыя Туронка пра СБМ шмат дапаўняе тое, што раней было выдадзена, аўтар уносіць новае, раней не вядомае, адкрывае малавядомыя імёны людзей, якія кіравалі Саюзам беларускай моладзі. Гісторык распавядае пра працоўную групу СБМ, пра СБМ і ваенную службу, аналізуе ідэалізм Вільгельма Кубэ і прагматызм Курта Готберга. Наогул, Юры Туронак ва ўсіх сваіх ранейшых артыкулах і кнігах захапляўся і захапляецца асобаю Вільгельма Кубэ — генеральнага камісара Беларусі падчас Другой сусветнай вайны, які ажыццяўляў палітыку нацыянальнага адраджэння Беларусі. Пра Кубэ варта напісаць асобную кнігу, каб сёння на самай справе расставіць усе кропкі над «і» і паказаць, што гэта быў за чалавек, асоба, вайсковец, палітык і якую ён ролю адыграў у гіс-

торыі Беларусі. І гэта можа ажыццявіць толькі Юры Туронак, бо шмат пра яго ведае. Гэта дзякуючы Вільгельму Кубэ ў Беларусі быў створаны Саюз беларускай моладзі, які, па словах аўтара кнігі, з'яўляўся «першай у гісторыі арганізацыяй, заснаванай дзяржаўнай уладай для ўзгадавання моладзі ў беларускім нацыянальным духу».

У Слоніме, дзе я жыву, мне пашчасціла быць знаёмым з многімі юнакамі і дзяўчатамі, якія былі ў СБМ, а пасля за гэта яны адбывалі сталінскія ГУЛАГі. А ў Альбярціне (цяпер гэта адзін з мікраараёнаў Слоніма), дзе знаходзілася школа СБМ, бываю амаль штодня. Палац Пуслоўскіх, дзе ў вайну месцілася школа СБМ, застаўся цэлы. Наогул, у Альбярціне сёння ўсё нагадвае і пра СБМ, і пра ўсходнюю місію айцоў езуітаў у 1927–1942 гадах. І калі памяць пра ўніятаў ушанавана ў мемарыяльным знаку, які быў устаноўлены тут у 1996 годзе, то пра людзей СБМ пакуль няма нічога. Пра СБМ толькі пішуцца і выдаюцца кнігі. А гэта ці не самае галоўнае.

Вельмі добра, што Юры Туронак у кнізе «Людзі СБМ» змясціў дадатак, куды ўвайшлі: статут арганізацыі моладзі «СБМ», арганізацыйны рэгулямін СБМ, дзесяць запаветаў юнака і юначкі, а таксама — вершы, тэксты і ноты песень, якія дэкламавала і спявала беларуская моладзь…

*2006*

## КНІГА ПРА АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ І ЯГО НАВАКОЛЛЕ

Мне яшчэ ніколі ў рукі не трапляла кніга пра які-небудзь беларускі канал: пра яго гісторыю ўзнікнення, комплекснае прызначэнне, пра людзей, лёс якіх быў звязаны з гісторыяй каналаў. Вядома, у Беларусі няма канала маштабу Суэцкага, Панамскага, Кільскага, ці, не дай Бог, Беламорска-Балтыйскага, на будаўніцтве якога загінулі тысячы беларусаў. Але ў нас ёсць свае каналы, якімі мы можам ганарыцца. Гэта найперш каналы Агінскага, Аўгустоўскі, Бэрэзінскі, Дняпроўска-Бугскі, Мікашэвіцкі і іншыя. На тэрыторыі Беларусі сёння існуе каля 2 тысяч каналаў. Асабліва шмат каналаў узнікла ў XIX стагоддзі, калі Камісія для даследавання становішча сельскай гаспадаркі ў Расіі, утвораная ў тагачасным Міністэрстве дзяржаў-

ных маёмасцяў, прыйшла да высновы аб неабходнасці асушальных работ у многіх месцах Беларусі. На падставе праведзеных у 1860-я гады абследаванняў было вырашана арганізаваць вышуканні і падрыхтаваць генеральны план асушэння балот Палесся, што і выканала Заходняя экспедыцыя на чале з І. Жылінскім. Больш таго, за час работы экспедыцыі было асушана каля 500 тысяч гектараў балот, пракладзена больш за 4,6 тысячы кіламетраў каналаў асушальнага і лесатранспартнага прызначэння. У першай палове XX стагоддзя меліярацыйныя работы пашырыліся на ўсе рэгіёны Беларусі, дзе былі балоты і пераўвільготненыя глебы.

Пасля 1966 года меліярацыйныя работы выконваліся асабліва інтэнсіўна і ў вялікіх маштабах, але часам без дастатковага навуковага абгрунтавання. І такая меліярацыя нанесла вялікую шкоду нашай прыродзе. Але гэта асобная тэма. А сёння размова пойдзе пра Аўгустоўскі канал і яго наваколле. Менавіта гэтаму каналу і прысвечана асобная кніга, якая так і называецца «Аўгустоўскі канал і яго наваколле», што выйшла з друку ў Слонімскай друкарні (2011) пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук, прафесара з Гродна Святланы Куль-Сяльверставай.

Кніга адкрываецца рэцэнзіяй на выданне доктара гістарычных навук Сяргея Піваварчыка. У рэцэнзіі вучоны падкрэсліў, што «тэматыка зборніка з’яўляецца актуальнай у сувязі з інтэнсіўным эканамічным асваеннем басейна Аўгустоўскага канала, развіццём воднага і іншых відаў турызму на дадзенай тэрыторыі».

Аўгустоўскі канал і яго наваколлі маюць багатую гісторыю. Канал некалі будаваўся як гандлёвы шлях. У сувязі з высокімі мытнымі пошлінамі ў прускіх партах у першай чвэрці XIX стагоддзя тавары з Царства Польскага вырашана было вывозіць праз расійскія парты на Балтыцы, а для гэтага пабудаваць водны шлях паміж Віслай і Нёманам. Ініцыятарам будаўніцтва быў міністр фінансаў Царства Польскага К. Друцкі-Любецкі. Да 1839 года ўсе асноўныя працы былі выкананы. Судаходны шлях уключыў сем азёраў, частку ракі Чорная Ганча, некалькі кіламетраў рукатворнага рэчышча.

У 1795 года пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай землі ў басейне Чорнай Ганчы адышлі Прусіі, а ў 1815 годзе сталі часткай Расійскай імперыі. Берагі канала былі сведкамі ваенных дзеянняў падчас паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў, а ў канцы XIX ста-

годдзя там пачынаецца звядзенне фартоў і ўмацаваных пунктаў Гарадзенскай крэпасці, каля якіх вясной і летам 1915 года ішлі баі. У 1919 годзе тэрыторыя басейна Аўгустоўскага канала ўвайшла ў склад Аўгустоўскага павета Беластоцкага ваяводства ІІ Рэчы Паспалітай. У 1930-я гады быў праведзены першы капітальны рамонт воднай артэрыі. У верасні 1939 года Аўгустоўскі канал і яго ваколіцы ўвайшлі ў склад СССР, а 15 студзеня 1940 года быў створаны Сапоцкінскі раён у складзе Беластоцкай вобласці.

У 1944 годзе, калі яшчэ ішла вайна, былі зроблены першыя крокі па ўсталяванню дзяржаўнай мяжы ў ваколіцах канала. Працэс станаўлення дзяржаўнай мяжы, а таксама перамовы з польскім бокам аб яе лініі, лёсе населеных пунктаў, якія ўвайшлі ў зону дэмаркацыі, цягнуўся некалькі гадоў. А ў 1950 годзе шэраг населеных пунктаў у рэгіёне быў перададзены польскаму боку — Багатыры Лесне, Волкуш, Ліпшчаны, Рыгалаўка, Далічаны, Ракавічы, Ліхасельцы, Салаеўшчызна, Бортнікі, Маркаўцы.

Сёння басейн Аўгустоўскага канала з'яўляецца прыроднай зонай. Там знаходзяцца некалькі заказнікаў, пачынае фарміравацца біясферны рэзерват «Гродзенская пушча», праводзіцца штогод фестываль «Аўгустоўскі канал у культуры Беларусі, Польшчы, Літвы» і г. д.

Пра ўсё гэта чытачы даведаюцца з выдання «Аўгустоўскі канал і яго наваколле». У кнігу таксама ўвайшло вельмі шмат дакументаў з Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, а таксама карты і іншыя іканаграфічныя матэрыялы, якія адклаліся ў фондах архіва. Гістарычную цікавасць уяўляюць такія дакументы, як адміністрацыўнае дзяленне і населеныя пункты ў басейне Аўгустоўскага канала (1945–1947, 1949), становішча населеных пунктаў (1945), Аўгустоўскі канал у 1945, 1946, 1996 гадах, эканамічнае развіццё рэгіёна пасля Другой сусветнай вайны, гісторыка-культурная спадчына і развіццё турызму ў басейне Аўгустоўскага канала (1928, 1958, 1975, 1976, 1999–2004) і іншыя. Многія з архіўных дакументаў друкуюцца ўпершыню.

***2011***

## ВІДУШЧАЯ ПАМЯЦЬ ДАСЛЕДЧЫКА

*Прадмова да кнігі Юрыя Весялкоўскага «Дух часу» (Беласток; Лондан, 2005)*

На далёкай, на чужыне
Жывём думкай аб Радзіме.
*«Голас часу» (Лондан)*

Гэту кнігу міжволі ўзважваеш на далоні, нібы ёмістую цагліну з гістарычнага падмурку Беларушчыны. Узважваеш з цяжкім уздыхам: глыбока ў душу, трывожна і пранікліва, яна, гэта кніга, гэты «Дух часу» ўглядаецца вачыма замежжа, той заходняй дыяспары, ад імя якой узяўся мужна, на публіцыстычным дыханні, прамаўляць адметны голас яшчэ аднаго, бясспрэчна, буйнага, цікавага, разнастайнага, беларуска-прыроджанага таленту — Юрыя Весялкоўскага.

У кнігу «Дух часу» (Беласток; Лондан, 2005), сабраную з важкіх праблемных артыкулаў, аўтар уклаў усё сваё жыццё, роздум, боль, няспраўджаныя спадзяванні, памылкі, калдобіны шматлікіх дарог, што аддалялі і набліжалі яго да Бацькаўшчыны. Набліжэнне найбольш складвалася ўнутранае — праз роздумнае судакрананне з павучальнымі ўрокамі мінуўшчыны (раздзелы «Аб мінулым Беларусі», «Усходнія і заходнія суседзі»).

Але напачатку, як споведзь — «З эміграцыйнага жыцця». У сваіх успамінах, нататках, экскурсах у асабіста пражытае Юры Весялкоўскі, на жаль, не шмат увагі ўдзяляе ўласнай «персоне»… Вось бацьку, цяжка хворага, прыўздымае ўцешная навіна — яе прынёс з вуліцы ў нядзелю памятнага верасня сынок-падлетак Юрась: праз Стоўбцы праскакалі жаўнеры-вершнікі з чырвонымі зоркамі. «Ну, слава Богу, змена ўлады». Але хто тады думаў, куды тая першая ўсцешанасць хіснецца ў сям’і Весялкоўскіх, у жыцці беларусаў-заходнікаў?.. Спісы высялення, развітальны адчай вывазу, катаржанскія дарогі ў Сібір, Катынь і г. д.

Юры Весялкоўскі не паглыбляецца ў свой жыццяпіс. Не імкнецца разабрацца, як стаўся надлом яго юначай душы, якая пачала ўжо спакушацца сумленнасцю свайго Беларускага шляху. Ускочыць з агню ды ў полымя — на гэта штурхалі абставіны. Ды не проста выскачыць з падзей, што ўцягвалі ў вогненны вір. Якім чынам, нап-

рыклад, малады Весялкоўскі апынуўся ў Мінску каля Беларускага гарадскога тэатра, дзе 27 чэрвеня 1944 года адбываўся Другі ўсебеларускі кангрэс, ды меў шчаслівую нагоду стаяць перад «фронтам будынка», які быў упрыгожаны бел-чырвона-белымі сцягамі і «Пагоняй»? Варту трымалі курсанты афіцэрскай школы. «Я стаяў на сваім месцы» ажно да гадзіны пятай, усёй істотай успрымаў важнасць гістарычнага моманту, бачыў на свае вочы, як прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі самаходам пад’ехаў да тэатра, чуў, як там выбухалі бурныя воплескі на знак ухвалы прамаўленняў. Юрась быў перапоўнены ўзрушэннямі («Гэты важны гістарычны дзень у сталіцы Мінску назаўсёды застаецца ў маёй памяці»).

Цікава, што роўна праз дзесяць гадоў Юры Весялкоўскі меў магчымасць перачытаць тыя выступленні беларускіх кангрэсістаў у мюнхенскім выданні (Другі Усебеларускі Кангрэс. Мюнхен, 1954), адчуць як бы асабістую прыналежнасць да тагачасных падзей і, што самае галоўнае, — паставіцца да ўсяго таго без іроніі. «Адступленне ішло па ўсёй лініі ўсходняга фронту» (дакладней, ішло наступленне — гэта як для каго), нямецкія танкі па вуліцах сунуліся «нах гаўзэн», а яны, больш за тысячу дэлегатаў (1039) з усіх куткоў Айчыны прабіваліся на свой кангрэс па замінаваных дарогах, выбуховых чыгунках. «І гэтыя людзі не былі нямецкімі памагатымі і не было ўжо ніякай патрэбы памагаць немцам у гэты час, бо ж відаць было, што немцы вайну прайгралі». Былі гэта людзі, як тлумачыць Юры Весялкоўскі, «шчырымі беларускімі патрыётамі, іх ніхто не змушаў ісці на Кангрэс і ніхто не вучыў іх, што яны маюць на ім гаварыць». Пра што гэта сведчыць? А пра тое, што свядомасць беларусаў узнялася высока, нягледзячы на ўсе ўдушэнні, што чыніліся нямецкай акупацыяй. Людзі адчулі магчымасць нацыянальнага самаадраджэння, адраджэння беларускай ідэі, беларускіх школ, прэсы…

А ці не было ўсё гэта ілюзіяй, непраглядна-тлумным падманам? Разам з падманным самапацяшэннем — склікannем кангрэсу, удзельнікаў апаноўвала эйфарыя нацыянальнага волявыяўлення. Уздымны настрой перадаўся і маладому Весялкоўскаму, хоць нічога вясёлага анікому з іх не сваціла наперадзе. Страта Айчыны! Нават з роднымі не ўсім выпала развітацца.

Далей біяграфічныя вехі аўтара кнігі «Дух часу» праглядваюцца пункцірна. «З Менску лёс закінуў нас у Францыю…». Затым у польскае войска, што фарміравалася ў Італіі. На шчасце, «немцы скапітулявалі ў Італіі» і перад Юрыем расхілілася прасветліна вучобы ў польскай гімназіі пры войску. Вось там і намецілася вядучая ідэя далейшага жыцця на чужыне: аб'яднанне! Настойлівае адшуканне беларусаў дзеля аб'яднання. Асабліва ўцалелых маладых беларускіх сіл, што групаваліся пры гімназіях. Рыхтаваўся грунт для беларускай арганізацыі — неадкладна, прыспешна. З афіцыйнага дазволу галоўнага штаба польскай арміі. Стаўся не дужа абяцальным той першы агульны З'езд беларусаў Вялікабрытаніі ў Лондане (1947). Былі гімназіяльныя звальненні, былі ганенні. Аднак пазітыўная роля З'езда заключалася ўжо ў самім стварэнні першай беларускай арганізацыі: Згуртаванне Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

На вялікі жаль, сілы супроцьдзеяння вялі да расколу гэтай яшчэ неакрэплай арганізацыі. Убачылася небяспека з самымі сумнымі наступствамі. Тым, хто выйшаў з ЗБВБ, прыйшлося закладваць новую арганізацыю — Хрысціянскае Аб'яднанне Беларускіх Работнікаў (ХАБР). Ёсць у гэтай назве дамінуючае слова: АБ'ЯДНАННЕ. Слова-ідэя — у імя пераадолення расколу. Дзякуючы высілкам сяброў новай арганізацыі ўзнік, такім чынам, шырокавядомы ў заходніх колах часопіс «Аб'еднаньне» (1948), штомесячнік, якому Юры Весялкоўскі аддаў восем гадоў шчырай арганізацыйна-творчай працы (1954–1962). У свет выйшла больш за сотню нумароў.

Аднак і ў гэтую арганізацыю з яе выданнем раскол пускаў свае атрутныя карані. Часткова яму пажыву давала амбіцыйная няўступнасць двух беларускіх прэзідэнтаў, што апынуліся ў выгнанні, — Міколы Абрамчыка, які прыняў кіраўніцтва БНР па «тастаменту», і Радаслава Астроўскага, што ачольваў БЦР. Вядома, зусім не час быў на чужыне ім хапацца за чубы. Але ж нельга тут абысці маўчаннем другое. Прыкрую, нягодную гісторыю з захопам беларускага Дома хрысціянскага аб'яднання, менавіта захопам, што ўчыніў Радаслаў Астроўскі разам са сваім сынам Віктарам. Можа, лепш было б тут і не згадваць тую пакасную справу. Але ж яна дужа пазітыўна высвечвае постаць Юрыя Весялкоўскага. Магчыма, тут праявілася адна з самых адметных рысаў яго натуры, яго публіцыстычнай

уталентаванасці — даверліва-пачуццёвая напоўненасць аповеду, што выклікае наша разуменне, прыхільнасць адносін.

Справа ў тым, што Дом, у якім знаходзілася Хрысціянскае беларускае аб'яднанне і сама рэдакцыя часопіса «Аб'еднаньне», неасцярожна быў аформлены на імя Р. Астроўскага з яго сынам: «У сувязі з прыездам прэзідэнта БЦР у Англію, каб разгарнуць і ўладзіць працу арганізацыі, а таксама даць большую магчымасць для працы прэзідэнта БЦР, Галоўная Управа ХАБР пастанавіла правесці рэвізію Дома ХАБР, і Дом ХАБР на поўных падставах быў перададзены пад кантроль прэзідэнта БЦР як зверхніка беларускага жыцця ў Англіі і іншых краінах вольнага свету». Дык вось гэты «зверхнік», які не прылажыўся «ні пэнсам» да набыцця і працы Дома, захацеў зачыніць дзверы перад супрацоўнікамі, наведвальнікамі. Такое проста ў галаву не ўкладвалася… І гэта ўчыніў той, каго па-маладому рамантычна настроены Юры Весялкоўскі шчыра вітаў пры ўваходзе ў Мінскі гарадскі тэатр у 1944 годзе. «Я не мог зразумець, — піша ў сваёй кнізе аўтар, — каб прафесар, старшыня БЦР, якога я бараніў на працягу гадоў будучы рэдактарам часопіса, мог пайсці на такую пакасць. Ніхто ў Лондане лепш з ім не жыў, як я. Ён прыходзіў да мяне, жыў недалёка, 30 мінут хады праз парк. І я заходзіў да яго часта забраць арганізацыйную карэспандэнцыю, і мне цікава было пагутарыць з ім, бо гэта быў адукаваны чалавек, стары беларускі дзеяч, палітык, які многа чаго і каго знаў і мог гутарыць на любую тэму».

Каштоўнасць такіх мясцін у гэтай кнізе Юрыя Весялкоўскага ў тым, што яны захоўваюць шчырую спавядальнасць, пачуццёвую сапраўднасць перажыванняў асобы, якая проста пакутуе за тую кампраметацыю агульнай справы, што ценем кладзецца на ўсю беларушчыну, і, пэўна, не толькі на чужыне. Як ні горка такое прыгадваць, ды трэба. Бо як жа іначай, як праз боль ўсведамлення, выпраўляць натуру беларуса?

Захлынулася ў той нягоднасці, на жаль, выданне часопіса «Аб'еднаньне». І ўсё ж разуменне важнасці беларускай справы на чужыне было невынішчальным — ажывіла і ўзмацніла прагу да бесперапыннага дзеяння. Юры Весялкоўскі з усім сваім выдавецкім вопытам і сумленнасцю быў пакліканы да працягу — прыняў нялёгкі клопат рэдагавання двухмесячніка «Голас часу». Часопіс

разгортвае далей магчымасці яго публіцыстычнага дару творчасці. «Голас часу» піша праўду, часам горкую, але праўду, — падкрэслівае гэты дужа істотны момант аўтар, шчыры працаўнік па прызванню і ўсвядомленаму абавязку. — Можа, каму і гэты мой артыкул не падабаецца, у якім я выказваю крыўды. Але тут не ходзіць пра мяне, але пра жыццё беларускай арганізацыі і тыя беларускія часопісы, што заўчасна памерлі праз несвядомую дзейнасць некаторых людзей. Кожны з нас робіць памылкі, але на некаторыя з іх не можа быць апраўдання. Людзі павінны памятаць, што на свеце многа што мяняецца і ўсякія хітрыкі, ашуканствы, нажывы і праступствы толькі да часу». І з аўтарам можна пагадзіцца.

Дарэчы, амаль усе нумары гэтага часопіса я маю ў сваёй хатняй бібліятэцы. Ды і сяды-тады друкаваўся на яго старонках. Цяпер гэта ўжо гісторыя.

* * *

Апошнія самакрытычныя радкі — як дазвол на кардынальнае пытанне: якая ж яна, праўда, нават тая «горкая», што не ўсім даспадобы — каму ж яна належыць, ісціна ў апошняй інстанцыі? Ці дадзена каму права безапеляцыйна яе прагалошваць?

Прыгадаем: з жалем гаворачы пра раскол толькі што ўтворанага «Згуртавання Беларусаў» аўтар без ніякага сумніву паказаў на першапрычыну: «Прычынай стаўся прыезд з Рыма ў Лондан уніята айца Чэслава Сіповіча, місіянера па наварочванні праваслаўных на вунію». Бязладдзе ўзаемаадносін беларускіх прэзідэнтаў на чужыне Міколы Абрамчыка і Радаслава Астроўскага — гэта ўжо як бы пасля, у падвёрстку да першапрычыны. Унія — камень спатыкнення.

Наколькі, скажам, тая унія прышчапляла ў людскіх гушчах беларускую культуру, пеленгавала і культывавала беларускую мову? Факты ў сукупнасці, як лічаць аўтарытэты навукі (Адам Мальдзіс, Юрый Хадыка, Анатоль Грыцкевіч і іншыя), людзі таксама дасведчаныя, даводзяць аргументавана, што гэта веравызнанне невыпадкова прэтэндавала на «нацыянальную рэлігію» (калі не казаць гучна — на «стрыжань беларускай культуры»). Катэгарычная нязгода Юрыя Весялкоўскага грашыць спаўзаннем да нявытрыманасці выпаду: «А нам дураць галаў некаторыя беларускія прафесары аб

нейкай беларускасці, якую быццам перахоўвала ўніяцкая царква на Беларусі»…

Падобныя палемічныя адпрэнні нагадваюць бурлівы кіпень у падвешаным над вогнішчам посудзе, з якога на вуголлі з шыпеннем сцякае чаднае шумавінне. Ды сутнасць, вядома, не ў ім, а ў тым, што там у посудзе, у клёкаце кіпеню. І мы разумеем, чым кіруецца аўтар трактата «Язэп Кунцэвіч і яго аднадумцы». Вядома, пад яго «аднадумцаў» падгортваць гарачае вуголле сёння нават прэстыжна. Хоць да супярэчлівых абставін і вымогаў часу не шкодзіла б падыходзіць з большай разважнасцю. Гэта незвычайна актуальныя сёння вымогі еднасці, унутранай узгодненасці Дому людскога сужыцця. Як не прыгадаць прарочае прадбачанне Хрыста: «Усякае царства, якое раздзялілася само ў сабе, апусцее, і ўсякі горад ці дом, які раздзяліўся сам у сабе, не ўтрымаецца» (Мацв., 12:25). Тычыцца гэта і Беларускага Дома, што спакон знесіляецца ад унутранай калатнечы. Справядліва гэта і для Дома веры Хрыста. Хрысціянскі Дом адзіны. Гэта безгалоўе палітыкаў расцягвае яго па бярвенню, разгароджвае на каморкі і катухі адасобленых вызнанняў і канфесій — у імя сваіх захопніцкіх намераў, экспансій.

У гісторыі чалавецтва ўсё дэтэрмінавана і абумоўлена. У тым ліку і з’яўленне ў эпоху Высокага Рэнесансу Велічнай постаці Францішка Скарыны — усёй сутнасцю свайго дзеяння ён ужо тады засведчыў «вялікі культурны і нацыянальны ўздым самасвядомасці беларускага народу». Юры Весялкоўскі таксама робіць свой узнёсак у Скарыніяну артыкулам «Францішак Скарына — беларускі першадрукар». Праўда, і тут ён засцерагае чытачоў ад дапушчэння: «Але ўніятам Скарына не мог быць, бо ў той час уніі як такой не было». Аднак сутнасцю свайго беларускага першадрукарства, а таксама філасофскай падасновай славутых прадмоў і пасляслоўяў да праваслаўных выданняў кніг «Бібліі» Скарына пакінуў геніяльнае прадвесце наконт (зусім магчыма!) нацыянальнай беларускай рэлігіі, пакінуў як «прадцеча» — усім сваім жыццёвым і творчым уласным прыкладам.

Дужа паказальная ў гэтым сэнсе адна мясціна ў даследча-мастацкай кнізе Алега Лойкі «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» (шкада, Юры Весялкоўскі прамінуў такі дужа прыцягальны «прадмет» абгаварэння і палемікі): «Друкаваная кніга Скары-

ны, — піша Алег Лойка, — у адначассе ўзвышалася над паствай і каталіцкай, і праваслаўнай, над паствай касцёла і царквы — над усім мнагаверствам Вялікага княства Літоўскага, становячыся як бы заяўкай на веру асобную — не лютэранскую, не папісцкую, а, можа стацца, літвінскую ці літвіна-рускую, беларускую».

Усталяванне нашай нацыянальнай ідэі, паводле Юрыя Весялкоўскага, вылучае дзве актуальныя задачы: змаганне за родную мову, а таксама — за сваю Беларускую праваслаўную царкву і веру. Падобна, што апошняя ўважаецца за нацыянальную рэлігію. Але такое дапушчэнне павінна мець бясспрэчную перадумову — увядзенне ў царкоўны ўжытак беларускай мовы, пакуль перад ёй насцеж расчыняцца праваслаўна-царкоўныя дзверы, то ёй выпадае найпершая роля ў адраджэнні беларускай ідэі. Зразумела, што і дзверы ўрадавага Дома — ва ўсіх сферах ужытку.

У кнізе прыгадваецца: ужо за Альгердам беларушчына стала мовай урадавай Літвы. Чаму было і не мовіць у гонар: «…Ня обчым яким языком, але сваім уласным правы сьписаныя маем» (Леў Сапега. Статут ВКЛ 1588). А шыроказначнае выказванне Адама Міцкевіча ў Парыжы пра беларускую мову («гэта самая чыстая гаворка, якая ўзнікла і выдатна распрацавана»). Ці лёсавызначальнае запавяданне Ф. Багушэвіча — яго немагчыма не паўтараць як малітву і заклінанне: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». Яе даўно ўсмяротнілі сваімі жорсткімі забаронамі, патапталі б і выкінулі б з ужытку Польшча і Расія, калі б не захавальніца моўных скарбаў — нашы вёска ды мястэчкі.

Усё ж мы былі б далей ад фатальнасці, калі б дараваныя Богам таленты трымаліся роднай глебы. У гэтым сэнсе нават Адам Міцкевіч не пазбыўся закіду з боку аўтара кнігі: аддаць такі, зямлёй нашай народжаны талент на паслужэнне Польшчы! Яшчэ большае незадавальненне ў аўтара наклікаюць сваёй недастатковай беларускасцю Тадэвуш Касцюшка, М. К. Агінскі і іншыя — яны ж з беларускага «пня»! З іх нельга рабіць «святых для нас», маўляў, яны не змагаліся за наша нацыянальнае вызваленне, не выступалі за самастойнае развіццё беларускай культуры, мовы і г. д. Пад іх кіраўніцтвам беларусы змагаліся не за свае інтарэсы, а за інтарэсы Польшчы, змагаліся пад «чужымі сцягамі» «за сваю згубу». Што на

гэта скажаш? Усё складаней у тых сутыкненнях і пабоішчах на «тэрэне» імперыялістычных захопніцтваў… Нават Адаму Станкевічу, ахвярнаму святару-верніку, сейбіту беларускасці перападае — як бы дзеля паніжэння яго высакагоднай асобы. Што гэта — крайнасці канцэпцыі?

* * *

У кнізе Юрыя Весялкоўскага, асабліва ў раздзеле «Заходнія і ўсходнія суседзі», атрымала пашырэнне актуальная думка: уладары з экспансіўнай ментальнасцю часта капаюць дол-магілу для дзяржаўнасці сваіх жа краін. Экспансія мілітарная ідзе ў адной вупражы з рэлігійнай. Тры акрутныя падзелы Рэчы Паспалітай — вынік такой, на думку аўтара, сляпой фанатычнай палітыкі польскай магнатэрыі. Рэпрэсіўныя акцыі разам з пагардліва-зневажальным стаўленнем да паняволеных суседзяў вялі да ўнутранага няладу і распаду, да самарасхіствання дзяржаўных асноў. Дзіўна, захоп не дадаваў моцы мацарству, не множыў сілы, а падкошваў іх бязладдзем. Магчыма, львіную долю энергіі, што паступала ў выніку экспансіі, паглынала патрэба «пераварвання» заглынутага.

Карацей, узнікла неабходнасць навядзення парадку. Якім чынам? Шляхам акрутнага разрывання саслабелай краіны больш моцнымі драпежнікамі. Такая думка прамоўлена ў кнізе ўсур’ёз: «За навядзенне парадку ў Рэчы Паспалітай прыйшлося заплаціць суседзям тэрыторыяй, што давяло да першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе паміж Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй». Які няхітры разлік: заплаціць тэрыторыяй! Усяго толькі.

Як жа ўзгодніць такія развагі з болем самога аўтара за драпежную ўсёдазволенасць падзелу Беларусі паводле Рыжскага пагаднення, дазволенасць на агрэсію, захоп, на яе распалавіненасць па жывому целу? Што — і тут «навядзенне парадку» на нашых родных землях? А затым ужо накідванне на іх фашыстамі розных масцей «новага парадку ў Еўропе» ці гвалтоўна-падманнага камуністычнага раю?

На гэта пытанне дасканальна можа адказаць «Слуцкая абарона» — артыкул, дзе свежасць і дэталёвае разгортванне фактаў, інфармацыйная насычанасць міжволі прымушае нас перачытваць і ўглядацца ў падзеі таго гераічнага паўстанчага Слуцкага чыну.

З удзячнасцю ставімся і да няшчаднага, па-грамадзянску мужнага агалення ўсёмагчымых ганебных спробаў фальшавання гісторыі, затойвання і перакручвання праўды («За плотам Катынскага лесу», «Пакт Молатаў-Рыбэнтроп»). Артыкулы гэтыя стаяць поруч, з’яднаныя, спаяныя, па сутнасці, адной крывавай рэчаіснасцю, з дэспатычным размахам распачатых мільённых трагедый. Хатынь — Катынь… «Мы, беларусы, — запавядае аўтар кнігі, — павінны памятаць аб сваіх ахвярах і іхніх забойцах, з якога боку яны ні ішлі б, з усходу ці з захаду».

Шматзначнай, унутрана набліжанай сутнасцю многія артыкулы сходзяцца як бы ў адным рэчышчы. У нашай уяве, напрыклад, яднаюцца, істотна пашыраючы інфармацыйнае поле, «Галасы аб Грунвальдскай бітве» і «За цаной не пастаім…» — распрацоўкі на матэрыяле, аддаленым у часе, але з’яднаныя духам (невыпадкова кніга мае назву «Дух часу») і невымернай цаной платы, дзве, па сутнасці, найвялікшыя ў мінулым тысячагоддзі бітвы за выжыванне на зямлі, за непадлегласць, самастойнасць гаспадарання на ёй. Сапраўды, які ахоп ахвярнага, змагарнага светаўсталявання нашай Беларусі ў гістарычным кантэксце славянскага задзіночання! Ды не толькі дзівуюць, а шчымліва даймаюць нас, уражваюць уведзеныя ва ўжытак малавядомыя фактычныя пласты інфармацыйнасці. Наколькі ўзрастае ў паэтапным бегу і працягу стагоддзяў цана перамогі ў імя незалежнага нацыянальнага быцця і як абясцэньваюцца ў таталітарных сістэмазбудаваннях кошты асобных чалавечых жыццяў! Выклад фактаў глыбока ўваходзіць у наш збянтэжаны роздум.

І што яшчэ незвычайна важна для сутнаснай каштоўнасці і змястоўнасці кнігі Юрыя Весялкоўскага — дык гэта яе арганічнае богавыяўленне хрысціянскага свету. Напісанне артыкулаў (яны важка ўвайшлі ў раздзелы «Беларусь хрысціянская», «Ранняе хрысціянства») паклікана шчырай душой верніка, прытым верніка, апантанага ў бясконцым заглыбленні ў гісторыю хрысціянства і праваслаўнае веравучэнне. Іх усталяванне цягам доўгіх стагоддзяў было акроплена не толькі боскай расой нябёс, а расой крывавай, пад ценем і балючым знакам Галгофскага ўкрыжавання («Хрысціянства ад Галілея да Беларусі»). На цярністым шляху каларытна, пранікліва акрэслены пуцяводныя постаці Кірылы і Мяфодзія, Канстанціна

Вялікага («Канстанцін Вялікі — першы хрысціянскі імператар» і іншыя). Сваёй грунтоўнасцю, навуковасцю гэтыя працы не толькі ўздымаюць наш адукацыйна-тэалагічны ўзровень, але разам і далучаюць нашы душы да шчырага спавядання высокіх ідэалаў, запаведаных Ісусам.

*2005*

## ПАМЯРКОЎНАЯ КНІЖКА ПАЭТА

Браніслаў Ермашкевіч. Ці чулі вы пра такога паэта? Я асабіста даведаўся пра яго ўпершыню, калі Леанід Галубовіч паказаў мне зборнік вершаў Ермашкевіча пад назовам «Зямлі маёй нераўнавага» (Мінск, 2007). Кніжка даволі прыгожа выдадзена выдавецтвам «Кнігазбор».

З яе я даведаўся, што Браніслаў Ермашкевіч нарадзіўся на Барысаўшчыне. З 1956 па 1982 год служыў у войску, пасля працаваў настаўнікам у адной са школ Гродзенскага раёна. Цяпер жыве ў Гродне. Выдаў кнігі «Надзённае» і «Навучанне зямлёй». «Зямлі маёй нераўнавага» — гэта трэцяя кніга паэта, яе я прачытаў уважліва і далікатна. Парадавала і здзівіла тое, што чалавек усё жыццё аддаў арміі, служыў у розных рэгіёнах былой вялікай краіны і заўсёды думаў і пісаў па-беларуску. Толькі за гэта шаноўнаму Браніславу Іосіфавічу трэба сказаць дзякуй. Разумею, што на службе Айчыне і на службе Паэзіі, так, як і ў жыцці наогул, заўсёды ўсё складваецца не так, як хочацца: у адных выпадках удала, паспяхова, а ў іншых — усё наадварот. Тым не менш, мне здаецца, служыць Паэзіі намнога цяжэй, чым арміі, як і хто б мне што ні казаў. Але і ў арміі салдат салдату ці афіцэр афіцэру не роўны. Так і ў паэзіі. «Понимание поэзии как искусства — это, по-видимому, вообще главная проблема, стоящая перед каждым, кто хочет «войти» в поэзию и сделать ее своим достоянием», — пісаў некалі Вадзім Кожынаў.

Аўтар новай кнігі не імкнецца ў вялікія паэты. Ён нават сам сціпла пра гэта заявіў:

> І як вынік настойлівай працы —
> Памяркоўная кніжка мая.

Памяркоўны чалавек — гэта згаворлівы, падатлівы чалавек. Ці той, які прытрымліваецца сярэдзіны паміж крайнімі поглядамі. Але ці можа наогул існаваць памяркоўная паэзія? Вядома, можа. У Купалы, Караткевіча, Танка, Сыса — магутная паэзія, у Броўкі, Глебкі, Пранузы, Іверса — лёгкая, простая. Але кожны з іх па-свойму таленавіты. І кожнага мы па-свойму любім, найперш як паэта, але і па-рознаму цэнім.

Вершы Бранiслава Ермашкевіча таксама простыя. Ды памяркоўная не толькі яго кніжка, але, відаць, і ён сам як чалавек. Скразною лініяй праз усю кніжку аўтара праходзяць яго шчырасць, дабрыня, заклапочанасць, любоў да роднай зямлі і яе людзей. З любові да Беларусі, да творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Міхася Васілька і пачынаецца кніга «Зямлі маёй нераўнавага». Самааналіз, роздум Б. Ермашкевіча, народжаныя атмасферай нашага часу, душэўнымі схільнасцямі паэта, выявілі глыбіню натуры паэта — нашага сучасніка. Ён перш за ўсё разважае аб высокіх спрадвечных катэгорыях: Праўдзе, Жыцці, Сумленні, Сяброўстве, Спадзяванні, Бацькоўскім наказе і г. д. Вельмі хвалюе паэта яго вялікасць Час. Такія радкі запамінаюцца:

Разнасцежыцца ў прасторы
Альбо ў камені замрэ,
Быццам сам Стэфан Баторый,
Мячом хвалю падабрэ.

Многія вершы Бранiслава Ермашкевіча выяўляюць зацікаўленасць да філасофскага асэнсавання сучаснасці, да краязнаўча-гістарычнай тэматыкі і развагі аб радзіме. Хораша паэт сказаў пра Мір:

Стаіць не нізка, не высока,
Але пастава ўсіх здзівіла:
За Мір зачэплена вясёлка
Дугою князя Радзівіла.

А яшчэ лепш паэт напісаў пра Гродна. Свайму гораду ён прысвяціў у кнізе цэлую нізку вершаў. Гэта шчырыя радкі, праз якія праходзіць гісторыя старажытнага горада, дзе «стары замак і новы», дзе «Тызенгаўз паважаны тут правіў», дзе «пісала Эліза Ажэшка», дзе ў «Пакроўскі Сабор памаліцца завітаюць з замежжа народы»,

дзе «славіў Давыд Гарадзенскі Радзіму», дзе «сувязь вякоў і вялікасць Каложы».

Побач з гісторыяй паэт услаўляе чалавека. Найперш таго, хто любіць вандраваць, хто не баіцца перашкод, хто прайшоў «шляхі-дарогі і пражыў дні-трывогі». Вершы паэта — гэта біяграфія аўтара. Чытаючы іх, адчуваеш, што паэт жыў і служыў не толькі на Бацькаўшчыне, але і далёка на Крайняй Поўначы, на Далёкім Усходзе. Аўтар смела адкідвае мараль тых слабых духам людзей, якія шукалі і шукаюць у жыцці лягчэйшыя дарогі і клапоцяцца выключна пра сябе. Сапраўдныя героі, вартыя ўсеагульнай павагі і пашаны, — гэта людзі, якія шукаюць у жыцці шырокіх дарог і дбаюць пра шчасце для ўсіх. Можа, гэтая мараль трохі састарэла, але веліч чалавека заўсёды праяўляецца ў пераадоленні цяжкасцей і перашкод, у павазе і любові да людзей, да сваёй Айчыны:

Калясіў па белым свеце —
Зведаў горыч і тугу,
Ды сваёй жа здрадзіць мэце,
Зразумеў, што не магу.
А цяпер у Прынямонні
Чарадой гады ідуць,
Хоць паўночных ззянняў промні
Мне спакою не даюць.

Напэўна, нехта захоча кнігу вершаў Браніслава Ермашкевіча моцна раскрытыкаваць. І знойдзе шэраг недахопаў. Але, з іншага боку, яго зборнік «Зямлі маёй нераўнавага» нават у сваіх недахопах гарманічны. Многія вершы зусім не прэтэндуюць на вялікае адкрыццё, але яны вабяць сваёй шчырасцю, пранікнёным роздумам, праўдзівасцю. Маны ў паэтычных радках няма. Паэт паказвае жыццё ў сувязі з перадуманым, асабіста перажытым, убачаным. Некаторыя радкі напісаны ярка, маляўніча, нават з рамантычным уздымам:

Знаёмай крочу вуліцай,
Дзе сохнуць ручнікі.
Няхай вясна прытуліцца
І да маёй шчакі.

Разам з тым у зборніку ёсць і слабыя вершы, радкі, няўдалыя вобразы і параўнанні. «Старайся, брат, каб скрыпка пела», «І дудка каб спявала песні» — піша паэт. Усё ж інструменты спяваць не могуць, на іх іграюць. У вершы «Выбар» чытаю:

Калі касцюм сабе набыў —
Як быццам бы русалку ўвудзіў.
Рака пяшчот лягла на грудзі,
Калі касцюм сабе набыў…

Гэта як?.. І ці хто калі злавіў русалку? І калі каму пашэнціла яе злавіць, дык ці пяшчотная яна была? Бязглуздзіца нейкая атрымалася. Радкі добрыя для пародыі. Падобныя і кволыя вобразы ёсць і ў вершах «Дакор», «Уплыў», «Німфа», «Утомнае». Рэжа слых у зборніку слова «клёк». У беларускіх тлумачальным і арфаграфічным слоўніках значэнне гэтага слова я не знайшоў. Але, магчыма, яно сустракаецца ў гутарковай мове. Напрыклад, на Маладзечаншчыне кажуць так: «У цябе клёку не хапае» — гэта значыць розуму. Аўтар зборніка ад «клёку» ў захапленні. Я набраўся цярпення і палічыў усе вершы і радкі з гэтымі «клёкамі», якія, насамрэч, рэжуць слых. Вось некаторыя з іх:

Мінулага часу агораны **клёк**…

*(верш «Прамень Купалы»)*

Гэты верш — жыцця **клёк**…

*(верш «У вянок Міхасю Васільку»)*

Калі глынуў зямнога **клёку**…

*(верш «Палёгка»)*

Здзек бачыў зблізку, **клёк** — здалёк…

*(верш «Успамін»)*

Ёсць у зборніку і верш, які так і называецца «**Клёк**». У ім ёсць радкі, якія не вельмі ўдалыя, а нават наіўна-смешныя:

Паглядзі на нас, Божа, здалёк,
Нахілі над зямлёй галаву:
А ці маем надзею на **клёк**,
Ці не топчам дарэмна траву?

Па-мойму, ды і на думку ўсіх літаратараў, паэзія павінна быць першаадкрывальнай. Ды і сама паэзія — гэта адкрыццё. Таму ў паэзіі памяркоўным быць неабавязкова. Але за памяркоўнасць Браніславу Ермашкевічу ўсё ж трэба сказаць дзякуй. За памяркоўнасць — жыццёвую і за шчырасць — творчую.

*2007*

## БЕРАГ ВЕРШАЎ МІРЫ ЛУКШЫ

Выданне новай кнігі вершаў беларускай паэткі з Беластока Міры Лукшы «Пад знакам Скарпіёна» (Беласток, 2011) ажыццёўлена ў бібліятэчцы беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа» за кошт сродкаў Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

Адразу скажу шчыра, пра вершы Міры Лукшы пісаць не проста, так, як і не проста іх чытаць, думаць, разважаць. Але калі ўжо вырашыў сказаць сваю думку пра яе паэзію, то не трэба скакаць з берага верша. Вобраз «бераг верша» прыдумала сама паэтка. Выдатны вобраз. Мне чамусьці прыгадалася назва кніжкі Яўгеніі Янішчыц «На беразе пляча». У Міры — бераг верша. Добрая была б назва зборніка — «Бераг верша» ці «Бераг вершаў», ці нават так — «На беразе вершаў». Але Міра Лукша спынілася на назве — «Пад знакам Скарпіёна». Гэта права аўтара.

Беларуская паэтка з Беластока мае вялікі творчы вопыт. Вынікам гэтага творчага вопыту сталі яе шматлікія кнігі вершаў і прозы. Для творчага чалавека галоўнае, як некалі казаў Рыгор Семашкевіч, улавіць рух дыялектыкі, хаця б асноўныя яе напрамкі ў сваім часе. Вядома, для аднаго таленту, якім бы значным ён ні быў, не пад сілу ахапіць усё. І таму, калі казаць пра імкненне да цэласнасці, на першы план выступае цэласнасць светаадчування, характару, якая вызначае напрамак таленту, яго развіццё. У чытацкім уяўленні вершы Міры

Лукшы — гэта паэзія захапленняў, вобразаў, параўнанняў, настальгіі і жыцця. Бывае, што паэтка захапляецца колерамі. Напрыклад, у яе паэтычных радках найперш дамінуе чырвоны колер. І бывае, ён нават надакучвае: «абкладзены чырвонай цэглай», «кроў чырвоная, як у брата роднага», «у чырвонай імгле», «па дне чырвонага мора», «пояць кроплі чырвоныя» і г. д. Мы ведаем, што ў паэзіі Алеся Пісьмянкова шмат белага колеру. Але белы колер надаваў ягоным вершам нейкай чысціні, свежасці, святла. Чырвоны і нават крывавы колеры ў вершах Міры Лукшы надаюць самотнай тужлівасці, трывогі, адчаю, настальгіі. Я не хачу сказаць, што гэта слабыя вершы, наадварот, вершы-роздумы выдатныя, філасофскія, надзённыя. Але яны неяк павернуты ў нашу трывожную сучаснасць, у якой перакрыжоўваюцца жыццё, трагедыі і трывога за шчасце ўсіх, хто здабывае яго. Трывога за наш час, за жыццё і творчасць, трывога наогул за чалавека хвалюе паэтку:

Ласкавы коласе,
калышаш сусвет,
Затулі нас
сярод сваіх зярнят.

Міра Лукша звяртаецца да зерня, наогул да жыта. Для яе, як і для ўсіх беларускіх паэтаў, вобразы зерня, каласоў, жыта — гэта вышэйшая мера чалавечага плёну, гэта свята, гэта гуманістычны пафас дабраты і шчырасці, гэта адчуванне народных каранёў, гэта сваё роднае, беларускае, якое абароніць ад усіх няшчасцяў. «Зачыню цябе ў зярняці» — піша паэтка. Ці так: «разам з жытам я хвалююся ў паклоне». Альбо: «з гуку і з прыску ў зерне, з якога хлеб кладзецца на язык лустай, прычасцем і выбухам смаку». Жыта, жыццё, жывіца… Лепшыя «жытне-жыццёвыя» вершы паэткі вабяць ёмістасцю зместу і свабодай выяўлення, тонкай паэтычнасцю і важнасцю думкі. Уражвае ў вершах актыўнае ўмельства, скіраванасць, жаданне казаць і думаць пра істотнае, важнае, нязменная вернасць народным традыцыям, вытокам.

У многіх вершаваных радках паэтка вядзе дыялог сама з сабой. Гэты дыялог падкупае шчырасцю перажывання чалавека. Яе хвалюе многае «чаму?». Гэта, мусіць, непазбежныя пытанні, якія чакаюць кожнага, хто з вышыні гадоў аглядае пражытае і перажытае, хто на

шалях сумлення ўзважвае ўсё добрае і благое, што разам з часам прайшло праз яго сэрца. Каб сказаць, што аўтарка зборніка «Пад знакам Скарпіёна» шкадуе аб пражытых гадах, дык не, хаця яна з горыччу разважае, што на гарышчы хаты «поўна ўсяго, і тых ботаў зусім непаношаных… бо няма каму іх насіць, бо ногі завялікія, або стапталіся, або і пайшлі на пагорак за Семяноўкай да Ошарка». Адначасова задае пытанне: ці маем мы сёння час сказаць пра ўсё?..

Сарцавіннае ў паэзіі Міры Лукшы ўсё тое, чым яе лірычная гераіня жыве. Адсюль у вершах глыбіня пачуццяў, іх натуральнасць, псіхалагічная праўдзівасць. І можна казаць нават пра сонечнае сцляценне розных пачуццяў, розных матываў у самой істоце гэтай паэзіі, настолькі яны счэпленыя ў сваёй цэласнасці, адзінстве выяўленага ў іх чалавечага характару, уласнага характару аўтаркі:

Не дзялю сябе
ні з кім я
з кім я.

Хто, як не паэт, сёння абароніць паэта, паразважае пра яго творы, жыццё, спадзяванні і расчараванні. Спрабуе гэта зрабіць і Міра Лукша. Розныя яе разважанні, найперш суб’ектыўныя і няпростыя, настраёва-тужлівыя і філасофскія: «Будуць судзіць паэта — украў адзін дзень у Бога», «вечны дом паэтаў пад вадой», «той верш каштаваў жыцця», «як пісаць верш першы і апошні» і г. д. Арыгінальнасць Лукшы-паэткі перш за ўсё ў смелым асацыятыўным мысленні, у зближэнні паняццяў, з’яў далёкіх і блізкіх. Міра — паэтка, патрабавальная да сябе. Яна не так і шмат піша вершаў, але яна арыгінальная па сваёй манеры, наватарскай форме, вельмі спакойная і чуллівая.

У вершах беларускіх паэтаў Беласточчыны мяне заўсёды здзіўляе тое, што іх творы проста насычаны вобразамі, параўнаннямі, філасофскімі роздумамі, паэтычнымі адкрыццямі. Усяго гэтага вельмі шмат і ў вершах Міры Лукшы. Такія вобразы чытач проста смакуе: «матылькі агню», «харугвы дрэў», відушчы прамень», «нітка дыму», «абочына часу», «сноў сузор’е» і г. д. У паэткі — «расце раса», але не блішчыць, бо, зразумела, калі яна большая, то і будзе зіхацець здалёк. Сённяшні свет паэтка азірае даволі пільна, дэталёва даследуе яго ў развіцці, бачыць дыялектыку гэтага развіцця, робіць

свае высновы. У вершах аўтарка спадзяецца не толькі на сябе, але і на прыроду. З прыродай яна на «ты». Надзіва выразна, поўна, хораша раскрываецца лірычная гераіня Міры Лукшы «ў прыродзе», на яе фоне, у адчуванні яе хараства, у сваёй душэўнай светласці, дабраце, паэтычнасці, у няўрымслівасці і ў рамантычнасці. «Мае дрэвы не ў самоце растуць за мяне» — разважае паэтка. «Трава трывае маё крананне» — прызнаецца аўтарка. А «Нарва — мая рака рве мяне, як нарыў» — ці то радуецца, ці то шкадуе паэтка. У вершах Міры Лукшы больш за ўсё кідаецца ў вочы імкненне аўтаркі да гульні на кантрастах, на нечаканых паваротах думкі. І яшчэ да ігры на нюансах слова, якія асляпляюць, як маланкі, становячыся і тваім празрэннем і адкрыццём.

Як і ў кожнага паэта, у новым вершаваным зборніку аўтаркі з Беластока ёсць радкі і пра каханне. Але гэта не пра юнацкае рамантычнае каханне і наіўныя дзявочыя пачуцці, а пра каханне сур’ёзнае, дарослае, дзе лірызм спалучаецца з псіхалагізмам, з філасофскай заглыбленасцю:

Я не ўмею чакаць,
Хоць жанчына павінна
З-пад рукі выглядаць,
Скуль павінен вяртацца мужчына…

Зборнік «Пад знакам Скарпіёна» пачынаецца вершам, у якім паэтка прызнаецца ў любові да роднага Падляшша і яго людзей:

Мая душа гаворыць з вашай
у белай хмары над Падляшшам…
…чула кранаюць цёплай ласкай
верных людзей з зямлі падляшскай.

Гэтыя радкі можна смела назваць эпіграфам да ўсяго зборніка. Падляшша і людзі працягваюць натхняць беларускую паэтку, і яна шчыра «ходзіць па свеце і вітае душы». Няхай яе творчая хада яшчэ доўга-доўга прыносіць плён і творчыя адкрыцці.

*2011*

# ДРУГОЕ СОНЦА ПАЭЗІІ АЛЕСЯ РАЗАНАВА

Успамінаецца 1981 год. Я тады быў першакурснікам Белдзяржуніверсітэта. Мы адсочвалі ўсе кнігі, якія выходзілі ў беларускіх выдавецтвах, і з радасцю іх куплялі. Самай вялікай сенсацыяй у кніжным свеце быў тады выхад зборніка паэзіі Алеся Разанава «Шлях-360». Такі зборнік вершаў у той час выдаць было не проста. Алесю Разанаву ўдалося. Але перш чым кніжка дайшла да чытачоў, яна прайшла нялёгкі шлях рэцэнзавання. Уявіце сабе, зборнік вершаў Алеся Разанава выходзіў пад рэдакцыяй Уладзіміра Караткевіча. Рэцэнзентамі яго былі У. Конан, А. Майхровіч, І. Шпакоўскі, рэдактарам — Рыгор Яўсееў. Уступнае суправаджальнае слова да зборніка напісаў народны паэт Беларусі Пімен Панчанка, а з заключным словам у кніжцы выступіў Варлен Бечык. Чыя, дзе і калі ў такім «апякунстве» выходзіла ў Беларусі кніга вершаў, накладам 7 тысяч паасобнікаў? Гэта была своеасаблівая падстрахоўка, бо ў літаратуру смела ішоў новы аўтар. І ўтрымаць яго было немагчыма. «Шлях-360» чытала ўся творчая Беларусь, асабліва моладзь. Чытала і вучылася думаць і пісаць па-новаму. Хаця да гэтай кнігі ў паэта ўжо былі выдадзены тры, сярод якіх і «Каардынаты быцця» — кнігі спрэчнай і нязвыклай, як пісаў Варлен Бечык, па стылёваму ладу і вобразнаму мысленню. А Пімен Панчанка падкрэсліў, што «Паэзія Алеся Разанава складаная, але той, хто цярпліва ўчытаецца ў яе, духоўна пабагацее». А завяршыў сваё ўступнае слова народны паэт Беларусі радкамі Разанава: «Ты, сонца, свяці, ты, лісток, зеляней…». Наогул, сонца ў паэзіі Алеся Разанава вельмі шмат. Ва ўсіх кнігах паэта, якія пабачылі свет на працягу 37 гадоў (першы зборнік «Адраджэнне» выйшаў у 1970 годзе), сонца не пакідае паэзію Алеся Разанава. І ў новай кнізе «Лясная дарога» (Lesna droga) (2006), якая з'явілася ў Вроцлаве на дзвюх мовах — беларускай і польскай, дзякуючы фінансавай дапамозе Міністэрства замежных спраў Польшчы, таксама сонца скразною лініяй праходзіць праз усю паэзію таленавітага аўтара: «перуны выбухаюць над нашымі гарадамі, хістаецца сонца…», «у лужынах грае сонца — а людзі не вераць сонцу…», «нам яшчэ трэба ўбачыць у іншых сябе, у сабе — нябёсы, у нябёсах — сонца, а ў сонцы — сонцалюдзей», «уздымаюся на новы ўзгорак — і сустракаю яшчэ раз сонца, што

ўжо на зямлі зайшло», «а маці — наўздзіў маладая — гладзіць мяне рукою па галаве, дзьмухае мне на твар… — Вось і ўсё добра, — кажа яна. — Я пагасіла другое сонца».

Вроцлаўскую кнігу Алеся Разанава «Лясная дарога» склалі версэты — вершы, якія сублімавалі асаблівасці іншых жанраў і сталі прыкметнай з'явай у сучаснай беларускай літаратуры. Версэты, як кажа сам паэт, гэта не верлібры, гэта самы традыцыйны верш, які ўзяў здабыткі іншых жанраў, у тым ліку і верлібра. Хаця, як казаў паэт Роберт Фрост, пісаць свабодныя вершы — гэта як гуляць у тэніс пры апушчанай сетцы. Вядома, з ім ніколі не пагодзіцца Алесь Разанаў, не пагодзяцца і нашы паэты Ян Чыквін, Надзея Артымовіч, Алесь Барскі, Міра Лукша, Юрка Баена… Версэты і квантэмы Алеся Разанава — гэта філасофскі роздум над бясконцым і непаўторным светам прыроды, грамадскім быццём і неабмежаванымі духоўнымі магчымасцямі чалавечай асобы, над маральна-этычнымі праблемамі сучаснасці. Іх трэба чытаць удумліва, нават перачытваць, разважаць, пагаджацца ці не пагаджацца з аўтарам. Сам паэт сцвярджае, што ягоныя вершы маюць сваю тонкую субструктуру. Напрыклад, версэты арганізаваныя на моцным гука-сэнсавым пачатку, таму і перакладаць іх даволі цяжка. А вось Яну Максімюку і Алегу Латышонку перакласці вершы Алеся Разанава на польскую мову ўдалося добра. Здаецца, сам аўтар пісаў і па-беларуску, і па-польску. Вось як гучыць верш «Голас»:

Гукаю і чую свой голас.
Ён займае і гул ракі, і водгулле грамады, і цішу далёкага лесу.
І пакуль ён гучыць і, усюды прыняты і заахвочаны ўсюды, мае
адвагу і моц гучаць, у гэтай краіне ён не чужы і не свой,
а — сама, заснаваная мной, краіна.

А цяпер у перакладзе Яна Максімюка:

Wołam i słyszę swój głos.
Głos zagłusza i szum rzeki, i gwar tłumu, i ciszę dalekiego lasu.
Dopóki brzmi i, wszędzie akceptowany i wszędzie zachęcany,
ma odwagę i siłę brzmieć, nie jest w tym kraju ani obcy,
ani swój, a jest krajem założonym przeze mnie.

Кніга Алеся Разанава «Лясная дарога» сімвалізуе шлях жыцця, нялёгкі і супярэчлівы шлях. А наватарства паэта мы даўно шчыра прынялі і прымаем. І чакаем новых паэтычных адкрыццяў і верым, што яны абавязкова будуць.

*2006*

## ЧЫТАЮЧЫ МАР’ЯНА ПЕЦЮКЕВІЧА

«Сляды незабыўныя продкаў» — так называецца кніга этнаграфічных нарысаў Мар’яна Пецюкевіча, якая пабачыла свет у мінскім выдавецтве «Кнігазбор» (2007). Яшчэ цёпленькі, як кажуць друкары, адзін асобнік з Мінска прыслаў мне Янка Саламевіч. Спадар Саламевіч з’яўляецца складальнікам і рэдактарам гэтага найцікавейшага выдання.

Па словах Янкі Саламевіча, Мар’ян Пецюкевіч (1904–1983) пасля сябе пакінуў вялікую творчую спадчыну. Да друку будуць рыхтавацца яшчэ некалькі кніг гэтага выдатнага беларускага вучонага-этнографа, дзеяча, рэдактара часопіса «Шлях Моладзі», былога выпускніка Віленскіх гімназіі і ўніверсітэта. У 1998 годзе ў Вільні з друку выйшла яго кніга ўспамінаў «У пошуках зачараваных скарбаў», пасля з’явіліся, дзякуючы Галене Глагоўскай і Вячаславу Харужаму, кнігі Мар’яна Пецюкевіча «Кара за службу народу» (Беласток, 2001) і «Лісты 1956–1982» (Беласток, 2005). Было яшчэ мала каму вядомае выданне «Трагічныя ніткі лёсу беларускага патрыёта» (2003) Мар’яна Пецюкевіча. І вось — новая кніга, не падобная на ўсе іншыя. Яна прысвечана беларускай этнаграфіі.

Кніга пачынаецца праграмай-апытальнікам для вывучэння народных абрадаў пахавання і памінання (Дзядоў). «Заўважым, — як піша ва ўступным слова да кнігі фалькларыст Лія Салавей, — што да гэтага часу ніхто з навукоўцаў Беларусі яшчэ не распрацаваў па такой шырокай праграме вывучэнне пахавальных абрадаў». А Мар’ян Пецюкевіч у дзесяці раздзелах змясціў 283 пытанні, а ў праграме па вывучэнні Дзядоў — 97.

У кнізе змешчаны цікавыя артыкулы пра Міколу Нікіфароўскага — беларускага этнографа і «Уклад Казіміра Машынскага ў даследаванне народнай культуры беларусаў». Артыкул пра

Нікіфароўскага друкаваўся яшчэ ў «Калоссі» ў 1935 годзе, а пра Машынскага — у 1976 годзе.

Заслугоўваюць увагі ў кнізе артыкулы Мар'яна Пецюкевіча пра беларускую мелаграфію, аб паходжанні назваў Беларусь, беларус, аб роднай мове — найдаражэйшым скарбе. «Мова, — піша аўтар, — гэта нацыянальнае аблічча кожнага народа, гэта яго нацыянальны пашпарт, яго душа. Вось таму кожны народ і стараецца, каб яго аблічча было прыгожае, чыстае, свежае і такая ж нацыянальная душа-культура. Душа, здольнасці, таленты, веды шырокіх народных мас якраз выяўляюцца ў мове і ў шматграннай народнай творчасці».

У 1949 годзе Мар'ян Пецюкевіч беспадстаўна быў разам з сям'ёй сасланы ў Краснаярскі край, а з 1953 да 1956 года знаходзіўся ў адным з лагераў Варкуты. Янка Саламевіч неяк мне расказаў, а яму распавядаў сам Мар'ян Язэпавіч, што калі іх 500 чалавек прыгналі ў адзін з лагераў Варкуты, дзе былі людзі ўсіх нацыянальнасцяў, то Мар'ян Пецюкевіч падумаў: няўжо тут не будзе знаёмых беларусаў? А калі прыгледзеўся, то ўбачыў у кажуху Янку Багдановіча. Таго самага Янку Багдановіча, з якім разам у Вільні выдавалі часопіс «Шлях Моладзі». Сябрам і землякам было што ўспомніць. Ды і сталінскія лагеры іх не запалохалі, не знішчылі. Вярнуўшыся на радзіму, Мар'ян Пецюкевіч актыўна друкаваўся ў беларускай «Ніве» ў Беластоку. У 1950–1960-х гадах на старонках тыднёвіка ён апублікаваў дзясяткі артыкулаў. Сярод іх былі матэрыялы і пра паходжанне назваў Беларусь, беларус, пра родную мову, а таксама пра Купалле, старадаўнія велікодныя і юр'еўскія звычаі беларусаў. Усе яны ўвайшлі ў кнігу «Сляды незабыўныя продкаў». Наогул, Мар'ян Пецюкевіч мог гадзінамі распавядаць пра беларускія традыцыі і святы. Янка Саламевіч у гэтай кнізе згадвае: «Калі Мар'ян Пецюкевіч наведаў родныя мясціны і пабываў у Мінску, у пляменніка Уладзіміра, у маёй хаце, першае, на што звярнуў увагу: як у нас ляжаць падушкі на ложку. «Так падушкі ложаць беларусы», — рэзюмаваў дасведчана ён. Прызнаўся: «Этнаграфія — мая любімая справа поруч з пчоламі, якіх я таксама вельмі люблю. Я хоць сёння магу напісаць артыкул, скажам, «Каса». Пакажу, чым каса характэрная на Віцебшчыне, Гродзеншчыне, Беласточчыне. А не так, як пішуць вашы цяперашнія этнографы, — прылада касіць траву».

Раздзел «Матэрыяльная культура Сакольскага павета» ў новай кнізе Мар'яна Пецюкевіча — вялікая праца аўтара і несумненная яго ўдача, якая засталася нам у спадчыну. Гэты раздзел напісаны цікава, проста, каларытна, народны побыт Сакольшчыны перададзены глыбока і ярка. Праца аўтара ўзнікла ў выніку зацікаўленасці ім культурай насельніцтва на польска-беларускім пагранічча Беласточчыны. Аўтар спрабуе паказаць народную культуру Сакольшчыны на даным этапе і часткова ў мінулым, паказаць яе экспансіўнасць на іншыя паветы і цэлыя рэгіёны.

Спачатку даецца кароткая агульная характарыстыка Сакольскага павета, дзе не дужа многа ёсць прыродных багаццяў: балотная руда, торф, гліна, жвір, камень, дзе прамысловасць развіта слаба, дзе беларуская мова пераважнай большасці жыхароў з'яўляецца роднай мовай (матэрыял збіраўся ў 1957–1960-х гадах). Далей аўтар распавядае пра форму сяліб і сядзіб, пра вясковае будаўніцтва. «Сялянскае будаўніцтва Сакольшчыны, як зрэшты і ўсюды, па сваім прызначэнні дзеліцца на аб'екты: жыллёвыя, гаспадарчыя і сакральныя (цэрквы, касцёлы, капліцы, крыжы). У аснову вясковага традыцыйнага будаўніцтва паложаны наступны матэрыял: дрэва, камень, гліна, вапна, салома. Перад першай сусветнай вайной пераважалі на Сакольшчыне ў асноўным драўляныя будынкі. У міжваенны перыяд у мястэчках і ў багатых сялян пачалі паяўляцца мураваныя будынкі. Гэты працэс працягваецца да сённяшняга дня», — піша Мар'ян Пецюкевіч.

Цікава аўтар апісвае збіральніцтва, паляўніцтва, земляробства, пчалярства, прадметы хатняга ўжытку, народнае адзенне і абутак і харчаванне. І чым харчаваліся на Сакольшчыне ў канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя? Калі верыць Мар'яну Пецюкевічу, то «ячменныя або грачаныя сечаныя крупы рабілі ў жорнах, панцак з ячменю рабілі ў ступе або ў млынах. Бульба вельмі ўзбагаціла меню сялянскай кухні. Сяляне пачалі садзіць яе столькі, каб хапіла для харчавання і на адкорм жывёле. Немалую ролю ў харчаванні адыгрываюць і бабовыя культуры: гарох, фасоля, а раней і боб, а таксама алеістыя: ільняное семя, каноплі, мак. Вялікая ўвага звяртаецца на гародніну. Тут цэнтральнае месца займае капуста, а затым буракі, агуркі, морква, цыбуля, салата і інш. Свежае мяса ў сялянскай хаце паяўляецца толькі восенню, калі рэжуць авечак, і зімой, калі

б’юць адкормленых кабаноў. Як тлушч, так і свіное мяса (шынкі), а таксамаператоплены авечы лой перахоўваецца да лета. Цяляты і хатняя птушка ў асноўным прадаюцца. Вельмі важным прадуктам у харчаванні з’яўляецца малако». Адным словам, меню беларусаў за 40 гадоў амаль не змянілася. Але запісы, зробленыя аўтарам кнігі Мар’янам Пецюкевічам, — гэта, сапраўды, вялікі сабраны скарб, які нам застаўся ў спадчыну. І добра, што ён нядаўна выдадзены асобнай кнігаю, дзякуючы ахвяраванням дачок Мар’яна Пецюкевіча Марылі і Міраславы, а таксама сям’і Алены Бублік.

*2007*

## «ВЯРТАННЕ» РЫШАРДА КАПУСЦІНСКАГА НА БЕЛАРУСЬ

Паэт некалі напісаў гэтыя філасофскія радкі, якія запомніліся:

Паэзія — штосьці блізкае  
многія людзі нейкі час  
адчуваюць нутром  
але гэта не мае  
нічога агульнага з намі.

Гэтым паэтам быў і застаўся не хто іншы, як Рышард Капусцінскі. Зборнік вершаў яго пад назовам «Вяртанне» пабачыў свет у Мінску ў перакладзе на беларускую і рускую мовы. На беларускую мову вершы пераклаў Анатоль Шушко, на рускую — Валеры Грышкавец. Перакладчыкі жывуць у Пінску. Сімвалічна і тое, што ў Пінску ў 1932 годзе нарадзіўся і Рышард Капусцінскі.

Рышард Капусцінскі, як піша ва ўступным слове «Вялікі паляк з Пінска» да кнігі Іна Дзямід, быў самым вядомым, папулярным журналістам і пісьменнікам сучаснай Польшчы. Ён — лепшы польскі журналіст XX стагоддзя, прафесар Варшаўскага і Кракаўскага ўніверсітэтаў, сябра пісьменніцкага ПЭН-клуба, уладальнік прэміі прынца Астурыйскага «За творчасць, якая садзейнічае збліжэнню розных народаў і культур», два разы вылучаўся на Нобелеўскую прэмію.

На Захадзе ў кожнай кнігарні на вітрыне сярод іншых літаратурных навінак Еўропы і Амерыкі можна ўбачыць выданні Рышарда Капусцінскага. Яго артыкулы і матэрыялы аб ім — на першых старонках многіх газет, часопісаў, тэлебачання і радыё.

Так атрымалася, што, будучы сваім сярод сусветнай творчай эліты, наш зямляк Капусцінскі, на вялікі жаль, зусім невядомы на Беларусі. Толькі цяпер, пасля смерці, ён асобным выданнем упершыню вяртаецца да беларускага чытача. Асобныя творы польскага паэта сяды-тады перакладаліся на беларускую мову. Напрыклад, у двухтомніку анталогіі польскай паэзіі XX стагоддзя «Напярэймы: ад Буга да Варты» (Мінск, 2003) у перакладзе Алега Лойкі ёсць два вершы Рышарда Капусцінскага. Вось як гучыць па-беларуску мініяцюра ў перакладзе Алега Лойкі:

Лісток
адарваны ад галіны
дрыжыць дыгоча
і толькі калі дакранаецца да зямлі
спакойваецца.

Гэты самы верш у перакладзе Анатоля Шушко атрымаўся такі:

Ліст
ляціць адарваны ад галінкі
трымціць
і толькі калі долу кранецца
…супакойваецца.

А вось як па-руску ўспрымаюцца гэтыя радкі ў перакладзе В. Грышкаўца:

Лист
оторванный от ветки
дрожит летит
и только земли коснувшись
успокаивается.

Усё проста. Пераклады амаль аўтэнтычныя. Але больш удалым атрымаўся пераклад у Анатоля Шушко, бо словы ў Лойкі «дрыжыць

дыгоча» не вельмі пасуюць адно каля аднаго: дыгоча — лішняе слова.

Рышард Капусцінскі ніколі не цураўся сваіх палескіх каранёў, быў рады любой сустрэчы з землякамі. Бацькі будучага журналіста і паэта ў 30-я гады мінулага стагоддзя працавалі настаўнікамі ў Пінску. Тут захаваўся будынак, у якім да Другой сусветнай вайны знаходзілася польская школа № 5, дзе настаўнікам прыродазнаўства працаваў ягоны бацька Юзаф Капусцінскі. У гэтай школе ў першым класе вучыўся і Рышард. Маці яго — Марыя Капусцінская (Бабко) скончыла польскую настаўніцкую семінарыю. Спачатку настаўнічала ў Лунінецкім павеце на Берасцейшчыне, а пасля замужжа — у польскай школе № 1 Пінска. Тут, у горадзе над Пінай, Марыя і Юзаф знайшлі сваё сямейнае шчасце. 4 сакавіка 1932 года ў іх сям'і нарадзіўся Рышард, а праз год — Барбара…

У зборнік «Вяртанне» ўвайшлі 48 вершаў-верлібраў паэта. І бачыць верлібр польскага паэта як дзіўнага госця на нашай зямлі нельга. Бо і ў нас столькі правоў на верлібр, колькі ў любой іншай мове, а тым больш у мове нашых суседзяў. Верлібр, напрыклад, Капусцінскага — гэта вельмі сур'ёзнае выпрабаванне для паэзіі, для яе духа. Адмаўляцца ад такога выпрабавання — гэта тое ж самае, што закупорваць жывыя сасуды, перашкаджаць кровазвароту літаратуры. Верлібры Капусцінскага — гэта філасофскі роздум аўтара пра час, пра чалавецтва і самога сябе. Паэт смела выкарыстоўвае прыроду вольнага верша: то ён намаляваў камень і разбіў яго, то для яго «паэзія — святыня ў яе прахалодзе», а «вершы — астылае полымя», то «паэзія — штосьці блізкае», то «ўсё хутка забываецца».

Паэт разважае пра смерць і адначасова пра хвіліну. Хвіліна ў яго «была сардэчнай, імгненнай, як зорка жаданаю, святлом згаданаю», а смерць «дзесьці ходзіць побач, кружляе, варочаецца, часам подбегам, бо адрасат вядомы…». Паэт разважае глыбока, асэнсавана, яму і хвіліны шкада, бо яна «адзіная непаўторная» і смерці трэба не паддавацца, хоць і мае яна «моцнае сэрца і на стому не скардзіцца».

Калі чытаеш кнігу «Вяртанне», кранае сэрца верш «Два паэты». У ім ёсць над чым нам задумацца:

Якія цудоўныя вершы былі ў іх
у гэтых састарэлых спадароў
пана Яраслава Івашкевіча

і пана Адама Важыка
бачу сёння
крочаць Вейскай вуліцай
пан Яраслаў абапіраецца на кульбаку
пан Адам напалову згорблены
а ў суседнім парку
спяваюць птушкі.

Птушкі спявалі і тады, калі Яраслаў Івашкевіч (1894–1980) і Адам Важык (1905–1982) былі маладымі, тады, калі і яны спявалі, як птушкі. Гады бяруць сваё, а паэзія, як і спевы птушак, неўміручая. Яраслаў Івашкевіч быў шчырым сябрам беларускіх літаратараў. Вельмі часта перакладаўся на беларускую мову, ды і цяпер перакладаецца. Той жа Алег Лойка 14 вершаў Івашкевіча пераклаў і ўключыў у «Анталогію польскай паэзіі XX стагоддзя». Вершы яго на беларускую мову таксама перакладалі Анатоль Вялюгін, Міхась Машара, Язэп Семяжон, Максім Танк, а прозу — Янка Брыль, сябар пана Івашкевіча. Трохі менш перакладаўся Адам Важык, але і яго паэтычнае слова па-ранейшаму гучыць па-беларуску. Добрая падборка Важыка змешчана ў «Анталогіі…» Алега Лойкі. Гэта былі два выдатныя польскія паэты, пра якіх невыпадкова згадаў Рышард Капусцінскі. Той вялікі Рышард Капусцінскі, пра якога лаўрэат Нобелеўскай прэміі сказала: «Са шчырай удзячнасцю думаю пра кнігі, якія ён напісаў, і з глыбокім жалем пра кнігі, якія напісаць ужо не зможа. Вялікі пісьменнік, высакародны чалавек, нястомны даследчык нашага чароўнага, але вечна трывожнага свету. Гэта — асоба, для якой усе далягляды былі цеснымі і існавалі толькі для таго, каб іх пераадольваць думкаю, сэрцам, творчасцю». І мне толькі застаецца пагадзіцца з гэтымі думкамі і сказаць словы падзякі тым, хто вярнуў творчасць Рышарда Капусцінскага на Беларусь.

***2007***

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР АД УЛАДЗІМІРА ХІЛЬМАНОВІЧА

У Беластоку пры фінансавай дапамозе Маршалкоўскага ваяводства Падляшша з друку выйшаў на польскай мове «Białoruski kalendarz historyczny» («Беларускі гістарычны каляндар») (2011). Яго склаў краязнавец, гісторык і журналіст з Гродна Уладзімір Хільмановіч. Дарэчы, «Беларускі каляндар-даведнік на кожны дзень» Уладзіміра Хільмановіча ў 2007 годзе свет пабачыў у Вільні. А вось у нас, у Беларусі, такі арыгінальны і неабходны каляндар, відаць, нікому не патрэбны, бо да сённяшніх дзён ніводнае беларускае выдавецтва аўтару так і не прапанавала яго выпусціць, а падобныя календары ніколі ў Беларусі не выдаваліся. А вось палякам каляндар спадабаўся, бо яны ніколі б не выдавалі яго, калі б ён ім зусім не быў патрэбны.

Польскамоўны каляндар Уладзіміра Хільмановіча — гэта пераклад беларускамоўнага календара, што выйшаў у Вільні. На беларускую мову яго пераклалі Віталь Луба і Марцін Рэмбач. Пераклад вельмі грунтоўны і дасканалы ў напісаннях прозвішчаў і імён, зразумелых польскаму чытачу.

Канцэпцыя яго складання простая — ён прыдатны на кожны каляндарны год.

Некалі ў Беларусі выходзілі адмысловыя календары, дзе да кожнага дня былі «прычэплены» даты, падзеі, здарэнні. Але тыя календары звычайна распавядалі толькі пра «круглыя» даты. Ды і інфармацыі там былі выбарачныя. Тэма камуністычных рэпрэсіяў, эміграцыі, «нявыгаднай» гісторыі проста замоўчвалася. Уладзімір Хільмановіч у сваім календары-даведніку пастараўся сабраць максімум падзей, звязаных з беларускім жыццём і гісторыяй краіны. Тут даты нараджэння і смерці вядомых і малавядомых, часам наогул забытых, але вартых увагі людзей, дзеячаў беларускага руху. Ганебныя даты падпісання розных дакументаў, якія адыгралі знакавую ролю ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Кожны дзень года мае некалькі падзей, некалькі датаў, раскінутых па гадах.

У календары-даведніку інфармацыя падаецца вельмі сціпла, можна сказаць, нават скупа. Але гэта дае магчымасць хутка арыентавацца, пра што і пра каго шукаць інфармацыю далей. Каляндар

падаецца нейкім пераходным звяном паміж звычайным календаром і энцыклапедыяй, у чым яго і адметнасць.

Даведнік змяшчае пераважна фіксаваныя даты апошніх трохсот гадоў нашай гісторыі — безумоўна, гэта трагічны ў большасці сваёй час, і таму, мабыць, нямала сумных старонак і дат. Аднак аптымізму павінен дадаваць той факт, што беларуская нацыянальная ідэя ўсё роўна развівалася і яна прысутнічае зараз. Гэтым даведнікам аўтар сапраўды хацеў бы вярнуць многія імёны. Адчуваецца, што складальнікам выкарыстана была шматлікая энцыклапедычная літаратура, розныя інтэрнэтныя рэсурсы, праца, відаць, працягвалася не адзін год.

Чытаючы каляндар, адчуваеш, што Уладзімір Хільмановіч найбольш абапіраўся на гісторыю Заходняй Беларусі: Гарадзеншчыны, Віленшчыны, Беласточчыны. І хоць у дадзеным выпадку адбор персаналій носіць суб’ектыўны характар, усё ж складальнік не прапусціў ні адно прозвішча, якім ганарыцца наша Айчына. Ён пастараўся змясціць звесткі пра тых людзей, якія ў сваім жыцці мелі непасрэднае дачыненне да беларускага руху: ці то душпастырскай, ці то культурна-асветнай дзейнасці, ці ўдзельнічалі ў палітычных, вайсковых арганізацыях, ці ў дысідэнцкім руху ў савецкія часы і г. д.

Неяк Уладзімір Хільмановіч сказаў, што «Права на памяць — адно з асноўных правоў чалавека, яно не рэгулюецца ні заканадаўствам, ні нейкімі часовымі палітычнымі рэжымамі. Бо права на памяць дадзена кожнаму народу Богам і гісторыяй». Польскае выданне «Беларускага гістарычнага календара» яшчэ раз даказвае, што Беларусь мае вялікую гісторыю і найвялікшых сваіх сыноў, якія змагаліся і змагаюцца, каб «людзьмі звацца», каб заняць «свой пачэсны пасаг між народамі», як казаў некалі Янка Купала.

*2011*

## ЭПІСТАЛЯРНЫ РАМАН ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Гэта кніга незвычайная і арыгінальная. Кніга, якую чытаеш, як гістарычны раман. Падобнага выдання ў Беларусі яшчэ не было. Яшчэ ніколі не выходзіла эпісталярная спадчына асобным выданнем у Беларусі ні пісьменнікаў, ні вучоных, ні палітыкаў. Нарэшце, напачатку XXI стагоддзя, такое выданне ў нашай рэспубліцы з'явілася ўпершыню. Вядома, беларусы спазніліся, можа, на цэлае стагоддзе ў плане выдання эпісталярнай спадчыны асобнымі выданнямі. А выдаваць у нас лісты ёсць каго. Найперш гэта лісты У. Сыракомлі, А. Вярыгі-Дарэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, А. Ельскага, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Караткевіча, М. Танка, В. Быкава, З. Верас, У. Дубоўкі, Г. Леўчыка, А. і Л. Луцкевічаў, Г. Каханоўскага, дзеячаў беларускай эміграцыі і многіх-многіх іншых. Іх лісты ўжо друкаваліся на старонках зборніка «Шляхам гадоў», гадавіка «Скарыніч», часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Куфэрак Віленшчыны», у зборах твораў. Але асобнымі выданнямі іх эпісталярная спадчына, на вялікі жаль, не выдавалася.

Па выданнях эпісталярнай спадчыны мы адстаём ад палякаў, літоўцаў, украінцаў і рускіх. У Расіі амаль штомесяц выдаюцца ў розных выдавецтвах асобнымі кнігамі лісты вялікіх людзей, найперш пісьменнікаў. Вось нядаўна ў Іркуцку выйшла перапіска Віктара Астаф'ева з крытыкам Аляксандрам Макаравым пад назваю «Твердь и посох», свет пабачылі асобнымі выданнямі лісты Сяргея Даўлатава, Д. Мяражкоўскага да П. Перцава і іншыя. Пісьменніцкі эпісталярый — гэта даволі рэдкі жанр (не таму, што пісьменнікі рэдка пішуць лісты, а таму, магчыма, што яны рэдка пішуць іх з-за сваёй па сутнасці прафесіі і занятасці). Менавіта Ларыса Геніюш і стала першым за доўгія гады паэтам у Беларусі, чые лісты становяцца набыткам не вузкага кола спецыялістаў, а шырокіх мас чытачоў.

Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш пад назваю «Каб вы ведалі», дзякуючы Міхасю Скоблу, які беражліва, далікатна і прафесійна ўклаў пісьмы паэткі, напісаў да кнігі ўступнае слова, зрабіў каментарый, выйшла з друку ў мінскім выдавецтве «Лімарыус» накладам 500 асобнікаў.

Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі» — цэлы пласт яе жыцця і творчасці. У кнігу ўвайшлі 355 лістоў паэткі, якія былі ёю напісаны на працягу 38 гадоў, пачынаючы са студзеня 1945 да студзеня 1983 года. Найперш гэта лісты, адрасаваныя свайму мужу Янку Геніюшу, Міколу Прашковічу, Максіму Танку, Юрку Голубу, Зосьцы Верас, Міхасю Чарняўскаму, Міколу Канашу, Міколу Ермаловічу, Валянціне Трыгубовіч, Дануце Бічэль, Алесю Белакозу, Раісе Жук-Грышкевіч, сыну Юрку Геніюшу, Надзеі Караткевіч, Ірыне Крэнь і іншым. Найбольш у кнізе надрукавана лістоў Ларысы Геніюш да літаратуразнаўцы, крытыка, перакладчыка, кандыдата філалагічных навук Міколы Прашковіча (1932–1983), які ў свой час быў звольнены з Інстытута літаратуры за «беларускі нацыяналізм». Мікола Прашковіч быў самым актыўным карэспандэнтам Ларысы Геніюш. Копіі гэтых пісем (а іх ажно 156) перадала Міхасю Скоблу Ірына Крэнь — даследчыца беларускага школьніцтва, якой нядаўна не стала.

«Каб вы ведалі» — эпісталярны раман Ларысы Геніюш. Раман праўдзівы, шчыры, глыбокі, суб'ектыўны і аб'ектыўны. Ён нібы з'яўляецца працягам яе вядомай «Споведзі», але споведзі ў лістах да сваіх сяброў, знаёмых, родных.

Па лістах адчуваеш, як паэтка дасканала ведала гісторыю Беларусі, жыццё і дзейнасць знакамітых беларусаў. Па гэтых лістах можна напісаць падручнік па гісторыі Беларусі. Паэтка шкадуе і нават папракае сама сябе, што слаба ведае гісторыю Беларусі, хаця веды на ніве гісторыі ў яе на той час былі фенаменальныя. У лісце да Міколы Прашковіча Ларыса Геніюш у студзені 1964 года пісала: «Будзе Вам праца, дарагі мой сябра, пакуль перагледзіце раскіданую па сьвеце 40-тамовую Мэтрыку Вялікага Княства Літоўскага. Я калісьці напісала паэму аб Рагнедзе. Я задыхалася ад нястачы матэрыялу. Гэта было ў Празе. Пасьля пачала пісаць аб Эўфрасіньні Полацкай, таксама не хапала матэрыялу. Я вымольвала начамі вобразы ў свае фантазіі. Адзін раз я з захапленьнем слухала даўгую лекцыю аб нашай Зофцы Гальшанскай, чацьвёртай жонцы караля Ягайлы. Яшчэ мне давялося чуць з рукапісу аб хрысціянстве на нашых землях. Ягайла ж быў хрышчаны да таго, як жаніўся зь Ядвігай, і зусім ня быў горшы ад хваляных польскіх вяльможаў.

Напрыклад, я ведаю, што Ядвіга залажыла ў Празе Чэскай інтэрнат для беларускай моладзі, якая там студ’явала…».

Лісты Ларысы Геніюш вельмі падрабязныя, шчырыя і павучальныя. У многіх з іх паэтка дае парады, яны багатыя на крылатыя выслоўі, прыказкі, прымаўкі, прыгожыя, напышлівыя выразы, фразы. Вось некаторыя з іх: «Не дазваляйце болей забіваць…», «Плакаць — гэта абражаць памяць, а яна мусіць жыць…», «Прыяцеляў шаную, але кнігаў не пазычаю…», «Мацярынства — гэта незвычайная з’ява, гэта цуд!», «Інтуіцыя мінулага, адчуваньне сучаснага і прадбачаньне ці лягічнае прадчуцьцё будучых дзён, намаганьне іх сьветлага напрамку — вось вартасьць паэта!», «Кожны чалавек — як казка», «Бог ня выдасьць — сьвіньня ня зьесьць!», «Паэзія — гэта нейкая ласка і дапамога нябёс у выказаньні і аб’яўленьні праўд і надзеяў, якія ўжо даў зь сябе народ, ня ведаючы аб гэтым. Паэзія, памойму, гэта прыгажосьць, сьмерасьць і праўда жыцьця. Паэзія — гэта гуманнасьць!».

У лістах Ларыса Антонаўна заўсёды прыгадвае свайго сына Юрку. Калі пісала са сталінскіх лагераў з Абезі, то хвалявалася: як там Юрка, што з ім, дзе ён? Калі ўжо жыла ў Зэльве, то цікавілася яго жыццём на Беласточчыне. Вельмі перажывала за тое, што сын любіў выпіць. А яна не любіла тых, хто часта заглядваў у чарку. У адным з лістоў да Міколы Прашковіча паэтка папярэджвае: «Я вельмі не хачу, каб Вы пілі хоць капельку гарэлкі!».

Праз эпісталярную спадчыну Ларысы Геніюш праходзяць многія пісьменнікі, якіх паэтка любіла, ведала, з якімі сустракалася і перапісвалася. Яна добра разбіралася ў людзях, магла лёгка адрозніць, хто з іх таленавіты, а хто бездар. І Ларыса Геніюш не памылялася. Вось што прарочыла і казала яна пра тады яшчэ маладых Вольгу Іпатаву, Яўгенію Янішчыц, Алеся Разанава: «Разанаў многаабяцаючы, будзем думаць, што вырасьце ў сілу, якая нам цяпер найболей патрэбная», «Усе мы з захапленьнем чыталі нашу маленькую, надзейную Янішчыц. Як добра, што яна далей вучыцца, але адначасова хацелася б, каб пабыла яшчэ сярод сваіх, каб больш увабрала ў сябе чараў, глыбіні, гутарак, духу і паху роднай зямлі. Яна — добры майстар і зможа ўсё гэта некалі ператварыць тонкай і сільнай жаночай рукою — у вялікае!», «Была ў нас некалькі разоў маладзенькая Оля Іпатава. Нам яна вельмі спадабалася — невялікая,

прыгожанькая, разумная, сціплая. Уцякла пасьля нялюдзкіх зьдзекаў ад мачыхі ў дзятдом, гдзе ня чула слова беларускага (у Горадні!), а мова матчына — за ёю, і так цяпер хораша піша…».

У лістах Ларысы Геніюш можна прачытаць добрыя словы і пра Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Янку Брыля, Максіма Танка. І нядобрыя словы пра тых жа Алеся Бажко, Якава Гярцовіча, пра інтрыганку Паўліну Мядзёлку і пра іншых. Напісала аўтарка так, якімі яны былі на самай справе, напісала, каб мы ведалі. У лістах, якія склалі кнігу, хораша выяўлены ідэйна-палітычныя, эстэтычныя і творчыя погляды беларускіх, чэшскіх, рускіх, польскіх, нямецкіх, украінскіх дзеячаў літаратуры і мастацтва, культуры і палітыкі. Лісты Ларысы Геніюш патрабуюць сёння грунтоўнага навуковага даследавання.

Пасланне нашчадкам — беларусам XXI стагоддзя — мы атрымалі ад народнай паэткі Беларусі. Праўда, гэта далёка не ўся яе эпісталярная спадчына. Але Ларыса Геніюш упэўнена вяртаецца на Беларусь не толькі вершамі, прозай, але і ліставаннем.

*2005*

## УЗЫХОДЖАННЕ ГАРАДЗЕНСКАГА ПАЭТА

Калі з друку ў 1969 годзе выйшаў першы паэтычны зборнік вершаў Юркі Голуба «Гром на зялёнае голле», Аляксей Пысін напісаў на яго рэцэнзію, апублікаваў у «Магілёўскай праўдзе» і назваў «Узыходжанне». Хаця ніякага дачынення малады паэт з вёскі Горна Зэльвенскага раёна да Магілёўшчыны не меў, але дужа спадабаліся вершы вопытнаму паэту. Станоўчыя рэцэнзіі на першую кніжку Юркі Голуба з’явіліся ў «Гомельскай праўдзе», у «Маладосці», «Нёмане», «Полымі» і іншых выданнях. Вось бы сёння так пісалі пра паэтычныя зборнікі беларускіх паэтаў, тады пра іх ведала б уся Беларусь і цаніла б паэтычны талент па-сапраўднаму шчыра і дастойна.

Аляксей Пысін у той час не памыліўся, бо ён адразу адчуваў і бачыў таленавітых хлопцаў і прарочыў ім паэтычную славу. Узыходжанне па паэтычны Алімп ён прадказаў і Юрку Голубу. З цягам часу з друку пачалі выходзіць новыя кнігі вершаў паэта — «Дрэва

навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра цябе», «Сын небасхілу», «Поруч з дажджом», «Багра» і г. д.

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Юрка Голуб не застаўся ў сталіцы, як многія яго сябры і равеснікі, а паехаў на родную Гарадзеншчыну. На абласным радыё ён вёў цудоўную перадачу «Гродзеншчына літаратурная», а пасля ў «Гродзенскай праўдзе» загадваў аддзелам культуры і штомесяц рыхтаваў і друкаваў літаратурныя старонкі, дзе змяшчаў творы пісьменнікаў Гарадзеншчыны, а таксама гісторыка-краязнаўчыя старонкі «Родны край». Гэта мы, маладзейшыя творцы зямлі гарадзенскай, абавязаны яму за тое, што пра нас ён пісаў, апрацоўваў і друкаваў нашы першыя вершы, замалёўкі, нарысы.

У 2002 годзе Юрка Голуб разам з рэдактарам «Гродзенскай праўды» Іосіфам Багіна пачаў выдаваць літаратурны штогоднік «Галасы». Там публікаваліся вершы і апавяданні, а таксама краязнаўчыя артыкулы аўтараў з гарадоў і вёсак Прынёмання. Распачата была добрая справа, каб падтрымаць творчую інтэлігенцыю, сабраць лепшае, што было напісана за год, і апублікавана на старонках «Гродзенскай праўды». Выйшлі з друку «Галасы» 2002, 2003, 2004, 2005 гадоў. А вось «Галасы-2006», хоць і былі складзены, так свет і не пабачылі. На пасаду новага рэдактара абласной газеты прыйшла нехта Бераснева і забараніла выдаваць літаратурныя старонкі і старонку «Родны край», а таксама знішчыла і «Галасы». Не вытрымаў і Юрка Голуб, сышоў з «Гродзенскай праўды». Неяк пры сустрэчы я запытаўся ў яго пра справы ў газеце. Ён адмахнуўся: «Лепш, Сярожа, не пытайся…».

Але не сышоў Юрка Голуб і яшчэ доўга не сыдзе, не збочыць са сцяжынкі нашай Літаратуры. Хоць, як сцвярджае Міхась Скобла, паэт да гэтай пары застаецца на належным узроўні не ацэнены крытыкай. Магчыма. Але якія ў яго паэтычных радках моцныя вобразы, параўнанні, інтанацыі, што калі іх чытаеш — проста смакуеш:

Зноў плешчацца ў плюшчы.  
Трашчыць —  
Чутно пад ранкі —  
У ліўня на плашчы  
Сухое шво маланкі.

Літаратура — не рэспубліка роўных. Гэта, здаецца, сказаў некалі Бальзак. Літаратура аб'ядноўвае вакол сябе таленты рознай велічыні і рознага гатунку. Талент Юркі Голуба вызначаецца яго непаўторнай манерай пісьма і вельмі вялікай асацыятыўнасцю. Яго паэтычны почырк не падобны да почырка іншых паэтаў. Яго нельга зблытаць з іншымі, ён — свой, са сваім адметным голубаўскім мысленнем і арыгінальнасцю. Ён па-сапраўднаму таленавіты чалавек, вельмі сціплы ў жыцці і вельмі шчыры. Пра родную Зэльву і Зэльвеншчыну ён некалі напісаў: «Калі дзень разгортвае на небакраі ручнік раніцы, я дыхаю табой. Калі поўдзень садзіцца на золата саломы і палуднуе, я спраўляю на смак твой хлеб. Калі над горненскім лесам нясмелай сініцай цінькае першая зорка, я ўслухваюся ў цябе. Радуюся…». Хораша сказана, ці не праўда?

20 кастрычніка 2012 года сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў паэт Юрка Голуб адзначыў сваё 65-годдзе. Божа мой, зусім нядаўна, здаецца, калі я ў 1980-х гадах быў студэнтам БДУ, выкладчыца французскай мовы Святлана Мікалаеўна Любіч на ўроках французскай мовы вельмі часта згадвала свайго любімага выпускніка Юрку Голуба. «Мой Юрачка!..» — казала яна. Больш ніяк, толькі так яго называла. На вялікі жаль, наша любая Святлана Мікалаеўна рана пакінула гэты свет. Ды і яе Юрачку ўжо 65. А для нас, маладзейшых за юбіляра, ён — Юрый Уладзіміравіч. Няхай Ваша паэтычнае ўзыходжанне, Юрый Уладзіміравіч, яшчэ працягваецца доўга-доўга, аж да новых юбілеяў і кніг.

*2012*

## АНГЛІЙСКІ ДАСЛЕДЧЫК ВЫДАЎ КНІГУ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

Тытанічная праца англійскага даследчыка беларускай літаратуры прафесара Лонданскага ўніверсітэта Арнольда Макміліна (Arnold McMillin) «Пісьменства ў халодным клімаце» (2011) прысвечана беларускай літаратуры, пачынаючы з 1970-х гадоў да нашых дзён. Фаліянт налічвае 910 старонак, і надрукаваны ён на беларускай мове ў Беластоку.

Падобнага даследавання я ў руках не трымаў. І магчыма, гэта першая ў гісторыі нашай айчыннай літаратуры фундаментальная асабістая праца па вывучэнню беларускай літаратуры. Праца, над якою шчыраваў не калектыў аўтараў, а адзін чалавек. Хіба што да падобных можна аднесці даследаванні Яўхіма Карскага і Максіма Гарэцкага. Але ж даследаванне Яўхіма Карскага выйшла з друку на рускай мове. Дый саступаюць даследаванні Карскага і Гарэцкага гэтай працы Макміліна. Праўда, будзем улічваць тое, што сто гадоў таму беларуская літаратура толькі распачынала свой шлях. Як казаў мне пры жыцці прафесар Алег Лойка, самая вялікая літаратура ў Еўропе — гэта ў палякаў, а потым — у нас. Цяпер я ўпэўніўся ў гэтым, калі азнаёміўся з кнігай Арнольда Макміліна. Дарэчы, кніга лонданскага прафесара на англійскай мове «Writing in a cold climate: belarusian literature from the 1970$^{s}$ to the present day» выдавалася ў Вялікабрытаніі ў 2010 годзе. Цяпер яна пабачыла свет па-беларуску.

Кніга Арнольда Макміліна складаецца з 16 раздзелаў, а таксама з падзякі, скаротаў, прадмовы, уводзінаў, бібліяграфіі і паказальніка імёнаў, якіх налічваецца больш за 700.

Вядома ж, гэтая даследчая праца даволі суб'ектыўная. Сярод вялікай кагорты таленавітых і менш таленавітых літаратараў Беларусі многія прозвішчы пісьменнікаў нават і не згадваюцца, а некаторым зашмат адведзена ўвагі і месца. Ва ўводзінах аўтар паведаміў, што «на адносна раннім этапе стварэння кнігі са мной нечакана звязаўся адзін добра вядомы паэт, з якім я ніколі раней не быў знаёмы, і сказаў, што я пішу не пра тых. Не маючы ніякага ўяўлення пра тое, якімі крытэрыямі ён кіраваўся ці што яму вядома пра мае ўласныя, я не звярнуў увагі на гэтае папярэджанне. Але цяпер, напісаўшы пра шмат паэтаў, пісьменнікаў і драматургаў, я разумею: абмінуўшы асобных, якіх лепш не згадваць, я таксама прапусціў некаторых вартых быць уключанымі ў гэту кнігу».

Першы раздзел сваёй працы даследчык прысвяціў Міхасю Стральцову і празаікам старэйшага пакалення, якія пісалі і пішуць пра вёску і горад, пра чарнобыльскую катастрофу, пра тых, у каго ў творах прысутнічаюць прыгоды і фантастыка.

Паэту на ўсе часы — Рыгору Барадуліну адрасаваны другі раздзел кнігі, а ў трэцім раздзеле аўтар вядзе размову пра творчасць Леаніда Галубовіча, Міколы Мятліцкага, Кастуся Жука, Раісы Бара-

віковай, Сяргея Законнікава, Генадзя Пашкова, Сяргея Панізьніка, Фелікса Баторына, Казіміра Камейшы, Галіны Каржанеўскай, Соф'і Шах, Міхася Башлакова і дзясяткаў іншых літаратараў. «Шматбаковы паэтычны геній Рыгора Барадуліна — несумненна, выбітная з'ява. Але і шмат якія іншыя паэты выяўляюць сапраўдны талент, які немагчыма адмаўляць», — падкрэслівае Арнольд Макмілін.

Асобныя раздзелы кнігі аўтар адрасаваў «Тутэйшым» і «Бум-Бам-Літу». Аўтар згадвае ўсіх, хто ўваходзіў і ўваходзіць у гэтыя літаратурныя рухі. «Тутэйшыя» і іх сучаснікі займаюць цэнтральнае месца ў кнізе. «Яны, — як піша даследчык, — былі сведкамі перамен, выкліканых распадам савецкай улады, і актыўна на іх рэагавалі. У наступныя дзесяцігоддзі яны сутыкнуліся з не менш складанымі праблемамі і задачамі. Разнастайнасць іх творчасці служыць напамінам пра жыццяздольнасць і нязменную магутнасць культуры як апірышча нацыянальна свядомай Беларусі».

Пры ўсёй значнасці таварыства «Тутэйшых» напрыканцы 1980-х гадоў да яго належалі не ўсе адметныя аўтары. Таму адзін з раздзелаў прысвечаны шматлікім прадстаўнікам сярэдняга пакалення беларускіх літаратараў. А гэта — Алесь Пісьмянкоў з яго арыгінальнай прастатой у паэзіі, Леанід Дранько-Майсюк са сваёй лірыкай кахання, Віктар Шніп — паэт «прыроднай і мілоснай лірыкі», шматбаковая асоба Міхась Скобла, Людка Сільнова з верай у Бога ў паэзіі, Галіна Твардовіч-Сеўрук — аўтарка, якая «не абмежавала сябе толькі навуковым светам», таленавітая паэтка-навукоўца Ірына Багдановіч, Ала Канапелька — паэтка «музычных, святланосных вершаў», філасофскі паэт Андрэй Гуцаў, гарадскія паэты Мікола Касцюкевіч і Серж Мінскевіч, паэт-бард Эдуард Акулін, экалагічны празаік Уладзімір Ягоўдзік, пісьменніца вясковай прозы Хрысціна Лялько, празаік «вядзьмарства і сюррэалізму» Анатоль Казлоў, празаік, навуковец і крытык Алесь Ветах, радыкальны аўтар Ігар Сідарук. Усім ім прысвечаны асобныя артыкулы ў фаліянце Арнольда Макміліна.

З цікавасцю і грунтоўнымі аналізамі твораў распавядае лонданскі прафесар пра правакацыйнага постмадэрніста Адама Глобуса, пра паэта спакутаванай душы Анатоля Сыса, пра творцу з рэдкім літаратурным уяўленнем Уладзіміра Някляева, пра першапраходца

ў беларускай гістарычнай літаратуры Уладзіміра Арлова, пра складанага паэта Алеся Разанава, пра паэтаў-авангардыстаў Арцёма Кавалеўскага і Андрэя Бурсава, пра Андрэя Хадановіча і чатырох паэтак будучыні — Вальжыну Морт, Вольгу Гапееву, Валерыю Куставу і Віку Трэнас…

Кніга Арнольда Макміліна «Пісьменства ў халодным клімаце» — гэта своеасаблівая энцыклапедыя сённяшняга літаратурнага жыцця Беларусі. Даследаванне сур'ёзнае і вылучаецца тонкасцю назіранняў, уменнем разглядаць літаратурныя з'явы на шырокім гістарычным фоне і даходлівасцю выкладу. І з гэтым трэба пагадзіцца.

*2011*

## ПАЭТКА ШУКАЕ СЛОВА

Адразу пачну з верша Марыі Шаўчонак:

Здаецца, світае.
Камечу паперу.
Я слова шукаю,
І знойдзецца, веру,
Я веру, што слова,
Адзінае слова
Знайду, адшукаю
Між тысячы слоў.
Адзінае слова,
Адзінае слова
Вярнуць толькі зможа
Спакой і любоў.

Добры верш, ці не праўда?! А прачытаў я яго ў новай паэтычнай кнізе, якая называецца «Белыя свечкі каштанаў». Аўтар гэтай кнігі — гродзенская паэтка Марыя Шаўчонак. А надрукавана кніга ў Слонімскай друкарні ў 2005 годзе.

Добры і прыгожа выдадзены томік паэзіі ўражвае. Але, прачытаўшы яго, напэўна, нехта захоча гэты зборнік моцна раскрытыкаваць. І знойдзе шмат недахопаў. Ну, напрыклад, моўных. «Дык не будзь жа, душа мая, *пленніцай*» — піша паэтка. Чаму «пленніцай»?

Ёсць жа выдатныя беларускія словы «паланянка», «нявольніца», «палонная». Ці такі радок: «І пасылаў ён адной ёй белых сняжынак *прывет*». А ці не лепш было знайсці беларускае слоўца «прывітанне» ці «вітанне». Далёка не па-беларуску чытаюцца асобныя словы ў такіх радках, як «Жыві і ведай, што ты — Богам *даная*», «У гэты свет мне *дан* білет», «Адвячорак летні сонечны лёгкай дымкай *заімглён*», «Што ў той струне, што ў той *мінуце*», «Гарыць *кляноў* нягаснучы агонь» і іншыя.

Чытаючы кнігу, адчуваеш, як рэжа слых тое, што паэтка грэшыць і нават не па-пісьменніцку шчыра эксплуатуе слова «сонца». Яно прысутнічае амаль ва ўсіх вершах. А калі «сонца» ў нейкім творы адсутнічае, дык замест яго абавязкова ёсць словы «праменні», «сонечны». А ў зборніку больш за 200 вершаў. Таму атрымалася, умоўна кажучы, «сонечная кніга». У адным з вершаў Марыя Шаўчонак нават напісала: «Ва ўсім, ва ўсім было так многа сонца!». І яго ў вершах сапраўды безліч. Для прыкладу прывяду шэраг радкоў з розных вершаў, у якіх не дае спакою слова «сонца»:

Як *сонца* яснае ўзыходзіць…

Вясна звіла так многа гнёзд
І ўсё іх *сонцам* асвятліла…

Як *сонца*, выплыў першы гук…

У *сонца* просяць капяжы…

Дзе кветкай *сонца* прарасло…

Дзе *сонца* гляне з-пад павек…

Як *сонца* жоўтыя вяргіні…

Хай *сонца* схіліцца за рэкі…

Каб запыніць на момант *сонца*…

Не чакаю *сонца* ад імжы…

Але *сонца* ізноў прабіваецца…

І поўны *сонца* бацька Нёман…

Святла і *сонца* летніх дзён…

У *сонца* і ў сэрца свайго запытаю…

Яно будзе, як *сонца*, свяціць праз вякі…

Бо *Сонца* хоць адно, але на ўсіх…

Гэта кропелькі *сонца* між іх…

Гэты спіс можна працягваць. Дарэчы, падобныя прыклады часам сустракаюцца ў паэтычных зборніках іншых нашых паэтаў. Вось западзе ў душу адно слоўца і пасецца ў вершах. Але такая эксплуатацыя слоў толькі шкодзіць паэтычным радкам. Таму ад гэтага, напрыклад, «сонца» не пасвятлелі вершы Марыі Шаўчонак, не сталі яны больш яснымі ў мастацкіх адносінах, больш глыбокімі па сэнсу, па эмацыянальнаму напалу, а з вышыні сённяшняга дня такія паэтычныя радкі здаюцца нам, мякка кажучы, наіўнымі.

Тым не менш новы паэтычны зборнік «Белыя свечкі каштанаў» Марыі Шаўчонак вельмі шчыры. Ды і паэтка даўным-даўно не навічок у паэзіі — друкуецца ажно з 1954 года, выдала зборнікі паэзіі «Белая ластаўка», «Свята зямлі», «Бацькоўскае імя», «Раса-расінка».

Маладосць, радзіма і рамантыка ніколі не пакідалі паэтку. Без рамантычнай акрыленасці немагчыма ні ўчора было і ні сёння ўявіць яе паэзію. Рамантычная захопленасць светам, жыццём спалучаецца з рэальным раскрыццём паэткі, з дэталямі, якія ўмее вылучыць вока аўтаркі, нешта арыгінальнае запрыкмеціць, запомніць і па-мастацку ўлюбёна падаць. Падаць так, каб чытач запомніў, перачытаў і яму той ці іншы вобраз альбо верш спадабаўся. Вось як гэты:

Нам здалося: словы —
проста гукі.
Сярод іх патрэбнага няма…
Вочы — толькі вочы.
Потым — рукі.
Потым — вусны.
Потым — цішыня…

Зборнік Марыі Шаўчонак складаецца з некалькіх раздзелаў. Ёсць у гэтых раздзелах і санеты, і песні, і вершы-мініяцюры, і васьмірадкоўі. Яны прасякнуты ўнутранай цэласнасцю, жаданнем падзяліцца самым запаветным. А самае запаветнае ў аўтаркі, відаць, пачынаецца ў вершы «Белы май»:

Іграй, іграй, мой белы май,
І музыкай, і словамі.
Не замаўкай, не ападай
Пялёсткамі вішнёвымі…
Гары, гары, не дагарай
І стань маімі песнямі
Пра родны дом, пра родны край,
Пра ўсё, што ў сэрцы весняе.

Пра родны край паэтка Марыя Шаўчонак шукае сваё паэтычнае слова. Ды дзе ж яго знойдзеш, як не ў родным краі, там, дзе гучаць знаёмыя народныя песні і «асыпаецца ў росы густы Млечны Шлях»?

*2005*

# ЛІСТАВАННЕ

## СЯБРОЎСТВА ПАЧАЛОСЯ Ў ЛЯСНОЙ ХАТЦЫ

Здаецца, было ўсё як учора, а ўжо прайшло пятнаццаць гадоў з той першай незабыўнай сустрэчы з выдатнай беларускай паэткай, грамадскай дзяячкай, выдаўцом і проста шчырым чалавекам Зоськай Верас (Людвікай Антонаўнай Войцік) і не менш вядомым і знакамітым Лявонам Луцкевічам.

24 верасня 1987 года група слонімскіх настаўнікаў вырашыла наведаць старажытную беларускую Вільню. Разам з настаўнікамі ўдалося паехаць і мне. Калі мы прыехалі ў Вільню, то на плошчы Гедыміна нас чакаў ужо Лявон Луцкевіч. Пасля была цікавая экскурсія па нашай старажытнай сталіцы. Лявон Антонавіч яе добра ведаў і ўмеў вельмі цікава распавядаць пра яе завулкі і вуліцы, пра тых беларусаў, якія тут жылі, вучыліся, выдавалі кнігі і часопісы, трымалі друкарні і музеі. У мяне быў фотаапарат, і я стараўся сфатаграфаваць Лявона Антонавіча з настаўнікамі. Праўда, ён казаў: «Сяргей, ты мяне так шмат не шчоўкай, больш фатаграфуй настаўнікаў, бо з-за мяне табе ў Беларусі можа быць непрыемнасць». Калі я вяртаўся дамоў, усё думаў, якая мне з-за гэтага сціплага і цікавага чалавека можа быць непрыемнасць. Пасля, калі я прачытаў у «Политическом собеседнике» артыкул Бумажковай, я ўспомніў словы Лявона Антонавіча. Але і тады, і цяпер мне няма каго баяцца, я жыву на зямлі сваіх дзядоў і прапрадзедаў, якія тут нарадзіліся, жылі і працавалі і якія ганарыліся роднаю Вільняй і неаднаразова там бывалі. І любіць сваю Бацькаўшчыну ніхто і ніколі мне не забароніць, як і сустракацца з сябрамі там, дзе я хачу і калі хачу.

А ў той дзень мы фатаграфаваліся і з Лявонам Луцкевічам, і з Зоськаю Верас, але ўжо ў яе лясной хатцы за Вільняй. Туды мы паехалі пасля віленскіх экскурсій, каб адведаць Людвіку Антонаўну. Адчыніўшы дзверы, мы быццам трапілі ў беларускі музей

культуры і літаратуры. Карціны славутых мастакоў, фотаздымкі, кнігі, старая мэбля — усё тут, здавалася, дыхала нашым родным, беларускім. У адным з пакойчыкаў хаткі нас сустракала Зоська Верас, якой тады было ўжо 95 гадоў. Пасля пачалася размова. Нас цікавіла ўсё, бо мы ведалі, што Людвіка Антонаўна шчыра сябравала з многімі беларускімі дзеячамі, а таксама са слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам. Дарэчы, у той дзень Зоська Верас падаравала літаратурнаму музею СШ № 7 Слоніма партрэт Гальяша Леўчыка, намаляваны беларускім мастаком з Вільні Алегам Аблажэем. Даўно ўжо няма гэтага музея, і невядома, куды трапіў добры партрэт Леўчыка. Вельмі шкада, што часам каштоўныя музейныя экспанаты трапляюць у ненадзейныя рукі кіраўнікоў школьных музеяў, якім быў, напрыклад, у Слоніме пенсіянер Мікалай Сідаровіч. У час гэтай сустрэчы мы шмат новага даведаліся ад Зоські Верас пра Гальяша Леўчыка, яна паказвала нам яго пісьмы і паштоўкі, а таксама шмат расказвала і пра Максіма Багдановіча. У час успамінаў пісьменніца нават праслязілася. А пасля Людвіка Антонаўна раздавала аўтографы. Праўда, кніжак яе ў настаўнікаў не было, таму аўтографы яна ставіла ў сшыткі і блакноцікі. А калі я назваў сваё прозвішча, яна сказала: «А-а-а, Сяргейка, а я завочна ведаю цябе, шмат чытала тваіх твораў у прэсе…», ад чаго мне было прыемна, і здзівіла ўсіх прысутных. Яна адчыніла шуфлядку, дастала адтуль сваю кніжачку «Каласкі» і падпісала: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну на памятку сустрэчы. Вільня. 24.09.1987. Зоська Верас»…

Пакуль настаўнікі размаўлялі з Людвікай Антонаўнай і разглядалі яе хатку-музей, мы з Лявонам Антонавічам абмяняліся адрасамі, пагутарылі пра жыццё ў Беларусі, пра навінкі беларускай кнігарні.

Вяртаючыся ў Слонім, я вырашыў праз пэўны час зноў завітаць да Зоські Верас. Але такой мажлівасці ўжо не было: у 1990 годзе (ці не знарок?) нехта спаліў лясную хатку, а праз год не стала і яе гаспадыні.

Віленскія сустрэчы з Лявонам Луцкевічам і Зоськай Верас яшчэ больш натхнілі мяне на пошукі звестак пра забытых гісторыяй беларусаў. У канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў я пачаў адшукваць па драбніцы звесткі пра Міхася Забэйду-Суміцкага, Наталлю Арсенневу, Хведара Ільляшэвіча, Гальяша Леўчыка, Сяргея Хмару,

Францішка Аляхновіча і іншых прадстаўнікоў творчай беларускай інтэлігенцыі. Шукаў сляды Франука Грышкевіча, Уладзіслава Казлоўшчыка і Станіслава Грынкевіча для будучай кнігі «Вяртанне да сваіх». Пра ўсіх іх я пытаўся ў Лявона Луцкевіча, ён дапамагаў мне, раіў, да каго звярнуцца, дзе можна прачытаць пра забытых беларусаў і г. д. Я яму ў Вільню прысылаў беларускія кніжкі, а ён мне — віленскія выданні. На жаль, як мы ведаем, час не стаіць на месцы. І вельмі часта гэты час адлічвае сумныя хвіліны: хутка не стала і Лявона Луцкевіча. Але засталіся яго пісьмы, некаторыя з іх друкую ў гэтай кнізе.

*Вільня, 30 ліпеня 1988 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Толькі ўчора атрымаў Ваш ліст і зараз жа адказваю.

На вялікі жаль, у мяне вельмі мала інфармацый з біяграфіі Хведара Ільяшэвіча*, хаця асабіста ведаў яго даволі добра і неаднойчы з ім сустракаўся. Нас тут вельмі цешыць, што вершы Хв. Ільяшэвіча трапяць у «Крыніцу». Вядома, хацелася б у нечым дапамагчы, але сам я ведаю занадта мала, каб скласці нават кароценькую біяграфію. Не маю дадзеных, дзе і калі радзіўся, мабыць, недзе каля 1910 года, а мо і пазней, але гэта вельмі прыблізна. Раблю гэтую выснову з таго, што недзе ў сярэдзіне дваццатых гадоў ён скончыў Віленскую беларускую гімназію. Затым скончыў Віленскі ўніверсітэт, але не ведаю, які факультэт, хіба нешта з гуманітарных навук. Да самай вайны, а бадай, і падчас вайны, жыў у Вільні. У трыццатых гадах выкладаў у нашай гімназіі беларускую літаратуру. Як вядома, у пачатку дваццатых гадоў у гімназіі беларускую літаратуру выкладаў Максім Гарэцкі** (да выезду яго ў Савецкую Беларусь), а затым Антон Навіна***, якога ў пачатку трыццатых гадоў польскія ўлады звольнілі з гэтай працы за палітычную нядобранадзейнасць, матывуючы гэта, як ні парадаксальна, «нястачаю кваліфікацый». А ўжо затым

---

* Хведар Ільяшэвіч (1910–1948) — беларускі паэт, публіцыст, выдавец.

** Максім Гарэцкі (1893–1938) — класік беларускай літаратуры.

*** Антон Навіна (Луцкевіч Антон) (1884–?) — беларускі палітык, гісторык, літаратуразнаўца.

гэтых выкладчыкаў замяніў Хведар Ільяшэвіч. Пра зборнікі яго вершаў, якія выйшлі ў Вільні, згадваць не буду, бо Вам пра гэта вядома. Магу толькі дадаць, што яго вершы траплялiся і ў розных перыёдыках міжваеннага часу. Вядомая таксама яго праца «Друкарня дому Мамонічаў у Вільні», апублікаваная ў нейкім перыёдыку ў 1938 годзе, але ў якім, я не ведаю. Гутарыў на гэтую тэму з некаторымі старымі віленчукамі, але пакуль што нічога новага не даведаўся. Людвіка Антонаўна таксама была з ім знаёмая, але канкрэтных біяграфічных звестак у яе няма. У Хведара быў брат Мікола*, які вучыўся ў Чэхаславакіі, скончыў універсітэт у Празе, быў аўтарам некалькіх прац на чэшскай і беларускай мовах, таксама нейкі час працаваў выкладчыкам у Віленскай беларускай гімназіі, але нядоўга, бо памёр вельмі маладым ад сухотаў. Як кажа Зоська Верас**, Хведар, які быў студэнтам, дык хіба належаў да Беларускага Студэнцкага Саюзу, супрацоўнічаў з часопісам «Студэнцкая Думка». Чуў я, што некаторыя звесткі з біяграфіі Хведара Ільяшэвіча можа мець Адам Мальдзіс***, які быццам цікавіўся яго асобай, не выключана, што нешта ведае і Арсень Ліс****, які мае шмат інфармацыі пра дзеячаў Заходняй Беларусі. Ёсць у нас тут недзе і фатаграфія Хв. Ільяшэвіча, але не дужа якасная, дык не ведаю, ці можа быць выкарыстана для друку. А можа, у Вас ёсць недзе лепшая. Час і месца смерці яго мне таксама невядомы. Вось, бадай, і ўсё, што магу Вам паведаміць сёння на гэтую тэму. Паспрабую яшчэ ў некага папытацца, але вялікай надзеі не маю. Патрабуюцца больш дакладныя пошукі, але баюся, што гэта для Вас будзе ўжо запозна, калі патрабуецца такая тэрміновая інфармацыя.

---

* Мікола Ільяшэвіч (1903–1934) — беларускі гісторык і псіхолаг.

** Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік; 1892–1991) — беларуская грамадская дзяячка, пісьменніца.

*** Адам Мальдзіс — доктар філалагічных навук, пісьменнік.

**** Арсень Ліс — беларускі даследчык, доктар філалагічных навук, спецыяліст па гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Вас я добра памятаю з леташняй экскурсіі па Вільні і заўсёды рады буду ізноў сустрэцца ў нашым стольным горадзе. А пакуль што прымеце ад усіх нас шчырыя прывітанні з найлепшымі пажаданнямі творчых поспехаў!

З пашанаю

*Лявон.*

*Вільня, 8 жніўня 1988 г.*

Дарагі сябра Сяргей!

Ваш ліст атрымаў. На жаль, за гэты час ніякіх новых біяграфічных звестак атрымаць мне не ўдалося. Мала ўжо засталося віленчукоў, якія яго (Хведара Ільяшэвіча. — *С. Ч.*) ведалі асабіста, ды і тыя, хто з ім сустракаўся, не заўсёды ведаюць тое, што з'яўляецца неабходным, каб скласці паўнацэнную біяграфію. Думаю, што ўсе тыя, да каго Вы звярнуліся лістоўна за парадай, нешта Вам дапамогуць, бо яны ўсё ж прафесійныя даследчыкі і значна больш кампетэнтныя за мяне. Бадай што, «Захварбаваныя вершы» — гэта апошні зборнік, які выйшаў у міжваенным часе.

Фатаграфію Вам дасылаю. Хаця яна і не вельмі добрай якасці, але ж нейкае ўяўленне дае.

Калі часам нешта даведаюся яшчэ, дык абавязкова напішу. Заўсёды рады буду дапамагчы інфармацыяй, звязанай з беларускім рухам у Вільні, калі яшчэ нешта спатрэбіцца. А калі будзе ў Вас патрэба самому зазірнуць у Вільню, дык заўсёды рады будзем сустрэчы і заўжды знойдзеце ў нас прыстанішча.

Зычым Вам поспехаў!

З пашанаю

*Лявон.*

*Вільня, 27 верасня 1988 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Прабачце, што дагэтуль не адказаў Вам на ліст, у якім Вы вярнулі мне здымак; цешуся, што Вы яго выкарысталі.

Неяк дагэтуль проста рукі не дайшлі, каб яшчэ раз дакладна перагледзець матэрыялы пра Забэйду-Суміцкага*,

* Міхась Забэйда-Суміцкі (1900–1981) — беларускі эстрадны і оперны спявак.

якія ёсць у Людвікі Антонаўны. Нас тут цешыць, што Вы зацікавіліся асобай Забэйды. Сёння нарэшце настаў час, калі неабходна сказаць усю праўду пра гэтага патрыёта і выдатнага дзеяча беларускай культуры. Асноўны матэрыял пра яго ў Людвікі Антонаўны змешчаны ў спецыяльным альбоме. Не ведаю, ці Вы яго бачылі, як наведвалі летась нашу «лясную хатку». У ім найбольш падрабязны нарыс Янкі Шутовіча*, але там пры пералічэнні гарадоў, дзе Забэйда бываў з канцэртамі ў міжваенным часе, Слонім не ўспамінаецца. Пра Слонім у Шутовіча згадваецца толькі аднойчы, дзе ён піша пра ваенны час, калі Забэйда з Прагі даязджаў цераз гранічныя бар’еры на запрашэнне беларусаў у Беласток, Ваўкавыск, Слонім, Вільню, Рыгу, Дзвінск… і іншыя асяродкі. Вядома, гэта не пярэчыць таму, што Забэйда мог наведаць Слонім тры разы. Пра гэта, можа, дакладней ведае Ваш зямляк Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн**, які перапісваўся з Забэйдам да самай яго смерці. Паспрабуйце напісаць яму, у гэтай справе мо Вам у нечым дапаможа. У нататках Людвікі Антонаўны я знайшоў яшчэ такі сказ: «У 1936 г. Забэйда пяе ў Вільні… Далей: Гродна, Слонім… Што раз больш пяе беларускія народныя песні…» Я яшчэ раз дакладна распытаў у яе пра ўспомненую ў артыкуле «Песняй нёс радасць» інфармацыю, што Забэйда тройчы наведаў Слонім, але яна гэтага дакладна пацвердзіць не магла. Вядома, нельга ўсё ўтрымаць у памяці. Затое спаслалася на інфармацыю, якую яна некалі атрымлівала ў лістах ад Уладзіміра Ягоўдзіка***, які, дарэчы, сам са Слоніма, а калі працаваў у Брэсце на тэлебачанні, дык рыхтаваў перадачу пра Забэйду, якая сапраўды трапіла тады ў эфір. У той час ён сабраў шмат матэрыялаў пра Забэйду і, напэўна, цікавіўся яго сувязямі са Слонімам.

---

* Янка Шутовіч (1904–1973) — рэдактар беларускага часопіса «Калосьсе» (1935–1939).

** Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994) — беларускі паэт.

*** Уладзімір Ягоўдзік — беларускі празаік і драматург, галоўны рэдактар часопісаў «Бярозка» і «Лесавік».

Вось, бадай, і ўсё, што магу Вам паведаміць на гэтую тэму.

З пажаданнямі поспехаў у Вашых пошуках і шчырымі прывітаннямі ад усіх нас

*Лявон.*

*Вільня, 27 верасня 1989 г.*

Шаноўны сябра Сяргей!

Ваш ліст атрымаў. Паведамляю каардынаты Анатоля Аляксандравіча Наліваева* і гасцёўні У. Галубка, якая знаходзіцца ў тым самым доме. Я чуў, што ёсць надзея атрымаць гасцёўні новае, больш прасторнае памяшканне, але дагэтуль яна яшчэ на старым месцы.

Дарэчы, у гасцёўні дужа багаты фатаграфічны фонд, ёсць шмат фотакопій дужа цікавых здымкаў, дык Наліваеў мог бы Вам дапамагчы дастаць копіі тых здымкаў, якія Вас цікавяць. Фатаграфіі Гальляша Леўчыка** пашукаю ў сябе, а вось І. Дварчаніна*** ў нас няма. Яго здымак публікаваўся ў кніжцы А. Бергман**** «Беларускія справы ў другой Рэчыпаспалітай», выдадзенай у Польшчы ў 1984 годзе.

Пра тое, што быў такі паэт Сяргей Хмара*****, я чуў, але аб яго творчасці, жыцці і лёсе амаль нічога не ведаю, ягонага зборніка ў нас таксама няма. Паспрабуйце запытацца ў С. Новіка-Пеюна, гэта ж таксама зямляк.

У нашай хаце цяпер вельмі сумна, бо стан здароўя Людвікі Антонаўны вельмі пагоршыўся, з пасцелі яна не ўстае. Яна ўжо зусім бездапаможная. Найцяжэй для яе тое, што яна траціць зрок, не можа ўжо ні чытаць, ні пісаць.

Прабачце, што не магу адказаць на ўсе Вашыя пытанні.

---

* Анатоль Наліваеў — беларускі мастак, жыве ў Мінску.

** Гальяш Леўчык (1880–1944) — беларускі паэт, перакладчык, калекцыянер.

*** Ігнат Дварчанін (1895–1937) — беларускі грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, паэт, педагог, доктар філасофіі.

**** Аляксандра Бергман (1906–1998) — беларускі і польскі гісторык, публіцыстка.

***** Сяргей Хмара (Сіняк) (1905–1992) — беларускі паэт, журналіст, выдавец.

Калі надарыцца ў Вас нагода наведаць Вільню, дык буду рады сустрэчы. Ад душы жадаю Вам поспехаў!

З пашанаю

*Лявон.*

*Вільня, 2 лютага 1990 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Ваш ліст атрымаў. Пасылаю Вам нумар газеты «Летувос рытас», у якім 18 студзеня была змешчана першая беларуская старонка «Пагоня». Пакуль няма іншых магчымасцей, дык такая старонка будзе з'яўляцца ў гэтай газеце адзін раз на месяц.

Спадзяюся, што і ў далейшым здолею дасылаць Вам адпаведныя нумары гэтай газеты.

З пашанаю

*Лявон.*

*Вільня, 1 чэрвеня 1991 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Дужа рады, што Вы зноў адгукнуліся. Прыемна было прачытаць Ваш ліст, Вашы прыхільныя словы, якія заахвочваюць нешта рабіць. Яшчэ зусім нядаўна нельга было і марыць аб тым, што з'явіцца магчымасць падзяліцца сваімі думкамі і сціплымі ўспамінамі з шырэйшым колам чытачоў.

На вялікі жаль, гэтым разам дапамагчы Вам у пошуках матэрыялаў пра У. Казлоўшчыка* хіба не здолею. Ведаю пра яго вельмі мала. У даваенным часе я ЯШЧЭ быў замалады, каб мець з ім нейкія дачыненні, а асабіста давялося сустрэцца мо пару разоў у Менску, падчас вайны, калі ён працаваў у рэдакцыі беларускай газеты, якая тады там выдавалася, але гэта былі сустрэчы выпадковыя. Ведаю, што згінуў у выпадку тэрарыстычнага акту. Пра яго паэтыцкую творчасць таксама нічога канкрэтнага я ня ведаю. У Зоські Верас таксама не захавалася ні яго твораў, ні фатаграфіі, ды, бадай, згаданы Вамі зборнік і быў адзіным. Акрамя паэзіі займаўся, відаць,

* Уладзіслаў Казлоўшчык (Казлоўскі) (1896–1943) — беларускі палітык, крытык, паэт, журналіст і спартыўны аглядальнік.

яшчэ і публіцыстыкай. У віленскім беларускім грамадстве да вайны стаяў неяк асобна, не карыстаўся ні аўтарытэтам, ні становчай апініяй дзякуючы сваёй палітычнай платформе. Наколькі мне вядома, ён, быццам, разам з Ф. Акінчыцам* намагаўся стварыць беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю, якая не магла быць папулярнай і поспеху не мела. Мне асабіста цяжка даваць якую-колечы ацэнку, бо ім асабліва не цікавіўся, а цяпер мала засталося людзей, якія маглі б нешта дапамагчы ці параіць. Калі б давялося нешта больш даведацца, дык напішу Вам.

Пра беларускую выдавецкую дзейнасць у Вільні вашыя весткі яўна перабольшаныя. Праўда, летась былі спробы выдаваць асобныя беларускія старонкі ў існуючых тут рускамоўных газетах «Эхо Литвы» і «Летувос рытас», але выйшлі толькі тры старонкі і на гэтым усё спынілася. Цяжкасці паглыбіліся пасля трагічных падзеяў у Літве ў студзені гэтага году. Затое цяпер узнікла ініцыятыва аднавіць «Нашу ніву». У выніку ў траўні выйшаў першы нумар гэтай газеты…

З цікавасцю прачытаў Ваш допіс у «Наст. газеце» № 41 «Растаптаная мара» пра Васіля Новіка**, які ў гімназіі быў на адзін клас старэйшы за мяне. Калі б яму давялося трапіць у Вільню, быў бы рады з ім сустрэцца, а пакуль перадайце прывітанне, калі мяне помніць.

І яшчэ адна просьба: калі б можна было зрабіць добрую фотакопію таго групавога выпускнога здымка, што быў у газеце, ды даслаць яго для «Альбома Віленскай беларускай гімназіі», які захоўваецца ў нас, дык гэта вельмі хораша яго папоўніла б. Прывітанне Вам з Вільні!

З пашанаю

*Лявон.*

---

* Фабіян Акінчыц (1886–1943) — беларускі юрыст і палітык.

** Васіль Новік — беларускі педагог са Слонімшчыны, быў рэпрэсаваны, памёр у пачатку 90-х гадоў у Слоніме.

*Вільня, 30 ліпеня 1991 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Перш за ўсё прашу прабачэння за тое, што дагэтуль не адказаў на Ваш ліст. Усё неяк адкладаў за штодзённымі турботамі. Шчыра Вам дзякую за фатаграфіі і газету з Вашым артыкулам пра Васіля Новіка. Прачытаў з вялікай цікавасцю.

Вашае пытанне адносна сувязей Наталлі Арсенневай* са Слонімам зацікавіла і мяне. Хачу таксама неяк у гэтым разабрацца і праверыць, ці сцверджанне Алега Лойкі** мае пад сабой нейкую падставу. Пакуль што я пра гэта не знайшоў нічога, прынамсі, у тых біяграфічных матэрыялах, якія ёсць у мяне. Пазалетась праз нагоду я атрымаў у падарунку ад Наталлі Арсенневай падпісаную мне кніжку яе паэзіі «Між берагамі», выдадзеную за мяжой. Там даволі багаты матэрыял да яе біяграфіі. Я прачытаў пра ўвесь яе жыццёвы шлях даволі ўважліва, і Слонім туды ніяк не ўпісваецца.

Радзіма яе — гэта Вільня. Хаця нарадзілася яна на Каўказе, але правяла там толькі першыя месяцы жыцця. З Вільні разам з бацькамі выехала ў бежанства, дзе жыла ў Яраслаўлі з 1915 да 1919 г. Затым ізноў Вільня, дзе скончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. выйшла замуж за Кушаля, які быў вайскоўцам і па службе мусіў пераехаць у заходнюю Польшчу. Там паэтка жыла да вайны, але штогод прыязджала ці ў Вільню, ці на Валожыншчыну — радзіму мужа. У 1939 годзе мужа забралі на вайну, а Наталля пераехала на Беларусь у Вілейку. Муж трапіў у палон да бальшавікоў, але яму пашанцавала. Яго арыштавалі, а таму ён не трапіў у лагеры смерці польскіх афіцэраў. З турмы ў Маскве яго звольнілі перад самай вайной. Наталля таксама была арыштавана і саслана з сям'ёй у Казахстан. Дзякуючы намаганням Янкі Купалы*** і другіх беларускіх пісьменнікаў яе звольнілі са ссылкі, і яна з сынамі прыехала ў Доры каля Валожына ў дом

* Наталля Арсеннева (1903–1997) — беларуская паэтка і перакладчыца.

** Алег Лойка (1931–2008) — пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар.

*** Янка Купала (1882–1842) — класік беларускай літаратуры.

мужа. Кушаль, звольнены з турмы, таксама прыехаў да сям'і. Калі пачалася акупацыя, яны ў 1941 г. пераехалі ў Менск, а ў 1944 г. былі змушаны эміграваць.

Такім чынам, для Слоніма месца тут няма. Мяркую, што тут проста памылка. Справа ў тым, што Наталля Арсеннева была знаёмая з Сяргеем Новікам-Пеюном, які зямляк Алега Лойкі са Слоніма. Аднак, наколькі мне вядома, гэтае знаёмства і сустрэчы адбываліся на захадзе Польшчы, куды Сяргей Міхайлавіч быў сасланы ў канцы 20-х гадоў. Магчыма, што гэта і зблытала Лойку, які падумаў, што тое знаёмства ўзнікла ў Слоніме. Гэта маё прыпушчэнне, аднак усё гэта яшчэ трэба праверыць. На жаль, адрасу Наталлі Арсенневай я не маю. Можа, паспрабую даведацца праз сваіх родзічаў, але лісты ходзяць цяпер вельмі нерэгулярна.

А мо паспрабуйце праз Таварыства «Бацькаўшчына»?

З Юркам Геніюшам* я не быў знаёмы. Даводзілася сустракацца толькі з Ларысай** і яе мужам***. Каб атрымаць нейкія звесткі пра Юрку, трэба, мабыць, звязацца з беластоцкімі беларусамі ці пагартаць публікацыі, якія выдаваліся ў Польшчы — тыднёвік «Ніву» ці беларускія календары. Юрка Геніюш сам крыху пісаў, можна знайсці яго творы або нейкі матэрыял пра яго.

А пра Шыманчыка**** мне зусім нічога не вядома.

Жадаю Вам поспехаў у Вашых пошуках!

З пашанаю

*Лявон.*

---

* Юрка Геніюш (1935–1985) — беларускі празаік і драматург, сын Ларысы Геніюш.

** Ларыса Геніюш (1910–1983) — беларуская паэтка, вязень сталінскіх лагераў.

*** Янка Геніюш (1902–1979) — муж Ларысы Геніюш, медык па адукацыі.

**** Юзаф Шыманчык — беларускі і польскі фатограф, жыў і памёр у Лодзі (Польшча).

*Вільня, 7 кастрычніка 1991 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Ліст Ваш атрымаў, прашу прабачэння, што амаль на працягу месяца не здолеў адказаць.

Цешуся, што займаецеся цяпер цікавай і творчай працай у галіне аднаўлення беларускага тэатра. Справа гэта незвычайна важная і актуальная ў новых варунках нашай сучаснасці.

На жаль, не магу Вам нічога дапамагчы ў справе сцэнічных твораў Аляхновіча*. У нас дома іх няма. Відаць, сёння наспеў час вырашаць гэтую справу на іншым узроўні. Гэта проста абавязак нашых тэатралаў у Менску з дапамогаю грамадскіх і дзяржаўных структур сабраць спадчыну Аляхновіча і нейкім чынам перадрукаваць хоць невялікім тыражом, бо цікавасць да п’ес яго вялікая і не толькі ў Слоніме. Многае з яго спадчыны магло б і цяпер увайсці ў рэпертуар беларускіх тэатраў.

У Вільні неўзабаве выйдзе трэці нумар адноўленай «Нашай нівы». Калі б аднавілася тут і кнігавыдавецтва, дык мо і творы Аляхновіча можна было б надрукаваць у Вільні. Але гэта пакуль што толькі летуценні…

Усяго Вам найлепшага.

З пашанай

*Лявон.*

*Вільня, 23 снежня 1994 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Ліст Ваш атрымаў і, як заўсёды, быў бы рады Вам дапамагчы. На жаль, добрых здымкаў пералічаных Вамі асобаў у мяне няма. Некалі яшчэ Людвіка Антонаўна збірала матэрыялы да біяграфіяў Станіслава Грынкевіча** і Франука Грышкевіча***, і тады я дапоўніў іх здымкамі, якіх якасць не

---

* Францішак Аляхновіч (1883–1944) — беларускі драматург, празаік, артыст, рэжысёр.

** Станіслаў Грынкевіч (1902–1945) — беларускі паэт, педагог і грамадскі дзеяч.

*** Франук Грышкевіч (1904–1945) — беларускі паэт, педагог і грамадскі дзеяч.

дужа высокая, бо гэта з групавых фатаграфіяў. Высылаю Вам гэтыя здымкі на Ваш погляд, ці магчыма будзе іх выкарыстаць. У кожным выпадку, скарыстаўшы, вярніце іх мне, бо, на жаль, нічога лепшага мы тутака не маем. Вядома, калі правесці больш грунтоўныя пошукі, дык мо дзе і знойдуцца, але гэта ўжо не на мае магчымасці. У. Казлоўшчыка, які ў беларускім грамадстве, як мне здаецца, асаблівым аўтарытэтам не карыстаўся, ніякага здымка ў нас няма. На жаль, гэта ўсё, што магу сёння зрабіць.

А пры нагодзе шлю Вам шчырыя віншаванні з Новым годам і са святам Калядаў! Поспехаў вам, здароўя і ўсяго самага лепшага ў Вашым жыцці!

З пашанаю

*Лявон.*

*Вільня, 12 лютага 1996 г.*

Паважаны сябра Сяргей!

Спасылаючыся на нашае даўняе знаёмства і неаднаразовыя кантакты, хачу звярнуцца да Вас з наступнай просьбаю. З перыядычнага друку і перадач на радыё «Свабода» даведаўся прыемную навіну аб факсімільным выданні першай кніжкі Ларысы Геніюш «Ад родных ніў». Хіба добра ўяўляеце, як мне хацелася б мець гэтую кніжку. Цяпер я не бываю на Беларусі дзеля дрэннага стану здароўя, а гэты зборнік нам тут у Вільні вельмі патрэбны.

Я ўсё яшчэ крыху працую на віленскім радыё і кожны тыдзень рыхтую паўгадзінную радыёперадачу пад назваю «Беларускае слова на хвалі літоўскага радыё». Яна ўжо шмат гадоў выходзіць у эфір па суботах у 11 гадзін 30 хвілін на сярэдняй хвалі 271 мэтр, дык для такога выкарыстання факсімільны зборнік Ларысы Геніюш быў бы вельмі каштоўны.

Ня ведаю, як набыць гэтую кніжку і разлічыцца за яе — спадзяюся толькі на Вас! А можа, у выглядзе абмену, бо ў нас тутака таксама выйшла цікавая кніжка. Гэта «Мае ўспаміны» Юліяны Вітан-Дубейкаўскай*, якія выдадзены на ініцыятыве

---

* Юліяна Вітан-Дубейкаўская (1886–1970) — беларуская грамадская дзеячка.

і коштам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Гэтую кніжку я мог бы выслаць на Ваш адрас, каб пераканаўся, што ён не змяніўся. Гэта першая беларуская кніжка, выдадзеная ў Літве ў пасляваенным часе.

Але наогул з выдавецкай справай цяпер вялікія цяжкасці. Нейкі час нам тут удавалася друкаваць штотыднёвую беларускую старонку ў расейскай газеце «Эхо Литвы» і ў польскім «Кур'еры віленскім», аднак гэтая ініцыятыва спынілася і перспэктывы на бліжэйшы час марныя. Пасылаю Вам для цікавасці адну такую старонку з майго архіва.

Рад быў бы пры нагодзе сустрэцца з Вамі ў Вільні. А пакуль што прымеце маё шчырае прывітанне з найлепшымі пажаданнямі!

З пашанаю

*Лявон.*

*Вільня, 12 красавіка 1996 г.*

Паважаны і дарагі сябра Сяргей!

Шчыра дзякую Вам за бандэроль з двума асобнікамі кніжкі «Ад родных ніў». Цяпер адзін з іх трапіць і ў фонды бібліятэкі Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Дзякую Вам таксама за ліст з паведамленнем пра Вашы новыя каардынаты. Адначасова мушу прасіць прабачэння, што гэтак доўга не адказваў на Ваш ліст, не пацвердзіў своечасова атрыманне бандэролі ды не выслаў абяцанай кніжкі. Раблю гэта сёння, хаця і з вялікім спазненнем.

Адносна Вашага прыезду ў Вільню, які бясспрэчна быў бы вельмі пажаданым, пакуль што не высветліў усіх магчымасцяў і неабходных фармальнасцяў. Напішу Вам неадкладна, як толькі буду ведаць нешта больш канкрэтна.

З шчырым прывітаннем з Вільні

*Лявон.*

## ЛІСТЫ АД ЛЯВОНА ШПАКОЎСКАГА-СЛУЧАНІНА

У пошуках звестак пра беларускага паэта, празаіка, драматурга Тодара Лебяды (Пятра Шырокава) (1914–1970), які двойчы быў рэпрэсаваны і памёр у Разанскай вобласці ў Расіі, сляды мяне прывялі ў Салігорск да Лявона Шпакоўскага-Случаніна (1914–1995). Ён быў равеснікам Тодара Лебяды, займаўся літаратурнай творчасцю і таксама двойчы зведаў ГУЛАГ. У 1937 годзе Лявона Шпакоўскага-Случаніна прыгаварылі на 10 гадоў і накіравалі на Беламорканал. Праўда, праз два гады датэрмінова вызвалілі, і ён прыехаў у Слуцк, дзе ўладкаваўся настаўнікам роднай мовы і літаратуры.

У гады Другой сусветнай вайны працаваў дырэктарам Лучнікоўскай школы, потым — школьным інспектарам на Случчыне. Адначасова супрацоўнічаў з акруговай «Газэтай Случчыны», друкаваўся таксама ў «Беларускай газэце» (Мінск), «Голасе вёскі» (Мінск), «Раніцы» (Берлін) і «Новай дарозе» (Беласток). Вершы, напісаныя ў першай палове 1940-х гадоў, апублікаваў ў калектыўным зборніку «Песняры Случчыны» (1943). Пры адступленні немцаў выехаў з сям’ёй у Германію. Працаваў карэспандэнтам у часопісе «Малады змагар», які выдаваў Саюз беларускай моладзі. Вясной 1945 года трапіў у амерыканскую акупацыйную зону. Вярнуўся ў родную вёску, дзе быў зноў арыштаваны. Асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Адбываў пакаранне на Поўначы. Потым тэрмін быў зменшаны да 10 гадоў зняволення. Пасля вызвалення да 1973 года жыў у Варкуце, а потым вярнуўся на Радзіму і стала асеў у Салігорску.

У 1943 годзе Лявон Шпакоўскі-Случанін напісаў гістарычную паэму «Рагнеда», якая асобным выданнем з’явілася ў Вільні ў 1944 годзе. А ў 1991 годзе газета «Калийщик Солигорска» выдала «Рагнеду» асобнай літаратурнай укладкай. Якраз у гэты час я напісаў яму ліст у Салігорск, у якім прасіў згадаць пра Тодара Лебяду. Лявон Раманавіч адразу адказаў на мой ліст і прыслаў «Рагнеду» з аўтографам: «Шчыраму паклонніку таленту Тодара Лебяды Сяргею Чыгрыну. Л. Шпакоўскі-Случанін, 22.02.1992».

Нядаўна праглядаў свой хатні архіў і знайшоў чатыры лісты ад Лявона Раманавіча, якія публікую ў кнізе.

*22 лютага 1992 г.*

Паважаны Сяргей!

Распачаў ты добрую справу. Тодар Лебяда, вершы якога ў свой час я чытаў, варты гэтага. А з самім Тодарам я сустракаўся толькі адзін раз. Гэта было ў жніўні 1944 года ў Берліне каля будынка, дзе знаходзілася Беларуская Цэнтральная Рада. З ім былі паэты Сяднёў* і Салавей**. Сяднёў — у Амерыцы, а Салавей — памёр. Раю табе звярнуцца да Барыса Іванавіча Сачанкі***, які займаецца справамі пісьменнікаў-эміграцнаў.

А Тодар застаўся ў маёй туманнай памяці рослым, шыракаплечым хлопцам у карычневым выцертым касцюме, з адкрытым, простым тварам, удумлівым, крыху флегматычным. Салавей і Сяднёў злёгку даймалі яго драматычным творам, які ён напісаў (назву твора не памятаю). А ён слухаў, усміхаўся і спакойна парыраваў.

Сустрэча была кароткай і нетрывалай, і, на вялікі жаль, апошняй.

Высылаю табе, як шчыраму паклонніку таленту Тодара Лебяды, сваю «Рагнеду» і жадаю дасягнуць мэты!

З павагай

*Л. Шпакоўскі-Случанін.*

*5 сакавіка 1992 г.*

Паважаны Сяргей!

Даю адказ на твой ліст. Пачнём з удакладнення. Па-першае, «Рагнеда» не зборнічак, а паэма. Па-другое, у Менску яна ўжо друкавалася «з прыгожымі каляровымі малюнкамі» у часопісе «Спадчына» № 4 за 1991 год. Я задаволены, што паэма табе спадабалася.

Відаць, што ты без увагі аднёсся да майго паведамлення пра Тодара Лебяду. Там жа, як кажуць, чорным па беламу напісана, што я толькі адзін раз сустракаўся з Тодарам у

---

* Масей Сяднёў (1913–2001) — беларускі паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. З 1943 года — на эміграцыі, жыў у Нямеччыне, потым у ЗША.

** Алесь Салавей (1922–1978) — беларускі паэт, жыў у Аўстраліі.

*** Барыс Сачанка (1936–1995) — беларускі пісьменнік, які шмат пісаў пра эміграцыю.

жніўні 1944 года ў Берліне. А загнала нас туды, калі казаць, «не растекаясь мыслию по древу», праклятая вайна.

А дзе выдаваліся і друкаваліся ягоныя творы і якія творы? Вось гэтага (праваліцца мне скрозь зямлю!) не памятаю, не ведаю. Гэта можа ведаць хіба толькі Барыс Іванавіч Сачанка. Ён даўно займаецца падобнымі Тодару, Сяднёву, Салаўю, Геніюш, Віцьбічу* і іншымі паэтамі і празаікамі. Звярніцеся таксама да свайго суседа па вуліцы Васіля Рыгоравіча Супруна**. Можа, ён што-небудзь ведае пра Тодара. Адным словам, «кто ищет, тот всегда найдёт!».

Прашу, выдаўшы твор, не забыць і мяне. Зычу здароўя і творчых поспехаў!

*Л. Шпакоўскі.*

*20 красавіка 1992 г.*

Паважаны Сяргей!

Па-першае, дзякую, што не забываеш! Па-другое, падабаецца мне твая напорыстасць, якую ты праяўляеш, шукаючы Тодара Лебяду і ягоныя творы. Напэўна, нездарма народ кажа: хто шукае — той знаходзіць, а хто пытае — той не блудзіць. Жадаю знайсці!

А я нічога да таго, што ты знайшоў, дадаць не магу. Для мяне мае рашаючае значэнне не тое, што я ад кагосьці чуў, а тое, што я бачыў. А пра бачанае я табе ўжо пісаў. Жонак яго, якіх ты наважыў адшукаць, я таксама не бачыў і пачуў пра іх толькі ад цябе.

Па-трэцяе, напрошваецца заўвага. М. Сяднёву ты выслаў «Слонімскі веснік» з артыкулам пра Тодара Лебяду, а Шпакоўскаму не палічыў патрэбным выслаць. Няўжо ты думаеш, што я не цікаўлюся лёсам Тодара? Вось гэтага я ад цябе не чакаў! А што датычыцца майго паэтычнага падання «Ісус Хрыстос», дык я яго ўжо раздаў. А каб ты не дуўся на

---

* Юрка Віцьбіч (1905–1975) — беларускі літаратар, гісторык. Жыў на эміграцыі, памёр у ЗША.

** Супрун Васіль (1926–2007) — беларускі паэт, археолаг, краязнавец. Вязень сталінскіх лагераў. Жыў і памёр у Слоніме.

мяне, наважыў паданне замяніць урыўкам са свайго рамана «Алесь Няміра».

Вось так! Жадаю здароўя і поспехаў і віншую з наступаючым Вялікаднем!

З павагай

*Л. Шпакоўскі-Случанін.*

*29 красавіка 1992 г.*

Добры дзень, Сяргей Бацькавіч!

Перш-наперш хачу сказаць і таксама шчыра, каб ты мяне не перахваліў. Баюся, каб на 78-м годзе жыцця не пацягнула спачыць на лаўрах!

Просьбу тваю пастараюся выканаць. Але ж і ты не забывай дасылаць новае пра Тодара Лебяду.

Шчыра дзякую за «Слонімскі веснік» з тваім змястоўным артыкулам і ўдалымі творамі Лебяды. І, увогуле, газета ваша не толькі змястоўная, але і сімпатычная. Даслана яна мне першы раз. Ці не рана ты, Сяргей, стаў забыўчывым?

Па тваёй просьбе — раю звярнуцца на ўсялякі выпадак у Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Адраса інстытута я не маю. Спадзяюся, што сам знойдзеш.

А пакуль што бывай здароў і не кашляй!

Жадаю поспехаў ва ўсім і заўсёды!

З павагай

*Л. Шпакоўскі-Случанін.*

# ПІСЬМЫ МІКОЛЫ КАНАША — ВЯЗНЯ СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ

У 1993 годзе я вырашыў сабраць вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя нашай паэтцы і змагарцы Ларысе Геніюш (1910–1983). Напісаў пра гэта невялікую нататку «У вянок Ларысе Геніюш» у тыднёвік «Літаратура і мастацтва», дзе яе і надрукавалі. А з калектывам Зэльвенскай раённай газеты дамовіўся, што ўсе вершы будуць дасылаць у рэдакцыю, а я іх потым забяру. Завёў спецыяльную папку, падпісаў яе, паклаў рэдактару Ірыне Васілеўка на стол і стаў чакаць паэтычныя радкі ад беларускіх творцаў. Праз пэўны час завітаў у Зэльву, зайшоў у рэдакцыю, дзе ў папцы ўжо чакалі мяне пісьмы і вершы, прысвечаныя Ларысе Геніюш. Сярод пісем быў ліст і з горада Жлобіна Гомельскай вобласці ад Міколы Канаша. Пісьмо гэта сёння публікуецца. Я хуценька адказаў спадару Канашу і шчыра падзякаваў яму за вершы ў вянок Ларысе Геніюш, які шмат гадоў з ёю сябраваў, даслаў таксама яму свой першы паэтычны зборнічак «Шчырая Шчара» з вершам «У хаце Ларысы Геніюш у Зэльве». Так мы сталі перапісвацца.

Пазнаёміліся Мікола Канаш і Ларыса Геніюш у Інце ў 1949 годзе. Жаночы чацвёрты ОЛП (особые лагеря политических), у якім знаходзілася Ларыса Геніюш, быў недалёка ад мужчынскага лагера — кіламетраў чатыры. Там адбываў тэрмін за прыналежнасць да СБМ (Саюз беларускай моладзі) і Мікола Канаш. Паміж лагерамі працавала пошта, хоць нярэдка здараліся і правалы. Паэтка вяла вялікую перапіску і кожнаму адрасату давала псеўданім. Міколу часцей за ўсё называла сынам ці братам. Ён працаваў у шахце, на адбойным малатку, штодня выбіваючыся з сіл. Праца гэтая лічылася найцяжэйшай. Выкарыстоўвалі на ёй пераважна маладых і хто меў тэрмін зняволення ў 25 гадоў. Але час для перапіскі Мікола Канаш знаходзіў. Лісты ад яе хаваў у самой шахце, а некаторыя проста нішчыў. Праўда, сустрэцца ў ссылцы ніяк не атрымлівалася.

Пасля смерці Сталіна, у 1954 годзе, калі дыхаць стала вальней, яму ўсё ж удалося першы раз спаткацца з беларускай паэткай. Аднойчы, калі Ларыса працавала на таварнай базе — адкідвала снег ад дзвярэй, прабівала пад’езды, яны сустрэліся. Але ў хуткім часе Міколу Канаша пагналі па этапах, і сувязь паміж імі перарвалася.

Але аднаго дня ў рукі яму трапіла газета «Уголь стране», што выдавалася ў Інце спецыяльна для зняволеных. На адной са старонак ён убачыў верш на рускай мове «Уголь». Пад ім стаяў подпіс — Лариса Гениуш. Яны зноў наладзілі, на гэты раз ужо афіцыйную, перапіску.

У 1955 годзе паэтку ўзялі на этап з лагера пасёлка Абяз і павезлі ў Казахстан. З таго часу іх сувязі зноў перарваліся. І толькі ў 1970 годзе, тады Мікола Канаш яшчэ жыў у Комі АССР, пошта прынесла яму ліст з роднай Беларусі. Ларыса Антонаўна пісала: «Столькі часу мінула… Я цябе шукала і думала па-рознаму… Чакаю ў госці…».

Спадар Канаш сядае на самалёт і ляціць на Беларусь аж у Гродна. Адтуль аўтобусам у Зэльву. Пастукаў у дзверы. Адчыніла незнаёмая яму жанчына.

— Вам каго? — спытала яна.

— Мне Ларысу Антонаўну.

— Я і ёсць. А хто будзеце вы?

— Я — Мікола Канаш.

— А чым вы гэта дакажаце?..

— Пастараюся даказаць…

— То заходзьце ў хату, — запрасіла спадарыня Геніюш.

Так яны спаткаліся. А потым, калі Мікола Канаш у 1973 годзе назаўсёды пераехаў з Комі на Беларусь, сустракаліся часцей. У інтэрв’ю Алесю Карлюкевічу (ЛіМ, 10 снежня 1993 года) Мікола Канаш прыгадваў: «Я тады быў яшчэ малады, і па спартыўнай выпраўцы і вопратцы многія мяне лічылі супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі. Наведваўся, а праз дзень ці два знікаў у невядомым напрамку. Літаральна праз некалькі гадзін мог аказацца ў Вільні ці ў Мінску, альбо ў Латвіі ці ў Паставах. А з сабою вёз новыя вершы, сфатаграфаваныя на пазітыўную плёнку, праяўленую там жа, у Ларысы Антонаўны. Плёнка займала вельмі мала месца і пры зразумелых абставінах магла быць знішчана ці выкінута ў дарозе. Прыязджаў у Зэльву без шапкі і акуляраў, а недзе ў Баранавічах надзяваў і тое, і другое. Магчыма, усё гэта было і залішне, але, прайшоўшы праз многія выпрабаванні, сутыкнуўшыся з мноствам прадажных стукачоў, вымушаны мы былі так рабіць. Ларыса Геніюш у гэтых адносінах была вельмі прадбачлівая. І многіх наведвальнікаў проста з парога выпраўляла з ветрам…»

Мікола Канаш, адбыўшы сталінскія лагеры, а потым адпрацаваўшы шмат гадоў шахцёрам, меў добры заробак і пенсію. Таму ён часта высылаў Геніюшам пасылкі, асабліва калі адпачываў на Поўдні, то адтуль слаў апельсіны, лімоны, іншую на той час экзатычную садавіну ў Зэльву. Гэта дзякуючы Міколу мы маем сёння дзясяткі, а то і сотні фотаздымкаў з выявамі Геніюшаў, іх сваякоў і сяброў, фотаздымкі хаты, пакояў, дзе жыла вялікая паэтка. Бо ў хаце Ларысы Антонаўны і Івана Пятровіча ён заўсёды быў самым дарагім госцем.

Чытачам прапаную некаторыя лісты Міколы Канаша, якія захоўваюцца ў маім хатнім архіве. Ён пісаў да мяне, адказваў на мае пытанні, рабіў каментар, разважаў, прыгадваў сваіх сяброў.

*5 лістапада 1993 г.*

Шаноўныя супрацоўнікі газеты «Праца»!

У «ЛіМе» ад 29 кастрычніка 1993 года я прачытаў невялікую нататку пад загалоўкам «У вянок Ларысе Геніюш». І вырашыў Вам даслаць два вершы аўтараў, якія прысвячаліся менавіта ёй былымі вязнямі ГУЛАГу, у якіх будзе ўсё зразумела без каментарыяў.

Першы верш Васіля Супруна са Слоніма, верш, які быў напісаны ў 1954 годзе ў г. Інта, тады ён горадам яшчэ не называўся, а проста пасёлкам Інта. Рукапіс верша дасланы мне ў тым жа 1954 годзе самой Ларысай Геніюш у лагер, каб я захаваў яго да лепшых часоў (гэта невялікая шпаргалка, напісаная макавымі літарамі самім аўтарам Васілём Супруном). Перахоўваў я яе ў каўняры лагернага бушлата, які захоўваецца ў мяне да сёння. Вось гэты верш без ніякіх паправак.

Мо адчай гэтых слоў, пачуццём калыханых,
Не кране твайго сэрца, грудзей не кране.
— То аддай іх сама для другіх закаханых
І ў адказ напішы мне адзінае «не».
— Я не ўмею кахаць, далікатна схіліўшы
Потны лоб на калені марожаных мар,
І, латаны бушлат на хаду расшпіліўшы,
Не вучыўся лятаць ад бяздоння да хмар.

Мо каханне маё, як гнілое павідла
Ці як нумар, прышыты на спіны сяброў,
Для цябе, для вачэй тваіх мілых абрыдла
І сівым павуком п'е гарачую кроў?
— Ты скажы ж мне, скажы, з нецярпеннем адказу
Буду ноччу і днём адзінока чакаць.
Толькі весткі свае не пішы па заказу,
Не вучы мяне ў пошуках шчасця блукаць.
Не пытай. Не скажу. Здагадайся сама,
Чаму вусны усмешкі не знаюць.
Чаму вочы, як ноч ці як тая турма,
Без жыцця ў цішыні дагараюць.
Не скажу, не скажу табе болю свайго
І душы не адкрыю ў няволі.
Хай глыбокія стогны, што мруць пад табой,
Тваіх дзён не кранаюць ніколі.
Мне не цяжка. О, не падумай хаця,
Што бяссільна схіліўся на нары.
І ў хвіліны тугі праклінаю жыцця
Злыя буры, шляхі і пажары.
Не, не кляў, не кляну, із разбітых грудзей
Не пачуеш ты просьбы нікчэмнай!
Хоць пакуль што жыву толькі ранкам надзей,
Але прошукі злыдняў дарэмны.

І другі верш, прысвечаны Ларысе Геніюш аўтарам Віталем Губарэвічам* у той жа Інце ў 1955 годзе. Віталь Губарэвіч 1926 года нараджэння быў родам з Гродзеншчыны, Дзятлаўскага раёна. Вершы свае пачаў пісаць у ГУЛАГу на рускай і беларускай мовах, мой добры сябра па лагеру. Ларысе Геніюш час ад часу траплялася чытаць вершы В. Губарэвіча, яна натхняла яго добрым словам і верай у свае сілы.

---

* Віталь Губарэвіч (1926–1976) — паэт, перакладчык, фармацэўт, быў рэпрэсаваны. Пасля вяртання на радзіму, жыў і працаваў у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, дзе і памёр.

## Да Ларысы Геніюш

Зраднiла мяне муза не ў хаце —
Прыйшла за краты да мяне яна.
І першы гук мой аб нявольным браце
Паляцеў у свет, з турэмнага вакна.
Я ліру змайстраваў сваёй рукою,
І струны крыху тоўстыя на ёй,
І непрыемна чуць яе парою,
Бо вуха рэжа востры голас мой.
Ды што рабіць, і я спяваў калісьці
Лірычну песню, але гэты спеў
Гучаў у сёлах родных без карысці,
І не будзіў майго народа гнеў.
Прабач мне, самазванаму паэту,
У няроўнай вырасшаму барацьбе,
Што пасвячаю табе песню гэту
І што сястрою называю ў ёй цябе.
Ты гамаю акордаў мілагучных
Напоўніла мне сэрца да краёў,
І вобразаў так родных, не адлучных
Чарга перад вачыма ўстала зноў.
І я за ліру ўзяўся міма волі,
І грозна песня загула мая.
Яна пяе братам маім аб волі,
Аб родных, дарагіх краях.
Але не плач у песні гэтай льецца,
Яна гучыць, як атамана кліч.
Пракляццем грозным з сэрца майго рвецца,
Ўздымая помсты ўсенародны біч.
І пакуль у маім краі бяздольным
Шчэ не змоўк гук роднае мовы,
Буду несці я браццям нявольным
Кастуся Каліноўскага словы.
Каб народ мой крывіцкі, слаўны,
Разбудзілі слоў маіх стрэлы.
Каб у неба сцяг дзяржаўны
Узвіўся б бел-чырвона-белы.
Цісну́ць сэрца тугою жалезнай
Драцяныя калючыя лапы,

Бо з радзімы па тундры бязмежнай
Усё ідуць і ідуць этапы.
І хоць у сэрцы маім гнаіцца
Несцярпіма балючая рана,
Аднак плакаць не трэба вучыцца…
Не, хаўтуры спраўляць яшчэ рана.

Віталь вершы пісаў экспромтам, так, як і Ларыса, не шліфаваў іх, таму прабачце за дапушчаныя памылкі. Дасылаю вам яшчэ фота, зробленае мною ў хаце Ларысы ў Зэльве, незадоўга да яе смерці. На фота: Зося Каліноўская* — яе блізкая суседка, якая увесь час дапамагала Ларысе па гаспадарцы і заслугоўвае ўвагі.

*Мікола Канаш.*

*21 сакавіка 1994 г.*

Шаноўны Сяргей Мікалаевіч, добрага дня Вам!

Па-першае, вялікі і шчыры Вам дзякуй за зборнічак вершаў «Шчырая Шчара» з аўтографам. Ён зойме на паліцы ў мяне ганаровае месца сярод іншых выданняў пісьменнікаў з аўтографамі, і ў першую чаргу Ларысы Геніюш, Дануты Бічэль-Загнетавай**, Уладзіміра Арлова***, Ніла Гілевіча**** і іншых вядомых пісьменнікаў з пажаданнямі сціплых і родных слоў сардэчнасці. Спадзяюся, што ён будзе не апошнім тваім выданнем…

Прачытаў яго за адзін прысед, нібы праглынуў глыток гаючай вады святой Жыровіцкай крынічкі.

Дасылаю Вам сем здымкаў. На мой погляд, яны яшчэ нідзе не друкаваліся, хаця маю значна больш, але іх трэба яшчэ рабіць, негатывы захоўваюцца, а многія раздаў. Відаць, адзін з іх Вам ужо вядомы тым, што Вы ўспамінаеце ў сваім

---

* Зося Марцінчык (Каліноўская) — суседка і прыяцелька Ларысы Геніюш у Зэльве.

** Данута Бічэль (нар. 1938) — беларуская пісьменніца з Гародні, сябравала з Ларысай Геніюш.

*** Уладзімір Арлоў — беларускі пісьменнік і гісторык.

**** Ніл Гілевіч — народны паэт Беларусі.

вершы: «Хвартух адзеўшы свой квяцісты, гасцей любіла сустракаць…». Так сапраўды і было. Дык вось на гэтым фота каля ўваходу на ганак відаць стаіць бетонная ваза, у якой заўсёды раслі кветкі. І калі Ларыса засталася адна без мужа — нейкі злачынца паваліў яе ўздоўж ступенек, і ваза старой перашкаджала праходзіць, а сілы адкаціць не было. І так доўгі час праз яе Ларысе прыходзілася перапаўзаць. Я збіраўся прыехаць і адцягнуць яе, але атрымаў ліст ад Ларысы, дзе яна пісала, што, наведаўшы яе, адзін з мастакоў адкаціў вазу далёка да плота.

Вы пытаецеся пра Зосю Каліноўскую, то яна жыве ў Зэльве на Савецкай вуліцы № 5, кв. 4, што побач з Ларысіным. Па мужу яна Марцінчык.

Ад В. Супруна я меў адзін толькі ліст, але гэта было дзесьці больш года таму. Неяк з ім наша сувязь не атрымалася. Я ж ніякі не літаратар, і пішу з памылкамі і не цікава. Відаць, гэта і з'явілася спыненнем нашых суадносін. Але мне ягоныя вершы падабаюцца, якія я сустракаў у друку, даволі крылатыя, смелыя. Там, у зняволенні, мы не сустракаліся. Ён, відаць, быў на другім ОЛПе. Віталя Губарэвіча я сустракаў толькі ў зняволенні, захаваў каля двух дзясяткаў ягоных вершаў з тых часоў. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр дзесьці ў сябе на радзіме ў сярэдзіне ці пачатку 1970-х гадоў. Ведаю, што ў яго жывая яшчэ маці. А больш падрабязна пра В. Губарэвіча можа Вам расказаць яго блізкі зямляк Іван Мароз, які таксама быў у зняволенні ў тыя страшныя часы і сустракаўся з яго маці. Ён быў маім сябрам па лагеру. Даю Вам ягоны адрас, ён жыве ў Мінску. Іван Мікалаевіч Мароз — даволі адукаваны чалавек, пасля вызвалення закончыў Мінскі політэхнічны інстытут. Жыве па адрасе: 220092 г. Мінск, вул. Берута, 4, корп. 4, кв. 26.

Добра сябраваў з Ларысай Антонаўнай у лагеры (таксама мой сябра), ведаю, што аднойчы ў Зэльву ён прыязджаў, пра гэта мне пісала Ларыса і Прыстаўка Вячаслаў. Ён жыве ў Віцебскай вобласці ў Шаркоўшчыне, вул. Даватара, 10. Між іншым, Ларыса ў сваёй «Споведзі» ўспамінае і яго двума словамі. З ім я пасля вызвалення ніколі не сустракаўся. Неяк

напісаў ліст яму, але адказу не атрымаў. І яшчэ адзін адрас: 225320 г. Баранавічы, вул. Камуністычная, 10, кв. 65. Рашэтнік Пётра А.* Ён таксама ў зняволенні добра ведаў Ларысу Геніюш. З ім я некалькі разоў ездзіў да Ларысы Антонаўны ў Зэльву. У зняволенні з Пётрам за сустрэчу з Ларысай нам двум далі па 15 сутак «Буру». Пра гэта некалі пісала газета «Рэанімова», якая выдавалася неафіцыйна ў Гродне.

І апошняе. Маё інтэрв'ю журналісту А. Карлюкевічу** таксама друкавалася не толькі ў «ЛіМе», але і ў нашай раёнцы «Новы дзень». Але ў абодвух выпадках дапушчана была памылка ў вершы «Краіна родная, не плач слязьмі крывавымі». У чацвёртым радку слова «далёй воляю», трэба чытаць: «далёкай воляю, пад новы ўраджай».

Усе гэтыя вершы ёсць у інтэрв'ю, калі Вас цікавіць, цалкам магу даслаць. Яны даволі цікавыя, але ў «ЛіМе» іх не надрукавалі, а значыць, так зрабілі і ў перадруку.

З павагай да Вас

*Мікола Канаш.*

*11 красавіка 1994 г.*

Добрага дня Вам, Сяргей Мікалаевіч!

Атрымаў другі ліст, дзякую за шчырасць. Усе Вашы пытанні не з лёгкіх. Адносна вершаў Ларысы Геніюш, дык шмат дзе яны друкаваліся, а адсачыць усе, жывучы ў жлобінскай рускамоўнай глыбінцы, не так проста, дзе беларускасцю не пахне ў кніжных лаўках. Хаця прыкладна ведаю ўсё ж, што ёсць такія, але для іх не наступіў яшчэ спрыяльны час, каб друкаваць. Адносна здымкаў — іх шмат, хопіць на цэлы альбом, але справа не ў грошах, а ў паперы і хімікатах, каб здымкі зрабіць. А іх у нашых крамах няма. Дый веснавы час пачаўся, глеба кліча да працы, хаця і сілай ужо не пахвалішся, бо гады бяруць сваё. Дасылаю Вам яшчэ фота. На адным з іх — Ларыса Геніюш у накінутай вялікай хустцы ў кветкі. Ведаю, што такую падараваў ёй Максім Танк, але дакладна

* Рашэтнік Пётр (1926–2008) — беларускі грамадскі дзеяч, быў рэпрэсаваны, сябраваў з Янкам і Ларысай Геніюшамі. Жыў і памёр у Баранавічах.

** Алесь Карлюкевіч — краязнавец і журналіст.

сёння не магу сказаць, што менавіта гэта тая самая хустка і ёсць. Каб упэўніцца, прыйдзецца Вам удакладніць у Зосі Каліноўскай ці, магчыма, у Дануты Бічэль-Загнетавай. На пахаванні Ларысы мімалётна ставілася гэта пытанне, каму хустка дастанецца ў спадчыну. Вядома, лепш было б, каб трапіла яна ў музей. Другі здымак зроблены ў гародчыку на лавачцы сярод кветак. Як вядома, Ларыса вельмі любіла кветкі, іх старанна даглядала, каб добра раслі. Аднойчы ў канцы траўня ці ў пачатку чэрвеня, калі вучні развітваліся са школай, нехта ноччу залез у гародчык і зрэзаў аж 200 кветак цюльпанаў. Але не хачу грашыць на шкоднікаў, бо большасць з іх адносіліся да Ларысы з вялікай павагай, многіх яна хрысціла, бывала на вяселлях, адпраўляла ў салдаты, хадзіла на нараджэнні і г. д. Ёсць нават у мяне і такія вершы, відаць, яны ў зэльвенцаў захоўваюцца да сёння, захоўваюцца тыя, каму яна прысвячала.

Ларыса Геніюш моцна верыла ў Бога. І калі мы развітваліся, то заўсёды мяне жагнала і таму мне шанцавала ў дарозе. Апошні раз, калі я развітваўся ў хаце на парозе, выйшаў да веснічак каля варот, хацеў агледзецца і памахаць яшчэ рукой, бо адчуваў, што яна стаіць яшчэ на ганачку, і, толькі хацеў павярнуць галаву, пачуў, як яна закрычала: «Не адварочвайся. Інакш гэта будзе апошні раз…». Але я левым вокам усё ж паспеў угледзець Ларысу. Паверыш, і сапраўды, гэта была наша апошняя сустрэча. Праз некалькі месяцаў яе не стала. Прабач, я адхіліўся ад той думкі, якую пачаў. І вось трэці здымак, рука партакрата, бракуе, вядома, на ёй зоркі, думаю здагадаліся, з якіх меркаванняў. Яшчэ ў 1954 годзе Ларыса пісала:

І ў магіле патраплю я жыць.
Трэба тысячу кобравых жалаў,
Каб біццё майго сэрца спыніць…

У першым лісце даслаў Вам віншавальную картку, арыгінал значна большы і каляровы, яна ёй вельмі ганарылася і стаяла яна на палічцы з кнігамі пад шклом у пакоі, дзе прымала гасцей. Ёсць і ў яе свая гісторыя.

У 1980 годзе, за два месяцы да юбілею, я быў у Зэльве і зрабіў тры варыянты здымкаў, дзе Ларыса Геніюш прадзе за калаўротам. Адзін такі здымак змешчаны быў у «Споведзі» (негатыў захаваўся). У той час сябры прасілі Ларысу, каб болей пісала вершаў. Адказ быў такі: няма ахвоты, зараз займаюся толькі пражай, вядома, і пасылала ім здымкі. І вось тады ў кагосьці з мастакоў нарадзілася такая думка зрабіць віншавальную картку…

А цяпер да Вас пытанне, Сяргей Мікалаевіч. Скуль Вы ведаеце, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы? Я Вам даслаў толькі адзін, прысвечаны Ларысе Геніюш. Але я не сказаў бы, што вершы Губарэвіча вельмі добрыя, пісаў ён іх у лагеры экспромтам, захаваць магчымасці добрай не меў. Ён казаў мне, што ўсуну ў бутэльку і закапаю, магчыма, нехта натрапіць, але шансу на гэта не было ніякага. Таму ўзяў я іх сабе, перачытаў і, лепшыя на мой погляд, вывучыў на памяць, іншыя — прыхаваў у шахце. І толькі пасля выхаду на волю, пачаў прыводзіць да парадку. І, такім чынам, што захаваў, тое маю і сёння. Усе іншыя, відаць, прапалі, як ён пісаў сам. І ўсё ж, вядома, мне хацелася нейкім чынам зрабіць так, каб пачулі іх людзі. Я стараўся падобнае рабіць, але поўнай галоснасці дасягнуць так і не змог. Па-першае, вершы неабходна яшчэ адшліфаваць і толькі потым пусціць у друк, а гэта не так і проста. Па-другое, ёсць у Губарэвіча вершы і на расейскай мове, значыць, іх трэба перакласці на нашу родную мову. Але я не паэт, таму брацца не за сваё я не мог. Вось адзін з вершаў дасылаю Вам.

Нет терпенья, струны мои порвались,
Дни ползут караваном тягучим,
Вокруг сердца тернистой змеёй обвились,
В душу впились железом колючим.
Да, я жизнь отдал Вам люди,
Своей кровью хотел искупить ваш грех.
Близок час мой, чахоткою сушит мне груди,
Сердце давит тоска погребальная. Эх!
Не арабский пророк я и не иудей,
Я родился в семье белоруса,

Я хочу умереть, умереть за людей,
Но не смертью святого Иисуса.
И стоять не хочу у стенки камней,
И чекист, чтобы руку вскидывал.
Я хочу умереть, чтобы смерти моей
Мой коварный бы враг позавидовал.
Я хочу умереть в самой гуще врагов,
Допьяна его крови напиться,
И последним рывком, всею силой зубов
В его горло проклятое впиться.
На могиле хочу, чтоб не камень лежал
Над простором полей, гор и рек.
В славных песнях своих, чтоб народ мой сказал,
Как за правду погиб человек.
На могиле хочу, чтобы камень лежал
Целых тысяча лет, не один только век,
А на камене на том, чтоб народ написал
Слова три: «Здесь лежит человек!».

*Інта, 1955 год.*

*Мікола Канаш.*

***11 сакавіка 1996 г.***

Добры дзень, шаноўны Сяргей!

Дабра і творчых поспехаў жадаю табе ва ўсіх пачынаннях. Вялікі дзякуй, вуснамі Ларысы Геніюш, кажу я вам двум — табе і Міхасю Скоблу*, за факсімільнае выданне кнігі Ларысы Антонаўны «Ад родных ніў», якую вы выдалі ў Слонімскай друкарні. І Міхасю дзякуй асабліва, што даслаў мне — і гэтым самым даставіў мне вялікую ўцеху. Добрую справу вы зрабілі, хлопцы. Зрабілі на карысць нашага грамадства, для сумленных беларусаў адкрылі вочы на рэчаіснасць. Дык няхай вам спорыцца!

А цяпер дасылаю табе, Сяргей, тры фотакарткі. На адной з іх — помнік Івану Пятровічу, дзе ўказаны дата нараджэння па-старому стылю — 1902 г. 21 лютага і дата смерці па-но-

* Міхась Скобла — беларускі паэт, літаратуразнавец, журналіст.

ваму стылю календара — 1979 г. 8 лютага. А далей словы Ларысы:

Па сонца асветы ўзлятаў, нібы птах
З палоскі сялянскае вузкае.
Адзін толькі ведаў ў жыцці сваім шлях —
Пачэсны, цяжкі, беларускі!

На другім здымку — Ларыса Геніюш каля помніка, дзе відаць агароджа, бетонныя слупкі. Уверсе — трубка з нержавейкі, уваход да помніка, замест веснічак — ланцужок, які з аднаго боку здымаецца. Сам помнік быў выраблены ў Навагрудку, агароджа — сябрамі ў Баранавічах. Ні сын, ні ўнукі ўдзелу ў пабудове надмагілля не прымалі, праўда, здымак Івана Пятровіча прывёз сын з Беластока. І трэці здымак — Геніюшы на сваім ганку ў Зэльве на Савецкай вуліцы, 7а. Цяпер ганак мае зусім іншы выгляд, і зусім не падобны на той, які быў пры жыцці гаспадароў.

Жыццёвы шлях Івана Пятровіча Геніюша вельмі добра апісала Ларыса Антонаўна ў сваёй «Споведзі». Але «Споведдзю» яна тады не называлася, а проста я папрасіў Ларысу, каб яна напісала сваю аўтабіяграфію. Вось вытрымка з яе ліста да мяне 14.09.1976: «Просьбу тваю я выканаю, але на гэта, каб напісаць аўтабіяграфію, трэба крыху часу. Давядзецца табе пачакаць». Калі на наступны год я прыехаў у Зэльву, Ларыса Антонаўна паказала мне першых 90 лістоў надрукаваных на машынцы. Яна сказала: «Можаш пачытаць і забраць». Я адказаўся і папрасіў пакінуць напісанае да наступнага майго прыезду, калі запашуся пазітыўнай плёнкай і зраблю, што трэба. Пачуўшы нашу размову, Іван Пятровіч дадаў: «Што там надрукавана, магчыма, важней за ўсе яе вершы». І калі я прыехаў зноў і спытаў пра абяцанае, Ларыса Антонаўна адказала: «Усё тое напісанае знаходзіцца ў надзейных руках». Я болей нічога не пытаўся, бо для мяне ўсё было зразумела.

А цяпер крыху пра самога Янку. Іван Пятровіч вельмі любіў кнігі, купляў іх сам і прасіў у сяброў, каб тыя куплялі і прысылалі ў Зэльву. Калі я жыў у Комі АССР, ён мне ў

кніжнай лаўцы ў Зэльве падпісаўся на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю. І калі паступалі першыя тамы, то дасылаў мне ў Комі. Трымаў заўсёды сабаку, які быў прывязаны на ланцужку і ноччу бегаў ад ганка да хлява па нацягнутым дроце. Вельмі шкадаваў, калі здохла аўчарка Альма, якая была першым дэгустатарам цукерак, смятаны, якую прыносілі суседзі, што і было прычынай яе смерці. Іван Пятровіч, пасля звароту з Варкуты ў 1956 годзе, працаваў лекарам у Зэльвенскай раённай паліклініцы. У яго кабінеце вісеў партрэт Францішка Скарыны. Многія хворыя, якіх ён прымаў, пыталіся: хто гэта на партрэце? Доктар Геніюш з усімі размаўляў толькі на беларускай мове. Часта чуў, як хворыя, стоячы ў чарзе перад дзвярыма, казалі: «З лекарам размаўляйце толькі па-беларуску, інакш не дасць бюлетэню». Калі на вуліцы з Янкам віталіся па-руску, то ён рабіўся глухім і нічога не адказваў, калі віталіся па-беларуску, то Іван Пятровіч здымаў з галавы капялюш, нізка кланяўся і адказваў: «Дзень добры!». Хадзіў ён з ляскай, бо меў хворыя ногі, якія ў апошнія гады жыцця пухлі. Прымаў хворых і дома, быў вялікі практык па неўралогіі, сексалогіі, венерычных захворваннях, ведаў добра хірургію і тэрапію, а таксама лячэбныя травы. Адным словам, дапамог многім зэльвенцам у нядугах, людзі яго вельмі цанілі.

З першага жніўня 1976 года Янку звольнілі з працы і адправілі на пенсію. Спачатку ён нерваваўся і перажываў. «Я ж была рада, што нарэшце будзе дома сядзець», — пісала мне Ларыса. Янку далі 84 рублі і 8 рублёў яшчэ выдзелілі на Ларысу, і таго разам атрымалася 92 рублі на дваіх. Трэба было купіць дровы, дарагія лекі Янку. А ў канцы снежня 1976 года Ларыса лезла на гару, паслізнулася драбіна і разам з ёю паляцела ўніз. Жанчына зламала нагу і пакалечыла руку. Ёй наклалі гіпс. І вось — абое хворыя. Янка нічога гатаваць не можа. Па ваду да студні хадзіць далекавата. Людзі баяліся дапамагаць, праўда, толькі школьнікі прыходзілі і дапамагалі. Янка час ад часу выходзіў на ганак, як казала Ларыса, пагрэць на сонцы нос. Відаць было, як штомесяц ён марнеў. І хутка для яго наступіў апошні дзень жыцця.

Апошні дотык рук на твары чую,
Тваіх знямоглых, цяжкасхвараваных,
Апошні раз мой муж мяне цалуе,
З невысказаным да канца каханнем.
Залегла грозна цішыня у хаце,
Не вымавіць таго, што чуе сэрца,
Хвораму целу з ложа не падняцца,
Няўмольна смерць суровая крадзецца.
Як воск ад свечкі, памаленьку тае,
Малы агеньчык, ужо амаль не свеціць,
Смерць, быццам злодзей, моўчкі падступае,
Што ж, усё яшчэ смяротнае на свеце…
О, колькі раз я на тваіх далонях
Выплаквала свой горкі боль да рання,
Як затрымаць жыццё тваё мне сяння,
Усё не дасказана шчэ, не дакахана.
Не адлятай ў нязнаную дарогу,
Не пакідай, каб сэрца не балела,
Здаецца мне, што дзён гэтак нямнога,
Пражытых разам, мігам праляцела…
Прайшлі гады, а для мяне хвіліны,
Супольных мараў, сноў аб Беларусі,
Ў нас дзве душы, а шлях наш быў адзіны,
Як жа цяпер сама я застануся?..

Была адпраўлена паніхіда ў царкве, шмат было народу, вянкоў ад розных гарадскіх прадпрыемстваў і арганізацый, музычнай школы. Памятаю, чысцілі ад снегу дарогу да могілак бульдозерам. Сын прыехаў з Беластока з усёй сям’-ёй. Былі сябры з Мінска, Баранавіч, Гродна, Полацка. Не прайшло і тыдня пасля паховінаў, як камуністы пачалі рабіць свае чорныя справы. Адзін сваяк Янкі, ужо не малады, але камуніст (прозвішча не памятаю), нёс наперадзе драўляны крыж, то за гэта атрымаў вымову і аштрафавалі яго на 50 рублёў. А дачка ягоная была настаўніцай у школе, дык ёй прапанавалі напісаць заяву і дабравольна адказацца ад працы ў школе, інакш звольняць з «воўчым білетам».

Ларыса Антонаўна тады напісала добры ліст да Пятра Машэрава* і звярнулася, як да настаўніка і кіраўніка дзяржавы, каб паспачуваў і нейкім чынам падзейнічаў на гарадскіх самадураў. Але яе ліст не апусцілі ў паштовую скрынку ў Зэльве (інакш ён не трапіў бы ў рукі Машэраву), а знайшліся людзі, якія аддалі пісьмо ў прыёмную Машэрава. Адказу на ліст Ларыса не дачакалася. Але меры былі прыняты. Нехта інкогніта прыехаў у Зэльву, даў добрага наганяю ўсім у гаркаме партыі, і ўсё стала на сваё месца: настаўніца засталася на працы, а той, хто нёс крыжа, рэабілітаваны.

Дарагі Сяргей, апрацуй гэты ліст належным чынам, як лічыш патрэбным для сябе. Жадаю поспехаў і моцнага здароўя.

З павагай

*Мікола Канаш.*

*9 ліпеня 1996 г.*

Добры дзень, Сяргей Мікалаевіч!

Вялікі дзякуй за ліст і за беларускі тыднёвік «Ніва» з Беластока. Прыемна было ў думках сустрэцца з далёкай мінуласцю. Дзякуй Вам за тое, што вялікую справу робіце для нашай грамадскасці. Але трэба спяшацца, бо губляюцца сілы і зарастаюць сцежкі даўняй мінуласці…

Я ў сярэдзіне сакавіка захварэў, падхапіў інфаркт сэрца, ледзь выкарабкаўся, але і зараз адчуваю сябе ніякавата, крыху хаджу каля хаты, прымаю лекі.

Пра Сямёна Раманчука** амаль нічога не ведаю. Чуў, што ў Слоніме ці ў Гародні ён канчаў школу падхарунжых. Быў шчырым беларусам. У Інце працаваў на паверхні, жыў у зусім іншым бараку ад шахцёраў. Думаю, што больш падрабязна пра яго зможа расказаць Пётра Рашэтнік з Баранавіч, пра якога я пісаў раней. Не так даўно ён мне званіў і казаў, што ляжыць у шпіталі з сэрцам. Цяпер, магчыма, ужо дома. Ён

* Пётр Машэраў (1918–1980) — партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі. Ліст Ларысы Геніюш да Машэрава апублікаваны ў кнізе «Каб вы ведалі» (Мінск, 2005. С. 330–331).

** Сямён Раманчук (1916–1951?) — беларускі вайсковы дзеяч, быў рэпрэсаваны, рыхтаваў паўстанне ў канцлагеры ў Інце.

жыве адзін у кватэры, жонка памерла. Я Вам паведамляў, што з ім у Ларысы Геніюш у Зэльве я быў шмат разоў, а ў лагеры за спатканне з Ларысай атрымалі па 15 сутак ізалятара.

Пра Міхася Вітушку* я нічога ніколі не чуў.

Дам Вам, Сяргей, яшчэ адзін адрас былога сталінскага нявольніка з Інты, які працаваў увесь час на паверхні і зараз жыве недалёка ад Вас. Але адразу хачу папярэдзіць, што ён, можа, не адразу пойдзе з Вамі на кантакт. Гэтага хлопца павінен ведаць і В. Супрун, які яго прыгадвае ў сваіх успамінах: 223710 г. Салігорск, Паркавы завулак, 26/13. Агейка Міхась**.

Пакуль усё. Да пабачэння.

*Мікола.*

---

* Міхась Вітушка (1907–2006) — кіраўнік узброенага супраціву на Беларусі ў 1946–1950-я гады.

** Міхась Агейка — удзельнік беларускага патрыятычнага падпольнага ў 1946–1947 гадах у Баранавіцкай вобласці.

# ЗМЕСТ



## СЦЕЖКАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



## ГУТАРКІ

## ПРА КНІГІ

## ЛІСТАВАННЕ

